**Uniwersytet Warszawski**
Варшаўскі Універсітэт

**Studium Europy Wschodniej**
Студыюм Усходняй Еўропы

**Centrum Studiów Białoruskich**
Цэнтр Беларускіх Студыяў

# Rocznik Centrum Studiów Białoruskich
# Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў

**Nr 5 / № 5**

*Poświęca się 200-leciu urodzin wielkiego polskiego i białoruskiego kompozytora Stanisława Moniuszki*

*Прысвячаецца 200-годдзю з дня нараджэння вялікага польскага і беларускага кампазітара Станіслава Манюшкі*

**Warszawa / Варшава 2019**

**Над нумарам працавалі:**

**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**
(redaktor / рэдактар)

**Tatsiana Kasataya / Тацяна Касатая**
(sekretarz redakcji / сакратар рэдакцыі)

**Filip Urbański / Філіп Урбаньскі**
(sekretarz techniczny / тэхнічны сакратар; tłumaczenia białorusko-polskie / пераклады беларуска-польскія; korekta tekstów w j. polskim / карэктура  тэкстаў на польскай мове)

**Aliaksandr Perahudau / Аляксандр Перагудаў**
(projekt okadki / праект вокладкі)

**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**
(korekta tekstów w j. białoruskim/карэктура тэкстаў на беларускай мове)

**Oleksandra Zviagina / Аляксандра Звягіна**
(korekta tekstów w j. ukraińskim / карэктура тэкстаў на ўкраінскай мове)

**Dr Anna Rędzioch-Korkuz / Анна Рэндзёх-Коркуз**
(tłumaczenia polsko-angielskie / пераклады польска-англійскія)

**Zmicer Hupianiec / Зміцер Гупянец**
(skład i łamanie / камп'ютарная вёрстка)

**Recenzenci / Рэцэнзэнты:**
Prof. dr hab. Eugieniusz Mironowicz, dr hab. Oleg Łatyszonek prof. UwB, dr hab. Aliaksandr Smalianchuk, dr hab. Siarhej Tokć, doc dr. Albina Semianchuk, doc dr. Vital Halubovich / праф. др. габ. Яўген Мірановіч, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку, д.г.н. Аляксандр Смалянчук, д.г.н. Сяргей Токць, дац. к.г.н. Альбіна Семянчук, дац. к.г.н. Віталь Галубовіч




**Druk i oprawa:** Drukarnia Duo Studio

# Spis treści / Змест

## Артыкулы



## Крыніцы:

## Рэцэнзіі:



## In memoriam

# Артыкулы

**Генадзь Семянчук**
**(Варшава/Гродна)**

## Полацкая трагедыя 1127–1131 гадоў

Сярод шматлікіх палітычных і вайсковых падзей на Русі другой паловы XI — першай паловы XII ст. на старонках летапісаў не сутракаецца больш маштабных, чым паход кааліцыі Яраславічаў на Полацкіх Рагвалодавічаў у 1127 г. і пазнейшая высылка полацкіх князёў у Візантыю ў 1129 годзе. Пры наяўнасці неверагодна багатай гістарыяграфічнай спадчыны на тэму Русі дадзенаму сюжэту не надавалася асаблівай увагі. Звычайна падзеі 1127–1131 гг. разглядаліся толькі як некалькі са шматлікіх фактаў у кантэксце гісторыі Кіеўскай Русі і зрэдку — як фрагмент мінулага Полацкага княства.

Варта зазначыць, што сёння гістарыяграфічны аналіз гісторыі Русі IX–XIII стст. павінен улічваць самастойнасць нацыянальных дыскурсаў — прынамсі беларускага, украінскага і расійскага. Натуральна, што канчатковыя канструкцыі будуць адрозніваюцца. Толькі, нам падаецца, у гэтых адрозненнях і павінны выявіцца найбольш верагодныя ўяўленні пра мінулае. Наратар у асобе летапісца рэпрэзентуе толькі кіеўскі (цэнтральны) альбо наўгародскі, уладзіміраўскі ці галіцкі (перыферыйны) бок падзей, а вось так званыя замоўчаныя альбо недагавораныя сітуацыі і ацэнкі можна аднесці на карысць канкурэнтнага полацкага боку.

Таксама вельмі важны метадалагічны момант адносна сучасных інтэрпрэтацый гісторыі Кіеўскай Русі заключаецца ў тым, што прызнанне ідэалагемы „Старажытная Русь" у якасці адзінай сярэднявечнай дзяржавы ва Усходняй Еўропе, якую нібыта збудавалі ўсходнія славяне, з'яўляецца ненавуковым[1]. Таму сама па сабе доўгая гістарыяграфічная традыцыя

[1] Пра „*Старажытную Русь*" і „*старажытнарускую народнасць*" як ідэялагічныя канструкцыі, збудаваныя ў СССР падчас дыктатуры Іосіфа Сталіна, гл: Г. Семянчук, *Ці існавала старажытнаруская народнасць альбо пра „калыску" беларускага народу?,* „Спадчына", 2003, № 6 (154), с. 9–22; ён жа, *Czy istniała narodowość staroruska?,* „Prace Komisji Wschodnioeuropejskiej PAU", t. XI, Kraków 2010, s. 57-70; Н. Юсова,

высвятлення, хто з князёў бараніў адзінства Русі як дзяржавы, а хто парушаў яго, выступаючы сепаратыстам і бунтаўшчыком, перастала быць актуальнай.

Мусім канстатаваць, што большасць гісторыкаў часоў Расійскай імперыі, Савецкага Саюза, сучасных Расіі, Украіны і Беларусі паранейшаму сур'ёзна ўспрымаюць сумніўныя апісанні полацкіх падзей 1127–1131 гадоў Васіля Тацішчава (першай паловы XVIII ст. ), пачынальніка ўласна расійскай гістарыяграфічнай канструкцыі мінулага Русі IX–XIII стст[2]. Перадаючы даволі паслядоўна тэкст Лаўрэнцьеўскага і Іпацьеўскага летапісаў, В. Тацішчаў даволі шмат дадаў уласных аўтарскіх падрабязнасцей без усялякага падмацавання крыніцамі. У першай рэдакцыі свайго даследавання, адзначым, упершыню надрукаванага толькі ў 1964 годзе, ён, пераказваючы тэкст летапісаў пра выправу кааліцыі рускіх князёў на Полацкую зямлю ў 1127 годзе, толькі ў адным месцы дазволіў сабе дадаць выраз пра тое, што *„полочане, видя Мстислава воююща за неправду Давыдову, состоснувшеся, выгнаша Давыда со сынми."*[3]. Апавядаючы пад 1129 годам пра высылку Усяславічаў у Візантыю, расійскі гісторык проста дакладна цытуе тэксты позняга Уваскрасенскага летапісу з таго ж 1129 года і Іпацьеўскага летапісу пад 1139/1140 гг., дадаючы толькі ад сябе некалькі падрабязнасцей аб прыёме полацкіх князёў у Канстанцінопалі[4].

У другой рэдакцыі *„Истории Российской"*, два тамы якой пабачылі свет яшчэ ў XVIII ст., апісанне падзей 1127–1129 гг. абрасло новымі падрабязнасцямі „ад аўтара". Па першае, В. Тацішчаў падаў сваю інтэрпрэтацыю прычын паходу 1127 г., абсалютна не абапіраючыся на вядомыя на той час наратыўныя крыніцы: *„1127 год. Въ то жъ время Мстиславъ Великий Князь, видя Полоцкихъ Князей великое беспокойство, что области данные братиямъ и сынамъ его непрестанно нападая раззоряютъ, послалъ на нихъ братьевъ своихъ четырьмя пути"*[5].

Абапіраючыся на ўласную логіку, В. Тацішчаў дадае ад сябе прычыну высылкі палачанамі князя Давыда Усяславіча з сынамі з Полацка, матывуючы гэта тым, што *„Полочане же видя, что Мстиславъ Князь*

*„Давньоруська народність": зародження и становлення концепції радянській історичній науці (1930-ті-перша половина 1940-х рр..: Монографія,* Київ 2006.

[2] Аб верагоднасці і суб'ектыўнай інтэрпрэтацыі Васілём Тацішчавым гісторыі Русі IX–XIII стст. грунтоўна выказаўся ўкраінскі гісторык Аляксей Талочка ў кнізе *„История российская" Василия Татищева: источники и известия,* Киев 2005.

[3] В. Н. Татищев, *История Российская,* Москва-Ленинград 1964, т. IV, с. 187.

[4] Тамсама, с. 188.

[5] В. Н. Татищев, *История Российская съ самыхъ древнейшихъ временъ,* Москва 1773, книга вторая, с. 235.

*Великий воюетъ земли ихъ за неправду Давидову и прочихъ ихъ Князей, выслали Давида и со сынми изъ Полоцка, объявя ему, что онъ не право далъ причины къ войне неповинныхъ людей разорять, и Рохвольда Борисовича взявъ, послали просить ко Мстиславу, чтобъ его пожаловалъ, на Полоцкое княжение определилъ, что Мстиславъ охотно соизволилъ, и отпустилъ съ ними Рохвольда въ Полоцкъ"*[6].

Летапіснае апавяданне пра высылку полацкіх князёў у Візантыю таксама, дзякуючы Васілю Тацішчаву, шмат у чым абрасло значнай колькасцю непацверджаных звестак і падрабязнасцей, як, напрыклад, прамовы Мсціслава і полацкіх князёў: *„1129 год. Князь великий Мстиславъ, имея великое попечение о сохранении добраго въ Князехъ порядка и покоя, и охраняя государство отъ нападения неприятельского, видя же Половцовъ часто на русские пределы нападающихъ, и желая достаточно ихъ смирить, послалъ ко всемъ Князямъ обвестить, чтобъ съ войсками шли къ Киеву, и сами, кому удобно, приехали, или прислали Вельможъ на совете, въ томъ числе къ Полоцкимъ и Кривицкимъ. По сему прочие все князи не отреклись, а Полоцкие съ ругательствомъ отказали, глаголя: «Ты съ Бонакомъ Шолудякомъ здравствуйте оба, и управляйтеся сами, а мы имеемъ дома что делать». Симъ вельми Мстиславъ оскорбяся, но не хотя времеи упустить, пошелъ на Половцевъ, многие станы и града ихъ раззоря, а самихъ за Донъ къ Волге прогналъ. Возвратясь послалъ въ Полоцкъ Воеводъ своихъ, и велелъ всемъ Полочаномъ во всехъ градехъ объявить, что Князи их учинили ему великую обиду, вместо, чтобъ всемъ обще русскую землю отъ всехъ неприятелей защищать и оборонять, они не токмо сами на Половцевъ со всеми Князи не пошли ни войск не послали, и въ то время нападение на пределы братии его учинили, и не объявя ему яко старейшему между собой воевались, и естьли имъ сие упустить, то большее зло произойдетъ. И какъ Мстиславъ известенъ, что града и земля тому не вина, для того велелъ токмо Князей взять на судъ въ Киеве предъ братию, а городовъ и земли не разорять, и крови русской не проливать, есть ли токмо за нихъ не вступаться"*. Далей высвятляецца, што палачане дзеля міру з Мсціславам Уладзіміравічам свядома адмаўляюцца ад сваіх родных князёў — нашчадкаў Рагвалода — і прымушаюць іх накіравацца на суд да Кіева. У выніку ваяводы паланілі 5 полацкіх князёў з іх жонкамі і дзяцьмі, адправілі на суд да Мсціслава. Апошні, у сваю чаргу, прыняў рашэнне выслаць іх у Візантыйскую імперыю, у Царград (Канстанцінопаль): *„По сему Полочане все Князямъ*

[6] Тамсама, с. 236.

*своимъ войны противо Мстислава отреклись, и принудили ихъ ехать въ Киевъ пред сыдъ. Воеводы же Мстиславли собравъ ихъ, Давида, Ростислава, Святослава и двухъ Рогволодовичевъ, посадя въ три судна съ женами и детьми, привезли въ Киевъ, а Мстиславъ облича ихъ предъ Князи, посадя въ три судна, послалъ Днепромъ въ Царьградъ, написавъ къ Императору Иоанну зятю своему, чтобы ихъ тамо велелъ содержать. Императоръ же принявъ ихъ определилъ имъ довольное на содержание, и послалъ въ войско бывшее противо Сарацынъ, где они съ похвалою служили, в Полоцке же Мстиславъ определилъ сына своего Изяслава*"[7].

Полацкія падзеі 1127–1131 гг. у расійскіх гісторыкаў XIX ст. не зрабіліся адмысловымі тэкстамі, а толькі апісваліся як факты палітыкі Мсціслава Уладзіміравіча. Мікалай Карамзін у заўвагах да „*Истории государства Российского*" працытаваў паведамленні Лаўрэнцьеўскага і Іпацьеўскага летапісаў пра тое, што адбылося з полацкімі князямі ў 1120-я гады, вылучыў у асобную групу дадаткі з II рэдакцыі працы В. Тацішчава, пры гэтым ніякім чынам не каментуючы. У галоўным тэксце свайго даследавання М. Карамзін напісаў пра заваяванне Мсціславам „*древней области Кривичей… чего напрасно хотели его деды*", адсылаючыся да часоў барацьбы Усяслава Брачыславіча з Яраславічамі ў другой палове XI ст[8].

Сяргей Салаўʼёў у сваёй „*Истории России с древнейших времен*" таксама даверыўся меркаванням В. Тацішчава з II рэдакцыі яго працы. Ён звярнуў увагу на паведамленне аб тым, што полацкія князі рабуюць суседнія тэрыторыі, і выказаў думку, што „*быть может, Всеславичи не могли забыть потери Минска* (які захапіў Уладзімір Манамах у канцы 1110-х гг. — Г. С.), *и это было главным поводом к войне*"[9].

Пачынальнік беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі меркаваў, што прычыны паходу 1127 г. невядомы, праўда, з наступных падзей нібы можна здагадацца, што Давід Усяславіч адмовіўся ад удзелу ў агульнарускіх справах — у сумесным паходзе на полаўцаў — і, верагодна, не прызнаваў вялікакняскай улады Мсціслава[10]. Здагадкі М. Доўнар-Запольскага будаваліся на прачытанні паведамленняў Іпацьеўскага летапісу пад 1139/1140 гг. і II рэдакцыі „*Истории Российской*" В. Тацішчава, на якія ён спасылаецца. Таксама М. Доўнар-Запольскі падзяляў пункт гледжання Мікалая Карамзіна, што за ссылкай полацкіх

7 Тамсама, с. 240–241.

8 Н. М. Карамзин, *История государства Российского,* Москва 1991, т. II–III, с. 106.

9 С. М. Соловьев, *История России с древнейших времен,* Москва 1988, кн. 1, с. 401.

10 М. Довнар-Запольский, *Очеркъ истории кривичской и дреговичской земель до конца XII столетия,* Киев 1891, с. 93.

князёў у Візантыю стаяць „*чисто личные стремления деятельного представителя Мономахова рода*”, г.зн. Мсціслава Уладзіміравіча[11].

Найбольш простую пазіцыю па гэтай тэме заняў Уладзімір Данілевіч. Ён пераказаў паведамленне пад 1127 г. пра паход кааліцыі рускіх князёў на Полацкую зямлю, гаворачы, што пра яго прычыну летапіс не ўзгадвае. Пры гэтым назваў меркаванні папярэднікаў (Карамзіна, Салаўёва, Доўнар-Запольскага) „*домыслами*”. Далей гісторык прывёў звесткі з Іпацьеўскага летапісу аб прычынах ссылкі Усяславічаў[12].

Шэраг савецкіх гісторыкаў (Барыс Рыбакоў, Леанід Аляксееў) вярнуліся да версіі М. Доўнар-Запольскага пра непадпарадкаванне полацкіх князёў кіеўскаму князю Мсціславу Уладзіміравічу, вынікам чаго сталі паход 1127 г. і пазнейшая высылка полацкіх князёў у Канстанцінопаль[13]. Дарэчы, Л. Аляксееў быў першым даследчыкам, які полацкім падзеям прысвяціў значны фрагмент у сваёй манаграфіі пра Полацкую зямлю[14]. Ён падрабязна апісаў вайсковыя дзеянні, а таксама выказаў думку, што даволі лагоднае для полацкіх князёў заканчэнне паходу кааліцыі было звязана з дыпламатычнымі намаганнямі палачан, а таксама з пэўнымі супярэчнасцямі паміж Манамахавічамі і Вольгавічамі. Здзіўляе толькі, што, ведаючы ўжо храналагічны аналіз, зроблены Мікалаем Бережковым, расійскі гісторык трымаўся дат, запісаных у Іпацьеўскім летапісе.

У апошнія гады полацкія падзеі 1127–1131 гг. прыцягнулі ўвагу расійскага гісторыка Аляксандра Рукавішнікава, які напісаў адмысловы артыкул „*Почему Полоцкие князья были сосланы в Византию: свидетельства источников*”[15]. Навізна даследавання А. Рукавішнікава палягае ў тым, што вывучэнне прычын ссылкі полацкіх князёў у Візантыю пабудавана на падставе тэксталагічнага аналізу крыніц, якія маюць дачыненне да дадзенай праблемы, верыфікацыя звестак, што там утрымліваюцца, і ў адыходзе ад поўнага даверу да наяўных даных. Ён прыходзіць да наступнай высновы: „*Такім чынам, падводзячы вынікі нашага даследавання, трэба сказаць, што крыніцы дазваляюць адказаць на пытанне, чаму полацкія князі былі сасланы ў Візантыю. Ссылка Ізяславічаў з’явілася заканамерным вынікам барацьбы дзвюх варожых*

[11] Тамсама, с. 96.

[12] В. Е. Данилевич, *Очерки истории Полоцкой земли до конца XIVстолетия,* Киев 1896, с. 76, 78.

[13] Б. А. Рыбаков, *Киевская Русь и русские княжества XII–XIII в.,* Москва 1982, с. 520; Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля (очерки истории северной Белоруссии) в IX–XIII в.,* Москва 1966, с. 258–261.

[14] Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля,* с. 257–262.

[15] А. В. Руковишников, *Почему Полоцкие князья были сосланы в Византию: свидетельства источников,* „Древняя Русь. Вопросы медиевистики”, 2003, № 2 (12), с. 99–111.

*галін унутры княскага дому Рурыкавічаў за права валодання пэўнай тэрыторыяй — Полацкай зямлёй. Вышэйшай кропкай барацьбы была спроба Мсціслава Уладзіміравіча пазбавіць Ізяславічаў правоў на Полацкую зямлю не толькі шляхам іх высылкі ў Візантыю, але і шляхам унясення зменаў у гістарычную памяць роду — полацкія князі былі абвешчаны* ***Рагвалодавічамі, квазі-Рурыкавічамі,*** *кроўнымі ворагамі Яраславічаў. Такім чынам, выгнанне па магчымасці ўсіх Ізяславічаў за межы Русі было адным з пунктаў плана Мсціслава па ўключэнні Полацка ў склад сваіх уладанняў"*[16].

У прынцыпе не цікавілі і не цікавяць полацкія падзеі 1127–1131 гг. украінскіх гісторыкаў. Яны зрэдку ўзгадваюць іх ў кантэксце выключнага княжання Мсціслава Уладзіміравіча, якога яшчэ нашчадкі называлі „Вялікім". Пачынальнік украінскай нацыянальнай гістарыяграфіі Міхаіл Грушэўскі на падставе летапісных паведамленняў і меркаванняў В. Тацішчава схематычна пераказаў падзеі[17]. У навукова-папулярнай працы *„Київська Русь"* сямейны аўтарскі дуэт Пятра і Аляксея Талочкаў узгадаў толькі высылку полацкіх князёў у Канстанцінопаль пад 1130 годам. Пры гэтым аўтары адзначылі, што полацкія князі падзялялі паміж сабою княства на асобныя воласці і таму здрабнелі[18].

Беларуская гістарыяграфія зацікавілася полацкімі падзеямі 1127–1131 гг. толькі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Дзякаваць мы павінны даследчыку Міколе Ермаловічу[19]. Ён разглядзеў прычыны і матывы Мсціслава арганізаваць кааліцыйны паход на Полацкую зямлю і вельмі падрабязна апісаў ход падзей. Многія думкі і меркаванні беларускага даследчыка заслугоўваюць увагі і пацвердзіліся ў будучыні. Адзінае, што цяжка прыняць, гэта поўны давер да інфармацыі Васіля Тацішчава.

Перамешваючы паведамленні летапісаў са звесткамі В. Тацішчава, полацкія падзеі 1127–1131 гг. пераказваюць аўтары тэксту ў сінтэтычнай працы *„Гісторыя Беларусі"*[20].

Адзначым, што большасць гісторыкаў, якія звярталі сваю ўвагу на полацкія падзеі 1127–1131 гг., аб'ядноўвае адна прынцыповая

16 Тамсама, с. 111.

17 М. Грушевский, *Очеркъ истории Киевской земли отъ смерти Ярослава до конца XIV столетия,* Киевъ 1891, с. 138–139.

18 О. П. Толочко, П. П. Толочко, *Київська Русь,* Київ 1998, с. 214.

19 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды,* Мінск 1990, с. 174–185.

20 Г. Штыхаў, В. Ляўко, *Палітычная гісторыя Полацкай зямлі,* [у:] *Гісторыя Беларусі: У 6 тамах.* Т. 1: *Старажытная Беларусь: ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст.,* Мінск 2000, с. 178–180.

асаблівасць: высновы пра прычыны паходу на Полацк і ссылкі полацкіх князёў у Візантыю яны будуюць на літаральным разуменні апавяданняў летапісцаў. Пры адсутнасці адмысловага тэксталагічнага аналізу крыніц склалася сітуацыя, дзе адны гісторыкі давяраюць і развіваюць домыслы В. Тацішчава (С. Салаўёў, М. Ермаловіч), іншыя механічна спалучаюць даныя летапісаў і сваіх папярэднікаў (М. Доўнар-Запольскі, Л. Аляксееў, Г. Штыхаў і В. Ляўко), а трэція проста цытуюць летапісы і В. Тацішчава (Ул. Даніловіч).

Звесткі пра полацкія падзеі 1127–1131 гадоў запісаны на старонках Лаўрэнцьеўскага і Іпацьеўскага летапісаў (вайна Мсціслава Уладзіміравіча з Полацкім княствам 1127 года не адлюстравана на старонках Наўгародскага летапісання).

| ЛАЎРЭНЦЬЕЎСКІ ЛЕТАПІС (Полное собрание русских летописей. Т. 1, Москва 2001, 2-е изд.) | ІПАЦЬЕЎСКІ ЛЕТАПІС (Полное собрание русских летописей. Т. 2, Москва 2001, 2-е изд.) |
| --- | --- |
| 1127 г. Слп. 297–299. В то же лета посла князь Мстиславъ братю свою на Кривичи четырми пути. Вячеслава ис Турова, Андрея из Володимеря, а Всеволодка из Городна, Вячеслава Ярославича исъ Кльчьска. Темъ повеле ити къ Изяславлю, а Всеволоду Олговичю повеле ити с своею братею на Стрежевъ к Борисову и Ивана Воитешича туже посла с Торкы и сына своего Изяслава ис Курьска с своим полком посла и на Логожескъ, а другаго сына своего Ростислава посла с Смолоняны на Дрьютескъ. Рекъ имъ в одинъ день всемъ пустити на воропъ месяца августа в 4 день. Изяславъ же оускори днемъ передъ братьею и зая люди от города. они же оустрашившесе передашася, а Изяславци почаша битися с Вячеславомъ и съ Андреемъ. Изяслав же перестряпъ два дни оу Логожьска иде пакы Изяславлю къ стрыема своима водя съ собою и Брячислава зятя своего иже бяше пошелъ къ отцю своему, бывъ бо посреде пути и острашивъся не мога поити ни семо ни онамо и идее шюрину своему в руце и Логожаны приведе иже бяше велъ изъ | 1128 г. Слп. 292–293. Того же лета посла князь Мьстиславъ съ братьею своею многы Кривичи четырьми путьми. Вячьслава ис Турова, Андрея из Володимера, Всеволодка из Городка, Вячьслава Ярославича ис Клечьска темъ повеле ити къ Изяславлю, а Всеволоду Ольговичю повеле ити съ своею братьею на Стрежевъ къ Борису Ивана Воитишича посла с Торкы и сына своего Ростислава посла Съмолоньяны къ Дреють(суть)ску. Рекъ имъ въ динъ день всимъ пустити на воропъ месяца августа в первыи на десять день. Изяславъ же оускори днемъ передъ братьею зая люди от града они же оустрашившесе передашася, а Изяславцы почаша битися с Вячьславомъ и съ Андреемъ. Изяславъ же перестряпъ два дни оу Логожьска и иде къ Изяславлю къ строеви своему водя съ собою Брячислава зятя своего иже бяше пошелъ къ отцю своему и бывъ посреде пути и острашився не мога поити ни семо ни онамо и иде шюрину своему в руце и Логожаны приведе иже бе вывелъ изъ Логожьства и видивши Изяславичи князя своего и Логожаны иже бес пакости суть перецяли и дашася рекше |

| | |
|---|---|
| Логожьска велъ изъ Логожьска и видевши Изяславци князя своего и Логожаны яже бес пакости суть перейти и дашася рекше Вячеславу призови ны Бога яко нас не даси на щитъ, и бывше вечеру. Воротиславъ Андреевъ тысячькыи и Иванко Вячеславль въсласта отроки своя в городъ и свитающю уведевше вси вои тако взяша и ночи и едва Мстиславны товаръ оублюдоша и то с нужею бьющеся и тако възвратишася со многым полоном. Потомъ же и Новгородци придоша со Мстиславичемъ со Всеволодомъ къ Неколочю и тако и Пополочане сътснувшеси выгнаша Давыда и с сыньми и поемше Роговолода идоша къ Мстиславу просяще и собе князем и створи волю ихъ Мстиславъ и поимше Роговолода ведоша и Польтьску 1129 г. Сл. 301. Въ то же лето поточи Мстиславъ князь Полотьскые Цесарюгороду с женами и с детьми. | Вячьславу призови ны Бога яко нас не даси на щитъ и бы вечеръ. Воротиславъ Андреевъ тысячькыи и Иванко Вячьславъ въсласта отрокы своя в городъ и свитающю оувидивше вси вои тако взяша и в ночи одва Мьстиславны товаръ оублюдоша и то с нужею бьючеся и тако оузворотишася съ многымъ полономъ. Потомъ же и Новгородчи придоша съ Мьстиславичемъ съ Всеволодомъ къ Неколочю и тако Полочане сътьснувшеси выгнаша Давыда и съ сыньми поемъше Рогъволода идоша и ко (Полотьску).<br>1130 г. Сл. 293. Се же лето поточи Мьстиславъ Полотьскии князе съ женами и с детми въ Грекы, еже преступиша хрестьное челование.<br>1140 г. Сл. 303–304. В то же время взидоста княжича два исъ Царягорода заточени били Мьстиславомъ великымъ княземъ Киевьскымъ зане не бяхоуть его воли и не слышахоуть его коли е зовяшеть в Роускоую землю в помощь, но паче молвяхоъ Бонякови шелоудивомоу во здоровье и про се ся и Мьстиславъ разъгневася на не и хотяше на ня ити но нелзе бо бяшеть ити зане бяхоъ бо тогда налегли Половци Роусь и томоу стояшеть быяся с ними ся перемагаюся се бо Мьстиславъ велекыи и наследи отца своего потъ Володимера Мономаха великаго…, и оупорозьнася Мьстиславъ от рати и помяноу первеи посла по Кривитьстеи князе по Давыда по Ростислава и Святослава и Рогъволодича два и оусажа оу три лодьи и поточи и Царюградоу за неслоъшание ихъ а моужи свои посажа по городомъ ихъ. |

Апавяданне пра бяду полацкіх князёў утрымліваецца таксама ў тэксце пазнейшага Маскоўскага летапіснага зводу пад 6637/1129 г.[21]: *„Того же лета поточи Мъстиславъ князи Полочскые Царюграду и с женами и съ детми, зане не бяху въ воли его и не полсушаху его егда зовяшеть и в Русскую землю собе помочь. И разгневася на ня Мъстиславъ и хоте на них ити, но нелзе бяше тогда, Половци налегоша на Русскую землю… Егда же упраздниси Мъстиславъ от рати, и помяну перьвыи гневъ свои,*

[21] Аляксандр Насонаў у свой час высвятліў, што дадзенае паведамленне адносіцца да крыніцы Маскоўскага летапіснага зводу канца XVст., якая ўяўляла сабою рэдакцыю паўднёварускага летапіснага зводу, *„местами, отличавшуюся от … Ипатьевской летописи”* (А. Н. Насонов, *История русского летописания. XI — начало XVIII в.,* Москва 1969, с. 288, 293).

*паславъ по Кривъские князи, по Давида и по Ростислава и Святослава, и по Рогъволодовича два, по Василья и по Иоана, и всаждавъ их в лодии и поточи ихъ къ Царюграду за ослушание ихъ, а по городомъ их посажа мужи своя*"[22]. У гэтым урыўку захаваліся імёны полацкіх Рагвалодавічаў, якія былі высланы Мсціславам Уладзіміравічам за межы свайго княства, а дакладней у Візантыю.

У першую чаргу неабходна высветліць храналогію полацкіх падзей, бо, як бачым, Лаўрэнцьеўскі і Іпацьеўскі летапісы падаюць розныя гады. У свой час Мікалай Беражкоў, супастаўляючы дадзеныя звесткі з Наўгародскім першым летапісам, які няўхільна трымаўся сакавіцкага стылю адносна названых падзей, прыйшоў да высновы, што „*статьи 6633–6640 (1125/1126–1132/1133) годов Лаврентьевской соответствуют статьям 6634–6641 г. Ипатьевской. Лаврентьевская продолжает применять мартовский стиль, а Ипатьевская дает обозначение годов на единицу больше, т.е. ультрамартовское*"[23]. Значная большасць сучасных даследчыкаў аддае перавагу храналогіі, прадстаўленай аўтарам і рэдактарам Лаўрэнцьеўскага летапісу (Мікола Ермаловіч, Георгій Штыхаў, Генадзь Семянчук, Аляксандр Рукавішнікаў, Павел Лукін), і толькі адзінкі трымаюцца версіі Іпацьеўскага летапісу (Леанід Аляксееў).

Ужо сучаснікі асвятлялі падзеі на Полаччыне 1127–1131 гадоў з выразна ідэалагічнай афарбоўкай. Дзеля гэтага аўтар летапісу з мэтай апраўдання дзеянняў кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча змяшчае апавяданне пра князя Уладзіміра Святаполкавіча і Рагнеду, князёўну Полацкую. У свой час Аляксандр Шахматаў назваў гэты фрагмент „*вставка о Всеславичах*"[24], якая нібы высвятляе прычыны полацка-кіеўскіх канфліктаў. Яна вельмі моцна адрозніваецца ад ранейшага апавядання пра сватанне малодшага сына Святаполка да дачкі Рагвалода, якое змешчана пад 980 годам[25]. Апошняе з'яўлялася толькі невялікім эпізодам у барацьбе за ўладу паміж Уладзімірам і Яраполкам у 70–80-я гады X ст. Галоўным тут быў матыў супрацьстаяння двух братоў. Апавяданне, запісанае ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1128 годам, пераказвае тыя ж самыя падзеі больш падрабязна[26]. У першую чаргу гэты тэкст, адкрыта дэкларуючы векавую варажнечу паміж нашчадкамі Яраслава

22 *Московский летописный свод конца XV века,* [в:] *Полное собрание русских летописей,* т. 25, Москва 2004, 2-е изд., с. 31.

23 Н. Г. Бережков, *Хронология русского летописания,* Москва 1963, с. 43, 44, 48, 49, 133, 134.

24 А. А. Шахматов, *Разыскания о древнейших русских летописных сводах,* Санкт-Петербург 1908, с. 248.

25 *Лаврентьевская летопись,* [в:] *Полное собрание русских летописей,* т. 1, Москва 2001, 2-е изд., слп. 75–76.

26 *Лаврентьевская летопись,* слп. 299–300.

і Рагвалода, з'яўляецца ідэалагічным абгрунтаваннем правамернасці паходу 1127 года. У параўнанні з апавяданнем, якое нібы храналагічна адносілася да канца X ст. у ім адзначаецца ўплыў Дабрыні на Уладзіміра, публічны гвалт над Рагнедай і перайменаванне яе ў Гарыславу. Такім чынам, летапісец прынізіў праз вобраз Рагнеды/Гарыславы галіну яе нашчадкаў, якую прадстаўлялі полацкія Ізяславічы — „*Рогволожи внуци*". З'яўляецца і новы сюжэт — спроба Рагнеды забіць Уладзіміра. У іншай версіі выразна вылучаецца ідэя помсты: спачатку з боку наўгародскага князя (за ганаровую адмову), а потым з боку Рагнеды (за забойства яе родных і сужонскую нявернасць мужа)[27].

Ва ўсіх галоўных крыніцах — Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах — прычыны паходу рускіх войскаў на Полацк не ўказаны, і гэта стала падставай для шматлікіх інтэрпрэтацый і домыслаў гісторыкаў на тэму, што выклікала гэтую вайсковую акцыю Кіева з саюзнікамі. Пры аналізе полацкіх падзей 1127–1131 гадоў чарговы раз з'яўляецца жаданне і неабходнасць адыйсці ад агульнапрынятых „кіевацэнтрычнай", „агульнарускай" і „quazi-імперскай" парадыгмаў і нарацый. Падставай для гэтага з'яўляецца інфармацыя тагачасных крыніц, якая аўтарамі летапісаў запісвалася, можна казаць, у жывую, па слядах падзей альбо адразу пасля іх, што надае звесткам грунтоўную і значную верагоднасць і праўдападобнасць. Аўтар альбо асабіста ўдзельнічаў у полацкім паходзе, альбо атрымаў інфармацыю ад непасрэднага ўдзельніка[28]. Адзінае, што робіць нашую спробу адрознай ад летапісцаў і большасці гісторыкаў, — гэта жаданне прадставіць тыя падзеі з пазіцыі полацкіх князёў і тагачаснага насельніцтва Полацкага княства.

Эпоху Уладзіміра Манамаха (1113–1125) і яго старэйшага сына Мсціслава (1125–1132) можна лічыць адлюстраваннем агульнапрынятага кіевацэнтрычнага ўяўлення пра зямлю Русаў[29]. У гэты час Кіеў набыў статус сэрца дынастыі Яраславічаў, ад якога адыходзілі капіляры да ўскраін, спрыяючы ўздыму рэгіёнаў. У 1113 г. Уладзімір Манамах асабіста альбо з дапамогай сваіх дзяцей і ўнукаў трымаў пад кантролем Кіеў, Ноўгарад, Пераяслаўль, Смаленск, Растоў і Суздаль. Хутка ён пазбавіў уладанняў альбо падпарадкаваў сабе нашчадкаў свайго старэйшага

[27] А.Ф. Литвина, Ф.Б. Успенский, *Два рассказа о Рогнеде, дочери Рогволода Полоцкого,* [в:] А.Ф. Литвина, Ф.Б. Успенский, *Выбор имени у русских князей в X–XVI вв.,* Москва 2016, с. 335–354.

[28] Л.В. Алексеев, *Полоцкая земля (очерки истории Северной Белоруссии) в IX–XIII вв.,* Москва 1966, с. 260, сп. 80; ён жа. *Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры: в двух книгах.* Москва 2006, кн. 2, с. 13.

[29] С. Франклин, Д. Шепард, *Начало Руси: 750–1200,* Санкт-Петербург 2000, с. 486.

стрыечнага брата Святаполка Ізяславіча: спачатку захапіў Тураў, пазней, у 1118 г., выгнаў сына Святаполка Яраслава з Уладзіміра Валынскага, дзе ўлада перайшла да сына Манамаха Андрэя, нібы па просьбе жыхароў горада[30]. Праз шлюб дачкі Агафіі з Усеваладкам Яраславічам у 1118 г., пад кантроль Манамаха трапіла Панёманне з цэнтрамі ў Гродне, Ваўкавыску, Слоніме і Навагрудку[31]. У 1119 г. ахвярай стаў Глеб Усяславіч Менскі, якога сілай пазбавілі княства, а самога з сям'ёю пасялілі пад наглядам у Кіеве, дзе ён хутка загінуў[32]. Чарнігаўская дынастыя з часоў Любечскага з'езду 1096 г. была больш згаворлівая. Тым больш, што ў сярэдзіне 1120-х гадоў у ёй адбыўся раскол, у выніку якога Мсціславу Уладзіміравічу пашчасціла атрымаць Курск[33]. Незалежнай ад Кіева ў той час заставалася толькі Полацкая зямля, праўда, пазбаўленая паўднёва-заходняй часткі — Менскага княства. Натуральна, у працэсе стварэння „імперыі Манамахавічаў" існаванне самастойнай, непадпарадкаванай дзяржавы было ненармальным для кіевацэнтрычнай палітыкі. Яшчэ Мітрафан Доўнар-Запольскі адзначыў выключнасць адзінства рускіх князёў у барацьбе з Полацкам, за-за чаго яны з большай ахвотай ішлі на яго, чым на полаўцаў[34].

Галоўнай прычынай дадзенай геапалітычнай гульні і, як вынік, вайны супраць Полацкай зямлі была эканамічная. Вартае ўвагі меркаванне расійскага гісторыка-эмігранта Георгія Вернадскага пра прычыны высылкі полацкіх князёў у Візантыю. Ён убачыў у першую чаргу геапалітычны момант кіеўска-полацкага канфлікту: „*Внимание Мстислава было направлено на Балтийский регион. Чтобы исключить любые помехи своей власти со стороны князей Полоцких, он захватил их земли, а всех членов семьи выслал в Константинополь (в 1130 г.)*"[35].

Сапраўды, Полацк кантраляваў важную гандлёвую камунікацыю па Заходняй Дзвіне, кантралюючы вусце гэтай ракі ў Балтыйскае мора. Таксама ён быў пагрозай на пэўных фрагментах Дняпроўскай камунікацыі. Канцэнтраванне ўлады ў адным родзе — нашчадкаў Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха — абавязкова выклікала неабходнасць падпарадкавання ўсіх гандлёвых камунікацый ва Усходняй Еўропе.

30 *Лаврентьевская летопись,* слп. 291; *Ипатьевская летопись,* слп. 285.

31 *Ипатьевская летопись,* слп. 284. Пра гарадзенскую княжацкую дынастыю, гл.: А. В. Назаренка, *Городенское княжество и городенские князья,* [в:] А. В. Назаренко, *Древняя Русь и Славяне,* Москва 2009, с. 124–161.

32 *Лаврентьевская летопись,* слп. 290–291, 292; *Ипатьевская летопись,* слп. 282–283, 285.

33 *Лаврентьевская летопись,* слп. 296–297; *Ипатьевская летопись,* слп. 290–291; M. Dimnik, *The Dynasty of Chernigov: 1054–1146,* Toronto 1994, p. 316–317.

34 М. В. Довнор-Запольский, *Очеркъ истории кривичской и дреговичской земель до конца XII столетия,* с. 93.

35 Г. В. Вернадский, *Киевская Русь,* Тверь-Москва 2000, с. 108.

І, натуральна, звязанае з гэтым падпарадкаванне кожнага рэгіянальнага і самастойнага ўладара. Не без прычыны даследчыкі выказваюць меркаванне, што полацкія князі не пагадзіліся са стратай Мінска і маглі прадпрымаць вайсковыя спробы яго вярнуць.

Падрабязна апісвалі і канструявалі паход на Полацак 1127 года і лёс полацкіх князёў толькі Леанід Аляксееў[36] і Мікола Ермаловіч[37]. Паўторым за аўтарытэтнымі даследчыкамі збег падзей. Паход на Полацк 1127 года быў выключны па колькасці яго ўдзельнікаў і памеры войска. Гэта, у сваю чаргу, патрабавала грунтоўнай лагістычнай падрыхтоўкі грандыёзнай вайсковай кампаніі. Летапісы яскрава сведчаць, што яе план быў распрацаваны вельмі дакладна і дэталёва. Гэта бясспрэчнае сведчанне, што Мсціслаў Уладзіміравіч — кіеўскі князь — меў стратэгічную мэту знішчэння самастойнасці і непадпарадкаванасці Полацкага княства.

Паводле прынятага плана, шматлікія кааліцыйныя войскі Яраславічаў павінны былі ўвайсці ў Полацкае княства адначасова і ісці *„четырьмя пути"*, накіраванымі на важнейшыя стратэгічныя абарончыя пункты: Ізяслаўль, Лагожаск, Барысаў і Друцк. Звяртаючы ўвагу на накірункі і пункты атакі паўднёварускіх князёў, трэба прызнаць, што мэтай былі захоп, разбурэнне і падпарадкаванне паўднёвых тэрыторый Полацкай зямлі. Менавіта захоп гэтых гарадоў дазваляў ужо дыктаваць умовы будучых пагадненняў і падпарадкавання Полацка Мсціславу Уладзіміравічу.

Каб не даць магчымасці полацкім князям сканцэнтраваць свае сілы дзеля абароны, а таксама каб унесці ў асяроддзе насельніцтва Полаччыны разгубленасць і страх, было прынята рашэнне, што ўсе ўдзельнікі кааліцыйнага войска павінны *„пуститься на вороп"*, гэта значыць — атакаваць полацкія гарады адначасова, 4 жніўня 1127 года[38]. Гэты план нібы парушыў сын Мсціслава Ізяслаў, які камандаваў войскамі, скіраванымі на Лагойск, і распачаў свае дзеянні на дзень раней[39].

Найбольшыя сілы былі накіраваны на заходнія тэрыторыі Полацкага княства, а менавіта на горад Ізяслаўль. Выклікана гэта было жаданнем і неабходнасцю адрэзаць Полацак ад саюзнікаў — літоўскіх плямёнаў[40]. Дадзеныя абставіны змусілі Мсціслава паслаць на Ізяслаўль найбольшыя сілы, якія складаліся з войскаў чатырох князёў: Андрэя Уладзіміравіча

36 Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля (очерки истории Северной Белоруссии) в IX–XIII вв.,* с. 258–262.
37 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь,* с. 174–180.
38 *Лаврентьевская летпісь,* слп. 298.
39 Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля,* с. 260; М. Ермаловіч, *Стражытная Беларусь,* с. 177.
40 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь,* с. 175.



***Захоп Лагожаска/Лагойска войскамі Ізяслава Мсціславіча.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

з Уладзіміра Валынскага, Вячаслава Уладзіміравіча з Турава (абодва — родныя браты Мсціслава), Усевалада з Гродна і Вячаслава Яраславіча з Клецка.

На Лагожаск (Лагойск) накіраваны былі сілы трохі меншыя па колькасці, але важныя па статусе, бо складаліся з асабістых войскаў вялікага кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча, куранаў і качэўнікаў — торкаў. А кіраваў імі старэйшы сын Мсціслава — Ізяслаў. На трэцім накірунку ад Стрэжава да Барысава паводле плана дзейнічалі чарнігаўскія Ольгавічы, а на Друцк вёў свае войскі Расціслаў Смаленскі. З поўначы як дадатковае забеспячэнне татальнага вайсковага ахопу Полацкага княства рухалася наўгародскае войска на чале з чарговым сынам кіеўскага князя Усеваладам Мсціславічам.

Аб сапраўдных планах і сур'ёзнасці намераў кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча адносна Полацкага княства падчас паходу 1127 г. сведчыць нам эпізод з захопам і рабаваннем горада Ізяслаўля. Летапісец, праўдападобна, быў сведкам альбо перадае інфармацыю са словаў удзельніка захопу Ізяслаўля, даволі падрабязна і красамоўна апісвае тыя падзеі. Абаронцы Ізяслаўля мужна і стойка супраціўляліся нападнікам, нягледзячы на іх шматлікасць і адсутнасць свайго князя.

Не выключана, што Брачыслаў — ізяслаўскі князь — з інфармацыяй аб небяспецы з поўдня быў высланы (альбо адправіўся з уласнай ініцыятывы) да Полацка, галоўнай сілы краіны. Але, як вядома, па дарозе ён сустрэў аддзелы войска Ізяслава Мсціслававіча, якія былі скіраваны на Лагойск. З летапіснага паведамлення вынікае, што Брачыслаў, пабачыўшы войска Ізяслава, спалохаўся, *„не мог поити ни семо ни овамо… и иде шюрину своему в руце"*[41].

Абаронцы горада Ізяслаўля, пабачыўшы свайго палоннага князя жывым, як і знатных жыхароў горада Лагойска, паверыўшы словам прадстаўніка кааліцыі тураўскага князя Вячаслава Уладзіміравіча, што яны не будуць *„узяты на шчыт"*, пагадзіліся падацца і здаць горад раніцай. Але ноччу, у класічных сярэднявечных звычаях і традыцыях, частка войска на чале з ваяводамі Варацiславам і Іванкам уварвалася ў горад, рабуючы яго насельніцтва. Летапісец піша, што з вялікімі цяжкасцямі і з *„праліццём крыві"* атрымалася выратаваць ад рабунку маёмасць дачкі Мсціслава кіеўскага, жонкі Брачыслава ізяслаўскага[42].



***Падпарадкаванне абаронцаў Ізяслаўля тураўскаму князю Вячаславу.***
**Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Трэба адзначыць, што летапісцы вельмі падрабязна апісваюць першыя этапы вайны кааліцыі Яраславічаў з Полацкімі князямі 1127 года, зусім скарачаючы і нібы абразаючы наступныя падзеі. Мы нічога не ведаем аб тым, як разгортваліся ваенныя дзеянні на іншых накірунках, вызначаных

41 *Лаврентьевская летопись,* слп. 298.
42 Тамсама.

планам Мсціслава Уладзіміравіча, і як складаўся лёс іншых полацкіх гарадоў: Друцка, Барысава (на поўдні), Некалачы (на поўначы). Выклікае пытанні адсутнасць згадвання Віцебска ў апісаных падзеях.

Як бачым, Полацкая зямля была аточана войскамі кааліцыі з усіх найважнейных стратэгічных накірункаў. Натуральна, што рэальныя вайсковыя знішчэнні (захоп і рабаванне Ізяслаўля, Лагойска, праўдападобна і Барысава, Стрэжава, Друцка) і бесперспектыўнасць абароны краіны прымусілі полацкіх князёў і грамадскія сілы (дружына, купцы, святары) паддацца і выканаць патрабаванні Мсціслава Уладзіміравіча — вялікага князя кіеўскага. Князь Давыд Усяслαвіч быў пазбаўлены свайго пасаду, на яго месца Мсціславу прапанавалі яго брата Барыса-Рагвалода, на што атрымалі згоду.



***Пасаджэнне на полацкі прастол Барыса-Рагвалода Усяславіча.***
**Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Леанід Аляксееў мяркуе, што паход кааліцыі на Полацк быў спынены дзякуючы дыпламатычным перамовам, якія былі праведзены з Полацкам. На гэта нібы ўказвае запіс наступнага, 1129 года пра тое, што полацкія князі ў дадзены год „*преступиша хрестъное целование*", за што і былі вельмі сурова пакараны высылкай у Візантыю[43]. Не выключана, што гэтае „*крестное целование*" было заключана менавіта пасля паходу кааліцыі

[43] *Ипатьевская летопись,* слп. 293.

ў 1127 годзе, дзе адной з умоў быў абавязковы ўдзел полацкіх князёў у вайсковых мерапрыемствах Кіева.

Вартае ўвагі назіранне Міколы Ермаловіча адносна прычын спынення паходу 1127 года[44]. Ён перш за ўсё лічыць, што кіеўскія князі, як і ў 1021, 1067 і 1116 гадах, не былі падрыхтаваны да зацяжной вайны з няпэўнымі вынікамі. Войскі паўднёварускіх княстваў пераважна мелі справу са стэпавымі качэўнікамі і вялі вайсковыя дзеянні на адкрытай мясцовасці. А прыродныя ўмовы Полаччыны з яе пушчамі, балотамі, шматлікімі рэкамі і азёрамі былі нязвыклымі для паўднёварусаў. На закрытай мясцовасці для іх паўсюль хавалася пагроза. Гэта добра пацвярджае няўдалы паход на Літву ў 1131/1132 годзе[45]. Вось чаму Мсціслаў і ўсе ўдзельнікі кааліцыі, задаволіўшыся прызнаннем палачанамі сваёй пакоры, вырашылі спыніць далейшае прасоўванне. Да таго ж вярталіся яны не з пустымі рукамі. Калі пра войскі, што бралі Ізаслаўль, сказана, што яны *„возвратишася с многым палоном”*[46], то трэба думаць, што і іншыя ўдзельнікі паходу мелі не менш здабычы. Хоць кіеўскія войскі адышлі з Ізяслаўля, Лагойска, Барысава і Друцка, аднак Мінск не быў вернуты Полацкаму княству, што сталася адной з прычын узнаўлення яго барацьбы з Кіевам.



***Вяртанне войска Мсціслава з палонам.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

44 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь*, с. 180.

45 *Лаврентьевская летопись*, слп. 301; *Ипатьевская летопись,* слп. 294.

46 *Лаврентьевская летопись,* слп. 298; *Ипатьевская летопись,* слп. 293.

У летапісных паведамленнях пра падзеі 1127 года, асабліва ў заключнай стадыі, вялікая роля надаецца *„палачанам”*, якія *„сътснувшеси выгнаша Давыда и с сыньми и поемше Роговолода идоша къ Мстиславу просяще и собе князем и створи волю ихъ Мстиславъ и поимше Роговолода ведоша и Польтьску”*[47]. Выглядае на тое, што мы маем дачыненне з адмысловым калектыўным голасам горада — вечам, сходам вольных гараджан і дружыннікаў. У навуковай літаратуры шмат спрачаюцца пра тое, хто кантраляваў веча, ці было яно дастаткова прадстаўнічым, ці з'яўлялася яно народным форумам альбо інструментам у руках эліты, а магчыма, і першым, і другім адначасова[48]. Праўда, рабіць абагульненні адносна функцыянавання веча складана і небяспечна. У ранніх крыніцах звестак пра яго вельмі мала. А з больш частых узгадак веча ў XII ст. бачна, што яго склад, працэс працы і функцыі былі разнастайнымі. Значэнне слова *„веча”* ў XII ст. было даволі ёмістым, яго выкарыстоўвалі нават для абазначэння тайнай змовы, як у Ноўгарадзе ў 1169 годзе[49]. Трэба пагадзіцца з меркаваннем, што не варта прыпісваць вечу ў XI–XII стст. сталую і афіцыйную „канстытуцыйную” ролю: веча было родавым тэрмінам, які абазначаў розныя спосабы выказваць грамадскае меркаванне гараджан. Яно было, хутчэй, з'явай, якая адбывалася час ад часу, чым інстытутам кіравання[50].

Праз два гады, у 1129 г., справа полацкіх князёў зноў выйшла на першае месца ў кіеўскай палітыцы. Адмова ісці на вайну з полаўцамі скончылася для іх нетрадыцыйным рашэннем Мсціслава. Усяславічы — князі Давыд, Расціслаў, Святаслаў, два сыны Барыса з жонкамі і дзяцьмі — былі вывезены спачатку ў Кіеў, дзе ім было аб'яўлена аб пакаранні за непаслушэнства, а потым сасланы ў Канстанцінопаль[51]. Такім чынам, Кіеў пазбавіў Полацкае княства дынастыі законных уладароў Ізяславічаў/Усяславічаў, што для сярэднявечнага грамадства было роўным знішчэнню дзяржаўнай незалежнасці і падпарадкаванню захопніку, у нашым

47 *Лаврентьевская летопись,* слп. 299; *Ипатьевская летопись,* слп. 293.

48 Б. Д. Греков, *Киевская Русь,* Москва 1953, с. 353–370; М. Н. Тихомиров, *Древнерусские города,* Москва 1956, с. 185–213, 217–225; K. Zernack, *Die burgstädtischen Volksversammlungen bei den Ost- und Westslaven. Studien für verfassungsgeschitlichen Beduetung de Veče,* Wiesbaden 1967; И. Я. Фроянов, *Киевская Русь: Очерки социально-политической истории,* Ленинград 1980, с. 150–184; S. Robdewald, *„Vom Polocker Venedig”. Kollektives Handeln sozialer Gruppen einer Stadt zwischen Ost- und Mitteleuropa (Mittelalter, frühe Neuzeit, 19. Jh. bis 1914),* Stuttgart 2005; Т. Л. Вилкул, *Люди и князь в древнерусских летописях середины XI–XIII вв.,* Москва 2009, с. 226–324; П. В. Лукин, *Новгородское вече,* Москва 2018.

49 *Ипатьевская летопись,* слп. 537; Т. Л. Вилкул, *Люди и князь в древнерусских летописях середины XI–XIII вв.,* Москва 2009, с. 24.

50 С. Франклин, Д. Шепард, *Начало Руси: 750–1200,* с. 417; Т. Л. Вилкул, *Люди и князь в древнерусских летописях середины XI–XIII вв.,* с. 226–236, 249–272, 282–323.

51 *Лаврентьевская летопись,* слп. 301; *Ипатьевская летопись,* слп. 293.

выпадку — Кіеву. Такі радыкальны крок Мсціслава Уладзіміравіча пацвярджае, што Полацкае княства да гэтага часу было паўнавартаснай незалежнай (наколькі магчыма ў сярэднявеччы) дзяржавай.



***Ссылка полацкіх князёў з сем'ямі ў Канстанцінопаль.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Звычайна акцыя Мсціслава інтэрпрэтуецца як „ссылка" полацкіх князёў у Візантыю. Гэта часткова слушна, але летапісныя паведамленні выразна сведчаць, што дзеянні кіеўскага князя мелі характар не проста расправы, а (з яго пункту гледжання і пазіцыі летапісца) пакарання за здзейсненае полацкімі князямі злачынства. Слова *„разъгневася"* тут трэба разумець не як эмацыйны стан князя, а як прад'яўленыя абвінавачванні[52].

Рашэнне Мсціслава Уладзіміравіча Кіеўскага выслаць полацкіх князёў у Візантыю для Русі было выключным і адзінкавым. Да 1129 года і пазней ніводнага разу не выкарыстоўвалася падобная практыка. Два прыклады, якія прыводзяць даследчыкі, пры ўважлівым чытанні і кантэкстуальным аналізе не параўноўваюцца з акцыяй Мсціслава Уладзіміравіча адносна полацкіх князёў, яны лакальныя і не лёсавызначальныя для канкрэтнай геапалітычнай сітуацыі і канкрэтнага дзяржаўнага ўтварэння.

Прыклад з Алегам Святаславічам Чарнігаўскім не мае ніякага параўнання, бо яго адпраўка ў Візантыю звязана з хазарамі, а не з кіеўскай княжацкай уладай. *„(1079) …а Олга емше Козаре, поточиша за море къ Царюграду. Всеволодъ же посади посадника Ратибора Тмутораканю"*[53].

[52] П. В. Лукин, *„Поточи Мьстиславъ Полотьскии князе". Об одной из форм наказания в Древней Руси,* „Древняя Русь. Вопросы медиевистики", 2007, № 3 (29), с. 21.

[53] *Лаврентьевская летопись,* слп. 204; *Ипатьевская летопись,* слп. 196.

Паведамленне пра „высылку” 1162 года ў Візантыю Андрэем Юр’евічам, так званым Багалюбскім, князем Уладзімірскім сваіх братоў — гэта вынікі ўнутрысямейнай барацьбы за ўладу. *„(1162) Том же лете выгна Андреи епископа Леона ис Суждаля и братю свою погна — Мстислава, и Василка, и два Ростиславича, сыновца своя, мужи отца своего передниии. Се же створи хотя самовластець бытии всеи Суждальскои земли.[…] Том же лета идоста Гюргевича Царюгороду, Мъстислав и Василко, с матерью и Всеволода молодого пояша с собою, третьего брата. И дасть царь Василкови в Дуниа четыре городы, а Мьстиславу дасть волость Отскалана”*[54]. Дарэчы, „самавластец” Андрэй Юр’евіч Багалюбскі ў сваім імкненні пераймаць некаторыя ўзоры візантыйскіх міжкняжацкіх адносін (як высылка канкурэнтаў імператарскай улады на востраў Радос) спрабаваў яшчэ раз выкарыстаць падобнае ў адносінах да смаленскіх князёў Давыда і Мсціслава Расціславічаў, выганяючы іх з тэрыторыі Рускай зямлі. „ *1174 г. Того ж лета Андреи князь Суждальскыи розьгневася на Ростиславичи …исполнивься высокооумья разгордевься велми недаяся плот нои силе и множествомъ вои огородився ражьгся гневом и посла Михна мечьника едь к Ростиславичемь рци же имъ не ходите в моеи воли ты же Рюриче поиди вь Смоленьскь къ брату во свою отчину, а Давидови рци а ты поиди въ Берладь а в Руськои земли не велю ти бытии, а Мьстиславу молви в тобе стоить все а не велю ти в Рускои земле бытии”*[55].

Жаданні Мсціслава Уладзіміравіча і магчымасць выслаць (*„поточить”*) полацкіх князёў у Візантыю маглі рэалізавацца толькі ў сітуацыі вельмі сяброўскіх узаемаадносін паміж кіеўскім і канстанцінопальскімі дварамі. Больш за тое, каб выслаць непрыемных для кіеўскага князя Мсціслава князёў і канкурэнтаў, патрэбны быць асабістая згода імператара і ўпэўненасць, што ў будучым гэтыя князі не стануць важнай зброяй у палітычнай барацьбе супраць Кіева. Крыніцы дазваляюць заўважыць, што падчас княжання ў Кіеве Святаполка Ізяславіча (1093–1113), Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха (1113–1125) і яго сына Мсціслава Уладзіміравіча (1125–1132) было некалькі момантаў вельмі блізкіх кантактаў Візантыі і Русі. Імператарамі ў той час былі прадстаўнікі роду Комненаў — Аляксей I (1081–1118) і яго сын Іаан II (1118–1143). Паміж 1103 і 1106 гадамі былі заключаны тры візантыйска-

54 *Ипатьевская летопись,* слп. 520, 521.

55 *Ипатьевская летопись,* слп. 572–573; В. Л. Комарович, *Культ рода и земли в княжеской среде XI–XIII вв.,* [в:] *Из истории русской культуры.* т. II. Кн. 1. *Киевская и Московская Русь,* Москва 2002, с. 8–9.

рускіх шлюбы: дачка Уладара Расціславіча Перамышльскага выйшла замуж за аднаго з сыноў імператара Аляксея — Андроніка альбо Ісаака (каля 1103–1104 г.)[56], дачка Усяслава Брачыславіча Полацкага — за сына імператара Аляксея (1106 г.), і, нарэшце, Святаполк Ізяславіч асабіста трэці раз ажаніўса з сваячніцай імператара Варварай[57]. У часы княжання Уладзіміра Манамаха яго ўнучка Дабрадзея-Еўпраксія Мсціславаўна была аддадзена ў 1122 г. замуж за візантыйскага царэвіча Аляксея, што стала замацаваннем заканчэння руска-візантыйскага канфлікту 1116–1122 гг.[58] На думку Гераніма Гралі, Мсціслаў Уладзіміравіч выкарыстаў сваяцкія сувязі з імператарскай дынастыяй Комненаў падчас высылкі сваіх ворагаў — полацкіх князёў — разам з сем'ямі да Візантыі[59].

Важным фактам, які мог паўплываць на рашэнне Мсціслава выслаць полацкіх князёў у Візантыю, стала прыбыццё не пазней за 1129 год у Кіеў з Канстанцінопаля новага мітрапаліта Міхаіла II[60]. Хутчэй за ўсё, новы мітрапаліт Міхаіл асвяціў у Кіеве царкву Св. Фёдара, закладзеную ў 1128 годзе Мсціславам Уладзіміравічам, які ў хрышчэнні меў імя Фёдар[61]. І прысутнасць полацкай князёўны ў імператарскай сям'і магла паўплываць на адносна шчаслівы лёс Усяславічаў, бо не выключана, што ў Мсціслава быў альтэрнатыўны план іх забойства.

Шукаючы адказу на пытанне, чым займаліся полацкія князі ў выгнанні, варта пагадзіцца з меркаваннем В. Тацішчава, быццам візантыйскі імператар Іаан II Комнін, прыняўшы полацкіх князёў, накіраваў іх у войска, якое ваявала супраць сарацынаў/арабаў, дзе яны годна выконвалі свае абавязкі[62]. Прыгледзімся да падзей, што адбываліся ў знешняй і ўнутранай палітыцы Візантыйскай імперыі паміж 1130–1140 гг., часам знаходжання сыноў і ўнукаў Усяслава Брачыслававічаў на Балканах. Імператар Іаан II Комнін (1118–1143) атрымаў у спадчыну ад свайго

[56] *Лаврентьевская летопись,* слп. 280; *Ипатьевская летопись,* слп. 256; В. А. Мошин, *Русские на Афоне и русско-византийские отношения в XI–XII вв.,* [в:] *Из истории русской культуры.* т. II. Кн. 1: *Киевская и Московская Русь,* Москва 2002, с. 332.

[57] *Лаврентьевская летопись,* слп. 280; *Ипатьевская летопись,* слп. 256; В. А. Мошин, *Русские на Афоне и русско-византийские отношения в XI–XII вв.,* с. 332.

[58] *Ипатьевская летопись,* слп. 286. Х. Лопарев, *Брак Мстиславн (1122),* „Византийский временник", 1902, т. IX, с. 418–445; С. Пападимитриу, *Брак Мстиславн с Алексеем Комнином,* „Византийский временник", 1904, т. XI, с. 73–98.

[59] H. Grala, *Rurykowicze na Bałkanach w XII i XIII wieku,* „Balcanica Posnaniensia", Poznań 1989, t. IV, s. 132–133.

[60] В. А. Мошин, *Русские на Афоне и русско-византийские отношения в XI–XII вв.,* с. 333.

[61] *Лаврентьевская летопись,* слп. 299.

[62] В. Н. Татищев, *История Российская,* Москва-Ленинград 1963, т. II, с. 142; М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь,* с. 184; Г. Штыхаў, В. Ляўко, *Палітычная гісторыя Полацкай зямлі,* [у:] *Гісторыя Беларусі:* У 6 т. Т. 1: *Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст.,* Мінск 2000, с. 180. Дарэчы ў тэксце Г. Штыхава і В. Ляўко візантыйскі імператар Іаан зрабіўся „зяцем" кіўскага князя Мсціслава, а на самой справе ён быў „сватам".

***Увазныя пошліны.*** Знешне ліберальнае і заахвочвальнае стаўленне расійскага ўрада да ўнутранага і знешняга гандлю было адзначана шэрагам ваганняў і супярэчнасцей. Урад то пераходзіў ад забарончай сістэмы да ярка выяўленай свабоды гандлю, то зноў вяртаўся да аднаўлення жорсткага кантролю над айчынным гандлем і, у прыватнасці, павышаў увазныя тарыфы. Няўстойлівасць гандлёвай палітыкі шмат у чым тлумачыцца ўздзеяннем міжнародных адносін, зменай накірункаў знешняй і ўнутранай палітыкі Расіі. Як ужо адзначалася вышэй, частка Рэчы Паспалітай, якая дасталася Расійскай імперыі пад назвай Царства Польскага, атрымала мытную мяжу, якая дзейнічала ў 1822–1850 гг. і значна ўскладняла эканамічныя сувязі беларуска-літоўска-ўкраінскага рэгіёна з цэнтральнай часткай былой Рэчы Паспалітай[31]. Шкодзіла гандлю і забарона гандляваць французскімі таварамі, а таксама далучэнне Расіі да эканамічнай блакады Англіі.

Балансаванне паміж забароннай сістэмай і свабодным таваразваротам было характэрным ужо для гандлёвай палітыкі Кацярыны II[32]. У праектах імператрыцы эканамічны лібералізм ужываўся з шэрагам забарон і абмежаванняў. Урад Паўла I па сутнасці працягваў эканамічную палітыку кацярынінскіх часоў. Апякунскае стаўленне імператара да гандлёвай сферы не перашкодзіла яму зрабіць захады, якія дысбалансавалі гандаль. У 1800–1801 гг. адбыўся разрыў гандлёвых адносін з Англіяй, якая з’яўлялася буйнейшым спажыўцом сельскагаспадарчай прадукцыі ўсёй імперыі. У 1800 г. забараняўся ўвоз замежнай літаратуры[33].

Урад Аляксандра I у пошуках новых накірункаў сацыяльна-эканамічнай палітыкі распрацоўваў праекты, у якіх праяўляліся тэндэнцыі, характэрныя для буржуазнага грамадства і рыначных адносін. Аднак ніводзін з праектаў, які меў патэнцыйную магчымасць актывізаваць унутраны і знешні гандаль, не быў прыняты. Выключэннем стала ўвядзенне ў 1822 г. забароннай мытнай сістэмы. Урад быў вымушаны адмовіцца ад мытнай пратэкцыі землеўладальнікаў і прызнаць неабходнасць спрыяння індустрыялізацыі краіны праз гандлёвую палітыку. Рэалізацыя такога курсу выпала на долю Ягора Канкрына, кіраўніка фінансава-эканамічнай палітыкі ўрада новага імператара Мікалая I. Забаронная мытная палітыка пры Мікалаі I схіліла гандлёвы баланс у станоўчы для Расіі бок[34]. Тым не менш, паколькі імперыя не

[31] А. Л. Киштымов, *Экономическое наследие Речи Посполитой в народном хозяйстве Беларуси*, с. 27.

[32] М. М. Шаўчэня, *Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII — першая трэць XIX ст. ),* с. 23.

[33] Тамсама, с. 24.

[34] Тамсама.

магла абысціся без экспарту тавараў прамысловай вытворчасці, цэны на іх сталі толькі больш высокімі. Вынікам пратэкцыянізму быў таксама рост кантрабанднага гандлю.

***Падаткаабкладанне купцоў.*** Пасля далучэння да Расіі ўсе падатковыя саслоў'і былога ВКЛ плацілі пагалоўную подаць[35]. Маніфестам ад 17 сакавіка 1775 г. купецтва вызвалялася ад падушнага падатку, які замяняўся аднапрацэнтным зборам з абвешчанага *„па сумленні"* капіталу[36]. У далейшым працэнтная стаўка падаткаабкладання ўзрастала: 1797 г.— 1,25 %, 1810 г.— 1,75 %, 1812 г.— 4,75 %, 1818 г.— 5,25 %[37]. Натуральна, што гандляры ў выніку ўзмацнення падатковага ціску пачалі па магчымасці ўхіляцца ад плацяжу гільдыйскай пошліны і часта пераходзілі ў мяшчанства. Тым больш што неакрэсленасць гандлёвых правоў мяшчан дазваляла ім займацца разнастайнымі гандлёвымі промысламі.

Значныя змены ў заканадаўстве аб гандлёва-прамысловым абкладанні прынесла Гільдыйскае палажэнне ад 14 лістапада 1824 г. Замест ранейшага падатку з абвешчанага капіталу была ўведзена прынятая ў заходнееўрапейскіх краінах патэнтная сістэма, якой прадугледжвалася ўстанаўленне нязменнага акладу, што спаганяўся за пасведчанне на права гандлю. Ён павялічыўся ў 1,4 разы[38]. Плата за гільдыйскае пасведчанне для купца 1-й гільдыі складала 2200 руб., для купца 2-й гільдыі — 880 руб., для купца 3-й гільдыі — 220 руб., а ў ільготных губернях, да якіх адносіліся і беларускія землі, купцу 3-й гільдыі трэба было заплаціць 132 руб. З 1827 г. плата за пасведчанне 3-й гільдыі зменшылася ў беларускіх губернях да 100 руб. Купцы ўсіх трох гільдый пры набыцці пасведчанняў атрымлівалі па тры білеты на крамы без платы, а на кожную лішнюю краму абавязваліся купляць асобныя білеты (75 руб. для 1-й і 2-й гільдыі, 50 руб. для 3-й гільдыі)[39].

Паколькі з прыняццем Гільдыйскага палажэння 1824 г. падаткаабкладанне рознічнага гандлю ўзрасло, то і становішча рознічных гандляроў пагоршылася. Аб гэтым сведчаць прашэнні гандляроў у розныя інстанцыі вярнуць ранейшы стан рэчаў у гэтай галіне гаспадарчай

---

35 Паколькі *„падатковых душ"* у беларускіх губернях не знаходзілася (слова „душа" проста не ўспрымалася), то падушная подаць была названа *„пагалоўнай"*. Гл.: М. Кулишнер, *История русского законодательства о евреях в связи с системой взимания налогов и отбывания повинностей*, „Еврейская старина", Санкт-Петербург, 1910, т. III, с. 471.

36 Т. М. Тимошина, *Экономическая история России*, с. 89–90.

37 А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва,* с. 257.

38 П. Г. Рындзюнский, *Городское гражданство дореформенной России*, с. 127, 167.

39 М. М. Шаўчэня, *Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII — першая трэць XIX ст. ),* с. 47; А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва на тэрыторыі Беларусі*, с. 258–259.

дзейнасці. Так, у маі 1825 г. прадстаўнікі яўрэйскай і хрысціянскай грамад Віцебска прасілі *„издавна производимою мелочною продажею припасов”* дазволіць займацца ў крамах па *„обычаю здешнего города”*[40]. Часта ўжываліся ў падобных прашэннях наступныя фармуліроўкі: *„по прежнему обыкновению”*, *„сообразно прежним в торговле обычаям”*. Імкненнем гандляроў ухіліцца ад празмерна высокіх падаткаў можна патлумачыць прадпісанне міністэрства фінансаў у 1825 г. аб тым, каб *„Городские Думы и Ратуши побуждали городских жителей в ноябре и декабре ко взятию надлежащих свидетельств на право торговли и промысла”*[41].

Указам ад 9 лістапада 1839 г. з 1 студзеня наступнага года ўсталёўваўся новы памер падаткаў. Кошт пасведчанняў для купцоў 1-й і 2-й гільдый складаў 660 і 264 руб., а для купцоў 3-й гільдыі — 66 руб. у губернскіх і партовых і 43 руб. у павятовых і заштатных гарадах[42].

Акрамя платы за набыццё пасведчанняў, купцы ўносілі земскія зборы (губернскія земскія павіннасці складалі 10 % ад кошту пасведчання, дзяржаўныя земскія павіннасці — 15 %), а таксама гарадскія павіннасці. Так, у Гродне ў 1852 г. было набыта пасведчанне купца 1-й гільдыі (за 540 руб.) і 25 пасведчанняў купцоў 3-й гільдыі (за 1650 руб.); у Гродзенскім павеце — яшчэ 6 пасведчанняў купца 3-й гільдыі (за 258 руб.). Купец 1-й гільдыі заплаціў 54 руб. губернскіх, 81 руб. дзяржаўных, 37 руб. 50 кап. гарадскіх павіннасцей, што разам з набыццём пасведчання купца 1-й гільдыі склала 712 руб. 50 кап. Купцы 3-й гільдыі Гродна і Гродзенскага павета сплацілі ў гэтым годзе 3 196 руб. пошлін за набыццё пасведчанняў ды земскіх збораў і гарадскіх павіннасцей[43], або па 103 руб. на кожнага купца. Падаткаабкладанне купецтва ў 1839 г. у параўнанні з 1824 г. зменшылася.

***Гандлёвае падаткаабкладанне мяшчан.*** Мяшчане, якія займаліся гандлем, плацілі толькі падушную подаць у такім жа памеры, як і тыя, якія не гандлявалі[44]. Патэнтная сістэма, уведзеная Гільдыйскім палажэннем 1824 г., была распаўсюджана не толькі на купцоў, але і на мяшчанскае саслоўе. Палажэнне карэкціравала эканамічныя магчымасці мяшчан-гандляроў. Яны павінны былі заплаціць за гандлёвае пасведчанне: у губернскіх, павятовых і памежных гарадах, дзе ёсць мытня,— 80 руб., у льготных губернях (у тым ліку беларускіх) — 60 руб.; у павятовых і заштатных гарадах, а таксама ў мястэчках — 60 руб., у мястэчках

40 НГАБ, ф. 1297, воп. 1, адз. зах. 789, арк. 9.
41 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 38, адз. зах. 164, арк. 374.
42 А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва,* с. 259.
43 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, адз. зах. 1031, арк. 3.
44 А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва,* с. 258.

ільготных губерняў — 40 руб.[45] Дадзеныя кошты былі для мяшчан занадта высокімі. Урад вымушаны быў іх знізіць напалову (указ ад 31 жніўня 1825 г.), а затым увогуле адмяніць (указы ад 11 чэрвеня 1826 г. і ад 11 студзеня 1827 г.)[46].

***Гандлёвае падаткаабкладанне сялян.*** З 1799 г. весці гандаль дазвалялася і сялянам. І фактычна адразу ўводзілася патэнтная сістэма падаткаабкладання іх гандлёвай дзейнасці. Гэтыя сяляне ўносілі ў гарадскую казну спецыяльны збор за крамы — ад 25 да 100 руб. у год, у залежнасці ад *„шырыні дазволенага сялянам торгу”*. У 1812 г. у адпаведнасці з родам гандлю сялянам выдаваліся асобыя пасведчанні, за якія вызначалася наступная плата: за правa на аптовы гандаль і гандаль пры біржах — 2 500 руб., на аптовы ўнутраны гандаль — 1 000 руб., на рознічны гандаль — 400 руб. Такія ўмовы не адпавядалі магчымасцям нават сялян унутранай Расіі, дзе сярод прыгонных былі буйныя прадпрымальнікі. Ужо ў снежні 1812 г. з’явілася новая пастанова пра падзел гандлёвых пасведчанняў для сялян на чатыры катэгорыі з платай за 1-ю катэгорыю 2 500 руб., за 2-ю — 1 000 руб., за 3-ю — 400 руб. і за 4-ю — 40 руб.[47] Гільдыйскае палажэнне 1824 г. прадугледжвала 6 катэгорый пасведчанняў для сялян, якія гандлююць, кошты за першыя чатыры былі вышэйшыя, чым за аналагічныя пасведчанні для мяшчан і купцоў. Гэта стрымлівала імкненне сялян удзельнічаць у буйным гандлі. У далейшым кошты пасведчанняў для сялян зніжаліся, былі скасаваныя пасведчанні 5-й і 6-й катэгорый. Пасведчанне 4-й катэгорыі (капітал ад 2 000 да 8 000 руб.), найбольш адпаведнае гандлю сялян, стала каштаваць ад 40 да 80 руб.[48] У 1827 г. тыя з сялян, якія займаліся дробным гандлем, былі вызвалены ад спагнання падаткаў з гандлёвай дзейнасці[49].

***Падаткаабкладанне яўрэйскіх гандляроў.*** Яўрэйскія гандляры абкладваліся гандлёвымі зборамі на карысць гарадскога кіраўніцтва ў дзяржаўных гарадах і на карысць памешчыкаў у прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках. Як і з хрысціянскіх купцоў, з яўрэяў збіраліся ў казну гандлёвыя пошліны з кірмашоў і базараў у тых населеных пунктах, якія належалі дзяржаве, а ў прыватнаўласніцкіх населеных пунктах і мястэчках, якія стаялі на памешчыцкіх і царкоўных землях, пошліны былі здабыткам гэтых землеўладальнікаў.

---

[45] М. М. Шаўчэня, *Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII — першая трэць XIX ст. ),* с. 27.

[46] Тамсама.

[47] Тамсама, с. 30.

[48] Тамсама.

[49] А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва,* с. 259.

У 1794–1807 гг. дзейнічаў указ аб падвоеным падаткаабкладанні яўрэяў[50]. Гільдзейскія купцы плацілі ад 1831 г. пагалоўны падатак на карысць кагалаў, але ён быў меншы за падатак, якім абкладваліся мяшчане, што стымулявала гандляроў набываць гільдзейскія пасведчанні. У 1839 г. улады дамагліся ад кагалаў пералічваць частку каробачнага збору, які прызначаўся для ўнутрыкагальных патрэб, у дзяржаўны скарб. Гэты збор стаў абавязковым для ўсіх яўрэйскіх супольнасцей і іх членаў[51].

***Зборы з гандляроў у прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках.*** Гандляры знаходзіліся не толькі пад моцным гандлёва-падатковым прэсінгам дзяржаўнай улады. Захаваліся і нават павялічыліся гандлёвыя зборы на карысць памешчыкаў, якім належалі населеныя пункты з гандлёвымі функцыямі. Губернская адміністрацыя была, можна сказаць, завалена прашэннямі і скаргамі жыхароў мястэчак аб свавольстве і злоўжываннях памешчыкаў у гэтай сферы. Так, на незаконныя гандлёвыя зборы, якіх не было ў ранейшых інвентарах, скардзіліся яўрэі Міра, Валожына, Высока-Літоўска, Даўгінава ды многіх іншых мястэчак. У Сямяцічах скаргу такога зместу яўрэі і хрысціяне мястэчка падалі сумесна[52].

Асноўны цяжар вотчыннага падаткаабкладання прыходзіўся на яўрэяў, якія складалі большасць гандляроў у прыватнаўласніцкіх гарадскіх паселішчах. Яскравым прыкладам канфлікту паміж жыхарамі мястэчка і яго ўладальнікам на глебе празмерных гандлёвых збораў можа служыць становішча яўрэяў м. Высока-Літоўск Брэсцкага павета ў сярэдзіне XIX ст. Яны скардзіліся ў вышэйшыя ўстановы на князя Сапегу за прысваенне ім некаторых артыкулаў каробачнага збору, за абкладанне рознымі гандлёвымі падаткамі на сваю карысць, за павелічэнне чыншу за пляцы і крамы і г.д. Мяшчане падкрэслівалі, што гэтыя незаконныя зборы з'яўляюцца прамым падаткам на галоўныя прадметы жыццёвых патрэб, перашкаджаюць дробнай прамысловасці і гандлю і абцяжарваюць як мясцовых жыхароў мястэчка, так і навакольных. У 1853 г. указам Сената гэтыя незаконныя зборы былі адменены. У 1855 г. князь Сапега паводле новага інвентара зноў павялічыў чынш з яўрэяў мястэчка,

---

50 А. Бурачонак, *Змены ў сістэме падаткаабкладання гандлёвай дзейнасці купецтва,* с. 257; Нават шляхта непакоілася з-за новага, падвоенага падатку на яўрэяў і пратэставала супраць гэтага. Гл.: Е. К. Анищенко, *Черта оседлости,* Минск 1998, с. 29. Падвышанае, у параўнанні з унутранымі губернямі Расіі, падаткаабкладанне мелі і сяляне, паколькі да 1811 г. яны плацілі дзяржаўныя падаткі ў Беларусі не асігнацыямі, як гэта было ў рускіх губернях, а серабром. Але пратэстаў супраць гэтага з боку памешчыкаў не зафіксавана.

51 М. Гардон, *Опыт изучения еврейского финансового хозяйства в России, (К вопросу о национальных финансах)*, Петроград 1918, с. 92; B. Stępniewska-Holzer, *Żydzi na Białorusi. Studium z dziejów strefy osiedlenia w pierwszej połowie XIX w*., Warszawa 2013, s. 42.

52 *Lietuvos valstybės istorijos archyvas* (далей — LVIA), ф. 378, агульны аддзел,1865, адз. зах. 1993.

распарадзіўся ліквідаваць яўрэйскія драўляныя крамы. Тады яўрэі прад'явілі Сапегу іск аб вяртанні ім 46 000 руб. за пераплату незаконных збораў. Сапега, са свайго боку, прад'явіў яўрэям іск на суму 9 835 руб. 20 кап. за нявыплачаны ў 1834 г. доўг. Рашэнне Сената па гэтай справе было наступным: для пакрыцця выдаткаў высокалітоўскім яўрэям за пераплату збораў спагнаць з уладальніка мястэчка ўсю суму, якая была пераплачана з 1840 г., а з яўрэяў спагнаць на карысць князя Сапегі нясплачаны доўг[53].

Здараліся выпадкі жорсткай помсты памешчыкаў за скаргі гандляроў. Даходзіла нават да арганізацыі пагромаў яўрэйскіх крам. Такі пагром учыніў, напрыклад, уладальнік м. Даўгінава Людвіг Каменскі. Даўгінаўскія яўрэі скардзіліся на яго ў Мінскае губернскае праўленне за спагнанне незаконных гандлёвых збораў. Яўрэі ўказвалі ў сваіх прашэннях, што пасля смерці Барбары Каменскай новы вотчыннік Людвіг Каменскі *„стеснил промысел жителей новыми поборами под названием торгового и чопового, акцизою”*. 18 чэрвеня 1837 г. пяць сялян з каламі, а 22 чэрвеня — ужо 70 сялян з сякерамі здзейснілі напад на яўрэйскую карчму, у выніку чаго яна была цалкам знішчана. Яўрэі Даўгінава паскардзіліся на памешчыка шэфу корпуса жандармаў Расійскай імперыі графу Бенкендорфу, прадставіўшы пры гэтым сведчанні пра тое, што некаторыя з яўрэяў мястэчка аказвалі рознага роду паслугі ўраду пры падаўленні „мецежу” 1831 г.[54]

Гандлёвыя зборы з прадметаў спажывання існавалі ў гарадах і мястэчках здаўна — на аснове старадаўніх пастаноў і прывілеяў. Яны, як правіла, аддаваліся на водкуп з таргоў. Назвы гэтыя зборы таксама мелі старадаўнія. Напрыклад, брамны і брукавы (з тавараў пры ўвозе ў горад ці мястэчка), чопавы (з прывазных замежных напояў), гноевы, локцевы, карбонны (з продажу на рынках і вуліцах розных харчовых прыпасаў і вырабаў), лапаткавы (з рэзі скаціны) і г.д. У 1853 г. расійскія ўлады вырашылі замяніць старадаўнія назвы гандлёвых збораў на расійскія адпаведнікі: *„Так как названия сии по неуразумительности для многих могут подать повод к разным недоумениям, то чтобы при отдаче помянутых сборов в новое откупное содержание старинные их польские поименования заменены были соответственными русскими”*. Міністрам унутраных спраў было прапанавана замяніць брамны і брукавы зборы на *„сбор с привозимых в город товаров и продуктов”*, чопавы — на *„винный”*, гноевы, локцевы, карбонны, гандлёвы, памерны ды інш.—

53 *Российский государственный исторический архив*, ф. 1287, воп. 37, адз. зах. 1298, арк. 3, 6, 18 адв., 48, 48 адв.

54 LVIA, ф. 378, агульны аддзел, 1834 год, адз. зах. 1891, арк. 99, 166.

на *„сбор с продаваемых на рынках и улицах разных съестных припасов и изделий”*, *„сбор с разных предметов потребления”*, лапаткавы — на *„сбор с боя скота”*[55] і г.д. Дарэчы, у гэтым праяўляецца палітыка русіфікацыі, якая закранула нават сферу гандлёвых адносін.

Дзякуючы гандлёвым зборам і падаткам, якія сплочвалі гандляры, дзяржава і ўладальнікі прыватнаўласніцкіх гарадоў і мястэчак, а таксама гарадскія думы і магістраты мелі добрыя прыбыткі. Дзяржаўныя гарады таксама фармавалі свае каштарысы галоўным чынам на аснове розных формаў падаткаў і збораў, звязаных з гандлем. Так, у 1860 г. даход Кобрына склаў 2 711 руб. 29 кап. З гэтай сумы на прыбыткі, звязаныя з гандлем, прыпадала каля 64 % (гандлёвага збору — 1 373 руб. 11 кап., віннага збору — 77 руб. 87 кап., аблoжнага са старых лавак — 5 руб. 30 кап., за кляйменне вагаў і мер — 1 руб. 50 кап., з рэстарацый — 27 руб., з харчэўняў — 28 руб., працэнт з купецкіх капіталаў — 54 руб., з іншагародніх купцоў — 46 руб. 50 кап., працэнт з акцызнай адкупной сумы — 114 руб.)[56].

Аднак жорсткае гандлёвае заканадаўства ў галіне падаткаабкладання наносіла шкоду не толькі гандлярам і спажыўцам, але і гарадам, самой дзяржаве, бо прыбыткі ад гандлёвых збораў знікалі ў выніку разарэння гандляроў і закрыцця гандлёвых устаноў з-за непамерных выдаткаў.

***Меры велічынь.*** З мэтай уніфікацыі беларускага і расійскага рынкаў адбывалася ўвядзенне адзіных мер даўжыні і вагі. Указам ад 29 красавіка 1797 г. прадпісвалася *„учредить повсеместно верные весы, питейные и хлебные меры”*. 28 лістапада 1824 г. і 30 сакавіка 1825 г. з’явіліся чарговыя распараджэнні камітэта міністраў і Сената аб выкарыстанні ў заходніх губернях Расійскай імперыі толькі тых мер даўжыні і вагі, якія былі ўстаноўлены для ўсёй дзяржавы. Падобны ўказ выйшаў і 4 чэрвеня 1842 г. — *„О повсеместном введении с января 1845 г. одних Российских верных клейменных сыпных и питных мер и весов”*. Аднак рэалізацыя гэтых заканадаўчых актаў сустракала вялікія цяжкасці. Так, у лютым 1838 г., нават праз 40 год пасля ўвядзення адзіных расійскіх мер даўжыні і вагі, чыноўнікам даводзілася канстатаваць, што *„в здешнем крае во время бывшего польского правительства по Конституции 1766 г. установлены были меры и весы, которые и по ныне бывают в употреблении: меры хлебные* — бочка *(в коей восьмин или каранок 8, а в восьмине полукаранок или шеснасток 2, а в шестнастке гарнцов 9, а в восьмине гарнцов 18, а в бочке гарнцов 144);* гарнец *же на питейную меру имеет глубины*

[55] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 24680, арк. 1, 3–4.
[56] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, адз. зах. 1031, арк. 271 адв.

*7 и 2/3 цалей, ширины — 4 и ¾ цалей, в гарнце полугарнцев 2, кварт 4, в кварте кватерок 4; фунт литовский имеет в себе лотов 32, таковых фунтов в камне литовском 40, которые равняются 36 фунтам российским; мера линейная локоть литовский имеет 24 цаль или 14 и ½ русских верщиков"*[57].

Гродзенская губернская адміністрацыя ў канцы 1830-х гг. адзначала, што *„продажа экономических продуктов на торгах по городам и местечкам здешней губернии, не исключая г. Гродно, а равно и товаров по лавкам и напитков в питейных домах и корчмах производится по большею частию с употреблением мер и весов, существовавших в здешнем крае во время польского правительства"*[58].

Пытанне выкарыстання адзіных мер даўжыні і вагі было пад кантролем улад на працягу ўсяго перыяду, аб чым сведчаць дакументы з адпаведнымі назвамі і зместам. Напрыклад, *„Дело о принятии единых мер и весов в местечках Могилевской губернии, 1797 г."* утрымлівала прадпісанне аб забароне выкарыстання мер і вагаў без адпаведных клеймаў: *„чтоб в каждом городе и местечке, где только собираются торги, поставлены были на публичном месте деревянные выдолбленные в колодах меры в Российском государстве употребляемые, т.е. четверти, полчетверти и т.д., а другие меры, кои доныне употреблялись повсюду, отобрав, уничтожить"*. Нагляд за выкананнем гэтага ўскладаўся на гараднічых, магістраты, а ў паветах — на ніжні земскі суд. Аднак адзначалася, што ў Магілёве і па ўсёй губерні *„ни мер, ни весов единообразных и заклейменных не употребляется"*[59]. У 1825 г. зноў канстатавалася, што *„всякое почти местечко имеет собственную меру, но всегда большую той, каковая введена по помещичьих имениях и сходна установленной законом, чрез что крестьяне доведены бывают до крайнего разорения"*. Прадпісвалася, што *„ежели кто мерою и весом лживо поступит, оный не токмо то добро имеет возвратить в трое, но и сверх того денежный штраф брать и на теле имеет быть наказан"*[60].

Пра ігнараванне законных мер велічынь гандлярамі беларускіх губерняў сведчыць наступная статыстыка: з 1816 па 1821 г. з міністэрства ўнутраных спраў на манетны двор Санкт-Пецярбурга паступіў заказ на клеймаванне новых жалезных аршынаў у колькасці 1 003 483 штук,

[57] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 656, арк. 18.
[58] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 656, арк. 13.
[59] НГАБ, ф. 2567, воп. 1, адз. зах. 250, арк. 5.
[60] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 11, адз. зах. 387, арк. 14.

з іх прададзена 95 203, застаюцца непрададзенымі 908 280 штук. З гэтага міністр унутраных спраў зрабіў выснову: „*Как столь несоразмерно малая продажа аршин в течение 13 лет с народонаселением и промышленностью жителей дает повод к заключению, что старые, законом запрещенные аршины, употребляются еще в торговле*"[61].

У працы Паўла Баброўскага, выдадзенай у 1863 г., канстатавалася, што разнастайнасць мер і вагаў: літоўскіх (часоў ВКЛ), польскіх (што ўводзіліся ў часы Рэчы Паспалітай), расійскіх, якія „*ныне употребляются в торговле на рынках, объясняется историческою судьбою*" і што „*русские указные меры употребляются в торговле только при поставках казне и русским купцам, во всех же прочих случаях торговцы прибегают к местной мере, утвержденной обычаем (…)*"[62].

Такім чынам, вывучаныя крыніцы дазваляюць канстатаваць, што на працягу перыяду, які разглядаецца, праблема ўніфікацыі мер велічынь ва ўнутраным гандлі Беларусі так і не была вырашана.

***Фінансава-грашовая сістэма.*** У Расійскай імперыі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. вострай праблемай з'яўлялася ўзрастанне інфляцыйных працэсаў. Гэтаму спрыяла ўвядзенне папяровых грашовых знакаў — асігнацый, якія атрымалі хаджэнне ў Расіі з 1769 г., а на беларускія землі былі распаўсюджаны паводле ўказа ад 8 лютага 1795 г. Курс асігнацый у адносінах да срэбнай манеты падаў з кожным годам. У 1814–1815 гг. ён знізіўся да 20 капеек серабром[63].

Інфляцыя стрымлівала развіццё капіталістычных адносін, гандлю і крэдыту. У ходзе грашовай рэформы 1839–1843 гг., якую правёў міністр фінансаў Ягор Канкрын, асігнацыі замяняліся крэдытнымі білетамі, якія часткова (на 1/6) забяспечваліся металічным фондам — срэбнай і залатой манетай. Пры абмене асігнацый адбылася іх дэвальвацыя: яны абменьваліся з разліку 3 руб. 50 кап. за рубель срэбрам. Сярэбраны рубель стаў асноўнай грашовай адзінкай. Рэформа амаль на дзесяць гадоў стабілізавала грашовае абарачэнне і з'явілася імпульсам развіцця таварна-грашовых адносін[64].

У банкаўскай справе захоўвалася дзяржаўная манаполія. Паводле ўказаў ад 15 лістапада 1776 г., 8 снежня 1824 г., 22 сакавіка 1844 г. на

[61] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 3, адз. зах. 815, арк. 2.

[62] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерния,* ч. 2, с. 360.

[63] А. Кіштымаў*, Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль,* [у:] *Гісторыя Беларусі: У 6 т.,* т. 4. *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.),* Мінск 2005, с. 118.

[64] А. Кіштымаў, *Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль,* с. 119; Н. П. Ерошкин, *Очерки истории государственных учреждений дореволюционной России,* Москва 1960. Рэжым доступу: http://historic.ru/books/item/f00/s00/z0000148/st008.shtml.

Беларусь была распаўсюджана дзейнасць Дваранскага і Дзяржаўнага камерцыйных банкаў, дазволена арганізацыя пазыковых кас[65]. Аднак іх паслугамі маглі скарыстацца толькі памешчыкі. На арганізацыю прамысловай вытворчасці і гандлю крэдытная сістэма ў гэты перыяд з прычыны сваёй неразвітасці істотнага ўплыву не аказвала.

***Наяўнасць абаротных капіталаў і крэдытаванне гандлю.*** Мяркуючы па ўрадавых крыніцах, па суме абвешчаных гільдзейскіх капіталаў беларускія губерні стаялі на адным з апошніх месцаў сярод іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі. Гэта, на наш погляд, не з'яўляецца паказчыкам параўнальна нізкага ўзроўню развіцця гандлю ў Беларусі. Магчыма, беларускія гандляры больш умела ўхіляліся ад падаткаў і займаліся негільдзейскім гандлем, капіталы ў якім не падлягалі ўліку з боку дзяржавы. Займацца разнастайным гандлем, не запісваючыся ў купецкія гільдыі і не абвяшчаючы капіталаў, было больш зручна і выгадна. Тым не менш афіцыйная статыстыка адлюстроўвае ў пэўнай ступені і рэальную сітуацыю[66].

Цікавы факт, які пацвярджае невялікія памеры капіталаў яўрэйскіх гандляроў, адлюстраваны ў архіўным дакуменце 1814 г., паводле якога ў мястэчках Камянец і Высокае Брэсцкага ўезда налічвалася па 1 купцы 3-й гільдыі. Аднак адзначалася, што гэта была фікцыя, бо ў сапраўднасці: *„(…) каждый из них по собственному обороту капитала на 8000 руб. не имеет, но в тех местечках есть торговцы-евреи мелочных товаров, имеющие в оборотах малые капиталы, коим согласно повеления губернского правления запрещена была продажа, пока не запишутся в гильдию и не объявят капиталов для платежа купеческих процентов, почему торговцы мелочной продажи этих местечек сделали складку и под именем в каждом местечке одного купца 3-й гильдии объявили капиталы и уплатили за 1813 г. купеческий процент. В самом деле никто из них такового капитала по неимении оного и процентов уплатить не в состоянии"*[67].

Недахоп капіталаў — вострая праблема, якая перашкаджала развіццю гандлю, засведчана і ў іншых дакументах. Віцебскі губернатар у справаздачы за 1853 г. адзначыў амаль поўную адсутнасць сярод яўрэяў „капіталістаў", а таксама нярэдкія выпадкі банкрутцтва і невыканання тутэйшымі купцамі

65 А. Кіштымаў, *Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль*, с. 119.

66 М. Шаўчэня, *Да праблемы першапачатковага накаплення капіталу купецтвам беларускіх губерняў у канцы XVIII — першай трэці XIX ст.*, [у:] *Гісторыя гандлю на тэрыторыі Беларусі: зборнік навук. артыкулаў*, Мінск 2016, с. 255–256.

67 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 398, арк. 6 адв.

гандлёвых абавязацельстваў перад рыжскімі купцамі, „*прекратившими чрез то кредит и ссуды вперед денег на скупку товаров*”[68].

Царскі ўрад ігнараваў неабходнасць крэдытавання гандлёвай дзейнасці і патрэбы ў заснаванні адпаведных крэдытных устаноў. Захоўвалася залежнасць гандляроў ад прыватнага крэдытавання, у тым ліку ад ліхвяроў. Адзінымі дзяржаўнымі ўстановамі, дзе можна было ўзяць крэдыт, былі Прыказы грамадскай апекі („*приказы общественного призрения*”) у губернскіх гарадах. Але іх паслугамі мясцовыя купцы карысталіся даволі рэдка, хоць свой капітал прыказы фармавалі часткова коштам самога купецтва. Пазыку грашыма ад прыватных асоб можна было атрымаць у час кантрактных кірмашоў пад невялікія працэнты (у Мінску, напрыклад,— 7 % гадавых) з вяртаннем грошай, як правіла, не больш як праз год[69]. Маладаступнасць грашовага крэдыту прымушала гандляроў карыстацца крэдытам таварным.

Увесь замежны гандаль таму трымаўся на германскім крэдыце. Купцы-аптавікі, якія гандлявалі з Масквой і Пецярбургам, мелі, відаць, магчымасці атрымаць пазыку ў сталічных крэдытных установах[70]. Гандляры ў розніцу вырашалі праблему недахопу капіталаў шляхам павелічэння хуткасці грашова-таварных абаротаў[71].

Сістэма крэдытавання, як ужо адзначалася, не была разлічана на яўрэяў. Іх гандлёвая дзейнасць таму абмяжоўвалася немагчымасцю атрымання дзяржаўных крэдытаў, а таксама крэдытаў праз сістэму ўстаноў грамадкай апекі. Калі дваране маглі ўзяць пазыку пад заклад маёнтка, то купцы-яўрэі — толькі пры ўмове паручыцельства ўсяго кагала, які пры гэтым нёс матэрыяльную адказнасць, таму такіх паручыцельстваў і не даваў. Яўрэі маглі разлічваць толькі на механізмы ўзаемнага крэдытавання ўнутры яўрэйскай грамады, а таксама на пазыкі ў прыватных асоб (памешчыкаў, ксяндзоў), манастыроў. Асабліва рабаўнічым, хоць і шырокадаступным, быў крэдыт пад назвай *wocher* (з нямецкай — тыднёвы разлік), калі пазыка выплачвалася па частках, кожны тыдзень з павелічэннем працэнтаў на пазычаную суму[72].

68 НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 25888, арк. 8.

69 М. Шаўчэня, *Да праблемы першапачатковага накаплення капіталу купецтвам беларускіх губерняў у канцы XVIII — першай трэці XIX ст.*, с. 252–254.

70 Е. Филатова, *Попытки открытия банков на территории белорусско-литовских губерний в первой половине XIX в.*, [у:] *Гісторыя гандлю на тэрыторыі Беларусі: зборнік навук. артыкулаў,* Мінск 2016, с. 272.

71 B. Stępniewska-Holzer, *Żydzi na Białorusi. Studium z dziejów strefy osiedlenia w pierwszej połowie XIX w.*, s. 93–94.

72 Е. Жиров, *Кредитная история государства Российского*. Рэжым доступу: https://www.kommersant.ru/doc/915829.

У выпадку гандлёвай неплацежаздольнасці вексельныя і маклерскія справы разглядаліся ў камерцыйных судах, якія сталі з'яўляцца ў некаторых гарадах Расіі з 1808 г. Па прыгаворах такіх судоў даўжнікі адпраўляліся ў турму[73].

***Злоўжыванні ў сферы гандлю і барацьба з імі.*** Многія гандляры ў пагоні за сродкамі існавання і дзеля нажывы стаялі на мяжы закону, а некаторыя і пераходзілі гэтую рысу (кантрабандны і нелегальны гандаль, фальшываманецтва[74]). Асабліва квітнела кантрабанда. Прывядзём некалькі характэрных прыкладаў. Паколькі высокімі пошлінамі быў абкладзены тэкстыль з Захаду, то ўзрасла яўрэйская кантрабанда ім. У верасні 1815 г. каля м. Ружаны былі затрыманы 6 яўрэяў з 5 фурманкамі кантрабандных тэкстыльных тавараў[75]. Кантрабандным таварам была і гарбата. Гэтым асабліва „славіўся" Шклоў, куды гарбата кантрабандай дастаўлялася з Прусіі (у сярэдзіне 1830-х гг.— прыблізна на 4 млн руб. штогод)[76]. Са звестак аб стане беларускіх правінцый, сабраных расійскімі ўладамі ў 1772 г., вынікае, што жыхары шэрагу мястэчак былога Мсціслаўскага ваяводства (Дрыбін, Пятровічы, Шумячы, Касцюковічы, Негін і інш.) жылі за кошт кантрабанднага гандлю: тайна ў Расію правозілі воск, а адтуль — тытунь, соль[77].

Асаблівую актыўнасць у кантрабандным гандлі праяўлялі менавіта яўрэі памежных рэгіёнаў. Відаць, у іх была большая неабходнасць ісці на рызыку, каб пракарміць сям'ю. У ананімнай сакрэтнай *„Записке о евреях, живущих в России"*, пададзенай у III Аддзяленне канцылярыі імператара ў 1842 г., гаварылася: *„Торговля контрабандами составляла значительную отрасль промышленности евреев, ныне она упала, но весьма далека от того, чтоб быть прекращенной… Правительство несколько раз предписывало удалить евреев от границы, но они находили всегда средства отклонить приведение в исполнение этой меры и продолжают гнездиться преимущественно в тех местах, где представляется более удобства к продолжению занятий своих. Хитрости в сем случае употребляемые не изчислимы"*[78].

---

73 Н. П. Ерошкин, *Очерки истории государственных учреждений дореволюционной России.* Рэжым доступу: http://historic.ru/books/item/f00/s00/z0000148/st008.shtml.

74 Прыкладам могуць служыць матэрыялы следства па абвінавачванні яўрэяў Шклова ў фальшываманецтве: *Цэнтральны архіў гісторыі яўрэйскага народа ў Іерусаліме*, HMF/628 (*„Дело по показаниям Брянского купеческого сына Алексея Клягина относительно евреев, промышляющих в м. Шклов фальшивыми кредитными билетами. 1858 г."*).

75 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 558.

76 М. М. Шаўчэня, *Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII — першая трэць XIX ст. ),* с. 92.

77 *Российский государственный архив древних актов,* ф. 12, воп. 1, адз. зах. 159, арк. 30–30 адв.

78 *Государственный архив Российской Федерации*, ф. 109, воп. 16, адз. зах. 304, арк. 29.

Улады пастаянна надавалі ўвагу барацьбе з кантрабандным гандлем. З гэтай мэтай, сярод іншых мер, сістэматычна наладжваліся праверкі гандлёвых устаноў. Так, восенню 1836 г. чыноўнік асобых даручэнняў міністэрства фінансаў дэ Лафантэн па даручэнні графа Канкрына ездзіў па розных месцах для змагання з кантрабандай, выявіў у м. Мір кантрабанднага тавару на суму каля 4000 руб. сер[79]. У Гродне дэ Лафантэн атрымаў пісьмовы данос мешчаніна Вольфа Баярскага аб тым, што *„еврейские лавочники, узнав о прибытии его в Гродно, не взирая на Шабатний день, таскают из лавок контрабандный товар при явном потворстве полиции контрабандистам"*. Далей у гэтым дакуменце чытаем: *„Можно убедиться, какую силу имеют евреи контрабандисты, которые, вынеся публично в субботу из лавок своих запрещенные товары, успели затмить истину не только о своем преступлении, но и о беспримерной беспечности всей Гродненской городской полиции, которая дозволила евреям вынести товары"*[80].

Патуранне мясцовай паліцыі і гарадскога самакіравання парушальнікам гандлёвых правіл выявілася і ў Віцебску. Там у верасні 1845 г. камандзіраваны ў горад асэсар казённай палаты Сяніцкі пасля праверкі гандлю склаў падрабязную ведамасць аб выяўленых парушэннях і пакінуў яе ў віцебскай гарадской думе для прыняцця пастановы аб супрацьзаконным гандлі. Пазней высветлілася, што да губернатара трапіла сфальсіфікаваная ведамасць, у якой многія з парушэнняў не былі паказаны, у тым ліку тыя, што датычылі гандлю мяшчан[81].

Калі не дапамагаў хабар, кантрабандысты аказвалі паліцыі супраціўленне, каб не дапусціць канфіскацыі кантрабандных тавараў, як гэта было ў 1844 г. у Мсціслаўлі (мсціслаўскі бунт)[82].

Асабліва шырокую прастору для выкарыстання камерцыйнай кемлівасці даваў добра арганізаваны яўрэямі піцейны промысел (вытворчасць і продаж моцных напояў). У перапісцы чыноўнікаў гэтыя здольнасці яўрэяў звычайна называліся *„пронырливость"*, *„изворотливость"*, *„плутовская хитрость"*, *„хитросплетенные козни"*, *„ловкость на всякие проделки"* і г.д. Некаторыя з яўрэйскіх хітрыкаў апісаў Эхезкель Коцік ва ўспамінах пра м. Камянец. Напрыклад, мясцовыя яўрэі прывозілі танны спірт з Польшчы, дзе не было акцызу,

79 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1037, арк. 3.

80 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1037, арк. 20.

81 НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 12522, арк. 1–3.

82 С. М. Дубнов, *Книга жизни. Материалы для истории моего времени. Воспоминания и размышления.* Иерусалим — Москва 2004, с. 31.

і прадавалі разам з гарэлкай. Мемуарыст удакладняў, што ў польскага спірту быў лепшы пах, што было нават недахопам, які выяўляў яго прысутнасць; і, каб сябе засцерагчы, гандляры распаўсюджвалі чуткі, што нібыта ў спірт дабаўляліся духмяныя кроплі, каб яго яшчэ больш хацелася піць[83].

Менавіта ў піцейным гандлі праварочваліся самыя складаныя афёры, над якімі ламалі галовы мясцовыя ўлады. Так, у 1855–1856 гг. гродзенскае губернскае начальства спрабавала разабрацца ў *„тайнай стачцы”* (зговары) паміж адкупнікамі акцызнага і чарачнага збораў: *„Акцизные откупщики, хотя не имеют права заниматься ни покупкою, ни продажею вина в чертах* (раёнах — І. С.) *своего откупа, но под другим именем привозят вино с других губерний и учреждают свои подвалы, и взяв таким же образом в содержание все казенные корчмы и шинки, учреждают посредством евреев раздробительную продажу на свой счет под чужим именем… Сим способом имеют в руках своих оптовую и раздробительную продажу вина…”*. Акрамя таго, віно прадавалася меншай моцы (замест 25–30° — толькі 18°) і танней, што павялічыла прыбыткі „махляроў” за кошт павелічэння распродажу віна. Хоць механізм гэтых злоўжыванняў стаў зразумелы, аднак следчым прыйшлося канстатаваць: *„…при хорошо обдуманной и устроенной стачке нет возможности уличить виновных формальным следствием”*[84].

Фіксаваліся парушэнні і ў гандлі табакай, якая абкладалася агульнадзяржаўным падаткам — акцызам. На тавар, аплочаны акцызам, наклейваліся бандэролі (фіскальныя маркі). У адным з дакументаў 1846 г. адзначалася, што *„многие фабриканты продают без бандеролей сигары и курительный табак не только знакомым, но и для разноса по домам, а некоторые мастера, не имея установленных свидетельств, тайно приготовляют сигары и продают их во вред казны и законных фабрикантов гораздо дешевле, не имея расходов на право содержания фабрик, на бандероли и т.д.”*[85]. Незаконна, без адпаведных пасведчанняў, гандлявалі тытунём у тракцірах. А тыя, хто меў права на гэты від гандлю, практыкавалі куплю *„безбандерольных сигар и табака, раскидывая их небольшими количествами в пачки или ящики, на которых остались прежние бандероли”*. Падчас публічных „гульбішчаў” цыгары прадаваліся па адной без бандэроляў. Былі і такія хітрасці: калі пакупнік вяртаў гандляру папе-

[83] Е. Котик, *Мои воспоминания* / Перевод М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm.

[84] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 13, адз. зах. 775, арк. 24, 40, 71, 77–78.

[85] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 12426, арк. 1 адв.

ру з бандэроллю, то атрымліваў табаку танней, а гандляр ужываў паперу і бандэроль некалькі разоў[86].

Аднымі з самых распаўсюджаных злоўжыванняў гандляроў былі абмер і абвес, асабліва з боку яўрэяў. У справе аб праверцы вагаў і мер у гандлёвых установах Гродзенскай губерні за 1825–1831 гг. адзначалася, што *„торговцы из евреев, имея по несколько различных мер, при покупке продуктов мерют весьма большими, а при продаже весьма малыми мерами”*[87].

П. Баброўскі адзначаў, што разнастайнасць мер і вагаў *„поддерживается евреями из своекорыстных видов”*, *„разнообразие мер способствует многим злоупотреблениям: обмер и обвес неизбежны”*[88]. Ва ўспамінах Эхезкеля Коціка, дзе апісваецца м. Камянец сярэдзіны XIX ст., ёсць наступны эпізод: *„…дед велел позвать к себе всех шинкарей и сказал им, что продажу спиртного следует организовать по-другому: “Выручать вы должны по три копейки за рюмку. Я вам привёз из Бриска* (Брэст — І. С.) *рюмки, которые кажутся большими, но в каждую вмещается совсем мало. Вы должны держать только эти рюмки, и никаких других, и будет вам прибыль”*[89]. Чыноўнікі губернскай адміністрацыі таксама падкрэслівалі, што *„неодинаковость мер поддерживается хитростию евреев”*, *„евреи в числе прочих обманов употребляют фальшование мер”*[90].

У 1837–1838 гг. паводле патрабавання міністра фінансаў Канкрына ў Санкт-Пецярбург спрабавалі даставіць дакладныя ўзоры ўсіх вагаў і мер, якія выкарыстоўваліся ў заходніх губернях, з мэтай складання параўнальных табліц з пераводам мясцовых велічынь у расійскія. Адзначалася, што *„с изданием таковых сравнений можно будет приступить с надеждою успеха к решительным мерам, чтоб нигде в России не употреблялись иные весы и меры, кроме нормальных”*[91]. Аднак эфект ад барацьбы са злоўжываннямі ў гандлі быў малы.

***Высновы***. Паводле расійскага заканадаўства, гандлем мелі права займацца розныя катэгорыі і станы насельніцтва: купцы, мяшчане, дваране, пачэсныя грамадзяне, сяляне, былыя ваенныя ды інш. Для гэтага неабходна было набыць адпаведнае пасведчанне ды строга прытрымлівацца

---

86 Тамсама.

87 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 11, адз. зах. 387, арк. 103.

88 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерния,* ч. 2, с. 360.

89 Е. Котик, *Мои воспоминания*, перевод М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm.

90 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 11, адз. зах. 387, арк. 14.

91 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 656, арк. 2 адв.

вызначаных у тым пасведчанні маштабаў і артыкулаў гандлю. Для яўрэяў права на гандаль абмяжоўвалася гарадамі і мястэчкамі рысы аселасці.

Прававыя свабоды на гандаль уступалі ў супярэчнасць з магчымасцю іх рэалізацыі з-за высокай бюракратызацыі дзяржаўнага апарату. Кантроль і рэгламентацыя гандлёвай дзейнасці набылі ў Расіі строга цэнтралізаваны характар. Усе заканадаўчыя акты і распараджэнні адносна гандлю прымаліся са згоды ці паводле загаду расійскага імператара. Царскі ўрад выяўляў зацікаўленасць у развіцці гандлю — важнай крыніцы папаўнення дзяржаўнай казны. Абсалютысцкая манархія ўзмацняла рычагі ўздзеяння на гандаль, але яны мелі нязначны эфект. Манапалізацыя кіравання гандлем чыноўнікамі рабіла рэфармаванне гандлёвай дзейнасці марудным і малагнуткім. Дзяржаўны меркантылізм, якога асабліва прытрымліваўся ўрад Мікалая І, быў характэрны для феадальнай эканомікі.

Вялікія выдаткі на вядзенне агрэсіўнай знешняй палітыкі Расійскай імперыі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. абумовілі высокія падаткі на купцоў. Дзяржаўныя падаткі дапаўняліся паборамі з гандлю, якія ўстанаўліваліся вотчыннікамі ў прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках. Толькі ў 1839 г., калі эканамічнае становішча імперыі некалькі палепшылася, падаткаабкладанне купецтва было зніжана. Аднак найбольш прагрэсіўны падаходны падатак так і не быў уведзены. Падаткаабкладанне заставалася саслоўным і найбольш ільготным для дваранства. Гандляры не забяспечваліся крэдытам. Праўда, грашовая рэформа 1839–1843 гг. дала кароткатэрміновы эфект.

Гвалтоўны падзел некалі агульнага рынку былой Рэчы Паспалітай не мог спыніць натуральны тавараабмен, які працягваў ажыццяўляцца праз кантрабанду. Поле злоўжыванняў у Расіі пашырылася з-за царскай палітыкі пратэкцыяналізму і жорсткай рэгламентацыі піцейнага гандлю. Таму большасць злоўжыванняў была звязана з гандлем алкагалем і правозам тавараў праз мытні. Алкаголь і цыгарэты робяцца найбольш ходкімі таварамі ў кантрабандыстаў. Вялікія магчымасці ў абмеры і абвесе спажыўцоў гандлярамі адкрывала ўжыванне ў гандлі як расійскіх, так і раней распаўсюджаных у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай мер велічынь. Фіксаваўся працэс зрошчвання крымінальнага свету з уладамі.

Неабходна падкрэсліць, што палітыка русіфікацыі, якую мэтанакіравана праводзілі царскія ўлады на беларускіх землях, закранула нават сферу гандлёвых адносін. Пра гэта сведчаць спробы перайменаванняў у пачатку 1850-х гг. старадаўніх гандлёвых збораў з выкарыстаннем расійскіх

адпаведнікаў[92]. Пасля падаўлення паўстання 1863 г. да падобных ініцыятыў улады дадаліся спробы ліквідаваць усе кірмашы, што збіраліся ў дні каталіцкіх святаў[93], а таксама перавесці справаводства ўсіх гандлёвых устаноў (нават самых дробных) на рускую мову[94].

## Streszczenie

Ina Sorkina, *Prawne uwarunkowania rozwoju handlu na ziemiach białoruskich w końcu XVIII i I poł. XIX w.*

Na podstawie badań historycznych i dokumentów źródłowych znajdujących się w białoruskich i zagranicznych archiwach autorka analizuje najważniejsze uwarunkowania wpływające na sferę handlu: prawną, taryfową, monetarną, podatkową, finansowo-kredytową politykę carską, a także czynniki, które wpływały na stan infrastruktury handlowej oraz warunki konkurencji na rynku wewnętrznym i rynkach zewnętrznych. W tekście postawiono pytania dotyczące m. in. państwowych ograniczeń w handlu, i ich regulacji prawnych, ceł przywozowych, opodatkowania kupców, mieszczan, chłopów i handlarzy żydowskich, należności zbieranych od handlarzy w miastach i miasteczkach prywatnych, miar wyliczeń należności, systemu finansowo-pieniężnego, stanu kapitału obrotowego, kredytowania handlu, nadużyć w sferze handlu i walki z nimi.

Autorka dowodzi, że według rosyjskiego prawodawstwa handlem miały prawo zajmować się różne grupy i stany społeczeństwa: kupcy, mieszczanie, szlachta, inteligencja, chłopi, byli wojskowi i inni. Aby zajmować się handlem należało uzyskać odpowiednie pozwolenie i skrupulatnie go przestrzegać w zakresie określonych w nim ilości i rodzaju towarów. Dla Żydów prawo do handlu organiczne było do zamieszkiwanych przez nich miast i miasteczek.

W sprzeczności z zagwarantowaną prawem wolnością i możliwością jej realizacji handlu stała niezwykła biurokratyzacja administracji państwowej. Kontrola i reglamentacja działalności handlowej w Rosji miała charakter ściśle scentralizowany. Monarchia absolutna dokonywała prób reform handlu, jednak przynosiły one ograniczone efekty. Monopol kierowania handlem pozostawiony w rękach urzędników powodował, że reformowanie tej sfery przebiegało powoli i niesprawnie.

Ogromne wydatki na prowadzenie agresywnej zagranicznej polityki handlowej Imperium Rosyjskiego w końcu XVIII i pocz. XIX w. wpływały

92 НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 24680, арк. 1, 3–4.

93 LVIA, ф. 378, агульны аддзел, 1864 год, адз. зах. 299.

94 LVIA, ф. 378, агульны аддзел, 1864 год, адз. зах. 271.

na wysokie opodatkowanie kupców. Podatki państwowe uzupełniane były poborami z handlu ustanawianymi przez właścicieli prywatnych miast i miasteczek. Opodatkowanie było najbardziej dochodowe dla szlachty. Handlarze nie posiadali zabezpieczenia kredytowego. Znaczne możliwości dla nadużyć wobec kupujących dawało handlarzom używanie zarówno rosyjskich, jak i obowiązujących dawniej w Wielkim Księstwie Litewskim i Rzeczypospolitej miar i wag.

Autorka dowodzi, że polityka rusyfikacji, jaką celowo prowadziły władze carskie na ziemiach białoruskich, objęła również sferę relacji handlowych. Świadczą o tym próby zmian nazw starodawnych podatków handlowych na rosyjskie odpowiedniki, likwidacja jarmarków odbywających się podczas świąt katolickich, a także tłumaczenie postępowań prowadzonych przez administrację handlową na język rosyjski.

## Abstract

Ina Sorkina, *Legal Regulations and the Development of Trade in the Territory of Belarus at the End of the 18th Century and in the First Half of the 19th Century*

Following the results of historical research and the analysis of documentary sources from Belarusian and foreign archives, the author analyses the most significant conditions that would influence the area of trade, including legal, tariff, monetary, tax, the financial and credit policy of the tsar, as well as factors which would impact the trade infrastructure and competition on the internal and foreign markets. The article poses several questions connected with, for instance, trade restrictions imposed by the state and their legal regulation, custom duties, taxes paid by merchants, townspeople, peasants and Jewish merchants, duties paid by merchants in privately owned cities and towns, different measures used in order to calculate duties, the financial and money system, the working capital, ways of financing trade, market abuse and ways to fight it and many more.

The author proves that in accordance with the Russian legal system various social groups were allowed to engage in trade, including merchants, townspeople, noblemen, the intelligentsia, peasants, former soldiers and others. In order to engage in trade it was necessary to receive relevant permission and strictly follow its provisions as for the amount and type of goods. Jewish merchants were restricted to conduct trade only in towns and cities they lived in.

The extraordinarily complex system of state administration was against the freedom of trade and its execution warranted by law. Controlling and regulating

trade activities in Russia was strictly centralized. The absolute monarchy was trying to reform trade, but the attempts would produce negligible effect. The monopoly on governing the trade held by the administration made the reform process slow and ineffective.

Heavy expenditure on the aggressive foreign trade policy pursued by the Russian Empire at the end of the 18th century and the beginning of the 19th century resulted in high taxes imposed on merchants. State-imposed taxes would be supplemented by duties collected by owners of private cities and towns. Taxes were most beneficial for noblemen. Merchants did not have any collateral. Using the system of units for mass and weight both common to the empire and formerly used in the Grand Duchy of Lithuania and Polish-Lithuanian Commonwealth gave merchants greater possibilities to cheat buyers.

The author proves that the policy of Russification introduced by the empire in the territory of Belarus influenced the area of trade as well. It may be evidenced by making attempts to replace the older names of trade taxes with Russian equivalents, closing markets and fairs that were held during Catholic holidays or translating administrative procedures and legal regulations on trade into Russian.

**Вячаслаў Швед**
**(Варшава/Гродна)**

# Даследаванне Статутаў Вялікага Княства Літоўскага прафесарам Ігнатам Даніловічам

Гістарыяграфія прац аб Статутах ВКЛ, апублікаваных да 2004 г., грунтоўна выканана ў віленскім выданні „*Первый Литовский Статут (1529 г.)*”[1]. Вывучэнню Статутаў ВКЛ у канцы XIX — пачатку XXI ст. прысвечана таксама частка артыкула Алега Дзярновіча[2]. Што тычыцца гістарыяграфіі тэмы, якую мы даследуем, дык яна зусім нязначная. У названых публікацыях адзначалася роля Ігната Даніловіча ў навуковым даследаванні Статутаў ВКЛ. Аўтары першай кнігі пісалі: „*Более основательное и подлинно научное изучение причин и условий появления ПЛС* (Першага Літоўскага Статута — В.Ш.)*, его содержания, поиски и палеографическое исследование рукописных списков XVI в. Статута было начато известными профессорами тогдашнего Виленского университета Игнатием Даниловичем, Иоахимом Лелевелем и Юзефом Ярошевичем. Первое место среди них по праву принадлежит Даниловичу, исследования которого до сих пор не утратили своего значения, а подготовленный им для своего времени по существу академический текст лёг в основу Познаньского его издания*”[3]. Алег Дзярновіч нагадаў, што І. Даніловіч уваходзіў у 1821 і 1822 гг. у камісіі па падрыхтоўцы выпраўленага выдання Літоўскага Статута і новага расійскага перакладу Статута ВКЛ[4].

Польскі гісторык права Юліуш Бардах у артыкуле пра Статуты ВКЛ толькі ўспамінае, што Ігнат Даніловіч — адзін з першых, хто іх даследаваў і зрабіў значны ўнёсак у іх апісанне[5]. Таісія Доўнар у энцыклапедычным даведніку ўказала, што І. Даніловіч „*выявіў і апублікаваў спісы Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г. на беларускай мове…*”[6].

---

1 С. Лазутка, И. Валиконите, Э. Гудавичюс, *Первый Литовский Статут (1529),* Вильнюс 2004.

2 А. І. Дзярновіч, *Статуты Вялікага княства Літоўскага як культурныя сімвалы і аб’екты даследаванняў у Беларусі ў XIX — пачатку XXI ст.*, [у:] *Матэрыялы IX Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў „Статут Вялікага Княства Літоўскага ў гісторыі культуры Беларусі”*, Мінск 2013, с. 125–129.

3 С.Лазутка, И. Валиконите, Э. Гудавичюс, *Первый Литовский Статут (1529)*, с. 13.

4 А. І. Дзярновіч, *Статуты Вялікага княства Літоўскага*, с. 124.

5 J. Bardach, *Statuty WKL — pomniki prawa doby Odrodzenia,* „Kwartalnik Historyczny”, 1974, nr 4, s. 750–780.

6 Т. І. Доўнар, *Даніловіч Ігнат Мікалаевіч,* [у:] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энцыклапедычны даведнік*, Мінск 1995, с. 412.




**Ігнат Даніловіч. 1831 год.**

Мікалай Улашчык у сваёй кнізе пра беларуска-літоўскае летапісанне гаворыць пра Ігната Даніловіча як пра даследчыка летапісаў[7]. Вячаслаў Чамярыцкі апублікаваў два амаль ідэнтычных артыкула ў шматтомных энцыклапедыях — *„Гісторыя Беларусі”* і *„Вялікае Княства Літоўскае”*. Ён адзначыў, што Даніловіч *„упершыню апісаў усе рукапісныя і друкаваныя экзэмпляры Статута ВКЛ, падрыхтаваў першае навуковае выданне Статута ВКЛ 1529 (у 1841 апублікаваны А. Ц. Дзялынскім у „Зборы літоўскіх законаў…”)”*. У абедзвюх публікацыях у спісе літаратуры змешчана названая вышэй праца М. Улашчыка, на інфармацыю з якой і абапіраецца змест працы В. Чамярыцкага[8].

У 1989 г. выдавецтва „Беларуская савецкая энцыклапедыя” публікуе Статут ВКЛ 1588 г., у томе якога ёсць і артыкул Сцяпана Сокала

7 Н. Н. Улащик, *Введение в изучение белорусско-литовского летописания*, Москва 1985.

8 В. Чамярыцкі, *Даніловіч Ігнат,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* Мінск 1996, т. 3, с. 205–206; ён жа, *Даніловіч Ігнат,* [у:] *Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя,* 2-е выданне, Мінск 2007, т. 1, с. 576.

*„Гістарыяграфія Статута”*. Аўтар сярод першых даследчыкаў называе І. Даніловіча і ўзгадвае дзве яго рускамоўныя працы (*„Взгляд на литовское законодательство и литовские Статуты”* і *„О Литовском Статуте”*)[9]. Найбліжэй да тэмы нашага даследавання знаходзіцца артыкул Івана Саракавіка, які паспрабаваў прааналізаваць дзве названыя вышэй рускамоўныя працы Ігната Даніловіча[10]. Гэта ўсяго 2 старонкі тэксту, але ў ім аўтар не ўзгадвае першай з названых прац І. Даніловіча, якая была апублікавана ў 1841 г. і, напэўна, стала вынікам яго даследаванняў Статутаў ВКЛ.

**Папярэднікі і калегі Даніловіча.** Ян Сідаровіч, прыводзячы кароткую біяграфію І. Даніловіча, у прадмове да *„Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, książęcych…”* у 1860 г. пісаў: *„Алдакоўскі, які гэты самы прадмет* (краёвае права — В.Ш.) *побач з рымскім правам выкладаў у Крамянцы, уцягнуты ў навуку краёвага права Чацкім, звярнуў увагу Даніловіча на Статуты Літоўскія рукапісныя, якія знайшоў у бібліятэцы Парыцкай (Poryckiej)”*[11].

У гэтай цытаце ўзгадваецца Тадэвуш Чацкі, які займаўся вывучэннем Літоўскіх Статутаў. Лацінскамоўны тэкст (1538 г.) Статута 1529 г. ён атрымаў у падарунак ад Станіслава Аўгуста Панятоўскага і паклаў яго ў аснову сваёй кнігі *„O Litewskich i Polskich prawach, o ich duchu, źródłach i o rzeczach zawartych w pierwszym Statucie, dla Litwy 1529 roku wydaniem”*[12]. Рукапіс кнігі ў 2 тамах быў Ігнату Даніловічу вядомы[13]. Ён называў яе *„неўміручым творам”* і пісаў: *„Чацкі найперш сцёртую памяць першага Статута асвяжыў, але, маючы адзіны, не зусім верны лацінскі пераклад, ні адзін раз стаў прычынай змянення тэксту і прыводзіў надта скарочаны змест думкі права, апусціўшы істотныя для праўніка сказы права”*[14].

---

9 С. Ф. Сокал, *Гістарыяграфія Статута,* [у:] *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.: Тэксты. Даведнік. Каментарыі*, Мінск 1989, с. 475–476.

10 І. А. Саракавік, *Даследаванне Статута Вялікага Княства Літоўскага замежнымі і айчыннымі вучонымі,*[у:] *Матэрылы IX Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў „Статут Вялікага Княства Літоўскага ў гісторыі культуры Беларусі”*, Мінск 2013, с. 101–106.

11 *Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, książęcych; uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów.* Zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz, Wilno 1860, t. 1, s. III.

12 T. Czacki, *O Litewskich i Polskich prawach, o ich duchu, źródłach i o rzeczach zawartych w pierwszym Statucie, dla Litwy 1529 roku wydaniem,* Warszawa 1800–1801, t. 1; Warszawa 1801, t. II.

13 Д[аніловіч], *О литовском статуте*, „Журнал Министерства народного просвещения”, 1838, Часть 17, № 2, с. 376, 377.

14 I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne dotąd znanych egzemplarzy Statutu Litewskiego, rękopisemnych i edycji drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też polskim i łacińskim języku,* „Dziennik Wileński”, 1823, t. I, s. 383, 393.

Другім папярэднікам Даніловіча ў даследаванні Статутаў быў Самуіл Багуміл Ліндэ. У 1794–1803 гг. ён працаваў бібліятэкарам у Ежы Асалінскага — аднаго са стваральнікаў вядомай нам цяпер бібліятэкі — і дапамагаў яму збіраць старадрукі і рукапісы з бібліятэк касцельных, кляштарных і прыватных[15]. Даследчык Уладзімір Францаў піша, што па даручэнні Е. Асалінскага С. Б. Ліндэ 7 разоў аб’ехаў Галіцыю і *„ўсякі раз вяртаўся з багатай здабычай”*[16]. Верагодна, тады ён зацікавіўся Літоўскім Статутам. Ужо з’яўляючыся доктарам і рэктарам Варшаўскага ліцэя, Ліндэ апублікаваў кнігу *„O Statucie Litewskim Ruskim językiem i drukiem wydanych”*[17]. На яе І. Даніловіч будзе спасылацца ў сваёй працы *„Opisanie bibliograficzne…”*. Ён там адзначыць, што *„вучоны Ліндэ, прысвяціўшы цярплівую працу пошуку друкарскіх хібаў у польскім выданні трэцяга Статута… трохі аб некалькіх экзэмплярах другой рэдакцыі нас праінфармаваў”*[18]. Па словах І. Даніловіча, С. Ліндэ ведаў толькі пра 4 экзэмпляры Статута на *„рускай мове”* (з бібліятэк графа Сухадольскага, Кіруючага Сената, Маскоўскага таварыства аматараў гісторыі і старажытнасцей, Гродзенскага дамініканскага кляштара)[19]. Падкрэслю, С. Ліндэ сцвярджаў, што Статут 1529 г. напісаны па-беларуску, а Статут 1588 г. надрукаваны пад наглядам канцлера ВКЛ Льва Сапегі па-беларуску і па-польску. У той час, калі працавала камісія па падрыхтоўцы выдання рускага перакладу III Статута ВКЛ, С. Ліндэ казаў невядомаму аўтару артыкула ў *„Тыгодніку Пецярбургскім”*, што для перакладу трэба браць беларускамоўны тэкст, бо ён *„больш правільны”*. З гэтым быў згодны таксама Ігнат Даніловіч[20].

Займаўся даследаваннем Статута ВКЛ 1529 г. Ігнат Алдакоўскі, з якім Даніловіч пазнаёміўся падчас сумеснай вучобы ў Ломжынскай школе піяраў, а пасля яго смерці напісаў артыкул *„Звесткі пра жыццё і навуковыя працы Ігн. Алдакоўскага”*[21]. Алдакоўскі ў працы Ліндэ змясціў *„Пахвалу Гаштольда Жыгімонту І”*, якую ўзяў з экзэмпляра, атрыманага Іахімам Лялевелем ад графа Тытуса Дзялынскага. Таксама ён зрабіў апісанне знешняга выгляду лацінскамоўнага Статута з Пулаўскай бібліятэкі (былой Парыцкай) Адама Чартарыйскага[22].

---

15 Wl. Jabłońska, *Ossoliński Jozef Kajetan Piotr Maksimilian,* [w:] *Polski słownik biograficzny,* Wrocław 1979, t. XXIV, s. 418.

16 В. А. Францев, *Польское славяноведение конца XVIII и первой четверти XIX ст.,* Прага чешская 1906, с. 105.

17 S. Linde, *O Statucie Litewskim Ruskim językiem i drukiem wydanych*, Warszawa 1816.

18 I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 387.

19 Д[аніловіч], *О литовском статуте,* с. 375.

20 *Redakcje, rękopisy, przekłady i wydanie drugiego statutu litewskiego. Podług rozprawy p. Ign. Daniłowicza*, „Tygodnik Petersburski", 1834, № 48, s. 290.

21 K. Estrejcher, *Bibliografia Polska*. Część 2. *Stulecie XIX*. t. 1, Kraków 1870, s. 288.

22 I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 390, 392.

Калегі Даніловіча па Віленскаму ўніверсітэту Іахім Лялевель і Міхаіл Бароўскі таксама цікавіліся Літоўскімі Статутамі. Лялевель хацеў выдаць Статут 1529 г., рукапіс якога ён атрымаў для работы ў графа Т. Дзялынскага. У Познані нават было надрукавана 18 аркушаў[23]. Разам з Даніловічам Лялевель у 1822 г. быў у прафесарскай камісіі па падрыхтоўцы новага рускага перакладу Літоўскага Статута[24]. З ім ён рыхтаваў выданне ўсіх Статутаў Літоўскіх. Сумесна яны ў 1822 г. ездзілі па краі, вышуквалі экзэмпляры Статутаў і, па словах І. Даніловіча, сабралі *„багатыя… матэрыялы"*[25]. У 1828 г. Лялевель зрабіў *„Разбор Статута Вісліцкага, да тлумачэння складу гэтага Статута"* ў выданні *„Пачатковае польскае цывільнае і крымінальнае заканадаўства да часоў Ягелонскіх"*[26]. У 1863 г. у І. Лялевеля выйшла *„Гісторыя Літвы і Русі…"*, дзе ён напісаў пра прычыны з'яўлення Статута і пракаментаваў некаторыя яго палажэнні.

Грэка-ўніяцкі святар М. Бароўскі пазнаёміўся са Статутам, які захоўваўся ў Парыжскай арсенальнай бібліятэцы, пра што ён паведаміў І. Даніловічу[27]. Ён таксама ўваходзіў ва ўзгаданую вышэй прафесарскую камісію. Даніловіч у лісце да Лялевеля пісаў, што Бароўскі супраць друкавання Літоўскага Статута лацінскай азбукай і тлумачыць гэта *„незадаволенасцю лацінскага алфавіта для перадачы славянскіх гукаў; ён указвае на неадпаведнасць яго гукам славянскім наогул, у тым ліку і польскім"*[28]. У. А. Францаў, з кнігі якога мы прывялі цытату, надрукаваў некалькі лістоў М. Бароўскага да І. Лялевеля часоў ссылкі, дзе ўзгадваецца Даніловіч, які працаваў у той час у Харкаве і Кіеве. Ёсць і адзін ліст да Даніловіча ад 16.02.1833 г., ён тады быў у камісіі Мікалая Сперанскага ў Пецярбургу і займаўся з іншымі падрыхтоўкай *„Словянского сравнительного с диалектами словаря"*[29].

З 1821 г. Ігнат Даніловіч быў сябрам *„провинциального комитета"*, створанага ў Вільні для падрыхтоўкі выпраўленага выдання Статута Літоўскага. Ён успамінаў: *„З вялікай цяжкасцю знайшоў 14 выданняў Статута і звыш 10 рукапісаў на мовах польскай, рускай* (напэўна,

23 Д[аніловіч], *О литовском статуте*, с. 379.

24 А. І. Дзярновіч, *Статуты Вялікага княства Літоўскага,* с. 124.

25 T. Turkowski, *Daniłowicz Ignacy*, [w:] *Polski słownik biograficzny*, t. 3, Kraków 1937, s. 414; I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 384.

26 K. Estrejcher, *Bibliografia Polska*, Część 2. *Stulecie XIX*. t. II, Kraków 1874, s. 570.

27 Д[аніловіч], *О литовском статуте,* с. 338.

28 Цыт. па: В. А. Францев, *Польское славяноведение,* с. 301.

29 Тамсама, с. LXXIX, LXXXIII–LXXXVII, CLXVII–CLXVIII.

старабеларускай — В.Ш.) *і лацінскай"*[30]. Справа камісій спынілася, бо Даніловіча і Лялевеля выслалі з Вільні ў сувязі са следствам над філаматамі і філарэтамі. Мы ведаем, што І. Даніловіч з 1814 г. (па інш. звестках з 1815 г.) працаваў прафесарам права ў Віленскім універсітэце і яму ўдалося зацікавіць студэнтаў сваім прадметам — краёвым літоўскім правам, па яго просьбе яны прывозілі з месцаў свайго жыхарства старажытныя дакументы, якія апрацоўваліся, даследаваліся, капіраваліся ва ўніверсітэце, а потым зноў вярталіся да сваіх гаспадароў (у сем'і студэнтаў, да іх суседзяў, у храмы і манастыры)[31].

Пацвярджэннем кантактаў Ігната Даніловіча з філаматамі можа быць наступны факт. У 1825 г. Адам Міцкевіч па дарозе з Адэсы ў Маскву праехаў праз Харкаў, дзе ў той час працаваў Даніловіч і займаўся між іншым і падрыхтоўкай да друку Статута 1529 г. Верагодна, Міцкевіч пазнаёміўся з ім, бо, калі быў прафесарам славянскай славеснасці ў College de France, у цыкле сваіх лекцый аб славянскіх мовах звярнуў асаблівую ўвагу на Статут[32]. Матэрыялы з архіва філаматаў гавораць пра наяўнасць у бібліятэцы Таварыства філаматаў выдання пра Статут Літоўскі. Праца называлася *„O Statucie litewskim, ruskim językiem i drukiem wydanym, wiadomość przez M. Samuela Bogomila Linde fil. Doktora w Warszawe 1816, vol. 1"*. Яе падараваў 29 снежня 1820 г. філарэт Казімір Пясецкі[33]. Відаць, гэтым экзэмплярам карыстаўся І. Даніловіч[34].

І. Лялевель у сваёй публікацыі *„Навасільцаў у Вільні, 1823–1824"* пісаў, што, калі сталі выпускаць студэнтаў з-пад арышту, Даніловіч узяў аднаго з іх на парукі (Яна Гейдатэля — В.Ш.). Меў пры гэтым размову з адным з членаў следчай камісіі В. Лаўрыновічам, якога лічыў сваім прыяцелем, і сказаў яму, што *„ў наш час усе законы маўчаць і следчая камісія ніякіх законаў і ўказаў не трымаецца"*[35]. В. Лаўрыновіч данёс гэтыя словы да Аляксандра Навасільцава, і ў выніку імя Даніловіча прагучала ва

---

30 Цыт. па: T. Turkowski, *Daniłowicz Ignacy*, s. 412; Таксама ў T. Venclova, *Wilno. Przewodnik biograficzny,* Wilno 2013, s. 123.

31 *Skarbiec dyplomatów*, s. III; *Энциклопедический словарь*, изд. Ф. А. Брокгауза и И. А. Ефрона, т. X, Санкт-Петербург 1893, с. 81.

32 A. Kijas, *Polacy na Uniwersytecie Charkowskim 1805–1917*, Poznań 2008, s. 62; A. Mickiewicz, *Działa wszystkie,* Warszawa 1933, t. 16, s. 230.

33 *Materiały do historii Towarzystwa Filomatów*, t. II, s. 336.

34 I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne dotąd znanych egzemplarzy Statutu Litewskiego, rękopisemnych i edycji drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też polskim i łacińskim języku,* „Dziennik Wileński", 1823, t. I, s. 387.

35 *Promieniści, Filomaci — Filoreci* /Zebrał i objaśnił H. Mościcki. Wyd. 3, poprawne i uzupełnione, Warszawa i inni 1928, s. 156; J. Borowski, *Rekonstrukcja procesu filomatów i filaretów. 1823–1824. Historia śledztwa przeciw uczestników konspiracji studenckich i młodzieżowych w Wilnie oraz w Wileńskim Okręgu Naukowym*, Poznań 2003, s. 675.

ўказе 14/26 жніўня 1824 г.: *„Для спынення шкоднага ўплыву, які робіць партыя, супрацiўная ўнiверсiтэцкаму кiраўнiцтву, адхiлiць ад абавязкаў прафесараў звычайных: Лялевеля, Баброўскага і Даніловіча, а паколькі сам побыт іх у Вільні не можа быць ім дазволены… трэцяму* (Ігнату Даніловічу — В. Ш.) *прымусіць абраць сабе месца пабыту за межамі польскіх губерняў"*[36]. 18 жніўня (30 жніўня па старым стылі) названым прафесарам міністр асветы забараніў пачынаць выкладанне ў Вільні ў новым акадэмічным годзе. У сярэдзіне кастрычніка І. Даніловіч разам з іншымі прафесарамі атрымаў паліцэйскі загад пакінуць Вільню. Ігнат Даніловіч выехаў у Пецярбург[37].

## Спіс і аналіз прац Даніловіча, прысвечаных Статутам ВКЛ[38]

1. Opisanie bibliograficzne dotąd znanych egzemplarzy Statutu Litewskiego, rękopisemnych i edycji drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też polskim i łacińskim języku // Dziennik Wileński.— 1823.— t. I.— s. 377–398; t. II.— s. 1–18, 162–177, 261–293.
2. Библиографическое сведение об известных до ныне экземплярах Статута Литовского, рукописных и печатных разного издания, как подлинника оного на русском, так и переводов на польском и латинском языках. // Соревнователь Просвещения и Благотворения.— 1823. Т. 4. Труды Высочайше утверждённого вольного общества любителей Российской словесности.— 1823.— 22.3.— С. 304–360.
3. Historischer Blick auf das Litanische Statut und den Einfluss des Romischen Rechts aut das Polnische und Litanische // Dorpater Jahrbucher.— 1834.— № 4–6.
4. Rzut oka historyczny na prawodawstwo litewskie // Wizerunki i roztrząsania naukowe. Poczet nowy.— Wilno.— 1837.— Z. XIII.— s. 81–134.; Pamiętnik naukowy.— Kraków.— 1837.— t. 1.— s. 235–267 (пераклад нямецкамоўнага артыкула пад № 3 у нашым спісе).
5. О литовском статуте //Журнал Министерства народного просвещения.— 1838.— Часть 17.— № 2.— С. 374–384.
6. Взгляд на литовское законодательство и литовские статуты // Юридические записки. Т. 1.— М., 1841.— С. 1–46.

[36] *Promieniści, Filomaci — Filoreci*, s. 167.

[37] J. Borowski, *Rekonstrukcja procesu filomatów i filaretów*, s. 721, 730, 738.

[38] Спіс прац складзены па: L. Jankowski, *Słownik bio-bibliograficzny dawnego Uniwersytetu Wileńskiego*, Wilno 1939, s. 89, 91–92. Там, дзе было магчыма, назвы праверaны і выпраўлены паводле арыгінала публікацый.

7. Обозрение сведений о прежде бывших усилиях с 1347 по 1830 год в составлении Сводов польского законодательства (рукапіс, 70 аркушаў).

У артыкуле *„Opisanie bibliograficzne…"* Даніловіч адзначае *„стараннасць"* канцлера Льва Сапегі падчас падрыхтоўкі Статута 1588 г. Падкрэслівае, што трэба ведаць папярэднія Літоўскія Статуты і ёсць практычная патрэба іх выдання. *„Знайшоўшы цяпер тры рускія і значную частку польскага экзэмпляра Статута,*— пісаў Даніловіч пра першы Статут,— *і атрымаўшы з ласкі ад князя-куратара Чартарыйскага лацінскі рукапіс, калісці Чацкага, ёсць спадзяванне вяртання аўтэнтычнага тэксту, самага базавага складу, збору цікавейшых варыянтаў, урэшце, узбагачэння архіцікавымі просьбамі шляхты і адказамі караля на сеймах, запісанымі ад 1544 г. да 1563, якія найбольш дакладна малююць палітычнае становішча народа і ўсяго прававодства"*[39]. І. Даніловіч называе асоб і месцы, дзе знайшліся статуты, якімі ён карыстаўся: доктар тэалогіі, міністр кляштара луцкіх трынітараў Бяляцкі (рукапіс 2 Статута); граф Адам Храптовіч прадставіў рукапіс са сваёй Шчорсаўскай бібліятэкі; радца стану граф Юзаф Серакоўскі прадставіў са сваіх варшаўскіх збораў (рукапіс 2 Статута); граф Тытус Дзялынскі з Велькапольшчы (рускі рукапіс 1 Статута).

Найважнейшай часткай дадзенай працы Даніловіча з'яўляецца вопіс рукапісных экзэмпляраў захаваных на той час трох Статутаў. Ён апісвае 4 рукапісы першага Статута (гл. іх назвы ніжэй у нашым тэксце пра яго выданне) і 17 рукапісаў другога Статута: а) рускамоўныя рукапісы (з Млынова на Валыні гр. Хадкевіча, з бібліятэкі А. Чартарыйскага ў Пулавах, з бібліятэкі Залускіх адзін ці два розных экзэмпляры (невядома дзе); б) польскія рукапісы (у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта, у Пулавах, экзэмпляр, якім карыстаўся Т. Чацкі для напісання сваёй працы, плюс да яго яшчэ 5 пулаўскіх копій, у бібліятэках Варшаўскага ўніверсітэта (адзін экзэмпляр), Таварыства сяброў навук (2 экзэмпляры), „валынскі" рукапіс у Пецярбургу (Даніловіч не напісаў, дзе яго бачыў), у архіве Радзівілаў у Вільні (3 экзэмпляры), у бібліятэцы трынітарыяў у Луцку, у шчорсаўскай бібліятэцы графа А. Храптовіча); в) лацінскамоўныя рукапісы (у Шчорсах, у графа Серакоўскага ў Варшаве). Трэці Статут меў у апісанні Ігната Даніловіча 1 экзэмпляр, напісаны па-руску,— знойдзены ў архіве Радзівілаў у Вільні (Даніловіч называе яго *„радзівілаўскім"*) — і 3, напісаныя па-польску: найважнейшым з іх Даніловіч называе рукапіс

[39] I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 383–384.

*„калажанскі”*, бо ён знойдзены ў кляштары базыльян на Каложы пад Гродна і падораны К. Кантрымам бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта; яшчэ адзін захоўваецца ў публічнай імператарскай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга, апошні — у Пулаўскай бібліятэцы.

У апошняй частцы артыкула *„Opisanie bibliograficzne…”* Даніловіч апісвае друкаваныя экзэмпляры Статута 1588 г. Гэта 12 экзэмпляраў па-руску — у графа Яна Сухадольскага і ў наступных бібліятэках: віленскіх базыльян (2 розных экзэмпляры), Крамянецкага ліцэя, Віленскага ўніверсітэта (2 розных экзэмпляры), гродзенскіх дамінікан, Кіруючага Сената ў Пецярбургу, Пулаўскай, Таварыства гісторыі і старажытнасцей у Маскве (невядома, ці захаваўся пасля вайны 1812 г.), Супрасльскага манастыра (перададзены ў Варшаву), Ковенскай школы (дзе працаваў А. Міцкевіч[40]), жмудскага абываццеля К. Мірскага (знойдзены Ф. Невяровічам у Мядзелі Завілейскага пав.), Парыжскага арсенала (глядзеў М. Баброўскі).

Даніловіч апісаў 6 экзэмпляраў, выданых па-польску: 1614 і 1619 гг. (абодва з віленскай друкарні Мамонічаў), 1648 (П. Элерта), 1693, 1744 гг. (друкарня Віленскай Акадэміі), 1819 г. (Таварыства друкарскае ў друкарні А. Марціноўскага). Адзін экзэмпляр выданы на латыні ў 1786 г. (друкарня Віленскай Акадэміі). У 1812 г. Статут быў надрукаваны па-руску і па-польску. Пры апісанні выданых Статутаў Даніловіч спасылаўся на працу С. Ліндэ[41]. У гэтым жа 1823 г. праца Даніловіча *„Opisanie bibliograficzne…”* была надрукавана па-руску ў 4 томе прац Вольнага таварыства аматараў Расійскай славеснасці. Гэта быў скарочаны варыянт[42].

Наступная праца Даніловіча з’явілася на нямецкай мове і называлася *„Historischer Blick auf das Lituanische Statut…”*. Яна была напісана І. Даніловічам для берлінскага прафесара Bieniera, які працаваў над гісторыяй рымскага ўсходняга права[43]. Паведамленне пра гэты артыкул з’явілася ў *„Tygodniku Petersburskim”*. Невядомы аўтар пісаў, што ў першым раздзеле было 7 параграфаў, у другім — 4, у якіх Даніловіч распавядаў пра падрыхтоўку Статута ў 1522–1529 гг., пра рэдакцыі Статутаў 1566

40 Дарэчы, Адам Міцкевіч наведаў Ігната Даніловіча ў снежні 1825 г., калі той працаваў у Харкаўскім універсітэце (Гл.: A. Kijas, *Polacy na Uniwersytecie Charkowskim 1805–1917*, Poznań 2008, s. 62).

41 S. Linde, *O Statucie Litewskim Ruskim językiem i drukiem wydanych*, Warszawa 1816.

42 *Библиографическое сведение об известных до ныне экземплярах Статута Литовского, рукописных и печатных разного издания, как подлинника оного на русском, так и переводов на польском и латинском языках,*[в.:] *Соревнователь Просвещения и Благотворения. 1823,* Т. 4. „Труды Высочайше утверждённого вольного общества любителей Российской словесности”, 1823, с. 304–360.

43 I. Daniłowicz, *Rzut oka historyczny na prawodawstwo litewskie,* [w.:] *Wizerunki i roztrząsania naukowe. Poczet nowy,* Wilno 1837, Z. XIII, s. 81–134; „Pamiętnik naukowy”, Kraków 1837, t. 1, s. 267.

і 1588 гг., пра ўплыў рымскага права на польскае і літоўскае, успомніў абавязковыя новыя каноны ў Праваслаўнай царкве ў Літве[44].

Польскі пераклад нямецкамоўнага артыкула быў надрукаваны ў 1837 г. і называўся „*Rzut oka historyczny na prawodawstwo litewskie*". Нас цікавяць у ім раздзелы I і II, дзе адпаведна аўтар піша пра „*Статут Літоўскі, яго рэдакцыю, рукапісы, выданні і тлумачэнні*" і пра "*ўплыў рымскага права на Статут Літоўскі*". У сямі параграфах I раздзела артыкула аўтар даволі сцісла знаёміць нямецкага прафесара са сваімі знаходкамі рукапісаў Статута 1529 г., а таксама пачаткам друку яго графам А. Т. Дзялынскім (нагадваем, год з'яўлення нямецкага артыкула — 1834). Параграф 3 прысвечаны „*другой рэдакцыі*" Статута 1566 г. Даніловіч піша, што „*кароль Жыгімонт Аўгуст загадаў выбраным дасведчаным юрыстам, каб Статут пераглядзелі, паправілі, зрабілі стасоўны парадак, ліквідавалі супярэчнасці, а галоўнае, перадусім, каб перапісалі судовы парадак, давяраючы судаводства чыноўнікам, выбраным падданымі паміж сабой, замест ваяводаў, кашталянаў і старастаў, прызначаных каралём, якія ад судовай улады павінны былі адмовіцца*"[45]. І. Даніловіч пазначае, што і другі Статут не быў ніколі надрукаваны. У параграфах 4–6 знаходзяцца звесткі аб трэцім Статуце: выданні на рускай (3 асобнікі) і польскай мовах (7 асобнікаў), указанне на існаванне ў Дорпце нямецкамоўнага рукапісу XVII ст. Публікацыі аб Статутах Даніловіч пералічвае ў параграфе 7: праца Т. Чацкага „*O litewskich i polskich prawach, o ich duchu, źródłach, związku, i o rzeczach w pierwszym statucie dla Litwy 1529 wydanym*" (Warszawa. T. t. 1–2, 1800), вядомыя ўжо нам працы С. Ліндэ „*O Statucie Litewskim…*" і самога аўтара артыкула „*Opisanie bibliograficzne…*". У раздзеле II Даніловіч, гаворачы пра ўплыў рымскага права на Статут Літоўскі, піша: „*Гэты помнік славы правадаўства літоўскага народа, які так выразна нясе на сабе сымбалі свайго веку, не ўнік уплыву рымскіх праўных паняццяў, даказваюць гэта: а) час выдання, в) самі рэдактары, с) бачныя сляды прынятых у Статуце рымскіх прававых палажэнняў*"[46].

У наступнай працы, „*О Литовском Статуте*" (1838), Ігнат Даніловіч знаёміць расійскае грамадства з Літоўскімі Статутамі. Матэрыял для яе, магчыма, аўтар браў з ранейшай публікацыі „*Opisanie bibliograficzne…*"

[44] *Redakcje, rękopisy, przekłady i wydanie drugiego statutu*, s. 289–290.

[45] I. Daniłowicz, *Rzut oka historyczny,* s. 238.

[46] I. Daniłowicz, *Rzut oka historyczny,* s. 254, 263.

(1823)[47]. Спачатку аўтар пералічвае месцы, дзе ён знайшоў Статуты, і дае ім кароткую характарыстыку. Напрыклад, *„З Гродна: два экзэмпляры на польскай мове, надрукаваныя ў 1819 годзе, і адзін такі ж, перадрукаваны ў 1623 годзе, з дадаткам у канцы Трыбунала"*[48]. А ўсягоДаніловіч знайшоў 13 экзэмпляраў Статутаў: у Вільні — 1 на рускай, 4 на польскай (гатычнымі літарамі) мовах; у Кіеве — 1 па-руску і 1 па-польску; у Жытоміры і Беластоку — па адным польскім экзэмпляры; у Віцебску — лацінскамоўны экзэмпляр.

Ігнат Даніловіч піша пра мову знойдзеных Статутаў. Падкрэслівае, што першапачаткова Статут выдан на рускай мове славянскімі літарамі і звяртае ўвагу на яго польскія пераклады: *„І сапраўды вядома,* — піша ён — *што Статут быў спецыяльна перакладзены памылкова, бо рускі сапраўдны экзэмпляр яго напісаны болей у духу манархічным, ад чаго і не мог быць прыстасаваны да рэспубліканскага ўпраўлення Польшчы: а таму на Кароне, як называлі палякі, Статут і не дзейнічаў, а там, дзе ён меў законную моц, як у Літве, на Валыні, у Беларусі і Маларосіі, польскія законазнаўцы выкарыстоўвалі памылковы пераклад па асабістых меркаваннях"*[49].

Цікавая таксама думка Даніловіча аб пачатку з'яўлення Статутаў пры Аляксандры ў 1505 г. Смерць караля спыніла законатворчы працэс, і Статут выкарыстоўваўся толькі ў прысутных месцах на тэрыторыі Украіны. У 1522 г. Жыгімонт Аўгуст І пажадаў распаўсюдзіць Статут на Літву і загадаў у рускім арыгінале і польскім перакладзе выправіць тэксты. Яны і былі прыняты літоўскімі чынамі ў 1529 г. Польскія ж магнаты, дамагаючыся толькі асабістых выгад, былі супраць Статута на тэрыторыі Кароны. Названы Статут *„прызнаюць за першае выданне"*, ён не быў надрукаваны, захаваліся рэдкія рукапісы (тры на рускай і па адным на польскай і лацінскай мовах). Статут 1566 г. Даніловіч лічыць рэдакцыяй Статута 1529 г. для Валыні і Падоліі і называе Валынскім Статутам, а для літоўцаў ён быў другім Статутам. Рукапісныя экзэмпляры гэтага Статута таксама не надрукаваны. Статут 1588 г. зацверджаны Жыгімонтам ІІІ і надрукаваны на рускай (1588 г.) і польскай (1614 г.) мовах. *„Гэтая рэдакцыя,* — піша Даніловіч, — *і ёсць цяперашні Літоўскі Статут, які дзейнічае да гэтага часу ў некаторых, далучаных ад Польшчы, губернях"*[50].

47 Пазней я знайшоў пацвярджэнне маёй думцы ў *„Энциклопедическом словаре изд. Ф. А. Брокгауза и И. А. Ефрона"*, т. X, Санкт-Петербург 1893, с. 82.

48 Д[аніловіч], *О литовском статуте*, „Журнал Министерства народного просвещения", 1838, Часть 17, № 2, с. 375.

49 Тамсама, с. 377.

50 Д[аніловіч], *О литовском статуте,* с. 381.

**Выданне Статута 1529 г.** У 1835 г. Ігнат Даніловіч стаў працаваць у Кіеўскім універсітэце. Быў дэканам юрыдычнага факультэта, чытаў лекцыі па мясцовым праве і рыхтаваў да друку першы Літоўскі Статут. У гэтай справе звяртаўся не аднойчы да археаграфічнай камісіі, але без станоўчых вынікаў. У 1839 г. у сувязі з працэсам Шымона Канарскага польскіх выкладчыкаў, у тым ліку і І. Даніловіча, перавялі ў іншыя ўніверсітэты. Даніловіч патрапіў у Маскоўскі. Тут ён некалькі разоў вымушаны быў мяняць свае курсы выкладання. У той жа час у Літве і Беларусі адмянілі дзейнасць Статута, што прывяло Даніловіча да нервовай хваробы. У 1842 г. ён мусіў звольніцца, паехаў лячыцца на Шлёнск у Грайфенберг і там памёр у 1843 г.

Перад смерцю Даніловіч, напэўна, пабачыў апублікаваны Статут 1529 г., які так доўга рыхтаваў. У 1841 г. у Познані Адам Тытус Дзялынскі (1796–1861), заснавальнік бібліятэкі ў Курніку каля Познані, збіральнік старадрукаў і рукапісаў, якія тычыліся стражытнай Польшчы, выдаў Статут ВКЛ 1529 г., што патрапіў да яго, відаць, ад спадчыннікаў Т. Чацкага з Парыцкай бібліятэкі[51]. Выданне ўяўляе сабой зборнік дакументаў пад назвай *„Збор літоўскіх праў ад года 1389 да года 1529. Таксама распараджэнні сеймавыя пра гэтыя правы ад года 1544 да года 1563"*, выдадзены ў друкарні на Гарбарах, № 45[52]. Тэкст Статута знаходзіцца на старонках 143–394. Базавым стаў рускі рукапіс, знойдзены ў Варшаве ў 1820 г., са збору Дзялынскага. У 1821 ці 1822 г. ён даў рукапісны экзэмпляр І. Лялевелю, ім карыстаўся і Даніловіч. Акрамя таго, ён даследаваў польскі рукапіс, дадзены яму К. Свідзінскім, рускі экзэмпляр з бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта, рускі рукапіс з варшаўскай бібліятэкі Таварыства сяброў навукі, лацінскі рукапіс з Пулаўскай (былой Парыцкай) бібліятэкі[53]. У выданні ёсць параўнанні зместу рукапісаў, каментары і тлумачэнні Даніловіча[54]. Над падрыхтоўкай Статута да друку Даніловіч працаваў падчас працы ў Кіеўскім універсітэце (1835–1838 гг.)[55].

Гэта была, напэўна, першая публікацыя Статута 1529 г. і наогул адна з трох публікацый Статутаў Літоўскіх да найноўшага часу (Статут 1588 г. быў выданы па-руску (старабеларуску) у 1588 г. і па-польску — у 1614 г.[56]

[51] *Słownik pracowników książki polskiej*, Warszawa-Łódż 1972, s. 193.

[52] *Zbior praw Litewskich od roku 1389 do roku 1529. Tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 doroku 1563,* Poznań, 1841.

[53] I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 385, 391–393.

[54] *Zbiór praw Litewskich,* s. 2 (ненумераваная).

[55] T. Turkowski, *Daniłowicz Ignacy,* s. 413.

[56] *Encyklopedia książki* /pod. red. A. Żbikowskiej-Migoń i M. Skalskiej-Zlat. t. 2, Wrocław 2017, s. 551; I. Daniłowicz, *Opisanie bibliograficzne*, s. 384.

## Падсумаванне:

1. Даніловіч знайшоў 14 выданняў і звыш 10 рукапісаў трох рэдакцый Літоўскага Статута на польскай, старабеларускай і лацінскай мовах, указаў, каму яны належалі і дзе знаходзіліся.
2. Прааналізаваў змест і даў гісторыка-археаграфічнае, палеаграфічнае апісанні трох Статутаў ВКЛ.
3. Падрыхтаваў фактычна акадэмічны тэкст да выдання першага Статута ВКЛ і такім чынам увёў яго ў навуковы ўжытак.

А ў завяршэнні, для жадаючых пагартаць старыя выданні Статутаў, зазначаю, што ў Варшаўскім універсітэце захоўваецца шэсць экзэмпляраў:

1. Аддзел старадрукаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта — тры экзэмпляры трэцяга Статута ВКЛ выдання друкарні Леана Мамоніча 1614 і 1619 гг. (2 экз.).
2. На факультэце права — Статут выдання Сената (Пецярбург) 1811 г.
3. Інстытут гісторыі — Статут выдання Віленскага ўніверсітэта 1744 г.
4. Сховішча Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта — Статут, выданы Віленскім друкарскім таварыствам у 1819 г.

## Streszczenie

Wiaczasłau Szwied, *Badania prof. Ignacego Daniłowicza nad Statutem Wielkiego Księstwa Litewskiego*

Historiografia problemu wskazuje, że badacze Statutu Litewskiego doceniają znaczną rolę Ignacego Daniłowicza w poszukiwaniach i badaniach Statutu, pisząc, że jego prace również współcześnie nie straciły na znaczeniu, a w gruncie rzeczy przygotowany przez Daniłowicza tekst legł u podstaw poznańskiego wydania z 1841 r. Autor wskazuje poprzedników i kolegów Daniłowicza: Tadeusza Czackiego, Samuela Lindego, Ignacego Ołdakowskiego, Joachima Lelewela, Michała Bobrowskiego i dokonuje oceny ich wkładu w badania nad Statutem Litewskim. Następnie przytoczony został spis 7 prac Daniłowicza poświeconych Statutowi wraz z ich analizą. We wnioskach autor artykułu podkreśla, że Daniłowicz: 1) odnalazł 14 wydań Statutu i ponad 10 rękopisów po polsku, starobiałorusku i po łacinie, wskazując równocześnie do kogo należały i gdzie się znajdowały.; 2) przeanalizował treść i dokonał historyczno-archeograficznego i paleograficznego opisu trzech Statutów litewskich; 3) opracował naukowo tekst do wydania Pierwszego Statutu Litewskiego, w ten sposób wprowadzając go do obiegu naukowego.

## Abstract

Vyachaslau Shved, *Research by Prof. Ignacy Daniłowicz on the Statues of the Grand Duchy of Lithuania*

Historiography shows that scholars interested in the Statutes of Lithuania recognize the significant role of Ignacy Daniłowicz in their own research, highlighting the fact that his studies are still topical and that the text compiled by Daniłowicz was the foundation for the Poznań edition of 1841. The author outlines Daniłowicz's companions and predecessors, including Tadeusz Czacki, Samuel Linde, Ignacy Ołdakowski, Joachim Lelewel and Michał Bobrowski, and aims to evaluate their role in the research on the Statutes of Lithuania. Next, the author provides a list of seven works by Daniłowicz devoted to the Statutes and carries out their analysis. The author concludes that Daniłowicz: 1) managed to find fourteen editions of the Statutes and more than ten manuscripts in Polish, Old Belarusian and Latin, indicating their owners and place where they would be kept; 2) analyzed the content and provided a historical and archeographical as well as paleographical description of the three Statutes of Lithuania; 3) prepared a scientific interpretation of the First Statute and thus introduced it into the academic world.

**Леанід Лаўрэш**
**(Ліда)**

# Неаунія ў Дзікушскай царкве Лідскага павета, 1925 г.

У 1925 г. на Лідчыне адбылася спроба адрадзіць у вёсцы Дзікушкі грэка-каталіцкую парафію. Паспрабуем разабрацца ў тым, што адбывалася ў той час вакол Дзікушскай царквы. У 1921 г. газета „*Беларускі звон*" пісала пра Дзікушскага святара: „*Цікавае зьявішча, арыгінальнае! Бацюшка ў сваім уласным будынку адчыніў проці волі насялення польскую школу. Дачка скончыла беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні ў 1921 г., цяпер яна здраджвае беларускіх дзетак, калечыць памаленьку іх. А бацюшка стараецца не адставаць ад дачкі. Ён лае грамадзян за тое, што яны ня хочуць слаць дзетак да школы. Будзем цешыць сябе думкай, што гэта зьявішча рэдкае*"[1]. Падобна, менавіта з-за гэтага пачаўся канфлікт паміж святаром Лаўровым і вернікамі Дзікушскай царквы. Незадавальненне святаром-паланафілам праз некалькі гадоў вылілася ў нечаканы для духоўных улад інцыдэнт.

Пра падзеі 1925 г. у Дзікушках дастаткова шмат паведамляла прэса таго часу. Польскія газеты пісалі: „*Праваслаўны прыход на чале са сваім настаяцелем Ячыноўскім перайшоў з праваслаўя ў унію*"[2]. Ці: „*З Вільні даносяць, што цэлы Дзікушскі прыход разам са сваім настаяцелем Ячыноўскім перайшоў з праваслаўя ў унію*"[3]. Віленская газета „*Słowo*": „*Унія. Віленская праваслаўная кансісторыя атрымала паведамленне, што ў вёсцы Дзікушкі Лідскага павета цэлая парафія на чале са святаром… Ячыноўскім перайшла з праваслаўя ў унію*"[4].

Газета „*Беларуская доля*" паведаміла: „*Уніяты ў Заходняй Беларусі. У сувязі з развалам праваслаўнае царквы і палянізацыі каталіцтва, у заходняй Беларусі з'яўляюцца новыя рэлігійныя кірункі. З аднаго боку тут пачалі сваю працу амерыканскія метадысты, з другога — уніяты. …Колькі дзён таму ў Вільню прыехаў з Лідзскага павету сьвяшч. Лаўроў, які зрабіў вышэйшай духоўнай уладзе даклад аб пераходзе на унію цэлага прыходу Дзікушкі з пратаіерэем Ячыноўскім. Каб вярнуць на ложа*

[1] „Беларускі звон", 1921, № 24.
[2] „Katolik", 1925, № 47.
[3] „Orędownik Wrzesieński" 1925, № 43.
[4] „Słowo", 1925, № 72 (786), 29 marca.

*праваславія адпаўшую парафію, архіяпіскап Хвядос паслаў туды сьвяшч. Дзічкоўскага"*[5].

Андрэй Раствароўскі, уладальнік суседняга з Дзікушкамі маёнтка Скабейкі, адукаваны чалавек і член Лідскага павятовага сойміка, пісаў з гэтай нагоды: *„Цікавым выпадкам была гісторыя з царквой у Дзікушках. Гэта царква пабудавана ў раманскім стылі без аніякіх цыбулін і купалоў у 1835–1840 гг. і была з уніі пераведзена ў праваслаўе. Пры царкве меліся добрая плябанія і ладны кавалак поля, а таксама пладовы сад. Праваслаўным пробашчам быў тут вельмі цікавы тып — аматар гарэлкі"*[6]. Вось і ўсё, што можна даведацца пра тыя падзеі з прэсы і ўспамінаў: у Дзікушках служыў праваслаўны святар, які быў паланафілам і аматарам гарэлкі, і парафія перайшла ў унію.



**Будынак царквы ў Дзікушках. Фота Яна Балзункевіча. Пачатак XX ст.**

Тагачасныя падзеі ў Дзікушках, як заўсёды, калі справа ідзе пра грэка-католікаў, няпраўдзіва апісаны ў кнізе Канстанціна Мікалаевіча

5 „Беларуская доля", 1925, № 23.

6 A. Rostworowski, *Moje życie na Nowogródczyźnie lata 1924–1928*, „Goniec Kresowy", Rok 2003, Nr 41, s. 13.

Мікалаева[7]. Іншыя аўтары проста перапісвалі гэты ранейшы тэкст. К. М. Мікалаеў паведамляе, што восенню 1924 г. на пасаду псаломшчыка ў прыход Дзікушкі быў прысланы забаронены за нейкія правіны (за якія, аўтар не піша) протаіерэй Марк Ячыноўскі[8]. Такім чынам, протаіерэя, раней забароненага ў служэнні, прыслалі ў якасці псаломшчыка. Ужо цікава. Пачнём разбірацца ў справе, тым больш што архіўныя дакументы Лідскай каменды паліцыі даступныя і даюць нам магчымасць даведацца пра тыя падзеі.

Пачнём з асобы а. Марка Цітавіча Ячыноўскага. Нарадзіўся ён 25 красавіка 1866 г. у вёсцы Сялец Пружанскага павета (зараз Брэсцкага р-на), дзе яго бацька, а. Ціт, служыў настаяцелем царквы[9]. У 1886 г. (ці ў 1887 г.) Марк закончыў гімназію ў Белай Падлясцы. Пяць семестраў вучыўся на факультэце права Варшаўскага ўніверсітэта. Потым паступіў на факультэт тэалогіі, дзе вывучаў праваслаўную тэалогію ў Холме і закончыў яго ў 1890 г. па першым разрадзе, г.з. быў сярод лепшых студэнтаў. Адразу заўважым, што Ячыноўскі меў грунтоўную адукацыю, што ў той час сустракалася не часта.

У святары Ячыноўскі быў высвечаны ў 1891 г. у Вільні. Першай парафіяй, дзе служыў малады святар, стала вёска Харашэвічы Ваўкавыскага павета[10]. Газета „*Литовские епархиальные ведомости*” ў 1897 г. паведаміла: „*20 красавіка на свабоднае месца святара Лужыцкай царквы Дзісненскага павета пераведзены па яго прашэнні святар Харашэвіцкай царквы Ваўкавыскага павета Марк Ячыноўскі*”[11]. Пасля Лужкоў а. Марк быў пераведзены ў Беразвецкую манастырскую царкву, дзе працаваў да 1905 г. Вось што пісаў сам а. Марк: „*З адкрыццём Беразвецкай жаночай абіцелі яе храмы сталі ўлюбёным месцам малітвы для простага навакольнага насельніцтва. Яго вабіла туды ўсё, што можа прыцягваць манастырская царкоўная служба: і замілавальныя набажэнствы, іх веліч і яснасць, выразнасць спеваў і царкоўнага чытання. Але паступова, за простым людам, манастырскі храм пачалі наведваць і чыноўныя людзі з суседняга вялікага мястэчка Глыбокае*”[12].

Падчас Руска-японскай вайны Ячыноўскага прызвалі ў армію на пасаду вайсковага капелана 4-га палка 1-й Стралецкай брыгады, з гэтага

---

7 Гл: К. Н. Николаев, *Восточный обряд. Дорога Рима в Россию (Рим — Польша — Россия)*, Париж 1950, с. 138.

8 Тамсама.

9 *Hierarchia i kler kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku*, Ryboly 2012, s. 319–320.

10 Fl. Rzemieniuk, *Próba utworzenia neounickiej parafii w Połoskach w diecezji Podlaskiej*, „Szkice Podlaskie”, 2000, № 8, s. 205.

11 „Литовские епархиальные ведомости”, 1897, № 16–17, с. 135.

12 „Литовские епархиальные ведомости”, 1904, № 11, с. 91.

часу святар стала знаходзіўся ў войску. Пасля Руска-японскай вайны, пачынаючы з 1907 г., служыў у Лодзі. 2 чэрвеня 1914 г. быў пераведзены ў 1-шы Уланскі Смаленскі полк цара Аляксандра III. Падчас бітвы пад Дубіцай (каля Коўна) атрымаў моцную кантузію. Пасля гэтага, з-за стану здароўя, служыў пры 1-м лазарэце 2-й Пецярбургскай гвардзейскай дывізіі, якая ўваходзіла ў склад войскаў генерала Брусілава на аўстрыйскім фронце. Пасля развалу рускай арміі ў 1917 г. перайшоў на службу ва ўкраінскую армію гетмана Паўла Скарападскага, потым служыў ва ўкраінскім войску Сямёна Пятлюры.

Пасля службы ва ўкраінскім войску нейкі час займаўся душпастырскай працай у вёсцы Лядава Магілёў-Падольскага павета. Адсюль 3 верасня 1920 г. яго выгналі бальшавікі. Пасля гэтага да лютага 1922 г. служыў благачынным у чыгуначнай царкве горада Ромны Палтаўскай губерні.

Вясной 1922 г., ратуючыся ад бальшавікоў, рэпатрыіраваўся ў Польшчу, у родныя Пружаны. Адразу атрымаў прыход у Івашкевічах Ваўкавыскага павета, а з 1922 г. пераведзены благачынным у Псую Дзісненскага павета. Менавіта тут ён быў абвінавачаны праваслаўным кіраўніцтвам у схільнасці да уніі, пасля чаго 15 жніўня 1924 г. старога і адукаванага пратаіерэя перавялі дыяканам (па іншай інфармацыі панамаром) у Дзікушкі[13], у падпарадкаванне „надзейнаму” святару з, як пабачым далей, моцнымі сувязямі ў Віленскай праваслаўнай кансісторыі і адначасова ў палітычнай паліцыі.

15 сакавіка 1925 г. у Навагрудку а. Марк Ячыноўскі ў прысутнасці біскупа Зыгмунта Лазінскага прыняў каталіцкую веру. Пасля чаго святар звярнуўся да біскупа Юрыя Матулевіча, які 17 сакавіка 1925 г. прызначыў яго адміністратарам грэка-каталіцкай парафіі ў Дзікушках[14]. Вядома, што біскуп Матулевіч як мог спрыяў унійнай справе[15].

Паспрабуем рэканструяваць духоўны шлях а. Марка Ячыноўскага. Першая сусветная вайна прывяла да страты жыццёвых арыенціраў шмат каго з еўрапейцаў. Да тых падзей ніхто ў Еўропе не ўяўляў, што цывілізаваныя нацыі могуць учыніць падобную бойню. Пры гэтым Расія чарговы раз прадэманстравала свае адрозненні ад іншых еўрапейскіх народаў і пайшла па асабліва нялюдзкім шляху. Бясспрэчна, Ячыноўскі на фронце і потым, ва ўкраінскім войску і падчас грамадзянскай вайны, уласнымі вачыма бачыў „асаблівасці” духоўнага жыцця народа, часткай

[13] Fl. Rzemieniuk, *Próba utworzenia neounickiej parafii w Połoskach w diecezji Podlaskiej*, s. 205.

[14] Тамсама.

[15] Гл: Ю. Туронак, *Міжваенная унія ў Заходняй Беларусі*, „Спадчына”, 1992, № 5, с. 73–78.

якога ён лічыў і сябе. Менавіта ў гэты час вялікі брытанскі гісторык Арнольд Тойнбі сфармуляваў думку пра царкву як лічынку-зародак, з якой вырастае канкрэтная цывілізацыя, але сумленнаму і адукаванаму чалавеку было зразумела, што значную частку віны за катастрофу, якая адбылася ў дзяржаве, нясе і афіцыйная царква. Ячыноўскі нарадзіўся ў 1866 г., калі памяць пра грэка-каталіцкую царкву жыла ў народзе, і з вялікай верагоднасцю можна сцвярджаць, што яго бацькі паводле хрышчэння былі ўніятамі, пераведзенымі ў дзяцінстве ў афіцыйнае веравызнанне. Таму думка пра вяртанне ў спрадвечную веру магла быць для яго цалкам натуральнай[16].




**Дзікушкі і ваколіцы на польскай карце 30-х гадоў ХХ ст.**

Але вернемся да дакументаў. Першы даклад у экспазітуру палітычнай паліцыі ў Лідзе выведнік паліцыі ў Жалудку Пятроўскі піша 16 сакавіка 1925 г. Ён адлюстроўвае падзеі, якія адбыліся 15 сакавіка: *„Дакладаю, што 15 дня гэтага месяца ў 11-й гадзіне ў вёсцы Дзікушкі Жалудоцкай гміны адбыўся сход сялян. Сход прайшоў у памяшканні школы. Кіраваў сходам настаўнік Ян Будынскі разам з Янам Трацяком — кіраўніком фальварка Дзікушкі. Сход адбыўся спакойна. Ініцыятар схода сельскагаспадарчага*

[16] Fl. Rzemieniuk, *Próba utworzenia neounickiej parafii w Połoskach w diecezji Podlaskiej*, s. 205.

*гуртка — Ян Трацяк. З пагалосак на жалудоцкім кірмашы вядома, што сход толькі выглядаў як сялянскі, а насамрэч абмяркоўвалася справа пераходу ўсіх парафіян дзікушскай царквы ў унію. Як быццам ініцыятарам гэтай справы ёсць настаўнік Ян Будынскі. Але я упэўніўся, што гэта няпраўда. Настаўнік Будынскі ўсю справу апісаў мне ў лісце. Таксама казаў мне, што цывільныя ўлады несправядліва паводзяць сябе ў гэтай справе. Паказаў усе свае асабістыя дакументы. З'яўляецца былым вайсковым разведчыкам. Кіруе гуртком моладзі ў Жалудку. Сапраўдным ініцыятарам уніі тут з'яўляецца праваслаўны пралат* (папраўлена на „*зараз дыякан*" — *Л. Л.*) *Ячыноўскі, які жыве ў Дзікушках. Зараз ён не мае ніякай магчымасці да жыцця і намаўляе праваслаўны люд выказаць пісьмовую згоду на унію, каб гэтак атрымаць пасаду святара. Тутэйшыя людзі ахвотна згаджаюцца на гэта. Ячыноўскі мае ўжо вялікую колькасць подпісаў за прыняццё ўніяцкай веры. Будынскі мае тыя ж перакананні — калі праваслаўны народ прыме ўніяцкую веру, гэта будзе карысна для Польшчы. Наступны сход сельскагаспадарчага кола адбудзецца праз 2 тыдні, павінны абмеркаваць сельскагаспадарчыя і культурна-асветніцкія справы*"[17]. Далей выведнік піша, што ў вёсцы ходзяць чуткі пра магчымую перадачу дзікушскай царквы пад касцёл, таму „*праваслаўны святар Лаўроў у роспачы, бо можа страціць пасаду, і таму сам сябе падстрэліў з рэвальвера і ляжыць у ложку. Я быў у яго і ўпэўніўся, што ён не паранены і не ляжыць у ложку, а што праўда недамагае здароўем, бо хварэў на грып*"[18].

З даклада бачна, што паліцыянт яўна не спрыяе ніводнаму з бакоў спрэчкі і шукае прычыны канфлікту ў бытавых праблемах. Але, грунтуючыся на гэтым дакладзе, зусім па-іншаму дакладае свайму кіраўніцтву ў ваяводскую ўправу начальнік Лідскай экспазітуры палітычнай паліцыі: „*Па атрыманай інфармацыі і па ўласных даных, а таксама па звестках ад канфідэнтаў у вёсцы Дзікушкі Жалудоцкай гміны, былым протаіерэям, а зараз дыяканам мясцовай царквы Маркам Ячыноўскім была створана ўніяцкая царква. Ячыноўскі знаходзіўся ў нязгодзе з мясцовым папом Лаўровым і агітаваў мясцовых людзей на пачатку ў кірунку адхілення Лаўрова ад пасады, якую той займаў. …Бачачы, што агітацыя не дае належных вынікаў (Лаўроў меў і мае моцную падтрымку ў Вільні ў Праваслаўнай кансісторыі), пачаў шукаць іншага выйсця*"[19].

[17] *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (далей – ДАГВ)*, ф. 200, воп. 1, адз. зах. 17, арк. 529–529 адв.
[18] Тамсама, арк. 529 адв.
[19] Тамсама, арк. 527.

Далей начальнік Лідскай палітычнай паліцыі чамусьці піша, што Ячыноўскага (чалавека з тэалагічнай адукацыяй) да стварэння ўніяцкай царквы падбухторвалі мясцовы настаўнік Ян Будынскі і эканом фальварка Дзікушкі Ян Трацяк, што не стасуецца з інфармацыяй з месца падзей.

З таго ж даклада даведваемся, што за ўніяцкую царкву ўжо сабрана 500 подпісаў вернікаў, але праваслаўны святар *„Лаўроў з'яўляецца лаяльным грамадзянінам Польшчы і пра ўсе антыдзяржаўныя захады даносіць уладам, што таксама дае нагоду для нянавісці да яго з боку мясцовага насельніцтва”*. Ячыноўскі ж, наадварот, *„пасля прыезду ў Дзікушкі ў 1924 г. пачаў праводзіць антыдзяржаўную агітацыю, з'яўляецца палітычна падазроным і нядобранадзейным. Ёсць падазрэнне, што Ячыноўскі прыняў уніяцкую веру, каб сабраць вакол сябе ўсіх палітычна нядобранадзейных і мець больш шырокае поле для працы супраць Польскай дзяржавы пад прыкрыццём навяртання мясцовага насельніцтва ў лона ўніяцкай царквы”*[20].

Яшчэ раз: Лаўроў *„пра ўсе антыдзяржаўныя захады даносіць уладам, што… дае нагоду для нянавісці да яго з боку мясцовага насельніцтва”*. Начальнік палітычнай паліцыі ў дакладзе яўна прыкрывае свайго канфідэнта. Потым у тым жа дакладзе ў ваяводскую ўправу палітычнай паліцыі паведамляецца, што пасля прыняцця ўніяцкай веры Ячыноўскі вярнуўся ў вёску Дзікушкі і мае намер пры дапамозе сагітаваных ім перад гэтым людзей заняць царкву і перарабіць яе ва ўніяцкую. Першае ўніяцкае набажэнства мае быць адпраўлена ў нядзелю 22 сакавіка, і *„таму магчымы эксцэсы паміж праваслаўнымі і прыхільнікамі Ячыноўскага. Каб не дапусціць хваляванняў, у вёску Дзікушкі па распараджэнні сп. старасты накіраваны некалькі паліцыянтаў і некалькі паліцэйскіх тайных агентаў”*[21].

У канцы свайго даклада начальнік Лідскай экспазітуры паведамляе, што мясцовыя ўлады не маюць ніякага дачынення да спробы стварэння ўніяцкай царквы: *„Больш інфармацыі пра справы ў тутэйшай экспазітуры няма, бо сп. стараста забараніў правядзенне следства і збор інфармацыі. Ячыноўскі некалькі разоў быў у сп. старасты і інфармаваў яго пра сваю працу, але гэта інфармацыя не можа быць пацверджаная. Таксама паліцыя не можа пацвердзіць інфармацыю пра тое, што сп. стараста падтрымлівае гэту акцыю і дае Ячыноўскаму грашовую дапамогу”*[22]. Як бачым, навагрудскае ваяводскае кіраўніцтва цікавіла пытанне ўдзелу

[20] Тамсама.
[21] Тамсама.
[22] Тамсама.

тэарэтыкамі савецкай гістарыяграфіі[56]? Адказы на гэтыя пытанні будуць хутчэй адмоўнымі. Сацыяльная арганізацыя грамадства ў XVII ст. моцна адрознівалася ад той, якую яно стала набываць пасля Французскай рэвалюцыі 1789–1792 гг. Бачыць у тых сацыяльных выступленнях, часам называных „рэвалюцыямі", антыфеадальную класавую барацьбу або „нацыянальныя" войны — значыць спрашчаць і мадэрнізаваць мінулае[57].

Цяпер вернемся да крытычных заўваг, выказаных у артыкуле А. Шаланды. Вышэй ужо адзначалася, што даследчык не пагадзіўся з тэзісам пра вайну 1648–51 гг. як пра несамастойную для Беларусі гістарычную з'яву, залежную ад падзей на Украіне і ад Запарожскага войска[58], а таксама скрытыкаваў як няўдалыя абодва азначэнні, што выкарыстоўваюцца для яе ў постсавецкай беларускай гістарыяграфіі: і *„антыфеадальная"*, і *„казацка-сялянская"*. Наконт першага пытання, здаецца, няма патрэбы спрачацца: пра ўказаную залежнасць пісалі многія даследчыкі, яна проста відавочная. Аб правамернасці выкарыстання тэрміна *„антыфеадальная"*, які акцэнтуе сацыяльны характар паўстанняў 1648–1651 гг., вышэй ужо гаварылася. Паказальна, што і тыя даследчыкі, якіх не западозрыш у залежнасці ад савецкай ці марксісцкай метадалагічнай спадчыны, выкарыстоўваюць гэтыя ж азначэнні. Напрыклад, адзін з лепшых знаўцаў гісторыі Рэчы Паспалітай XVII ст. польскі гісторык Анджэй Рахуба таксама называе паўстанцкі рух на Беларусі *„антыфеадальным"*, а сілы, што выступалі ў ВКЛ на баку Б. Хмяльніцкага, — *„казацка-сялянскімі"*[59]. Дык чаму ж азначэнне *„казацка-сялянская вайна"* трэба лічыць няўдалым? У якасці аднаго з яго фармальных недахопаў апанент назваў тое, што ў такой назве *„прападае*

[56] Пар. пазіцыю найбольш аўтарытэтных савецкіх гісторыкаў: Б. Ф. Поршнев, *Феодализм и народные массы*, Москва 1964, с. 293; М. А. Барг, *Место XVII века в истории Европы,* „Вопросы истории" 1985, № 3, с. 58–74.

[57] J. H. Elliot, *Revolution and Continuity in Early Modern Europe,* „Past and Present" 1969, nr. 42, p. 35–56; N. Streensgaard, *The Seventeenth-century Crisis,* [in:] *The General Crisis of the Seventeenth Century,* London 1978, p. 44–48; T. Munck, *Seventeenth Century Europe. State, Conflict and the Social Order in Europe 1598–1700* (Macmillan history of Europe), London 1990, p. 199–203; *XVII wiek,* Warszawa 2003, s. 123–124.

[58] А. Шаланда, *Ацэнка ролі і значэння „казацка-сялянскай" вайны 1648–1651 гг. у гісторыі Беларусі ў найноўшай айчыннай гістарыяграфіі,* с. 378–379, 380–381. Аўтар тут піша, што такой характарыстыкай падзеі 1648–1651 гг. зведзены мною *„на лакальны ўзровень"*, пры гэтым адным з матываў такой „недаацэнкі" казацка-сялянскіх паўстанняў на Беларусі ён назваў *„акцэптацыю… некаторых падыходаў польскіх калег"*. Нечаканае, проста дзіўнае заключэнне. Кіруючыся падобнай логікай, найбольшы ўплыў „польскіх падыходаў" мы павінны былі б прыпісваць, напэўна, Міколу Ермаловічу, які наогул не бачыў у тых паўстаннях нічога беларускага, але і з працамі польскіх даследчыкаў не быў знаёмы. Чым не прыклад заганнасці такой логікі?

[59] Гл.: A. Rachuba, *Wielkie Księstwo Litewskie w powieści „Ogniem i mieczem" a jego rzeczywista rola w walce z powstaniem Chmelnickiego,* [w:] *Epoka „Ogniem i mieczem" we współczesnych badaniach historycznych: zbiór studiów*, Warszawa 2000, s. 149, 154.

*працілеглы бок канфлікту — шляхта”*[60]. Але ў гістарычнай тэрміналогіі падобных канфліктаў, асабліва грамадзянскіх войнаў, амаль немагчыма знайсці прыклады такіх назваў, якія ўключалі б усе задзейнічаныя сілы. Звычайна іх называюць па сілах паўстанцкага лагера. Прыклады многіх народных выступленняў, якія фігуруюць у гістарыяграфіі пад назвамі *„сялянскіх”* войнаў, здаецца, здымаюць усе пытанні на гэты конт.

Далей, абгрунтоўваючы неадпаведнасць скрытыкаваных азначэнняў, А. Шаланда скарыстаўся аргументацыяй досыць спекулятыўнага характару. Аўтар заявіў, што ў той вайне *„беларускія нацыянальныя інтарэсы супалі з інтарэсамі пэўнай часткі палітычнай эліты ВКЛ”*; маўляў, беларуская шляхта (яе ідэйная частка) *„пачала кіравацца не толькі сваімі станавымі ці рэлігійнымі інтарэсамі, але і нацыянальнымі”*, і ў гэтым, заключыў аўтар, *„карэннае адрозненне беларускай сітуацыі ад украінскай”*[61]. Арыгінальнае і парадаксальнае па сваёй сутнасці сцвярджэнне! Здаецца, яно прэтэндуе на зусім новы погляд на падзеі 1648–1651 гг. Аднак аўтар пакінуў у ім зашмат невядомых велічынь. Што значылі *„беларускія нацыянальныя інтарэсы”* ў XVII ст. ? Як іх улічвала шляхта? У чым заключалася сама беларускасць тагачаснай шляхты? Гэта прынцыповыя пытанні, якія аўтару трэба было б патлумачыць і праілюстраваць на канкрэтных прыкладах, тады можна было б гаварыць і спрачацца змястоўна.

Перакананы, што няма ніякіх падстаў разважаць пра нацыянальныя інтарэсы тагачаснай шляхты ў цяперашнім іх разуменні, і сумняюся ў тым, што вялікія народныя выступленні той эпохі, якія звычайна былі шматнацыянальнымі па складзе, можна наогул характарызаваць у нацыянальных катэгорыях. Відавочна, такі падыход праблематычны нават для Украіны, дзе казацкае паўстанне ахапіла ўсе станы і сацыяльныя групы. Як вядома, частка ўкраінскіх гісторыкаў называе паўстанне, пачатае Б. Хмяльніцкім, *„нацыянальнай вызваленчай вайной”*[62], а частка — *„украінскай нацыянальнай рэвалюцыяй”*[63], прычым абодва азначэнні маюць даўнюю традыцыю. Але былі і ёсць крытыкі такіх трактовак.

[60] А. Шаланда, *Ацэнка ролі і значэння „казацка-сялянскай” вайны 1648–1651 гг. у гісторыі Беларусі ў найноўшай айчыннай гістарыяграфіі,* с. 381.

[61] А. Шаланда, *Ацэнка ролі і значэння „казацка-сялянскай” вайны 1648–1651 гг. у гісторыі Беларусі ў найноўшай айчыннай гістарыяграфіі,* с. 380–381.

[62] Як прыклад гл.: Ю. Мицик, *Джерела з історії Національно-визвольної війни українського народу середини XVII ст.*, Дніпропетровськ 1996; І. С. Стороженко, *Богдан Хмельницький і воєнне мистецтво у Визвольній війні українського народу середини XVII ст.,* Кн. 1: *Воєнні дії 1648–1652 рр.*, Дніпропетровськ 1996.

[63] Гл.: В. А. Смолій, В. С. Степанков, *Українська національна революція XVII ст. (1648–1676 рр.)*, Київ 1999; *Історія українського козацтва: нариси у двох томах,* Київ 2006, т. 1.

У прыватнасці, Наталля Якавенка, якая ўказвала, што ў тагачаснай вайне „слава" здабычы не прадугледжвала раздзялення насельніцтва па канфесійных, сацыяльных ці этнічных крытэрыях („сваімі" для казакоў як *„рыцарскага люду"* былі такія ж ваякі, нават з варожай арміі, а просты люд трактаваўся ў катэгорыі „чужых")[64], ці Фрэнк Сысын, які звяртаў увагу на некарэктнасць прымянення азначэнняў *„украінскае нацыянальнае паўстанне"* і *„рэвалюцыя"* для паўстання Б. Хмяльніцкага[65].

Дзіўна, што ў пошуку абгрунтаванняў новага погляду на паўстанні 1648–1651 гг. А. Шаланда апіраецца на артыкул Міколы Шкялёнка *„Да мэтодолёгіі гісторыі Беларусі"*, падыход якога палічыў *„асабліва важным"*[66]. Пішучы сваю працу для публікацыі ў газеце яшчэ ў гады Другой сусветнай вайны, М. Шкялёнак прапанаваў тады ацэньваць з'явы ў залежнасці ад таго, ці яны *„разбуралі беларускі гаспадарсьцьвенны арганізм, ці памагалі яго захаваньню"*, а паколькі ВКЛ лічылася беларускай дзяржавай, то станоўчымі героямі станавіліся абаронцы гэтай дзяржаўнасці, у т.л. гетман Януш Радзівіл, адмоўнымі ж — казакі, якія руйнавалі яе. Простая прэзентысцкая схема. Застаецца няясным, у чым жа палягае актуальнасць даўняй працы М. Шкялёнка для цяперашніх даследчыкаў, бо ў нацыянальнай гістарыяграфіі яго трактаванне паўстанняў XVII ст. было сапраўды наватарскім хіба толькі ў параўнанні з поглядамі В. Ластоўскага ці У. Ігнатоўскага. А ў наш час падобны *„нацыянальна-дзяржаўніцкі падыход"* у большай ці меншай ступені характарызуе публікацыі прадстаўнікоў нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі з пачатку 1990-х гадоў.

На сёння найбольш прыдатным для азначэння паўстанняў сярэдзіны XVII ст. і барацьбы з імі ў паветах сучаснай Беларусі нам па-ранейшаму ўяўляецца тэрмін *„казацка-сялянская вайна"*. Магчыма, ён не самы ўдалы, аднак такое азначэнне прынамсі ўказвае на асноўны склад паўстанцкага лагера і, што немалаважна, найменш абцяжарана ідэалагічнымі канатацыямі. Натуральна, толькі дзякуючы далейшай распрацоўцы тэмы разгляданых паўстанняў могуць з'явіцца больш адпаведныя іх азначэнні і ацэнкі.

---

64 Н. Яковенко, *В кольорах пролетарської революції* (рэц. на: В. Смолій, В. Степанков, *Українська національна революція XVII ст. (1648–1676 рр.)*, Київ 1999), „Український гуманітарний огляд" 2000, вып. 3, с. 58–78, тут — 70–71, 76–77.

65 F. E. Sysyn, *War der Chmel'nyćkyj-Aufstand eine Revolution? Eine Charakteristik der „großen unkrainischen Revolte" und der Bildung des kosakischen Het'manstaates,* „Jahrbücher für Geschichte Osteuropas" NF, 1995, bd. 43, hf. 1, s. 5, 17.

66 А. Шаланда, *Ацэнка ролі і значэння „казацка-сялянскай" вайны 1648–1651 гг. у гісторыі Беларусі ў найноўшай айчыннай гістарыяграфіі,* с. 376; М. Шкялёнак, *Беларусь і суседзі: гістарычныя нарысы*, Беласток 2003, с. 143.

У кантэксце гэтага нельга не пагадзіцца з А. Шаландам у тым, што беларускай гістарыяграфіі адчувальна не хапае цэльнага погляду на тыя падзеі. Няма комплексных глыбокіх даследаванняў згаданай вайны — як бы мы яе не называлі, няма новых прац, якія б дакладней вызначалі суадносіны сялянскага і казацкага элементаў паўстанцкага руху, ролю знешніх і ўнутраных сіл, улічвалі ўплывы эканамічнага, сацыяльнага і канфесійна-культурнага фактараў і да т.п. Пакуль гэта поле, якое чакае сваіх даследчыкаў.

## Streszczenie

Hienadź Sahanowicz, *Ocena powstania Chmielnickiego na obszarze Wielkiego Księstwa Litewskiego w białoruskiej historiografii*

Artykuł stanowi przegląd stanowisk historyków białoruskich do powstania Chmielnickiego na obszarze Wielkiego Księstwa Litewskiego. Autor zwraca uwagę na społeczno-polityczne uwarunkowania zmiany ich ocen, co znajduje swoje odzwierciedlenie w terminologii. Jeżeli jeszcze w latach 20. XX w. białoruska historiografia nie miała wypracowanego jednolitego poglądu w sprawie omawianych wydarzeń, to już w latach 30. były one traktowane jako przejaw walki klas, a na początku lat 50. została wprowadzona oficjalna radziecka formuła, zgodnie z którą ludowe wystąpienia w XVII w. były nazywane „*narodowowyzwoleńczą walką narodu białoruskiego o zjednoczenie z Rosją*". Akademicka historiografia w Mińsku odeszła od tej formuły jedynie po ogłoszeniu suwerenności Białorusi, przyjąwszy dla omawianych wydarzeń terminy wojna „*antyfeudalna*" i „*kozacko-chłopska*". Autor nie zgadza się z próbami interpretowania powstania Chmielnickiego na ziemiach Białorusi z perspektywy „*interesów narodowych*" i twierdzeniami, że najbardziej adekwatnym dla jego określenia pozostaje termin „*wojna kozacko-chłopska*".

## Abstract

Henadz' Saganovich, *Evaluation of the Khmelnytsky Uprising in the Territory of the Grand Duchy of Lithuania in Belarusian Historiography*

The article presents an outline of views of Belarusian historians on the Khmelnytsky Uprising in the territory of the Grand Duchy of Lithuania. The author highlights the social and political reasons for varying points of view, which are reflected in the terminology. Whereas in the nineteen twenties Belarusian historiography did not represent a single point of view concerning

the events, in the nineteen thirties the uprising would be perceived as a sign of fights between social classes and at the beginning of the fifties there was an official Soviet thesis, which would designate peoples' uprisings in the 17th century as *"a fight of the Belarusian people for national independence and union with Russia"*. The academic discourse of historiography in Minsk rejected this thesis only after Belarus had declared independent, and introduced new names, including *"an antifeudal"* war and *"Cossack-Peasant War"*. The author rejects the thesis about the Khmelnytsky Uprising in the territory of Belarus being interpreted from the point of view of *"national interests"* and presenting the uprising in the most adequate way as a *"Cossack-Peasant War"*.

**Dzmitry Kukhlei**
**(Mińsk)**

# Ocena wpływów Unii Europiejskiej na demokratyzacje Białorusi[1]

W przestrzeni postsowieckiej najbardziej uderzającym przykładem słabości pozycji Zachodu w kwestii wspierania demokracji jest właśnie Białoruś. Autorytarny lider, Alaksandr Łukaszenka, z gospodarczą i dyplomatyczną pomocą Rosji oraz przy wykorzystaniu gry na geopolitycznych sprzecznościach między Rosją a Zachodem, w ciągu ostatnich 24 lat, stworzył autorytarny system polityczny. Jego reżim wydaje się jednym z najbardziej stabilnych na świecie pomimo tego, że ulokowany jest w Europie przy granicach UE[2].

Od czasu włączenia do Europejskiej Polityki Sąsiedztwa[3] poziom demokracji na Białorusi według klasyfikacji Freedom House zmniejszył się z 6,54 w 2004 roku do 6,61 punktów w 2018 roku[4]. Wśród krajów PW Białoruś nadal ma najgorsze wyniki w budowaniu głębokiej i trwałej demokracji. Zajmuje piąte miejsce pod względem bezpieczeństwa międzynarodowego, politycznego dialogu i współpracy[5].

Na Białorusi ukształtował się wyraźny reżim personalistyczny prezydenta Alaksandra Łukaszenki, który podporządkował sobie inne gałęzie władzy. Parlament, samorządy lokalne i sądy zostały zdominowane przez prezydencką administrację i są „instytucjami śpiącymi". A. Łukaszenka nie stara się nawet o utworzenie „partii władzy", w której widzi zagrożenie swojej wyłączności w zarządzaniu krajem.

Michael Emerson zalicza Armenię, Gruzję, Mołdawię i Ukrainę do grupy krajów przechodzących transformację, natomiast Białoruś i Azerbejdżan do „wschodzących dynastii", które w różnym stopniu mają tendencję do dziedzicznego przekazywania władzy[6].

---

1 Tekst powstał jako praca końcowa w ramach Programu Stypendialnego Rządu RP im. Konstantego Kalinowskiego — Program II w roku akademickim 2018/2019. Opiekunem naukowym pracy był dr hab. Henryk Litwin ze Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego.

2 T. Ambrosio, *The Political Success of Russia-Belarus Relations: Insulating Minsk from a 'Color' Revolution,* "Demokratizatsiya" 2006, Vol.14, No. 3, p. 407–434.

3 *Europejska Polityka Sąsiedztwa. Rezolucja Parlamentu Europejskiego w sprawie Europejskiej Polityki Sąsiedztwa,* „Dziennik Urzędowy Unii Europejskiej" 2006.

4 *Nations in Transit 2018. Confronting Illiberalism* [online], https://freedomhouse.org/report/nations-transit/nations-transit-2018 [available: 20.03.2019].

5 *Eastern Partnership Index 2017* [online], https://eap-csf.eu/wp-content/uploads/EaP-Index-2017.pdf [available: 10.04.2019].

6 M. Emerson, *The Long and Hazardous Route to Democracy: Introduction and Conclusions,* [in:] *Democracy's Plight in the European Neighbourhood: Struggling transitions and proliferating dynasties*, eds. M. Emerson and R. Youngs, Brussels 2009, p. 22.

Jest zbyt wcześnie na stwierdzenie, czy teza Emersona o „wschodzącej dynastii" jest poprawna, ale pewne tendencji wskazują na to, że Alaksandr Łukaszenka próbuje umocnić pozycję swojej rodziny poprzez obsadzanie nią stanowiskay związanych ze służbą publiczną. Syn głowy państwa Wiktor Łukaszenko jest członkiem Rady Bezpieczeństwa Republiki Białoruś i doradcą prezydenta państwa ds. bezpieczeństwa narodowego. Warto zauważyć, że prezydent Alaksandr Łukaszenka natarczywie przedstawia swojego najmłodszego syna Mikołaja w przestrzeni publicznej nie tylko w kraju, ale także na arenie międzynarodowej.

Zdaniem białoruskich analityków Wiktor Łukaszenka ma mocne powiązania z tzw. „blokiem siłowików", służbami specjalnymi. Jednak Alaksandr Łukaszenka nie chce przekazywać kontrolę nad służbami specjalnymi nikomu i w tradycyjny sposób poprzez rotację osłabia od czasu do czasu wagę tzw. koła Wiktora Łukaszenki. Na przykład w 2017 roku głowa państwa zdymisjonowała i zainicjowała śledztwo przeciwko szefowi jednego z głównych i wpływowych ośrodków służb specjalnych Centrum Operacyjno — Analitycznego Siergiejowi Szpegunowi, który wywodzi się z bliskiego kręgu Wiktora Łukaszenki. W 2012 roku w wyniku prowokacji z naruszeniem białoruskiej granicy szwedzkimi obywatelami przyjaciel i współpracownik Wiktora Łukaszenki Igor Raczkowski został zwolniony ze stanowiska szefa Państwowego Komitetu Granicznego.

Aktualny stan stosunków między Brukselą i Mińskiem jest określony umową, podpisaną jeszcze w 1989 roku, w czasie istnienia ZSRR. Do tej pory UE nie ratyfikowała Umowy o Partnerstwie i Współpracy z Białorusią z 1995 roku, co było związane z odejściem Mińska od respektowania demokratycznych standardów po referendum w 1996 roku.

Brak podstawowej umowy między UE i Białorusią może świadczyć o priorytetach obu stron, jak i o zakresie wpływu UE na polityczną transformację kraju. Rządzące elity mają słabe polityczne związki z Zachodem, co negatywnie wpływa na poziom demokracji.

Od 2014 roku Mińsk zintensyfikował wysiłki do normalizacji stosunków z UE. Jest to w dużej mierze wynikiem kryzysu ukraińskiego, aneksji Krymu, rosyjskiej inwazji w Donbasie i wspierania przez Moskwę ukraińskich separatystów. Jest oczywiste, że rząd białoruski obawia się agresywnej polityki Kremla, nadmiernego uzależnienia politycznego i gospodarczego kraju od wschodniego partnera.

Spojrzenie na relacje z Białorusią polskich polityków zaczęło się zmieniać po rosyjskiej agresji w Ukrainie w 2014 roku. Po dojściu do władzy PiS polskie

kierownictwo rozpoczęło nawiązywać bliższe kontakty z Mińskiem. Krzysztof Mrozek twierdzi nawet, że *„uznawanie przez PiS kwestii demokratycznych za drugorzędne dla funkcjonowania polskiego państwa przełożyło się na wzrost gotowości polskich władz do współpracy z białoruskim reżimem*”[7]. Warto jednak zauważyć, że w 2010 roku Radosław Sikorski, minister spraw zagranicznych w rządzie Donalda Tuska z Platformy Obywatelskiej, aktywnie próbował wciągnąć Białoruś w współprace z UE, w tym także w kwestii demokracji. Jednak działania te nie zostały zakończone sukcesem.

Od 2015 roku polska polityka wobec Białorusi traktowana jest jako „reset" lub pragmatyzacja. Pomimo braku znaczących zmian w polityce wewnętrznej liczba wzajemnych kontaktów i wizyt kierownictwa Polski na Białorusi zwiększa się, co powoduje krytykę ze strony białoruskiego niezależnego społeczeństwa obywatelskiego i opozycji. Jednocześnie nie słychać polskiej krytyki w stosunku do białoruskiej strony w sferze polityki historycznej, mimo, że prawie w ogóle się nie zmieniła od czasów ZSRR. W tym czasie dekomunizacja na Ukrainie powoduje pewne napięcie między Kijowem i Warszawą z powodu różnicy poglądów na szereg wydarzeń i postaci historycznych.

Pragmatyczne stosunki Litwy i Łotwy z Białorusią przynoszą korzyści ekonomiczne obu państwom. Powstrzymuje to Litwę od przyłączenia się do sankcji w zakresie, na jaki mogą sobie pozwolić inne kraje zachodnie. Powtórzmy za Arkadiuszem Czwołkiem: *„W swojej polityce Litwa podchodzi pragmatycznie do problemu przestrzegania praw człowieka na Białorusi*”[8].

Ponadto na relacje białorusko — litewskie i pozycję Wilna wpływa litewski biznes, który ma istotne powiązania i interesy na Białorusi i nie jest zainteresowany zwiększaniem nacisku na Mińsk w kwestii dążenia do demokracji. Wysoki poziom współpracy gospodarczej nie wpływa jednak intensywność kontaktów politycznych na wysokim szczeblu między Białorusią i Litwą.

W ostatnim czasie kwestia budowy elektrowni atomowej na granicy z Litwą stała się poważną przeszkodą w stosunkach dwustronnych. Wilno również próbuje wpisać tę kwestię do agendy stosunków między Mińskiem a Brukselą.

Białoruś jest pod znaczącym wpływem Federacji Rosyjskiej, która postrzega wspieranie demokratyzacji w regionie przez kraje zachodnie jako wyzwanie dla jej polityki zagranicznej. Białoruś jest członkiem bloku militarnego pod egidą Rosji — Organizacji Układu o Bezpieczeństwie Zbiorowym (OUBZ), także Euroazjatyckiej Unii Gospodarczej (EUG), Państwa Związkowego Rosji

---

7 K. Mrozek, *Reset i kontynuacja. Polityka rządu PiS wobec Białorusi,* Warszawa 2018, s. 8.

8 A. Czwołek, *Nowe otwarcie w polityce Litwy wobec Białorusi? Relacje litewsko-białoruskie po 2006 r.,* „Nowa Polityka Wschodnia" 2016, nr 1(10), s. 54.

i Białorusi. Jednakże białoruska polityka zagraniczna, stawiająca sobie za cel przetrwanie, nie przystawała dotąd do agresywnej strategii Kremla na obszarze postsowieckim[9].

Muszę się zgodzić z J. Tymanowskim, że *„umacnianiu autorytaryzmu na Białorusi w znaczącym stopniu sprzyjają (…) wpływ środowiska międzynarodowego, w którym sąsiedzka Rosja składa korzystne propozycje współpracy poprzez Unię Celną oraz Euroazjatycką Unię Gospodarczą*”[10]. Pomimo pewnych korzyści dla Białorusi w uczestnictwie w Euroazjatyckiej Unii Gospodarczej, Rosja nadal widzi ten sojusz jako narzędzie polityczne do reintegracji byłego Związku Radzieckiego.

Rosja jest głównym partnerem zagranicznym w stosunkach gospodarczych Białorusi. Na przykład, w ciągu 2004–2018 roku obroty handlowe między Białorusią i Rosją prawie nie zmieniały się i wynosiły około połowy (49 %) całości, z najwyższym wskaźnikiem w 2004 roku — 58,5 %, najmniejszym w 2010 roku — 46,59 %[11]. Udział krajów UE w ogólnym obrocie towarowym Białorusi w tym okresie był prawie dwa razy mniejszy — średnio 27 %. Największa wartość (33,6 %) została osiągnięta w 2006 roku, a najmniejsza (16,9 %) w 2015 roku. Jednak obroty handlowe Białorusi z UE w odróżnieniu od stosunków gospodarczych z Rosją mają dodatni bilans.

Trzeba też zaznaczyć, że integracja w ramach EUG nie przynosi korzyści gospodarczych, których Mińsk oczekiwał wcześniej. To powoduje, że w ostatnich latach, jak twierdzą Anna Maria Dyner i Maxim Rust, *„część elity władzy jest rzeczywistym wyrazicielem intensyfikacji i normalizacji stosunków z Zachodem*”[12].

Alaksandr Łukaszenka w latach 2008–2010 prowadził politykę ograniczonego łagodzenia życia politycznego mając pewność zwycięstwa w wyborach, co potwierdza tezy Collier'a, że dyktatorzy dysponujący wsparciem społecznym mają tendencję do akceptacji warunków demokratyzacji w zamian za pomoc zagraniczną[13]. Zmniejszenie represji i rozszerzenia swobód w ramach istniejącego reżimu A. Łukaszenki w latach 2008–2010 wyglądało jako etap liberalizacji, o którym tranzytolodzy mówią jako o początkowym etapie przejścia do demokracji.

[9] K. Kłysiński, *(Nie)realna neutralność. Próby redefinicji białoruskiej polityki zagranicznej,* „Komentarze" 2018, nr 276, s. 5.

[10] J. Tymanowski, *Rola i znaczenie Republiki Białoruś we współczesnej Europie,* Toruń 2017, s. 116.

[11] *Основные показатели внешней торговли* [online], http://www.belstat.gov.by/ofitsialnaya-statistika/realny-sector-ekonomiki/statistika-vneshneekonomicheskoy-deyatelnosti/vneshnyaya-torgovlya-tovarami/godovye-dannye/osnovnye-pokazateli-vneshney-torgovli/ [доступ: 20.03.2019].

[12] A. Dyner, M. Rust, *Białoruś między Wschodem a Zachodem: stare/nowe dylematy,* Wojnowice 2018, s. 9.

[13] P. Collier, *The Failure of Conditionality,* [in:] *Perspectives on Aid and Development*, eds. C. Gwin and J. M. Nelson, Washington 1997, p. 52–77.

Białoruś otrzymała wówczas z Międzynarodowego Funduszu Walutowego pięć kredytów na łączną sumę około USD3,5 mld. Przed wyborami prezydenckimi w 2010 roku z pomoca tych kredytów Alaksandr Łukaszenka przez krótki czas podniósł poziom życia ludzi. W ciągu dwóch lat przed wyborami prezydenckimi wynagrodzenie średnie w kraję wzrosło o 57 %, chociaż PKB tylko o 7,9 %. W wyniku tego poparcie dla prezydenta A. Łukaszenki zwiększyło się z 39,9 % na początku 2009 do 58 % w dzień wyborów pod koniec 2010 roku (tabl. 1).

Na poparcie dla głowy państwa wpływały w mniejszym stopniu i inne czynniki, jak na przykład: wzmocniona propaganda w państwowych mediach podczas wyborów, wojna informacyjna w prasie rosyjskiej wobec prezydenta A. Łukaszenki, polityczna odwilż w stosunku do przeciwników białoruskiego kierownictwa, poprawa stosunków z Zachodem, a na koniec kampanii wyborczej[14] uregulowanie[15] stosunków[16] z Kremlem.

**Tab. 1. Poparcie dla prezydenta A. Lukaszenki i średnie wynagrodzenie w latach 2009–2010.**

| Data | 03.09 | 06.09 | 09.09 | 12.09 | 03.10 | 06.10 | 09.10 | 10.10 | 12.10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Poparcie[14] | 39.2 | 41.9 | 39.4 | 42.5 | 42.7 | 45.6 | 39.0 | 44.0 | 58.0[15] |
| Wynagrodzenie średnie, USD[16] | 336,8 | 359,8 | 366,6 | 384,8 | 369,8 | 409,7 | 431,7 | 442,5 | 530,0 |

Program MFW nie doprowadził jednak do zmian w białoruskiej gospodarce. Niektóre uzgodnione warunki wprowadzenia reform gospodarczych nie zostały spełnione przez Mińsk, choć cała kwota kredytu została przekazana. Po zakończeniu programu pomocowego MFW, Alaksandr Łukaszenka dostrzegł zagrożenie „kolorowej" rewolucji i powrócił do polityki represji.

Według Kamila Kłysińskiego: najważniejszą przyczyną powrotu do polityki represji było poparcie rosyjskie, jakie Łukaszenka uzyskał przed wyborami[17]. Kilka miesięcy przed wyborami Rosja zaczęła kamapanie medialną przeciwko prezydentowi Łukaszence. Na kontrolowanych przez władze rosyjskie kanałach telewizyjnych pojawiły się filmy poniżające białoruskie kierownictwo. Jednak dwa tygodnie przed datą wyborów A. Łukaszenka zdołał dojść do porozumienia

14 Wsparcie A. Łukaszenka według NISSEP, odpowiadając na pytanie: „*Gdyby jutro odbyły się wybory prezydenta Białorusi, na kogo byście głosowali?"*.

15 Dane według informacji NISSEP [online], http://www.old.iiseps.org/index.html [dostęp: 20.03.2019].

16 *Динамика изменения средней зарплаты в Беларуси с 2004 по 2015 годы (таблицы)*[online], https://mojazarplata.by/srednjaja-zarplata/dinamika-izmenenija-srednej-zarplaty-v-Belarusi-za-2004–2010-tablicy#-4 [доступ: 20.03.2019].

17 K. Kłysiński, *Białoruś: kontynuacja polityki represji* [online], https://www.osw.waw.pl/pl/publikacje/analizy/2010–12–29/bialorus-kontynuacja-polityki-represji [dostęp: 20.03.2019].

z Kremlem, uzyskać wsparcie polityczne i obietnice w sferze gospodarczej. W zamian musiał sprzedać swe zasoby strategiczne — drugą połowę akcji gazowego monopolisty Beltransgaz.

Społeczeństwo na Białorusi jest podzielone w kwestii wyznawanych wartości, preferencji geopolitycznych, poglądów na historyczny proces kształtowania się państwa białoruskiego, narodowych bohaterów. Socjolog Oleg Manaew zauważa, że *„bardzo ważną cechą białoruskiej tożsamości jest zróżnicowanie, w istocie nawet rozłam społeczeństwa”*[18].

Dla części opozycji i społeczeństwa obywatelskiego, które obejmuje od 20 do 30 % ludności, podstawowymi wartościami są integracja europejska, dziedzictwo Wielkiego Księstwa Litewskiego i Białoruskiej Republiki Ludowej (1918), oraz negatywne postrzeganie rosyjskiej i radzieckiej przeszłości.

Pozostała część ludności przychylnie odnosi się do integracji z Rosją, dziedzictwa Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej i heroicznej epoki Wielkiej Wojny Ojczyźnianej w latach 1941–1945. W epoce Łukaszenki odbywa się trwałe ożywienie „człowieka sowieckiego” w białoruskim społeczeństwie w wyniku działań państwa białoruskiego i jego ideologów.

Widzimy zatem głęboki podział w białoruskim społeczeństwie, podczas gdy to właśnie zbieżność poglądów tworzy jedną z głównych przesłanek do demokratycznej transformacji.

Na Białorusi brakuje oznak demokratyzacji, pomimo wspierania społeczeństwa obywatelskiego i opozycji politycznej ze strony instytucji zachodnich. Niektórzy autorzy twierdzą nawet, że pomoc zachodnia na rzecz rozwoju demokracji wzmocniła autokratyczny reżim na Białorusi, a nie doprowadziła do demokratyzacji[19]. To wiąże się ze współzależnością donatorów i beneficjentów pomocy, a także autorytarnego przywództwa, gdyż wszystkie te podmioty są zainteresowane w utrzymaniu politycznego *status quo*.

Tymczasem wsparcie dla społeczeństwa obywatelskiego i opozycji politycznej na Białorusi może ulec redukcji w najbliższych latach. Decyzja ta została spowodowana zarówno przez czynniki wewnętrzne w UE i Stanach Zjednoczonych, jak na skutek agresywnej reakcji Rosji na próby Zachodu by wpływać na przemiany demokratyczne na obszarze postsowieckim.

Wydaje się jednak, że to wsparcie i współdziałanie liderów opozycji z Zachodem przynosi korzyści w przeciwdziałaniu możliwym próbom destabilizacji sytuacji ze strony Kremla. W 2017 roku dekret „o pasożytnictwie” wywołał

18 *Олег Манаев о расколе Беларуси* [online], https://nmnby.eu/news/analytics/6838.html [доступ: 24.04.2019].

19 A. Pikulik, S. Bedford, *Aid Paradox: Strengthening Belarusian Non-democracy through Democracy Promotion*, „East European Politics and Societies” 2018, p. 27.

falę protestów społecznych. To nie opozycja wyprowadziła na ulice wielu miast tysiące ludzi, jednak działacze opozycji uczestniczyli aktywnie w masowych protestach[20]. Podczas protestów we wschodnim i najbardziej zrusyfikowanym regionalnym centrum Witebsku niezidentyfikowana grupa działaczy próbowała zmienić temat protestu w prorosyjskim kierunku. Jednak ich działania nie przyniosły oczekiwanego rezultatu, w tym dzięki temu, że w protestach wzięło udział i inicjatywy działaczy opozycji pro-zachodniej.

Na obszarze postsowieckim mechanizmy transformacyjne UE tracą swoją skuteczność ze względu na brak gwarancji dla tych krajów ich szybkiego wejścia do UE. Białoruś jest sojusznikiem Rosji w wielu postsowieckich projektach integracyjnych. Nie zgłasza intencji integracji z UE. W porównaniu z rozszerzeniem, które jest najbardziej skutecznym sposobem promowania demokracji wykorzystywanym przez podmiot zewnętrzny, EPS jest słabym mechanizmem rozprzestrzeniania demokracji[21].

W okresie udzielania pomocy w ramach EISP/EIS sytuacja z rozwojem demokracji według klasyfikacji Freedom House w takich krajach jak Armenia, Białoruś i Ukraina nie zmieniła się, bez względu na nierównomierne udzielanie pomocy między krajami w zależności od wykazania zaangażowania reformami.

Najmniej środków z unijnych funduszów EISP/EIS otrzyma Białoruś w odróżnieniu od Armenii i Ukrainy (tabl. 2).

**Tabl. 2. Wypłaty według instrumentów EISP/EIS na lata 2014–2020 w mln euro.**

| # | Państwo | Ludność, mln[22] | 2014–2020, mln | Per capita, EUR |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Armenia[23] | 3,038 | 308,0 | 101 |
| 2 | Białoruś[24] | 9,527 | 158,0 | 17 |
| 3 | Ukraina[25] | 43,952 | 1000,0 | 23 |

20 *У Беларусі прайшлі масавыя акцыі супраць дэкрэта „аб дармаедах"* [online], https://by.belapan.by/archive/2017/03/15/893551_456233/ [доступ: 10.04.2019]

21 K. Raik, *Promoting democracy in the eastern neighbourhood — the limits and potential of the ENP, „The International Spectator"* 2006, Vol. 41, No. 3, p. 35.

22 *CIA World Factbook* [online], https://www.cia.gov/library/publications/the-world-factbook/[available: 20.03.2019].

23 *Programming of the European Neighbourhood Instrument (ENI) — 2017–2020 — Single Support Framework for EU support to Armenia* [online], https://ec.europa.eu/neighbourhood-enlargement/sites/near/files/armenia_ssf_2017–2020_final.pdf [available: 20.03.2019].

24 *Strategy Paper / Multiannual Indicative Programme. Belarus 2014–2017* [online], http://eeas.europa.eu/archives/docs/enp/pdf/financing-the-enp/belarus_2014_2017_summary_of_the_programming_document_en.pdf [available: 20.03.2019].

25 *Ukraine* [online], https://ec.europa.eu/neighbourhood-enlargement/neighbourhood/countries/ukraine_en [available: 20.03.2019].

Zgodnie z tabelą 3. można nawet zauważyć, że w Armenii ogólny indeks demokracji w porównaniu z 2014 rokiem nawet zmniejszył się. Na Ukrainie od 2014 roku jest postęp w demokratyzacji instytucji państwowych, chociaż w ostatnim 2018 roku odnotowano pewien spadek. W tym czasie na Białorusi obserwujemy niewielką poprawę poziomu indeksu demokracji. Jest oczywiste, że w krótkim i średnim okresie pomoc UE na rzecz rozwoju instytucji w wyżej wymienionych państwach nie wpływała na poziom demokracji w tych krajach.

**Tabl. 3. Indeks demokracji według Freedom House**[26]

| Kraj / rok | 2014 | 2015 | 2016 | 2017 | 2018 |
|---|---|---|---|---|---|
| Armenia | 5,36 | 5,36 | 5,36 | 5,39 | 5,43 |
| Białoruś | 6,71 | 6,71 | 6,64 | 6,61 | 6,61 |
| Ukraina | 4,93 | 4,75 | 4,68 | 4,61 | 4,64 |

Według indeksu odporności na dezinformację najbardziej spośród omawianych trzech krajów podatnym na wpływy Kremla społeczeństwem jest białoruskie, a następnie ukraińskie i armeńskie (tabl. 4). To potwierdza fakt, że Kreml głównie powstrzymuje demokratyzację krajów postsowieckich dzięki medialnej propagandzie i dezinformacji, a nie tylko poprzez bezpośrednie wsparcie władców postsowieckich z pomocą finansowo-ekonomicznych, dyplomatycznych i wojskowo-politycznych mechanizmów.

**Tabl. 4. Indeks odporności na dezinformację**[27]

| Kryterium / państwo | Armenia | Białoruś | Ukraina |
|---|---|---|---|
| Wpływ kremlowskich mediów na społeczeństwo | 2,2 | 2,9 | 2,6 |
| Jakość systemu reagowania | 2,3 | 2,7 | 2,5 |
| Wrażliwość na wojnie cyfrowej | 2,1 | 2,8 | 2,2 |

W ciągu ostatnich dwudziestu lat Rosja wielokrotnie wykorzystywała zależność sąsiednich państw od dostaw gazu i ropy naftowej jako instrument nacisku. Okresowe „gazowe wojny" między Białorusią i Rosją odbywają się od połowy lat 1990. W końcu prezydent A. Łukaszenka był zmuszony

[26] https://freedomhouse.org/

[27] *Disinformation Resilience in Central and Eastern Europe* [online], http://prismua.org/wp-content/uploads/2018/06/DRI_CEE_2018.pdf [available: 20.03.2019].

sprzedać Rosji najpierw 50 % rurociągów gazowych, a po wyborach 2010 roku pozostałe 50 %.

Białoruś jest w 100 % zależna od dostaw gazu przez Gazprom. Pozwala to rosyjskim władzom utrzymać wpływ na procesy polityczne i politykę zagraniczną wymienionego państwa.

Przedstawione analizy uprawniają do sformułowania kilku wniosków dotyczących wpływu EU na demokratyzację krajów Partnerstwa Wschodniego, a także przeciwdziałania transformacji przez Kreml.

Odporność autorytaryzmu białoruskiego i niewielki wpływ UE na oficjalny Mińsk można wyjaśnić przez:

- dominację wojskowo-politycznych i gospodarczych więzi Białorusi z Rosją nad związkami z UE;
- brak jedności narodowej Białorusinów w zakresie wartości geopolitycznych, kulturowych i narodowych;
- niedorozwój instytucji państwowych, takich jak parlament, partie polityczne, samorządy terytorialne, niezawisłe sądy, niepaństwowa prasa, uczciwe wybory;
- słabo rozwinięte społeczeństwo obywatelskie i polityczną opozycję;
- dominację państwa w gospodarce.

Z drugiej strony rosną szanse przyspieszenia demokratyzacji Białorusi w najbliższym czasie, dzięki zmianie uwarunkowań w zakresie czynników, które według T. Carothersa są głównymi przeszkodami postkomunistycznej transformacji[28]:

- uwolnienie gospodarki od zależności od ropy naftowej, na skutek dążenia Kremla do zmniejszenia pomocy dla Białorusi w najbliższych latach;
- zmniejszenie podziałów w zakresie tożsamości może nastąpić w wyniku ostrożnych, choć czasami bardzo spektakularnych, prób znalezienia przez białoruskie władze wspólnego języka z opozycją w zakresie polityki historycznej. Białoruskie kierownictwo zmuszone jest pogodzić się z „miękką białorutenizacją” w wyniku presji społecznej i zagrożenia wpływami informacyjno-kulturalnymi Rosji na ludność białoruską.

[28] T. Carothers, *The "Sequencing" Fallacy*, „Journal of Democracy" 2007, Vol. 18, No. 1, p. 12–27.

## Скарочаны змест

Дзмітрый Кухлей, *Ацэнка ўплываў Уніі Еўрапейскай на дэмакратызацыю Беларусі*

У артыкуле зроблена спроба ацаніць уплывы Уніі Еўрапейскай на працэсы дэмакратызацыі Беларусі. Разглядаюцца разнастайныя механізмы і працэдуры, якія выкарыстоўваюцца еўрапейскімі палітыкамі і арганізацыямі з мэтай падтрымкі дэмакратычных зменаў у большасці постсавецкіх краін. Аналізуюцца таксама роля і ўплывы Расіі на дэмакратычныя працэсы у былых савецкіх рэспубліках, у прыватнасці ў Беларусі. Выяўляюцца сродкі, якія расійскае кіраўнітцва выкарыстоўвае дзеля ўтрымання сваіх уплываў на постасавецкай прасторы. Менавіта рэакцыя Крамля, а таксама геапалітычная гульня на супярэчнасцях паміж Расіяй і Заходняй Еўропай дазваляюць такім аўтарытарным кіраўнікам, як Аляксандр Лукашэнка, утрымліваць сваю ўладу і мінімалізаваць уплывы Уніі Еўрапейскай на дэмакратычныя працэсы ў постсавецкіх краінах.

## Abstract

Dzimitry Kukhlei, *The assessment of the EU influence on the democratization of Belarus*

The article is aimed at evaluating the influence of the European Union on the democracy processes in Belarus. The author endeavors to evaluate various mechanisms used by external agents in order to promote democratic changes in the former Soviet Union states. Author also analyses the role of the Kremlin government in the democratization of the post-Soviet states as well as the measures used by the Russian government to keep its position in the post-Soviet area. It is the reaction of the Kremlin as well as the fight of geopolitical oppositions between Russia and the West that helps authoritarian rulers like Alaksandr Lukashenka to keep their power and minimize the influence of the support of the EU on the democratic transformation of the post-Soviet states.

**Зміцер Юркевіч**
**(Мінск)**

# Дакументальныя крыніцы да радаводу Станіслава Манюшкі

Станіслаў Манюшка — выбітны еўрапейскі музыка, кампазітар беларускага паходжання. Сёлета, у 200-ую гадавіну яго нараджэння, у Беларусі, Польшчы, Літве запланавана і ўжо праведзена вялікая колькасць мерапрыемстваў у гонар Манюшкі. Гэта міжнародныя навуковыя канферэнцыі, вечарыны і канцэрты, і, між іншым, у Беларусі, як падаецца аўтару, гэты год можа лічыцца годам сапраўднага вяртання імя славутага земляка на радзіму. Адным са сведчанняў гэтага з'яўляецца выданне трох кніг: *„Станіслаў Манюшка"* Аляксандра Валіцкага (перавыданне на беларускай мове кнігі 1873 года, падрыхтаванае Камілай і Язэпам Янушкевічамі), *„Літоўскі пеўнік"* Язэпа Янушкевіча, *„Манюшка на Радзіме"* Віктара Скарабагатава, Уладзіміра Мархеля, Ганны Каржанеўскай. Меў гонар далучыцца да святкавання і аўтар гэтых радкоў. Акрамя ўдзелу ў канферэнцыях і гэтай публікацыі, ім арганізаваны мерапрыемства па ўпарадкаванні могілак у Радкоўшчыне, дзе былі пахаваны бацькі кампазітара, а таксама вечарына памяці Станіслава Манюшкі ў межах фестывалю сучаснага мастацтва ДАХ.

## Радавод „па мячы": Манюшкі — Вайніловічы

На сённяшні дзень адзінай працай, у якой разглядаецца паходжанне ўласна роду Манюшкаў герба „Крыўда", застаецца кніга прафесара Юзафа Марошака, якая выйшла ў суаўтарстве з Рышардам Беднарэкам[1]. Вядомы знаўца Падляшша, аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі гэтага рэгіёна праф. Марошак на падставе архіўных дакументаў стварыў

[1] J. Maroszek, R. W. Bednarek, *Stanisław Moniuszko i jego Podlaski rodowód,* Białystok 2010.



**Герб „Крыўда"**

даволі цэласную карціну гісторыі роду ад пачатку XVI ст. і давёў яе да пачатку XIX ст. Праўда, пры ўсёй грунтоўнасці, аўтар не адказаў на пытанні: хто (Матыс, войт Забельскі і Яцвяскі ў 1505 г. ці Пётр) быў пратапластам роду і адкуль Манюшкі на Падляшшы?

Мэтай дадзенага артыкула не з'яўляецца вырашэнне гэтага пытання, але маем дадаць, што каланізацыя памежных з Гродзеншчынай падляшскіх зямель ішла пераважна з боку ВКЛ. Так, напрыклад, той жа Марошак сцвярджаў, што мястэчка Кнышын, заснавана гродзенцамі Кнышэвічамі[2]. А мясціны, у якіх жылі баяры Манюшкі, спярша належалі Глінскім (да 1508 г.), а потым Радзівілам. У 1569 годзе Манюшкі вымушаны былі прысягнуць на вернасць Польскаму каралеўству. Бо па ўмовах Люблінскай уніі Падляшша разам з тэрыторыяй Русі-Украіны адрывалася ад ВКЛ на карысць Польшчы. Але сувязі з радзімай Манюшкі не гублялі, аб чым сведчаць згадкі прадстаўнікоў роду на Ваўкавышчыне, Віленшчыне, Наваградчыне і Міншчыне ў XVII–XVIII стст. Цікава і тое, што дзед кампазітара ў 1750 годзе адправіўся „ў навукі" ў сталіцу ВКЛ, Вільню, а не ў Варшаву, да якой было бліжэй.

Станіслаў Манюшка старэйшы, як сцвярджае праф. Марошак са спасылкай на метрычныя кнігі Далістоўскай парафіі, быў ахрышчаны 8 траўня 1734 года[3]. Шлюб ягоных бацькоў, Юзафа Манюшкі і Марыяны Урачынскай з Урачэня, адбыўся 26 лютага 1727 года ў тым самым касцёле ў Далістове[4]. Далейшы лёс Станіслава вядомы з кнігі АляксандраВаліцкага[5], першага біёграфа кампазітара Станіслава Манюшкі, таму засяродзімся на невядомым.

Нам пашчасціла знайсці метрыку шлюбу дзеда кампазітара з Эвай з Вайніловічаў, а таксама адказаць на адно пытанне яе радаводу. Бо да нядаўняга часу было вядома толькі тое, што яе бацька быў *„ротмістрам*

[2] J. Maroszek, *Pogranicze Litwy i Korony w planach króla Zygmunta Augusta: z historii dziejów realizacji myśli monarszej między Niemnem a Narwią,* Białystok 2000, s. 49.

*наваградскім”*. З тэстаменту яе бацькі, Антона Вайніловіча, вынікае, што ажаніўся ён прыкладна ў 1762 годзе на Ганне з Бжазоўскіх, прадстаўніцы старога роду са Случчыны. У шлюбе нарадзіліся сын Ян і дочкі Эва і Марыяна. Эва стала жонкай Станіслава Манюшкі, а Ян і Марыяна абралі рэлігійнае жыццё. Дарэчы, ксёндз Мікалай Бжазоўскі, які злучыў шлюбам Станіслава Манюшку і Эву з Вайніловічаў, быў родным братам Ганны, жонкі Антона.

У публікацыі прыводзяцца наступныя метрыкі: шлюбу дзядоў — Станіслава Манюшкі і Эвы з Вайніловічаў, смерці Эвы Вайніловіч, хростаў і смярцей іх дзяцей, шлюбу Чэслава Манюшкі і Альжбэты з Маджарскіх (бацькоў кампазітара), хросту Станіслава Манюшкі (кампазітара), а таксама метрыкі яго шлюбу і смерці.




**Схема радаводу Станіслава Манюшкі**

## Радавод „па кудзелі”: Маджарскія — Алізаровічы

У дадзенай публікацыі прыводзяцца таксама некаторыя са знойдзеных метрычных запісаў, датычныя продкаў Станіслава Манюшкі па жаночай лініі. Перш за ўсё гэта метрыка шлюбу Лявона Маджарскага (прадзед кампазітара) і Марыяны са Станішэўскіх (1768). За ёй ідзе метрыка хросту іх сына Антона (1770) — дзеда кампазітара. Прыводзяцца метрыка шлюбу Антона Маджарскага і Тэафіліі з Алізаровічаў (1799), а таксама метрыка смерці апошняй, якая памерла ва ўзросце 26 гадоў. Не атрымалася знайсці метрычны запіс хросту іх адзінай дачкі Альжбэты, маці Станіслава Манюшкі, якая нарадзілася ў 1800–1801 гг.

Гісторыя роду Маджарскіх, якія сваім пратапластам лічылі венгра Міхала[6], што служыў у аўстрыйскім войску і патрапіў у турэцкі палон,

[6] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі* (далей — НГАБ), ф. 319, воп. 2, адз. зах. 2141, Маджарскія.

вядома даследчыкам[7]. На карысць армянскай версіі паходжання пратапласты роду на сённяшні дзень не прыведзена сур'ёзных аргументаў. Унук Міхала (сын Нумы) Ян разам з жонкай (магчыма, яе імя Разалія) і сынам Лявонам па запрашэнні Міхала Казіміра Радзівіла („Рыбанькі") перабіраецца ў ВКЛ і засноўвае ў Слуцку знакамітую персіярню. Лявон бярэ шлюб з прадстаўніцай дробнага шляхецкага роду са Случчыны. У 1790 г. род быў набілітаваны і атрымаў герб „Дар". Антон, сын Лявона, ажаніўся на прадстаўніцы вельмі старога гродзенскага шляхецкага роду Алізаровічаў. Да нядаўняга часу даследчыкам было вядома толькі яе імя і прозвішча. Нам удалося знайсці дакументы, датычныя сям'і Тэафілы[8]. Яе бацькам быў ротмістр гродзенскага павета Францішак-Канстанцін Алізаровіч. У шлюбе з Петранэлай з Кандыбаў нарадзіліся Юзаф, Антон, Францішка, Ганна-Караліна, Юзафата і Тэафілія. Пасля смерці мужа Петранэла Алізаровіч з Кандыбаў узяла паўторны шлюб з Антонам Ваўкавыцкім, гродзенскім гараднічым. Кандыбы, як і Алізаровічы,— беларускі шляхецкі род з вельмі глыбокімі каранямі на Берасцейшчыне і Гродзеншчыне. Такім чынам, сцверджанне аб тым, што маці Станіслава Манюшкі была армянкай, не знаходзіць пацвярджэння.

## Радавод Аляксандры Мілер (Мюлер), жонкі Станіслава Манюшкі

Аляксандра Манюшка, жонка кампазітара, як падаецца, не асабліва цікавіла даследчыкаў. Аўтар не здолеў знайсці ніводнай публікацыі, якая б была прысвечана ёй або яе радаводу. Намі ўпершыню ўводзяцца ў навуковы ўжытак некаторыя новыя дакументы, датычныя гэтай асобы, якія дазволілі раскрыць яе радавод да дзядоў па мужчынскай і жаночай галінах, а таксама абвергнуць некаторыя памылковыя звесткі.

У артыкуле пра Станіслава Мюлера[9], роднага брата Ксаверыя (бацькі Аляксандры), сцвярджаецца, што ягоным бацькам быў Ян Мюлер (Мілер) — львоўскі купец, пазней — віленскі бургамістр. Таксама сцвярджаецца, што ажаніўся Ян Мюлер у Варшаве на Альжбэце з Краўзаў. Гэтыя звесткі патрабуюць праверкі, бо прозвішчы Краўзэ, Мюлеры, Мілеры сустракаюцца ў віленскіх метрычных кнігах.

Ян-Фрыдрых Мюлер (пам. у 1801) і Альжбэта з Краўзаў (пам. да 1811) мелі некалькі сыноў. Аўтарам знойдзены метрыкі хростаў Францішка-

7 *Polski słownik biograficzny,* t. XIX, z. 1, s. 128–129.

8 НГАБ, ф. 1711, воп. 1, спр. 71, арк. 12–12 адв., 861–862 адв. (Гродзенскі гродскі суд, 1789–1790).

9 *Polski słownik biograficzny,* t. XXII, z. 3, s. 319.

Ксаверыя (12 снежня 1781 — ?)[10], Станіслава (17 ліпеня 1787–15 чэрвеня 1847)[11], Юзафа-Антона (14 сакавіка 1790 — ?)[12], Казіміра (15 лютага 1798 — ?)[13].

21 студзеня 1811 г. у віленскім касцёле св. Яна Станіслаў, капітан расійскіх войскаў у адстаўцы, пабраўся шлюбам з Альжбэтай з Закрэўскіх, дачкой капітана былых польскіх войскаў[14]. Ад гэтага шлюбу нарадзілася толькі адна дачка — Сафія[15]. Яна ў 1846 г., 11 жніўня, стала жонкай выкладчыка музыкі і кампазітара Караля Штурма (сын шляхты Вільгельма-Фердынанда і Апалоніі з Напяркоўскіх Штурмаў, памёр 19 сакавіка 1859 г. ва ўзросце 42 год ад сухотаў). Пахаваны на віленскіх Бернардынскіх могілках 27 сакавіка[16]. Станіслаў Мюлер пакінуў пэўны след у гісторыі, і з яго жыццяпісам можна азнаёміцца ў адмысловай публікацыі[17].

Што датычыцца Ксаверыя, то пра яго вядома значна меней. 19 лістапада 1812 г. у касцёле св. Яна ў Вільне Ксаверый Мюлер, ротмістр расійскага войска, пабраўся шлюбам з Марыяй, сястрой Альжбэты з Закрэўскіх[18]. У гэтым шлюбе нарадзілася некалькі дзяцей: 17 верасня 1813 г. ахрышчаны першынец — Ян-Станіслаў-Ксаверый-Ігнат[19]; 25 студзеня 1815 г. ахрышчаны сын Аляксандр[20].

Асобна неабходна вылучыць дату нараджэння Аляксандры, будучай жонкі Станіслава Манюшкі. Лічыцца, што яна была маладзейшая за свайго будучага мужа і нарадзілася ў 1821 г. Аднак нам пашчасціла знайсці метрыку яе хросту, якая дае дакладную дату нараджэння і абвяргае ранейшыя звесткі. Аляксандра Мюлер нарадзілася 13 сакавіка 1818 года і была ахрышчана 21 чэрвеня[21]. То бок яна была старэйшая за мужа на год і два месяцы (Станіслаў нарадзіўся 5 траўня 1819 г.). Памерла Аляксандра ў 1891 г. у Варшаве. Магчыма, да з'яўлення памылковай даты яе нараджэння прывяло тое, што ў метрыцы смерці Аляксандры

[10] *Lietuvos valstybės istorijos archyvas* (далей — LVIA), f. 604, ap. 10, b. 13, p. 92 v.

[11] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 13, p. 217 v.; f. 604, ap. 20, b. 59, p. 42.

[12] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 13, p. 280.

[13] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 19, p. 127.

[14] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 222, p. 78 v.

[15] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 240, p. 92 v.

[16] E. Małachowicz, *Wilno. Dzieje, architektura, cmentarze,* Wrocław, 1996, s. 375; LVIA, f. 604, ap. 10, b. 321, p. 157; LVIA, f. 604, ap. 20, b. 56, p. 38 v.

[17] *Polski słownik biograficzny,* t. XXII, z. 3, s. 319.

[18] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 222, p. 100.

[19] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 223, p. 239.

[20] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 223, p. 293.

[21] LVIA, f. 604, ap. 10, b. 240, p. 161.

сцвярджаецца, што ёй было 70 год. Або тое, што 19 верасня 1821 г. у тым самым віленскім касцёле св. Яна была ахрышчана яе сястра Марыя, якая нарадзілася 30 жніўня.

Што датычыцца радаводу маці Аляксандры, Марыі з Закрэўскіх, то атрымалася высветліць наступнае. Памерла яна неўзабаве пасля смерці Станіслава Манюшкі (1872), у 1874 годзе. Пахавана побач з ім, у радавым пахаванні ў Варшаве, на Павантзкоўскіх могілках. Надпіс на магільнай пліце сцвярджае, што ёй было 75 год. Але ў знойдзенай метрыцы смерці паведамляецца, што мела яна на той момант 77 год. І, што больш важна, у метрыцы пазначаны яе бацькі — Станіслаў Закрэўскі і Марыя з Вэрнэраў. Па ўсей верагоднасці, яе бацькі былі ў другой палове XVIII ст. тэатральнымі акторамі з варшаўскай трупы Лявона Пеpажынскага, бо менавіта такая пара актораў згадваецца ў Нясвіжы. У 1783 годзе трупа была запрошана князем Каралем-Станіславам Радзівілам у Нясвіж. Але праз год Радзівіл разарваў кантракт з Пеpажынскім. Пры гэтым затрымаў Станіслава Закрэўскага і Марыю Вэрнэроўну, прапанаваўшы ім узяцца за навучанне таямніцам тэатральнага рамяства дзяцей мяшчан і сялян[22]. Вядома, дарэчы, што ў 1783–1785 гг. рэпертуар нясвіжскага тэатра не саступаў варшаўскаму. Пазней Станіслаў змяніў тэатральнае рамяство на вайсковы мундзір, бо ў метрыках шлюбу сваіх дачок ён выступае як афіцэр былых польскіх войскаў. Але служыў ён у войску ВКЛ, а менавіта быў паручнікам 8-га пяхотнага палка імя Радзівілаў, створанага ў 1789 г. У 1794 г. падтрымаў паўстанне на чале з Тадевушам Касцюшкам. У 1812 годзе капітан Станіслаў Закрэўскі займаўся стварэннем віленскай гвардыі. Яго лёс патрабуе далейшай распрацоўкі.




***Схема радаводнага дрэва Аляксандры з Мюлераў Манюшка***

[22] Z. Wilski, *Polskie szkolnictwo teatralnie 1811–1944,* Warszawa 1978, s. 12.

## Структура

Метрычныя запісы, прыведзеныя ў публікацыі, паходзяць з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (НГАБ), Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA), Narodowe Archiwum Cyfrowe (NAC). Метрычныя запісы хросту Станіслава Манюшкі (дзеда кампазітара) і шлюбу ягоных бацькоў, якія захоўваюцца ў Архідыяцэзіяльным архіве ў Беластоку, на вялікі жаль, засталіся недасяжнымі. Але іх агульны змест вядомы і прыводзіцца ў кнізе Юзафа Марошака і Рышарда Бэднарка[23].

Усяго друкуецца 41 метрыка: 6 шлюбаў, 20 хростаў, 15 смерцяў. Для публікацыі адабраны, на погляд аўтара, самыя важныя дакументы. Метрыкі, якія не ўвайшлі ў гэты артыкул, плануецца надрукаваць у іншых публікацыях. Не друкуюцца метрыкі, якія з'яўляюцца дублікатамі або маюць вельмі нязначныя адрозненні (іх сігнатуры падаюцца). Для больш зручнай навігацыі матэрыял падзелены на тры раздзелы: метрыкі да радаводу Станіслава Манюшкі „па мячы", метрыкі да радаводу Станіслава Манюшкі „па кудзелі" і метрыкі да радаводу яго жонкі Аляксандры з Мюлераў Манюшка. Прыведзеныя ў публікацыі звесткі з'яўляюцца пераважна новай інфармацыяй.

Для большасці асоб, згаданых у публікацыі, па магчымасці падаюцца кароткія біяграфічныя нататкі. Польскамоўныя і рускамоўныя метрыкі друкуюцца без перакладу. Пераклады метрык з лаціны выканаы Алесем Жлуткам — вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі, за што яму выказваем шчырую падзяку. А таксама — Генадзю Семенчуку, Фёдару Чарняўскаму, Юрыю Снапкоўскаму, Святлане Немагай, Каміле Янушкевіч і Змітру Драздзу, Дзянісу Быстрыку, Крысціне Заянчкоўскай і Гедрюсу Багдонасу за дапамогу пры падрыхтоўцы публікацыі.

[23] J. Maroszek, R. W. Bednarek, *Stanisław Moniuszko i jego Podlaski rodowód*, s. 13.

## Раздзел I. Метрыкі да радаводу Станіслава Манюшкі „па мячы”

*I. 1785 год, 8 верасня. Метрыка шлюбу Станіслава Манюшкі і Эвы з Вайніловічаў*

Wołłczkiewicze[24]. Anno Domini 1785 m[ensis] Septembris [die] [8]. Illustris admodum reverendus dominus Nicolaus Brzozowski[25], professor scholarum Minscensium, vigore indulti celsissimi principis loci ordinarii, anno praesenti, die 24 augusti ex consensu perillustris admodum reverendi domini Ladislai Wankowicz archidiaconi Albae Russiae, praepositi Minscensis cum facultate in personam illius benedicendi nuptias, omissis omnibus bannis emanati illustrem magnificum dominum Stanislaum Moniuszko, iudicem exercitus Magni Ducatus Litvaniae parochiae [Smilovicensis] et illustrem magnificam dominam Evam Woyniłłowiczowna rottomagistridam palatinatus Novogrodensis, parochiae Minscensis examinatis eorumque consensu mutuo habito, nulloque impediminto detecto solemniter per verba de praesenti in matrimonium consensit ac benedixit, praesentibus testibus notis illustri magnifico domino Francisco Oszttorpo[26], colonello exercitus Magni Ducatus Litvaniae, illustri magnifico domino Iosepho Maszewski[27], iudice districtus Starodubiensis et illustri magnifico domino Adamo Moniuszko[28], camerario palatinatus Minscensis.

Ваўчкевічы. У год Пана 1785, 8 верасня. Яснавяльможны правялебны пан Мікалай Бжазоўскі, прафесар Мінскіх школ, на моцы дазволу яго высокасці біскупа, мясцовага ардынарыя, 24 жніўня гэтага года са згоды яснавяльможнага правялебнага пана Ладзіслава Ваньковіча, архідыякана Белай Русі, мінскага пробашча, і з яго ўпаўнаважаннем на блаславленне сужэнства, прапусціўшы ўсе запаведзіны, апытаўшы і атрымаўшы ўзаемную згоду яснавяльможнага пана Станіслава Манюшкі, суддзі войска Вялікага Княства Літоўскага, са Смілавіцкай парафіі, і яснавяльможнай пані Евы Вайніловічаўны, ротмістраўны Навагрaдскага ваяводства, з Мінскай парафіі, ды не знайшоўшы ніякай перашкоды, урачыста адразу вусна даў згоду і дабраславіў сужэнства. Прысутнічалі сведкі яснавяльможны пан Францішак Оштарп, палкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага, яснавяльможны пан Юзаф Машэўскі, суддзя

24 Воўчкавічы — чыгуначны прыпынак у Койданаўскім раёне Мінскай вобласці, блізу в. Хадакова.

25 Мікалай Бжазоўскі — сын Яўхіма Бжазоўскага, наваградскага мастаўнічага (1742); брат Ганны з Бжазоўскіх, жонкі Антона Вайніловіча, наваградскага ротмістра. Іх дачка Эва стала жонкай Станіслава Манюшкі (дзеда кампазітара).

26 Францішак Оштарп — палкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага.

27 Юзаф Машэўскі — суддзя Старадубскага павета.

28 Адам Манюшка — сын Юзафа Манюшкі, каморнік Мінскага ваяводства; брат Станіслава Манюшкі.

Метрыка шлюбу Станіслава Манюшкі і Эвы з Вайніловічаў

Старадубскага павета, і яснавяльможны пан Адам Манюшка, каморнік Мінскага ваяводства.

НГАБ, ф. 741, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 132 адв.

*II. 1840 год, 5 мая. Метрыка смерці Эвы з Вайніловічаў Манюшка (бабулі кампазітара)*[29]

1840 roku Maia 5 dnia we dworze zwanym Radkowszczyzna umarła IWPna Sędzina Moniuszkowa sokołotana wiekiem i od łat kilku chorobą, opatrzona SS. Sakramentami którey zwłoki pogrzebione na mogiłach Parafiialnych Smiłowickich przez IWo Kanonika Charewicza 8 tegoz miesiąca.


13. Moniuszkowa
1840 Roku Maia 5 dnia we Dworze Zwanym Radkowszczyzna umar
ła IWPna Sędzina Moniuszkowa sokołotana wiekiem i od łat kilku
chorobą opatrzona SS. Sakramentami którey zwłoki pogrzebione na mo-
giłach Parafijalnych Smiłowickich przez IWo Kanonika Charewicza
8 tegoż Miesiąca —

**Метрыка смерці Эвы з Вайніловічаў Манюшка**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 61, арк. 10.

*III. 1786 год, 20 ліпеня. Метрыка хросту Мікалая-Вінцэнта-Часлава-Іллі Манюшкі*[30]

Smiłowicze[31]. Anno 1786 die 20 Iulii ego, Iosephus Frąckiewicz, sacerdos Congregationis Missionum, | baptisavi infantem, hodie natum, post meridiem circa horam | mediam secundam, nominibus Nicolaum, Vincentium, Cesla- |um, Eliam, filium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai Moniu- |szko et Evae de Domo Woyniłowiczowna, iudicum exercitus Magni | Ducatus Litvaniae, coniugum legitimorum. Patrini fuere illustris reverendus dominus Nicolaus | Aloisius Brzozowski, professor eloquentiae et humaniorum in scholis Minscensibus cum perillustri magnifica domina Mariana Iwanowska[32], capitanea Minscensi. |

Смілавічы. 20 ліпеня 1786 — я, Юзаф Францкевіч, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля, народжанае сёння пасля поўдня, каля паловы другой, на імя Мікалай, Вінцэнт, Часлаў, Ілля, сына яснавяльможных

[29] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага: замест „*IWPna*" напісана „*IWa*" (НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 30 адв.).

[30] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім варыянце адсутнічае радок „*hodie natum, post meridiem circa horam | mediam secundam*" (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 5 адв.).

[31] Смілавічы — гарадскі пасёлак у Чэрвенскім раёне Мінскай вобласці, на р. Волме.

[32] Марыяна Іваноўская — верагодна, Марыяна з Жыжэмскіх, жонка Юзафа-Міхала Іваноўскага, старасты мінскага (1746–1760). Валодалі ў тым ліку і Волчкавічамі, у якіх бралі шлюб Станіслаў і Эва з Вайніловічаў Манюшкі.

паноў Станіслава Манюшкі і Евы Вайніловічаўны, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі яснавяльможны вялебны Мікалай Алоіз Бжазоўскі, прафесар рыторыкі і вызваленых навук у Мінскім калегіуме з яснавяльможнай Марыянай Іваноўскай, старастavай мінскай.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 37 адв.

*IV. 1788 год, 22 жніўня. Метрыка смерці Мікалая Манюшкі*[33]

Smiłowicze, aula. Ano 1788 die 23 Augusti obiit infans nomine Nicolaus, aeta-|tis annorum 2., dierum vero circiter 40, filius perillustrium magnificorum dominorum | Stanislai et Evae Moniusciorum, iudicum exercitus | Magni Ducatus Litvaniae. Sepultus est in fornice nostrae ecclesiae. |

Смілавічы, двор. 23 жніўня, 1788 памерла немаўля на імя Мікалай ва ўзросце 2-х гадоў і каля 40-а дзён, сын яснавяльможных паноў Станіслава і Евы Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Пахаванае ў склепе нашага касцёла.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 32 адв.

*V. 1787 год, 29 ліпеня. Метрыка хросту Ігната-Ботвіда-Антонія-Якуба Манюшкі*[34]

Smiłowicze aula. Anno 1787 die 29 Iulii ego, Antonius Fischer, sacerdos Congregationis Missionum baptisa-|vi infantem nominibus Ignatium, Botvidum, Antonium, | Iacobum[35], natum heri ante [12] horam mane, filium perillustrium magnificorum dominorum | Stanislai et Evae Moniusciorum, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae, | coniugum legittimorum. Patrini fuere perillustris magnificus dominus Francisius Osztorp, | praefectus exercitus Magni Ducatus Litvaniae cum sua consorte Ludo-|vica de domo Iwanowska[36], filia capitanei castrensis palatina-|tus Minscensis. |

Смілавічы, двор. 29 ліпеня 1787 года я, Антоній Фішар, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Ігнат, Ботвід, Антоній, Якуб, народжанае ўчора перад [12]-й гадзінай раніцы, сына

[33] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім варыянце адсутнічае радок „*dierum vero circiter 40*" (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 51 адв.).

[34] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім варыянце адсутнічаюць радкі „*natum heri ante horam mane*" і „*filia capitanei castrensis palatina-|tus Minscensis*". (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 7 адв.).

[35] Ігнат Манюшка (1787–1869) — вучыўся ў Віленскім універсітэце. Падчас кампаніі 1812 года падтрымаў Напалеона. Спярша палкоўнік у 20-м уланскім палку ВКЛ, потым стварыў уласным коштам 21–ы кавалерыйскі полк, у якім таксама быў палкоўнікам. Быў жанаты на Алене з Прушынскіх, дачцэ генерал-ад'ютанта ЯКМ Станіслава і Ганны з Камароўскіх Прушынскіх. Дзеці: Алена, Ева-Элеанора (жонка Ігната Лапацінскага). Жыў у маёнтку Пабярэжжа.

[36] Людавіка Іваноўская — жонка Францішка Ашторпа. Дачка Ігната і Тэанэлы з Ілінічаў Іваноўскіх, старастаў судовых мінскіх.

яснавяльможных паноў Станіслава і Евы Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі яснавяльможны пан Францішак Оштарп, палкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага са сваёй жонкай Людвікай з дому Іваноўскіх, дачкою гродскага старасты Мінскага ваяводства.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 40.

*VI. 1788 год, 6 жніўня. Метрыка хросту Дамініка-Пятра-Каетана Манюшкі*

Smiłowicze. Anno 1788 die 6 Augusti ego, Michael Grodzki, praepositus ecclesiae Smiłovicensis, | baptisavi infantem nomine Dominicum, Petrum, Caietanum, | filium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai Moniuszko et Evae de Woyni-|łowicze, legitimorum coniugum, nobilium iudicum exer-|citus Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere magnificus dominus Stanislaus Bousze-|vicz[37], iudex castrensis Minscensis cum perillustri magnifica domina Ludovica | Osztorpowa, collonella exercitus Magni Ducatus Litvaniae. |

Смілавічы. 6 жніўня 1788 года я, Міхал Гродскі, пробашч смілавіцкага касцёла, ахрысціў немаўля на імя Дамінік, Пётр, Каетан, сына яснавяльможных паноў Станіслава Манюшкі і Евы з Вайніловічаў, законных сужэнцаў, шляхетных суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі вяльможны пан Станіслаў Ба[г]ушэвіч, мінскі гродскі суддзя з яснавяльможнай пані Людвікай Оштарпавай, палкоўнікавай войска Вялікага Княства Літоўскага.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 9 адв.

*VII. 1848 год, 26 кастрычніка. Метрыка смерці Дамініка Манюшкі*

Roku Tysiacznego osmsetnego czterdziestego osmego 8br 26 dnia umarl z cholery ob […] Dominik Moniuszko lat 61 wieku pogrzebiony na mogiłach Złotogórskich[38] przez ks. Sobolewskiego.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 11, арк. 11 адв.

*VIII. 1789 год, дня 16 жніўня. Метрыка хросту Юзафа Манюшкі*

Smiłowicze aula. Anno 1789 die 16 Augusti ego, Michael Grodzki, praepositus Ecclesiae Smiłovicensis, | baptisavi infantem nomine Iosephum[39],

[37] Станіслаў Мінькоўскі Багушэвіч — сын Мікалая і Феліцыяны з Быкоўскіх Багушэвічаў, у 1773–1786 гг.— мінскі ротмістр, у 1786 г.— мінскі лоўчы, у 1787–1795 гг.— мінскі гродскі суддзя, капітан, харужы. Пасол на сойм 1773–1775 гг., разам з Самуэлем Корсакам, наваградскім паслом, падтрымаў супраціў наваградскага пасла Тадэўша Рэйтана супраць планаў зацвярджэння Першага падзелу Рэчы Паспалітай Абедзвюх Нацый. Быў жанаты на Тэрэзе з Іваноўскіх, старасцянцы мінскай.

[38] Парафіяльныя могілкі касцёла св. Роха на Залатой горцы ў Мінску. Магіла не захавалася.

[39] Юзаф Манюшка (1789–1840) — барысаўскі харужы 1820. *„Лічыўся ў акрузе „вальнадумцам". На аматарскія спектаклі запрашаў ня толькі шляхту, але і сялян; сядзеў са сваімі падданымі за адным*

heri natum, filium | nobilium coniugum legitimorum perillustrium magnificorum dominorum Stanislai Moniusz-|ko et Evae de Woyniłowicze. Patrini fuere magnificus dominus Onuphrius | Massalski[40], vicecollonellus exercitus Magni Ducatus Litvaniae et Ludovica Osz-|torpowa, praefectissa exercitus Magni Ducatus Litvaniae. |

Смілавічы, двор. 16 жніўня 1789 года я, Міхал Гродскі, пробашч смілавіцкага касцёла, ахрысціў немаўля на імя Юзаф, народжанае ўчора, сына шляхетных законных сужэнцаў, яснавяльможных паноў Станіслава Манюшкі і Евы з Вайніловічаў. Хроснымі былі вяльможны пан Анупрэй Масальскі, падпалкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага, і Людвіка Ашторпава, палкоўнікавая войска Вялікага Княства Літоўскага.



Smiłowicze Aula

Anno 1789 d[ie] 16 Aug: Ego Michael Grodzki Prep: Eccl: Smiłow:
baptisavi infantem nomine Josephum heri natum Filium
Nobilium Conjugum legitimorum P.M.D. Stanislai Moniusz
ko et Evae de Woynilowicze Patrini fuere M.D. Onuphrius
Massalski Vicecollonellus Exercitus M.D. Lit. et Ludovica Osz
torpowa Praefectissa Exercitus M.D. Lith.

Mari

**Метрыка хросту Юзафа Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 11.

*IX. 1840 года, 21 красавіка. Метрыка смерці Юзафа Манюшкі*[41]

1840 Roku kwietnia 21 dnia — umarł w Dworze Radkowszczyznie Iwny Józef Moniuszko b. chorąży Ptu Borysowskiego z zapalenia p[…]cherca — opatrzony SS.Sakramentami majacy od urodzenia wieku lat 50 — pochowany na mogiłach Smiłowickich przez xiedza Jazona Lazowskiego.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 10.

---

*сталом, спяваў беларускія песні"* (В. Швед, *Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII — першая чвэрць XIX ст.),* Гродна 2007, с. 180) Жонка Пелагея Пакемпіновіч. Нашчадкаў не меў.

40 Анупрэй Масальскі (1769 — пасля 1840) — сын князя Томаша (1740–1791), палкоўніка войска ВКЛ, і Францішкі Ахатніцкай Масальскіх, прыд. „Вараг", гербу Ясеньчык. 1790 патэнт на харужага Нацыянальнай кавалерыі, 1793 маёр пятыгорскай брыгады. Сакратар генерала Якуба Ясінскага падчас паўстання Касцюшкі. Пазней быў пісарам Ігуменскага павета Мінскай губерні. Жанаты на Кацярыне з Корбутаў, дачцэ смаленскага стражніка Лявона Корбута. Меў сыноў: Тамаша — філамата і літаратара, і Юзафа — літаратара.

41 Існуе другі варыянт метрыкі, ідэнтычны гэтаму (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 61, арк. 9 адв.). Першы біёграф Станіслава Манюшкі, Аляксандр Валіцкі, прывёў памылковую дату смерці (3 траўня). Як мы бачым, памёр Юзаф 21 красавіка. Назва хваробы ў Валіцкага не згаданая, а ў метрыцы — малачытабельная. Магчыма, гаворка ідзе пра запаленне *pęcherza* (мачавога пузыра).

*X. 1790 год, 20 ліпеня. Метрыка хросту Чэслава-Вінцэнта-Іллі Манюшкі*

Smiłowicze. Anno 1790 die 20 Iulii ego, Michael Grodzki, superior | domus Smiłovicensis Congregationis Missionum, baptisavi infantem no-|mine Ceslaum, Vincentium, Eliam[42], hodie natum, filium | nobilium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai Moniuszko et Evae de Woy-|niłowicze, legitimorum coniugum, iudicum exercitus | Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere perillustris magnificus dominus Franciscus Osztorp, prae-|fectus exercitus Magni Ducatus Litvaniae cum perillustri magnifica domina Marianna Woy-|niłowiczowa[43], tribuna palatinatus Novogrodensis. |

Смілавічы. 20 ліпеня 1790 года я, Міхал Гродскі, настаяцель Смілавіцкага дома Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля на імя Чэслаў, Вінцэнт, Ілля, народжанага сёння сына шляхетных яснавяльможных паноў Станіслава Манюшкі і Евы з Вайніловічаў, законных сужэнцаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі яснавяльможны пан Францішак Ошларп, палкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага, з яснавяльможнай пані Мар'янай Вайніловічавай, войскай Наваградскага ваяводства.


Smiłowicze.
Anno 1790. die 20. Julii Ego Michael Grodzki Superior
Domus Smiłovicensis Cong. Miss. baptisavi infantem no
mine Ceslaum Vincentium Eliam hodie natum Filium
Nobilium P.M.D. Stanislai Moniuszko et Evae de Woy
niłowicze Legitimorum Conjugum Judicum Exercitus
M.D.Litt. Patrini fuere P.M.D. Franciscus Osztorp Prae-
fectus Exercitus M.D.Litt. cum P.M.D. Marianna Woy
niłowiczowa Tribuna Palatinatus Novogrodensis

**Метрыка хросту Чэслава Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 13.

*XI. 1792 год, 3 лютага. Метрыка хросту Ганны Манюшка*

Smiłowicze aula. Anno 1792, 3 Februarii ego, Iosephus Frąnckiewicz,

[42] Чэслаў Манюшка (1790–1870) — бацька кампазітара Станіслава Манюшкі. *„Удзельнік вайны 1812 года на баку Напалеона, не вярнуўся з-за мяжы, і таму яго маёнтак у Ігуменскім пав. паводле царскага маніфеста быў канфіскаваны ў казну. У 1820 г.— адстаўны капітан ВП, меў маёнтак Убель у Мінскім пав. Пасля Дамініка быў гаспадаром маёнтка Радкоўшчына”.* (В. Швед, *Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII — першая чвэрць XIX ст.),* Гродна 2007, с. 179–180.

[43] Ганна-Марыяна Вайніловіч — маці Эвы, жонкі Станіслава Манюшкі, жонка Антона Вайніловіча, наваградскага ротмістра і вайсковіча.

sacerdos Congregationis Missionum, bapti-|savi infantem Annam[44], filiam nobilium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai | Moniuszko et Evae de domo Woyniłowicze, legitimorum | coniugum, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere magnificus dominus | Adamus Moniuszko cum generosa domina Helena Domanowska[45]. |

Смілавічы, двор.

3 лютага 1792 года я, Юзаф Францкевіч, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля Ганну, дачку шляхетных яснавяльможных паноў Станіслава Манюшкі і Евы з дому Вайніловічаў, законных сужэнцаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі вяльможны пан Адам Манюшка з шляхетнай пані Аленай Даманоўскай.


Smiłowicze Aula.
Anno 1792. 3 Feb. Ego Josephus Franckiewicz SCMis. bapti-
savi infantem Annam Filiam Nobilium PMD Stanislai
Moniuszko et Evae de domo Woyniłowicze legitimorum
Coniugum Judicum Exercitus MDLit. Patrini fuere MD.
Adamus Moniuszko cum GD Helena Domanowska.

**Метрыка хросту Ганны Манюшка**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 16 адв.

*XII. 1793 год, дня (не пазначана). Метрыка хросту Юльяна Манюшкі*

Smiłowicze aula. Anno 1793 ego, Michael Grodzki, superior domus Smiłovicensis | Congregationis Missionum, baptisavi infantem nomine Iulianum, | filium nobilium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai Moniuszko et Evae | de Woyniłowicze, legitimorum coniugum, iudicum exercitus | Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere magnificus dominus Antonius Pomian[46], prae-|fectus exercitus Magni Ducatus Litvaniae cum magnifica domina Helena Domanowska. |

Смілавічы, двор. У 1793 годзе я, Міхал Гродскі, настаяцель Смілавіцкага дома Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля на імя Юльян, сына шляхетных яснавяльможных паноў Станіслава Манюшкі і Евы з Вайніловічаў, законных сужэнцаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі вяльможны пан Антоній Помян, палкоўнік войска Вялікага Княства Літоўскага з вяльможнай пані Аленай Даманоўскай.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 18 адв.

44 Ганна Манюшка — жонка Яна Расудоўскага.

45 Алена Даманоўская — асоба малавядомая.

46 Антон Помян — асоба малавядомая.

*XIII.1796 год, 4 сакавіка. Метрыка смерці Юльяна Манюшкі*[47]

Smiłowicze aula. |Anno 1796 die 4 Martii obit puer nomine Iulianus, aetatis annorum trium et 5 dierum, | filius perillustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae Moniuszkow, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae. | Depositus est in sepulchro eclesiae nostrae. |

Смілавічы, двор. 4 сакавіка 1796 года, памёр хлопчык на імя Юліян, ва ўзросце трох гадоў і 5 дзён, сын яснавяльможных паноў Станіслава і Евы Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Пахаваны ў пахавальні нашага касцёла.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 61.

*XIV. 1794 год, 26 сакавіка. Метрыка хросту Марыі Манюшка*

Smiłowicze. Anno 1794 26 Martii ego, Iosephus Frąckievicz, sacerdos Congregationis Missionum, baptisa-|vi infantem Mariam[48], filiam nobilium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai | et Evae Moniuszkorum de Domo Voyniłovicze, iudicum exer-|citus Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere generosus dominus Vincentius Brynk[49] cum | magnifica domina Christina Oskierczanka[50]. |

Смілавічы. 26 сакавіка 1794 года я, Юзаф Францкевіч, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля Марыю, дачку шляхетных яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаў Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі шляхетны пан Вінцэнт Брынк з вяльможнай пані Крысцінай Аскерчанкай.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 20 адв.

*XV. 1795 год, 7 сакавіка. Метрыка хросту Казіміра Манюшкі*

Smiłowicze. Anno 1795 7 Martii ego, Michael Grodzki, praepositus ecclesiae Smiłovicensis, baptisa-|vi infantem nomine Casimirum[51], heri natum, filium perillustrium magnificorum dominorum | Stanislai et Evae de domo Woyniłowicze Moniuszko, iudicis[a]) exercitus Magni Ducatus Litvaniae, nobilium legitimorum coniu-|gum. Patrini fuere

---

47 Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім варыянце адсутнічае радок „*et 5 dierum*" (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 65).

48 Марыя Манюшка — жонка Вінцэнта Корсака. Дзеці: Эдмунд, Альбіна (жонка Караля Манюшкі, капітана гвардыі конных стральцоў).

49 Вінцэнт Брынк — асоба малавядомая. Род нямецкага паходжання, герба „Сас". Падобна, што Вінцэнт меў сыноў Юзафа і Францішка. Выводзіліся з Гродзенскай губерні.

50 Крысціна Аскерка — асоба малавядомая.

51 Казімір Манюшка (1795–1836) — вучыўся ў Віленскім універсітэце, атрымаў ступень кандыдата абодвух праў (1811), магістра (1814), доктара (1817). Быў сябрам Таварыства шубраўцаў (мянушка Балдэр). У 1824 г. займаў пасаду генеральнага візітатара вучылішч Валынскай і Падольскай губ. (В. Швед, *Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII — першая чвэрць XIX ст.),* Гродна 2007, с. 179.

magnificus dominus Thomas Wiszniewski[52] et magnifica domina | Anna Woyniłowiczowa[53]. |

а) так у ркп., трэба чытаць: iudicum.

Смілавічы.

7 сакавіка 1795 года я, Міхал Гродскі, пробашч смілавіцкага касцёла, ахрысціў немаўля на імя Казімір, народжанае ўчора, сына яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаў Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, шляхетных законных сужэнцаў. Хроснымі былі вяльможны пан Тамаш Вішнеўскі і вяльможная пані Ганна Вайніловічава.



22.

Smitowicze

Anno 1795 7 M. Ego Michael Grodzki Prop. Ecl. Smit. baptisavi
infantem nomine Casimirum heri natum Filium PMD
Stanislai et Evae de domo Woynitowicze Moniuszko Ju
dicis Exercitus MD Lit. Nobilium Legitimorum Conju
gum Patrini fuere MD Thomas Wiszniewski et MD
Anna Woynitowiczowa.

**Метрыка хросту Казіміра Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 22.

*XVI. 1836 год, 21 лютага. Метрыка смерці Казіміра Манюшкі*

Roku 1836 lutego 21 dnia we dworze zwanym Radkowszczyzna| umarl JWy Kazimierz Moniuszko Doktor obóyga Praw, Radca Dworu,| Dozórca Honorowy szkol powiatu Ihumeńskiego i kawaler z suchot,| opatrzony Ssmi sakramentami, mający od urodzenia wieku lat 41.| parafii Rzymsko Katolickiey Smiłowickiey- Którego zwłoki przez WJX. Jazona Łazowskiego Dziekana Ihumeńskiego Administratora| kosciola Smiłowickiego 26 tegoż Mca: pogrzebione zostały na publicz-|nych parafialnych mogilach za miastem.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 74, арк. 291 адв.

*XVII. 1796 год, 3 мая. Метрыка хросту Жыгімонта Манюшкі*

Smiłowicze aula. Anno 1796 3 Mai ego, Michael Grodzki, praepositus ecclesiae Smiłovicensis, | baptisavi infantem nomine Sigismundum, heri na-

52 Томаш Вішнеўскі — асоба малавядомая.

53 Ганна-Марыяна Вайніловіч — жонка Антона Вайніловіча, маці Эвы Манюшка.

|tum, filium nobilium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae de | Woyniłowicze Moniuszkow, legitimorum coniugum, iudi-|cum exercitus Magni Ducatus Litvaniae. Patrini fuere religiosus pater | Thadaeus Lebedzinski[54], Ordinis sancti Basiliii Magni superior Minscensis, | et perillustris magnifica domina Ludovica Osztorpowa, praefectissa exercitus Magni Ducatus Litvaniae. |

Смілавічы, двор. 3 мая 1796 года я, Міхал Гродскі, пробашч смілавіцкага касцёла, ахрысціў немаўля на імя Жыгімонт, народжанае ўчора, сына шляхетных яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з Вайніловічаў Манюшкаў, законных сужэнцаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі законнік айцец Тадэвуш Лебядзінскі з ордэна св. Базыля Вялікага, мінскі настаяцель, і вяльможная пані Людвіка Оштарпава, палкоўнікавая войска Вялікага Княства Літоўскага.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 25.

*XVIII. 1796 год, 25 чэрвеня. Метрыка смерці Жыгімонта Манюшкі*[55]

Smiłowicze aula. |Anno 1796 die 24 Iunii obiit infans nomine Sigismundus aetatis hebdomadarum 7 et 4 die-|rum, filius magnificorum dominorum Stanisai et Evae de domo Woyniłowiczowna Moniuszkow, iudicum | equestris ordinis Magni Ducatus Litvaniae. Depositus est in sepulchro ecelesiae nostrae. |

Смілавічы, двор.

24 чэрвеня 1796 года памерла немаўля Жыгімонт ва ўзросце 7-і тыдняў і 4-х дзён, сын яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаўны Манюшкаў, суддзяў кавалерыі? (equestris ordinis) Вялікага Княства Літоўскага. Пахаванае ў пахавальні нашага касцёла.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 62.

*XIX. 1797 год, 18 верасня. Метрыка хросту Міхаліны-Схаластыкі Манюшкі*

Smiłowicze aula. Anno 1797 18 Septembris ego, Thomas Iedzewicz, sacerdos Congregationis Missionum, baptisavi || infantem nominibus Michalinam, Scholasticam[56], hodie | natam, filiam illustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae de Woynilowicze | Moniuszkorum, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae, legitimorum | coniugum. Patrini fuere magnificus dominus camerarius regis Poloniae[57] | et magnifica domina Iosepha Woynina[58]. |

---

[54] Тадэвуш Лебядзінскі — асоба малавядомая.

[55] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім варыянце адсутнічае радок „*et 4 dierum*" (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 63).

[56] Міхаліна Манюшка — жонка Эдварда Ваньковіча (1790–1872), герба „Ліс зменены", іх дачка Ганна выйшла замуж за Адама Вайніловіча, сынам якіх стаў апошні прадстаўнік роду Эдвард Вайніловіч.

[57] Верагодна, маецца на ўвазе Францішак Ашторп.

[58] Юзэфа Войніна — асоба малавядомая.

Смілавічы, двор. 18 верасня 1797 года я, Тамаш Едзевіч, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Міхаліна, Схалястыка, народжанае сёння, дачку яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з Вайніловічаў Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі вяльможны пан шамбэлян польскага караля і вяльможная пані Юзэфа Войніна.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 72, арк. 29 адв.— 30.

*XX. 1799 год, 23 мая. Метрыка хросту Брыгіды-Яны-Магдалены-Барбары Манюшкі*

Anno millesimo septengentesimo nonagesimo nono, die vigesima tertia Maii novi styli, | ego, Michael Grodzki, sacerdos Congregationis Missionum et superior Smiłovicensis, supplevi ceremonias baptizmi | super infantem nominibus Brigidam, Ioannam, Magdalenam, Barbaram[59], natam et | ex aqua baptizatam decima tertia praesentis, filiam magnificorum dominorum Stanislai et Evae de domo | Woyniłowiczowna Maniuszkow, iudicum ordinis equestris, legitimorum coniugum. | Assistebant his caeremoniis magnificus dominus Antonius Słotwinski[60], pocillator Minscensis cum magnifica domina || Elisabeth Gieczewiczowa[61], scissorissa Vilnensi, magnificus dominus Mathias Moniuszko[62] agrimensor | Grodnensis cum magnifica domina Iosepha Woynina, pocillatoressa Vilnensi, magnificus dominus Vincentius Giecze-|wicz[63], scissor Vilnensis, cum magnifica domina Anna Moniuszkowna, sorore infantis baptizatae, magnificus dominus | Evaristus Słotwinski[64] cum magnifica domina Francisca Gieczewiczowna[65] virgine. |

У год тысяча сямсот дзевяноста дзявяты, дваццаць трэцяга мая [як вышэй], я, Міхал Гродскі, святар Кангрэгацыі Місій і настаяцель Смілавіцкі, здзейсніў абрады хросту над немаўлём з імёнамі Брыгіда, Яна, Магдалена, Барбара, народжаным і ахрышчаным вадою трынаццатага

[59] Брыгіда Манюшка — памерла ў дзяцінстве. Дакладная дата смерці невядомая.

[60] Антон Слатвінскі (1748–1804) — лідскі чашнік, бацька мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства Людвіга Слатвінскага (1801–1876). Першая жонка — Брыгіда Антонаўна Паўлікоўская (1738–1798). Другая жонка — Францішка Гецэвіч (1773–1805).

[61] Альжбэта Гечэвіч з Прушынскіх, жонка віленскга крайчага Вінцэнта Гечэвіча. Мелі сыноў Гіпаліта і Лявона, а таксама пяць дачок. Альжбэта была дачкой Станіслава і Ганны з Камароўскіх Прушынскіх, генерала-ад'ютанта Станіслава Аўгуста Панятоўскага, маршалка шляхты Ігуменскга павета.

[62] Мацей Манюшка — гродзенскі мернічы, магчыма, брат Станіслава і Адама Манюшкаў.

[63] Вінцэнт Гечэвіч — (1770–1840), сын Яна, мечніка віленскага і Анастасіі Вайноўскай. Крайчы (1788–1800), пазней падкаморы вілейскі. У 1812 абраны ў камісію Часовага Ураду ў Мінску. У 1817 г. быў прызначаны мінскім губернатарам. Жонка — Альжбэта з Прушынскіх.

[64] Эварыст Ксаверый Слатвінскі — суддзя земскі Ігуменскага павета на 1793 год, падкаморы ігуменскі (1826), маёнтак Мейснераў у Ігуменскім павеце.

[65] Францішка Гечэвіч (прыкл. 1773–1805) — магчыма, родная сястра Вінцэнта Гечэвіча і жонка Антона Слатвінскага, лідскага чашніка. Маці мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства Людвіга Слатвінскага.

дня гэтага [месяца], дачкой вяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаўны Манюшкаў, суддзяў кавалерыі? (ordinis equestris), законных сужэнцаў. Прысутнічалі пры гэтых абрадах вяльможны пан Антоній Слатвінскі, мінскі падчашы, з вяльможнай пані Альжбэтай Гечэвічавай, віленскай крайчыняй, вяльможны пан Мацяш Манюшка, гарадзенскі мернічы, з вяльможнай пані Юзэфай Войнінай, падчашыняй віленскай, вяльможны пан Вінцэнт Гечэвіч, віленскі крайчы, з вяльможнай пані Ганнай Манюшкаўнай, сястрою ахрышчанага немаўляці, вяльможны пан Эвары Слатвінскі з вяльможнай паннай Францішкай Гечэвічаўнай.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 4–4 адв.

*XXI. 1803 год, 10 лістапада. Метрыка смерці Брыгіды Манюшкі*

Smiłowicze aula. |Anno 1803 die 10 Novembris novi styli obiit puella nomine Brigida aetatis |4 annorum et 6 mensium, filia perillustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae Mo-|niuszkow, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae. Deposita est in sepulchro | eclesiae nostrae. |

Смілавічы, двор.

10 лістапада 1803 года памерла дзяўчынка на імя Брыгіда, ва ўзросце 4-х гадоў і 6-і месяцаў, дачка яснавяльможных паноў Станіслава і Евы Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Пахаваная ў пахавальні нашага касцёла.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 6, арк. 12.

*XXII. 1800 год, 25 ліпеня. Метрыка хросту Клеатыльды-Вінцэнціі-Юзэфы-Дамінікі Манюшка*

Anno millesimo octingentesimo, die vigesima quinta Iulii novi styli, ego, Iosephus Korwell, sacerdos Congregationis | Missionum, baptizavi infantem nominibus Cleotildam, Vincentiam, Iosepham, Dominicam[66], heri | natam, filiam magnificorum dominorum Stanislai et Evae de domo Woynilowiczowna Moniuszkow, iudi-|cum exercitus Magni Ducatus Litvaniae, legitimorum coniugum. Patrini fuere magnificus dominus Antonius Pomian[67],| iudex [Ihumensis] cum magnifica domina Anna Woyniłowiczowa, rothomagistra Novogrodensi. Assiste-|bant magnificus dominus Adam Moniuszko cum nobili Anna Młodzianowska[68], magnificus dominus Ignatius Mo-|niuszko cum nobili Francisca Perkowska[69], magnificus dominus Dominicus Moniuszko cum nobili Catharina Brynkowa. |

[66] Клеатыльда Манюшка (1801–1872?) — першым мужам быў Людвік Ельскі (1785–1843), герб „Пялеш", вайсковы дзеяч, фінансіст, капітан арміі Герцагства Варшаўскага, маёр французскіх драгунаў. Другі муж — Міхал Ельскі (1789–1850), малодшы брат Людвіка.

[67] Антон Помян — ігуменскі суддзя. Асоба малавядомая.

[68] Ганна Младзяноўская — асоба малавядомая.

[69] Францішка Пяркоўская — асоба малавядомая.

У год тысяча васемсоты, дваццаць пятага ліпеня новага стылю, я, Юзаф Корвэл, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Клеатыльда, Вінцэнцыя, Юзэфа, Дамініка, народжанае ўчора, дачку вяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаўны Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі вяльможны пан Антоній Памян, [Ігуменскі] суддзя, з вяльможнай пані Ганнай Вайніловічавай, ротміstравай наваградскай. Прысутнічалі вяльможны пан Адам Манюшка з шляхетнай Ганнай Младзяноўскай, вяльможны пан Ігнат Манюшка з шляхетнай Францішкай Пяркоўскай, вяльможны пан Дамінік Манюшка з шляхетнай Кацярынай Брыньковай.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 12 адв.

*XXIII. 1801 год, 27 лістапада. Метрыка хросту Аляксандра-Пятра-Мікалая-Фэлікса Манюшкі*

Smiłowicze

Anno мillesimo octingentesimo primo, die vigesima septima Novem-|bris novi styli ego, Iosephus Korwell, sacerdos Congregationis Missionum, baptisavi infantem nomini-|bus Alexandrum, Petrum, Nicolaum, Felicem[70], heri natum, filium | illustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae de domo Woyniłowiczwna Moniuszkow, | iudiciuma[a]) exercitus Magni Ducatus Litvaniae, legitimorum coniugum. Patrini fuere reverendus dominus | Stanislaus Skurzewski[71], sacerdos Congregationis Missionum cum magnifica domina Anna Woyniłowi-|czowna, rothomagistra Novogrodensi. Assistenbant magnificus dominus Adamus Moniuszko, | agrimensor districtus Ihumensis cum magnifica domina Felicyanna Rayska[72], virgine. |

a) так у ркп., трэба чытаць: iudicum.

У год тысяча васемсот першы, дваццаць сёмага лістапада новага стылю, я, Юзаф Корвэл, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Аляксандр, Пётр, Мікалай, Фэлікс, народжанае ўчора, сына яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаўны Манюшкаў суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі вялебны пан Станіслаў Скужэўскі, святар кангрэгацыі місіянераў, з вяльможнай пані Ганнай Вайніловічаўнай, ротмістравай наваградскай.

70 Аляксандр Манюшка (1801–1836) — вучыўся ў Віленскім універсітэце на філалагічным факультэце. Атрымаў ступень кандыдата. Камер-юнкер царскага двара. Жонка — Аляксандра з Жавускіх, дачка Адама і Юстыны з Рдултоўскіх Жавускіх. Маці Юстыны Марыяна — родная сястра Тадэвуша Рэйтана. Дзеці: Марыя-Альжбэта-Эрнэстына, Паўліна-Юзэфа-Ганна-Марыя.

71 Станіслаў Скужэўскі — асоба малавядомая.

72 Феліцыяна Райская — асоба малавядомая.

Прысутнічалі вяльможны пан Адам Манюшка, мернічы Ігуменскага павета з вяльможнай паннай Фэліцыянай Райскай.



Anno Millesimo Octogentesimo primo. Die vigesima septima Novembris N. S. Ego Josephus Korwell S. C. M. Baptisavi infantem nominibus Alexandrum, Petrum, Nicolaum, Felicem, heri natum, filium Ill: M.M.D.D. Stanislai et Evae de domo Woynitowiczowna Moniuszkow Judicium Exercitus M.D.L. Legitimorum Conjugum. Patrini fuere R.D. Stanislaus Skworzewski Sacer: Congr: Mission: cum M.D. Anna Woynitowiczowna Rothamagistra Novogroden: Assistebant M.D. Adamus Moniuszko Agrimensor Districtus Ihumen: cum M.D. Feliciyanna Rayska Virgine

**Метрыка хросту Аляксандра Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 20.

*XXIV. 1836 год, 1 жніўня. Метрыка смерці Аляксандра Манюшкі*

Roku 1836, Sierpnia 1 Dnia, we Dworze Smiłowickim Umarl JWy Alexan- | der Moniuszko Kamer junkier Jego Cesarskiej Mości, Komman- | dor Orderu So Jana Jerozolimskiego z zapalenia mozgu, opatrzony Ssemi Sa- | kramentami. Pozostałey wdowy Jwey Alexandry z Hrabiów Rzewuskich | Moniuszkowey malżonek, mający od urodzenia wieku lat 35. Zostawil Córki | Paulinę i Maryę.— Którego zwłoki od Jwgo Biskupa Dyecezyi Mińskiey i Ka- | walera Mateusza Lipskiego, 5 tegoż Mca: pogrzebione zostały na publicznych parafialnych mogiłach za miastem.



Sierpień

Moniuszko

39. Roku 1836 Sierpnia 1. dnia we Dworze Smiłowickim umarł JWy Alexan
der Moniuszko Kamer junkier Dworu Jego Cessarskiey Mości, Komman
dor Orderu So Jana Jerozolimskiego z zapalenia mozgu, opatrzony SSemi Sa
kramentami. Pozostałey wdowy JWey Alexandry z Hrabiów Rzewuskich
Moniuszkowey małżonek, mający od urodzenia wieku lat 35. zostawił Córki
Paulinę i Maryę. — Którego zwłoki od JWgo Biskupa Dyecezyi Mińskiey i Ka
walera Mateusza Lipskiego, 5. tegoż Mca: pogrzebione zostały na publicznych
parafialnych mogiłach za miastem.

**Метрыка смерці Аляксандра Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 74, арк. 293.

*XXV. 1803 год, 12 ліпеня. Метрыка хросту Яна-Гвальбэрта і з Duklі-Цыпрыяна- Алаіза-Станіслава Манюшкі*[73]

[73] Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. Назіраецца розніца толькі ў пераліку і колькасці асістэнтаў: „*magnificus dominus Iosephus Moniuszko cum magnifica domina virgine Anna Moniuszkowna, | magnificus dominus Ceslaus Moniuszko cum magnifica domina virgine Marianna Moniuszkowna,*

Smiłowicze. Anno 1803 die 12 Iulii novi styli ego, Thomas Iedzewicz, sacerdos Congregationis Missionum, baptisavi in-|fantem nominibus Ioannem, Gvalbertum et De Dukla, Cyprianum, | Aloisium, Stanislaum, hodie mane circa horam 7 natum in Smilo-|wicze, filium perillustrium magnificorum dominorum Stanislai et Evae de Domo Woy-|niłowiczowna Moniuszkow, iudiciuma) exercitus Magni Ducatus Litvaniae, legitimorum coniugum. | Patrini fuere magnificus dominus Michael Choński[74], institutor eorumdem dominorum filiorum, | vulgo guverner a lingua Gallica, cum magnifica domina Anna Woyniłowiczowna, | tribuna Novogrodensi, matre pauperae. Assistebant magnificus dominus Dominicus | Moniuszko, vexilifer Słonimensis cum magnifica domina Marianna Firerówna[75], institu-|trice filiarum eorumdem iudicum, vulgo guvernerka a lingua Gallica, | magnificus dominus Iosephus Moniuszko cum magnifica domina virgine Anna Moniuszkowna, | magnificus dominus Ceslaus Moniuszko cum magnifica domina virgine Michalina Moniuszkowna, | et hi omnes sunt liberi supradictorum dominorum iudicum.|

а) так у ркп., трэба чытаць: iudicum.

12 ліпеня 1803 новага стылю я, Тамаш Ядзевіч, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Ян, Гвальбэрт і з Дуклі, Цыпрыян, Алаіз, Станіслаў, народжанае ў Смілавічах сёння раніцай каля 7-й гадзіны, сына яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з дому Вайніловічаўны Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Хроснымі былі вяльможны пан Міхал Хоньскі, выхавацель сыноў тых жа паноў, папростаму — гувернёр у французскай мове, з вяльможнай паннай Ганнай Вайніловічаўнай, войскай навагрудскай, (matre paupera[e]?). Прысутнічалі вяльможны пан Дамінік Манюшка, слонімскі харужы, з вяльможнай пані Марыянай Фірэроўнай, выхавацелькай дачок тых жа паноў суддзяў, папростаму — гувернёркай у французскай мове, вяльможны пан Юзаф Манюшка з вяльможнай паннай Ганнай Манюшкаўнай, вяльможны пан Чэслаў Манюшка з вяльможнай паннай Міхалінай Манюшкаўнай, і ўсе яны дзеці вышэй згаданых паноў суддзяў.

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 33.

---

*magnificus dominus Casi-|mirus Moniuszko cum magnifica domina virgine Michalina Moniuszkowna, et hi omnes sunt | liberi supradictorum dominorum iudicum.* |" (НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 12 адв.).

[74] Міхал Хоньскі (1779–1855) — сын парнаўскага стольніка Станіслава і Канстанцыі з Сянкевічаў Хоньскіх. Рана страціў бацькоў. Падчас паўстання 1794 г. страціў і маёнтак. Вучыўся спачатку ў гродзенскіх дамініканаў, пазней у Віленскім універсітэце. У 1805 г. стаў доктарам філасофіі. У 1806–1831 гг. быў прафесарам натуральнага права і палітычнай эканоміі ў ліцэі ў Крамянцы. Памёр ў Жытоміры, у свайго сына Казіміра, вядомага лекара. Другі сын — Генрык-Эдвард (1809–1881), паўстанец 1831 г. У Парыжы займаў пасаду сакратара „Камітэта Рускіх зямель". Быў актыўным дзеячам эміграцыі. Памёр і пахаваны ў Парыжы.

[75] Марыяна Фірэр — асоба малавядомая.

*XXVI. 1804 год, 26 студзеня. Метрыка смерці Яна Манюшкі*

Smiłowicze aula, ex 26 Ianuarii. |

Anno 1804 die 26 Ianuarii novi styli obiit infans nomine Ioannes vitae |6 mensium, filius magnificorum dominorum Stanislai et Evae de Woyniłowiczow Mo-|niuszkow, iudicum exercitus Magni Ducatus Litvaniae. Depositus est in sepulchro eccle-|siae nostrae. |

Смілавічы, двор, з 26 студзеня.

26 студзеня 1804 года памерла немаўля на імя Ян, якое пражыло 6 месяцаў, сын яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з Вайніловічаў Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага. Пахавана ў пахавальні нашага касцёла.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 6, арк. 14.

*XXVII. 1805 год, 18 жніўня. Метрыка хросту Бенігны-Алены-Караліны-Юліі Манюшкі*[76]

Anno 1805 die 18 Augusti novi styli ego, Iustinus Stańczyk, sacerdos Congregationis Missionum, | baptizavi infantem nominibus Benegnam, Helenam, Carolinam, | Iuliam, heri natam in aula Smiłowicze, filiam perillustrium magnificorum dominorum | Stanislai et Evae de Woyniłowiczow Moniuszkow, iudicum exercitus | Magni Ducatus Litvaniae, legitimorum coniugum. Patrini fuere magnificus dominus Simon Łopata[77], rotho-|magister palatinatus Minscensis et magnifica domina Anna Dabrowna[78] virgo, institutrix, | vulgo guwernerka a lingua Gallica, filiarum eorundem iudicum. Assistebant | magnificus dominus Michael Choński, istitutor filiorum eorumdem iudicum, et magnifica domina virgo | Marianna Moniuszkowna, soror infantis, magnificus dominus Ignatius Moniuszko | cum magnifica domina Francisca Perkowska. |

18 жніўня 1805 года новага стылю я, Юстын Станьчык, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з імёнамі Бэнігна, Алена, Караліна, Юлія, народжанае ўчора ў маёнтку Смілавічы, дачку яснавяльможных паноў Станіслава і Евы з Вайніловічаў Манюшкаў, суддзяў войска Вялікага Княства Літоўскага, законных сужэнцаў. Хроснымі былі вяльможны пан Сымон Лапата, ротмістр Мінскага ваяводства, і вяльможная панна Ганна Даброўна, выхавацелька, па-простаму — гувернёрка з французскай мовы, дачок тых жа суддзяў. Прысутнічалі вяльможны пан Міхал Хоньскі, выхавацель сыноў тых жа суддзяў, і вяльможная

76 Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага (НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 52 адв.).

77 Сымон Лапата (Лопат) — мінскі ротмістр (1799), уладальнік фальварка Новы двор.

78 Ганна Дамброва — асоба малавядомая.

панна Марыяна Манюшкаўна, сястра немаўляці, вяльможны пан Ігнат Манюшка з вяльможнай пані Францішкай Пяркоўскай.

НГАБ, ф. 1341, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 33.

*XXVIII. 1818 год, 20 ліпеня. Метрыка шлюбу Чэслава Манюшкі і Альжбэты з Маджарскіх (бацькі кампазітара)*

Mankowo. 1818 Iuli 20 ego, Stanislaw Szantyr, praelatus, eques | et praepositus Slucensis, ex indulto illustrissimi administratoris | Min[scensis], omissis duabus denuntiationibus, tertia vero promulgata, | nulloque canonico impedimento per examen detecto, ma-|trimonium contractum inter magnificum dominum Ceslaum Moniuszko, | capitaneum exercitus Polonici et equitem, et magnifica domina Elisabeth | Madzarska, [sumb…] aulae Polonicae, benedixi. Presentibus testi-|bus Ioanne Woyniłłowicz, Dominico Moniuszko, maiore exercitus [G…] | [ue] Ioanne Lahwisk, iudice terrestri districtus [Slonimensis]. |

Манькова. 20 ліпеня 1818 я, Станіслаў Шантыр, прэлат і настаяцель Слуцкі, з дазволу найяснейшага мінскага адміністратара, прапусціўшы дзве запаведзіны і абвясціўшы трэцюю, ды не выявіўшы праз роспыты ніякай кананічнай перашкоды, паблаславіў сужэнства, заключанае паміж вяльможным Чэславам Манюшкам, капітанам Польскага войска і рыцарам, і вяльможнай пані Альжбэтай Маджарскай ([sumb…]?) польскага двара. Прысутныя сведкі Ян Вайніловіч, Дамінік Манюшка, маёр войска [G…], Ян Лагвіскі, суддзя [Слонімскага] павета.


Mankowo.
1818o July 20. Ego Stanislaus Szantyr Praelatus, Eques,
et Praepositus Slucensis ex Indulto Illmi Administratoris
Min: omissis duabus denuntiationibus tertia vero promulga
ta, nulloq canonico impedimento per examen detecto Ma
trimonium contractum inter MD.um Ceslaum Moniuszko
capitaneum Exerc: Polon: et Equitem, et MD.am Elisabeth
Madzarska Sumb: aula Polon: benedixi. Presentibus testi:
bus Joanne Woyniłłowicz, Dominico Moniuszko Major: Ex: G:
ue Joanne Lahwiski Judice ter: distr: Sl: —
MD: Ceslaus Moniuszko et Elisabeth Madzarska

**Метрыка шлюбу Чэслава Манюшкі з Альжбэтай Маджарскай**

НГАБ, ф. 750, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 12 адв.

*XXIX. 1850 года, 10 верасня. Метрыка смерці Альжбэты з Маджарскіх Манюшкі*

Тысяча восемь сот пятьдесятаго года сентября десятаго дня в месте Радковщизна скончалась помещица Елисавета Монюшкова урожденная Маджарская от паралитических припадков быв приобщена св. таинств.

Оставшегося вдовцем помещика Чеслава Монюшки жена имевшая от роду около 50 лет Смиловицкой Римско католической церкви прихожанка оставила после себя одного сына Станислава. Тело ея Высокопреподобный Дорофей Шмигельский настоятель церкви и Игуменский Декан 13-о числа сего месяца на местном сельском кладбище похоронил.

НГАБ, ф. 1781, воп. 30, адз. зах. 132, арк. 35.

*XXX. 1819 год, 5 мая. Метрыка хросту Станіслава-Яна-Эдварда-Казімера Манюшкі (кампазітара)*

Існуе другі варыянт метрыкі, які нязначна адрозніваецца ад першага. У другім згадваецца месца нараджэння („Ubiel aula"). Таму мы яго не прыводзім (гл. НГАБ, ф. 1731, воп. 1, адз. зах. 7, арк. 49 адв.). Таксама існуе выпіс метрычнага запісу, які знаходзіцца ў вывадовай справе роду Манюшкаў, што захавалася ў фондах Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу[79]. Выява гэтага выпісу публікавалася ў 2010 годзе[80]. Сам выпіс і яго пераклад з лаціны друкаваліся ў 2019 годзе[81].

Anno1819 Mai 5 ego, Vincentus Sielicki, sacerdos Congregationis Missionum, baptizavi infantem ex sola aqua | ob debilitatem, natum hodie, nominibus Stanislaum, Ioannem, Edvardum, | Casimirum, filium illustrissimi domini Ceslai Moniuszko, capitanei exercitus Polonici, equi-|tis S. Ioannis Hierosolimitani, et illustrissimae Elisabeth de Domo Madzarska, con-| sortis eius, legitimorum coniugum. Patrini fuere Gregorius Mieszkiewicz[82] et Axenia Kry-|czycka[83], Andreas Iezuita[84] et Francisca Ostreykowna[85].— Eodem anno die vero |8o eiusdem mensis Mai supplevi caeremonias baptismi super nominatum | superius infantem ego idem, qui supra.— Assistebant his caeremoniis magnificus dominus | Adamus Moniuszko, camerarius districtus Ihumensis et magnifica domina Maria Madzar-|ska, illustrissimus dominus Edvardus Wańkowicz[86], vexilifer districtus Minscensis et magnifica domina | Anna Moniuszkówna, illustrissimus dominus Dominicus Moniuszko, maior exer-|citus Polonici, eques S. Ioannis Hierosolimitani et magnifica domina Marianna Madzarska, | illustrissimus dominus Iosephus Moniuszko, vexilifer districtus Borisoviensis, eques S. Io-|annis Hierosolimitani et magnifica domina Anna Głowacka[87]. |

[79] НГАБ, ф. 319, воп. 2, адз. зах. 2128, арк. 2.

[80] J. Maroszek, R. Bednarek, *Stanisław Moniuszko i jego podlaski rodowód*, s. 92.

[81] Я. Янушкевіч, *Літоўскі пеўнік*, Ракаў 2019, с. 7–8.

[82] Рыгор Мяшкевіч — асоба малавядомая.

[83] Аксінія Крычыцкая — асоба малавядомая.

[84] Андрэй Езуіта — асоба малавядомая.

[85] Францішка Астрэйка — асоба малавядомая.

[86] Эдвард Ванькович (1790–1872) — муж Міхаліны Манюшка.

[87] Ганна Главацкая — асоба малавядомая.

5 траўня 1819 я, Вінцэнт Сяліцкі, святар Кангрэгацыі Місій, ахрысціў немаўля з адной вады дзеля яго слабасці, народжанае сёння, з імёнамі Станіслаў, Ян, Эдвард, Казімір, сына найяснейшага Чэслава Манюшкі, капітана Польскага войска, рыцара св. Яна Ерусалімскага, і найяснейшай пані Альжбэты з дому Маджарскай, яго жонкі, законных сужэнцаў. Хроснымі былі Рыгор Мяшкевіч і Аксіння Крычыцкая, Андрэй Езуіта і Францішка Астрэйкаўна. У тым жа годзе 8 дня таго ж месяца траўня, я, той жа, як і вышэй, споўніў абрады хросту над названым вышэй немаўлём. Прысутнічалі на гэтых абрадах вяльможны пан Адам Манюшка, каморнік Ігуменскага павета, і вяльможная пані Марыя Маджарская, яснавяльможны пан Эдвард Ванькові, харужы мінскага павета, і вяльможная пані Ганна Манюшкаўна, яснавяльможны пан Дамінік Манюшка, маёр Польскага войска, кавалер св. Яна Ерусалімскага, і вяльможная пані Марыяна Маджарская, яснавяльможны пан Юзаф Манюшка, харужы Барысаўскага павета, кавалер св. Яна Ерусалімскага, і вяльможная пані Ганна Главацкая.



Aº 1819 Mai 5ª Ego Vincentius Sielicki S.C.M. Bap. Infantem ex sola Aqua ob debilitatem natum hodie Nominibus Stanislaum Joannem Edvardum Casimirum Filium Illmi Dni Ceslai Moniuszko Capitanei Exerc: Poll. Equitis S. Joannis Hierosolimitt et Illmae Elisabeth de Domo Madzarska Consortis ejus Leg. Corj: Patrini fuere Gregorius Mieszkiewicz et Axenia Kryczycka Andreas Jezuita et Francisca Ostreykowna — Eodem Anno Die vero 8ª ejusdem Mensis Mai supplevi Ceremonias Baptismi super Nominatum superius Infantem Ego idem qui supra — Assistebant his Ceremonijs MD. Adamus Moniuszko Camerarius Distr. Ihumen: et MD. Maria Madzarska Illmus Dnus Edvardus Wankowicz Vexilifer Distr. Minsciensis et MD. Anna Moniuszkowna — Illmus Dnus Dominicus Moniuszko Major Exercitus Poll. Eques S. Joannis Hierosolimitt et MD. Marianna Madzarska Illmus Dnus Josephus Moniuszko Vexilifer Distr. Borisoviens. Eques S. Joannis Hierosolimitani et MD. Anna Głowacka

**Метрыка хросту Станіслава Манюшкі**

НГАБ, ф. 937, воп. 4, адз. зах. 73, арк. 149 адв.

*XXXI. 1840 год, 25 жніўня. Метрыка шлюбу Станіслава Манюшкі і Аляксандры з Мюлераў*

Wilno. Roku Pańskiego tysiąc osmset czterdeztiego miesiąca Sierpnia dwadziestego piatego dnia w Wilenskim Rzymsko Katolickim parafialnym Antokolskim Pana S. Ezusa Kosciole WIK.Ian Menue Dziekan M. Wilna podprobosz Kosciola S. Iana na mocy Indultu IWIS Biskupa Kłagiewicza i Kawalera za nr 3836 w przytomnosci licznego zgromadzienia.

структурным фрагменце дакумента яна ідзе паўсюль пасля галосных літар і толькі ў некаторых нешматлікіх выпадках пасля зычных, то пачынаючы з аркуша 40 яна вельмі часта сустракаецца і пасля зычных, а пасля галосных часцяком знікае. Змяняецца і напісанне асобных слоў. Напрыклад, у першай частцы дакумента паўсюдна выкарыстоўваецца тэрмін „*нацдэмаўскі*", а ў другой частцы ён пішацца „*нац. дэмаўскі*" ці „*нац-дэмаўскі*". У першай частцы дакумента гаворка ідзе аб „*бібліотэцы*" БАН, у другой — аб „*бібліятэцы*". Пры гэтым нельга не ўлічваць магчымасць існавання двух супрацоўнікаў канцылярыі, якія друкавалі розныя фрагменты дакумента. Аднак па дакументах ЦНА НАН Беларусі вызначыць склад камісіі па праверцы не з'яўляецца магчымым.

У структуры „*Пастановы*" можна вылучыць два сэнсавых раздзелы, у якіх назіраюцца значныя адрозненні ў тэрміналагічным і сэнсавым складніках дакумента. У першай частцы дакумента разглядаюцца тыя заганныя з'явы ў дзейнасці Беларускай акадэміі навук і яе арганізацый, якія, на думку яго стваральнікаў, былі дапушчаны наўмысна і прывялі да істотных недахопаў у рабоце БАН. Другі інфармацыйны блок дакумента, які пачынаецца з аркуша 40, уключае канкрэтныя прапановы па ўдасканаленні работы кожнага структурнага падраздзялення Акадэміі навук і Прэзідыума БАН.

Параўнанне рэальнага становішча спраў у БАН з тымі недахопамі, у якіх абвінавачваліся асобныя структурныя фарміраванні, выходзіць па-за межы дадзенай публікацыі. Аднак паспрабуем вызначыць некаторыя накірункі рэалізацыі рэкамендацый „*Пастановы*", якія выразна адлюстроўваюць той факт, што з боку камуністычнай партыі былі зроблены захады па ўбудаванні БАН у сістэму прапаганды і ідэалогіі ідэй марксізму-ленінізму.

У дакументах ЦНА НАН Беларусі маецца ўзгадка пра рэакцыю вучонага Беларускай акадэміі навук на крытыку, якая зыходзіла ад камісіі па праверцы БАН. Гэта пратакол пасяджэння адмысловай камісіі па справе загадчыка кафедры антрапалогіі БАН прафесара Аляксандра Карлавіча Ленца ад 13 студзеня 1932 г.[1] Вялася дыскусія аб крытыцы работы кафедры і яе кіраўніка, якую выказваў вучоны-неўрапатолаг і правадзейны член БАН Міхаіл Барысавіч Кроль. У часопісе „*Неўрапатолагія і псіхіятрыя*" у 1931 г. быў апублікаваны артыкул М. Б. Кроля, які меў падзагаловак „*Па матэрыялах брыгады РКІ па чыстцы кафедры антрапалогіі Беларускай*

[1] *Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі* (далей — ЦНА НАН Беларусі), ф. 1, воп. 1, адз. зах. 410, арк. 159.



**Акадэмік Мікалай Малюшыцкі**



**Прафесар Аляксандр Ленц (зправа) і асоба не вядомая (злева)**

*акадэміі навук"*[2]. У артыкуле адзначалася: „*РКИ БССР провела большую работу через бригады из рабочих и научных сотрудников по просмотру и анализу продукции отдельных кафедр БАН. Таким образом накопился огромный материал, изучение которого является в высокой степени насущной и благодарной задачей"*[3]. У артыкуле сцвярджалася, што дзейнасць кафедры антрапалогіі была метадалагічна памылковай, бо была скіравана на сцвярджэнне самабытнасці беларускага народа. У дадзеным выпадку магчыма адзначыць тэрміналагічнае супадзенне артыкула Кроля з тэкстам „*Пастановы*". Прафесар А. Ленц выступіў з аспрэчваннем дадзенага артыкула, настаяў на крытычным разглядзе выкладзеных у ім фактаў асобнай камісіяй Прэзідыума БАН. Аднак на пасяджэнні 13 студзеня 1932 г. было прынята рашэнне аб тым, што: „*…артыкул пр. Кроля, зьмешчаны ў часопісу „Нэўрапатолёгія і псіхіатрыя", супадае матэрыялам па чыстцы БАН, дае правідловую палітычную ацэнку прац катэдры антрополёгіі БАН, на чале якой стаяў пр. Ленц, ніякіх элемэнтаў асабістай бэспадстаўнасьці і шальмаваньня пр. Ленца ў сабе ня мае. 2) Заява Ленца і яго тлумачэньне ў камісіі ў якіх груба скажае сэнс артыкула Кроля з усёй яскравасьцю сьведчыць аб тым, што а) пр. Ленц не зразумее палітычнай сутнасьці сваіх памылак, б) па сутнасьці ня згодзен з пастановай камісіі па чыстцы БАН, хаця формальна ў свой час ён прызнаў іх правідловымі…"*[4]. Патрэбна адзначыць, што, нягледзячы

[2] М. Б. Кроль, „*Наука" о поведении на службе у националдемократов*, „Журнал невропатологии и психиатрии", 1931, № 1, с. 25–34.

[3] Тамсама, с. 25.

[4] ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 410, арк. 159. Захаваны арфаграфія і правапіс арыгіналу.

на крытыку ў свой адрас, А. Ленц працягваў працаваць у акадэміі на працягу 1931 — першай паловы 1933 г.

Шмат якія з недахопаў, адзначаных камісіяй ЦКК і НК РСІ, дэманструюць ідэалагізаванае ўспрыняцце рэчаіснасці і, у выніку, скажэнне некаторых фактаў дзейнасці БАН з боку партыйных улад. Гэта прасочваецца на прыкладзе пытання аб адсутнасці ў Акадэміі планавання. Трэба адзначыць, што сістэма планавання навуковай дзейнасці, якая была ўведзена ў Акадэміі навук СССР толькі ў пачатку 1930-х гг., у Беларускай акадэміі навук дзейнічала з моманту яе ўтварэння. Планы работы структурных адзінак акадэміі будаваліся па фармалізаваных прынцыпах, вызначаных на пасяджэнні Прэзідыума БАН 7 кастрычніка 1929 г. Яны павінны былі складацца з некалькіх частак: структура інстытута, накірункі дзейнасці ўстановы і асобных падраздзяленняў, сувязь с планамі іншых устаноў, сувязь з масамі. Гадавыя і пяцігадовыя планы работы ўстаноў і кафедраў абмяркоўваліся на пасяджэннях Прэзідыума БАН. У верасні 1930 г. быў агучаны новы падыход да планавання, які заключаўся ў распрацоўцы некалькіх агульных тэм, актуальных для сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне, усімі ўстановамі БАН.

Адным з найбольш значных недахопаў у працы БАН камісія назвала адсутнасць сувязі з працоўнымі масамі. Аднак дакументы акадэмічнага архіва сведчаць аб значнай працы, якая праводзілася ў гэтым кірунку. Сувязі з шырокімі працоўнымі масамі абвяшчаліся ў якасці прыярытэту дзейнасці ў планах БАН пачынаючы з 1929 г. Магчымасці для правядзення масавай работы знаходзіліся нават пры арганізацыі вузкаспецыяльных мерапрыемстваў. Напрыклад, план работы кафедры этнаграфіі на 1931 г. прадугледжваў правядзенне комплекснай экспедыцыі па вывучэнні населеных пунктаў, промыслаў і прамысловасці па р. Бярэзіне. Падчас палявых даследаванняў планавалася прачытаць шэраг навукова-папулярных дакладаў для калгаснікаў, беднякоў і серадзнякоў, папулярызаваць экспедыцыйныя даследаванні[5]. З 1931 г. у практыку, якая захавалася да нашага часу, увайшла штогадовая публікацыя абагульненага акадэмічнага плана з абавязковым уключэннем у яго тэм дакладаў, якія планавалася прачытаць з мэтай папулярызацыі дзейнасці БАН. Можна казаць аб тым, што сітуацыя з планаваннем і сувязямі з масамі ў БАН пасля праверкі не зазнала значных змен.

Магчыма адзначыць, што некаторыя рашэнні праверкі маглі зрабіць дастаткова значны ўплыў на работу БАН. Гэта ў першую чаргу вырашэнне

[5] ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 8, арк. 142.

пытання аб арганізацыйнай структуры акадэміі. Сапраўды, у 1930–1931 гг. структура Беларускай акадэміі навук, якая была падобнай на структуру Інстытута беларускай культуры, з'яўлялася даволі складанай. Яе ўпарадкаванне адбывалася ў некалькі этапаў. 2 сакавіка 1931 г. Прэзідыумам БАН прымаецца рашэнне аб канцэнтрацыі навукова-даследчай работы ў БССР вакол акадэміі. 29 сакавіка 1931 г. на пасяджэнні Прэзідыума БАН было прынята рашэнне аб рэарганізацыі структуры Акадэміі навук. Структурныя падраздзяленні, якія існавалі дагэтуль, аб'ядноўваліся і ператвараліся ў сістэму навукова-даследчых установоў. Вытрымка з пратакола тэксталагічна вельмі значна нагадвае тэкст пункта 2 у другой частцы „*Пастановы*"[6]. Такім чынам, магчыма звязаць правядзенне праверкі ў БАН з актыўным этапам перабудовы яе структуры.

Значна паскорылася падрыхтоўка кадраў у акадэмічнай аспірантуры. Паводле даных на 1931 г., колькасць аспірантаў Акадэміі была ўжо даволі значнай і складала 177 чалавек, у тым ліку па хіміі — 10, гісторыі — 22, эканоміцы — 37, юрыдычных навуках — 10, літаратуры — 15, медыцыне — 29, філасофіі — 16. У 1931 г. быў запланаваны прыём такой жа колькасці суіскальнікаў вучонай ступені на наступны год. Гэта вельмі значная колькасць, калі ўлічваць, што на працягу 1929–1931 гг. персанальны склад акадэміі налічваў усяго каля 120 чалавек. Таксама паскорыліся намаганні па ўдасканальванні работы Інстытута аспірантуры.

Змены назіраліся і ў дзейнасці акадэмічных установоў. Такое патрабаванне, як актывізацыя дзейнасці бібліятэкі, было прынята і выканана кіраўніцтвам БАН. У прыватнасці, у 1932 г. штат акадэмічнай бібліятэкі быў павялічаны да 5 чалавек. Згодна з планам работы на 1933 г., яе супрацоўнікі павінны былі апрацаваць не менш за 12 тысяч кніг; папоўніць бібліятэкі інстытутаў адпаведнай літаратурай; складаць бібліяграфічныя даведкі для супрацоўнікаў БАН; ажыццяўляць міжнародны абмен; удзельнічаць у выданні насценгазеты і наладжванні выстаў; выдаваць квартальныя каталогі выданняў БАН[7].

Безумоўна, установы БАН выканалі ў 1930-х гг. асноўнае патрабаванне „*Пастановы*" — пераход да навуковай праблематыкі, непасрэдна падпарадкаванай задачам сацыялістычнага будаўніцтва. Пытанне аб асаблівасцях гэтага працэсу ў навуковым асяроддзі БССР разглядаецца

[6] Вытрымка з пратакола пасяджэння апублікавана ў выданні В. Г. Гусаков, А. А. Коваленя, *Президиум Национальной академии наук Беларуси: историко-документальный очерк*, Минск 2015, с. 38–40.

[7] *Вытворчы плян Беларускай акадэміі навук на 1933 год*, Менск 1933, с. 84.

ў некаторых публікацыях супрацоўнікамі ЦНА НАН Беларусі[8]. У якасці прыкладу новых тэматычных распрацовак разгледзім план работы кафедры савецкага будаўніцтва і права на 1931 г., які быў зацверджаны ў пачатку згаданага года. У якасці асновы для разгортвання дзейнасці кафедры былі абраны рашэнні XVI з'езда ВКП (б), якія *„высоўваюць перад усімі арганізацыямі дыктатуры пролетарыяту цэлы рад задач, якія датыкаюцца непасрэдна дзяржаўнай арганізацыі пролетарскай дыктатуры і прававых адносін”*[9]. Работу кафедры планавалася арганізаваць па дзвюх секцыях: секцыі дзяржавы і савецкага будаўніцтва, секцыі канкрэтнага права. Павінны былі даследавацца пытанні, звязаныя з дзейнасцю мясцовых органаў улады (*„Саветы і калгасы”*, *„Горсаветы БССР у рэконструкцыйны пэрыяд”*), крытыкай буржуазных канцэпцый (*„Рэвізыянісцкая концэпцыя дзяржавы”*, *„Нацыянал-дэмократычная концэпцыя дзяржавы”*), з праблематыкай, якая тычылася Заходняй Беларусі (*„Фашысцкая Польшча”*)[10]. У якасці метадалагічнай асновы называўся марксізм-ленінізм, які вызначаў ідэйную накіраванасць даследаванняў, паколькі *„…правільнае прымяненьне аружжа маркса-ленінскай мэтодолёгіі пры аналізе праяў канкрэтнай рэчаіснасьці, патрабуюць ад катэдры большай увагі на разборы і крытыку ўсіх скажэньняў маркса-ленінскага вучэньня, якія адбіты ў устаноўках правага ўклона і „левых” загібшчыкаў…”*[11].

Такім чынам, *„Пастанова”* зафіксавала сімвалічны падзел гісторыі БАН: ад арганізацыі, якая, па меркаванні ствaральнікаў дакумента, знаходзілася пад кантролем нацыянал-дэмакратычных сіл, да навукова-даследчага цэнтра сацыялістычнага грамадства. У рэчышчы крытыкі першай часткі дакумента практычна кожнае яе падраздзяленне атрымала кляймо „нацдэмаўскага”. Аднак супрацоўнікі Беларускай акадэміі навук, узгаданыя ў дакуменце ў негатыўным аспекце, на момант яго стварэння ўжо былі выведзены па-за акадэмічныя колы.

---

8 М. В. Глеб, *Становление академической науки Белорусской ССР в конце 1920-х – начале 1930-х гг.*, [в:] *Миллеровские чтения — 2018: Преемственность и традиции в сохранении и изучении документального академического наследия: Материалы II Международной научной конференции, 24–26 мая 2018 г.*, Санкт-Петербург 2018, с. 351–357; Дз. А. Крэнт, *Латышская нацыянальная меншасць у БССР у даследаваннях Карла Шкільтэра*, [в:] *Копытинские чтения — I, II: сборник статей междунар. науч.-практ. конф., Могилев, 17–18 мая 2018 г.*, Могилев 2018, с. 44–46; К. В. Сыцько, *Дакументы аб дзейнасці У. І. Пічэты ў Інбелкульце і АН БССР (Па матэрыялах фондаў ЦНА НАН Беларусі)*, [в:] *История и историография: объективная реальность и научная интерпретация: Сб. науч. ст., посв. 140-летию со дня рожд. В. И. Пичеты,* Минск 2018, с. 89–95.

9 ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 8, арк. 92.

10 Тамсама, арк. 94.

11 Тамсама.

У другой частцы пералік недахопаў саступае месца выразным і канкрэтным рэкамендацыям па далейшым удасканаленні той навуковай мадэлі, стварэння якой патрабавалі савецкая дзяржава і партыя. Асноўнай задачай БАН, вынікам яе рэфармавання, абвяшчалася кіраванне распрацоўкай навуковых праблем сацыялістычнага будаўніцтва агульнарэспубліканскага ўзроўню. Беларуская акадэмія навук атрымала задачы дзяржаўнага значэння, што гаворыць аб высокай ступені даверу да працы яе кіраўніцтва і асабістага складу. Непасрэдных звестак аб рэалізацыі рашэнняў *„Пастановы”* не засталося, але вывучэнне ўскосных сведчанняў дае магчымасць вызначыць яе непасрэдны ўплыў на жыццё навуковай супольнасці Беларусі, змены ў статусе і дзейнасці Беларускай акадэміі навук у пачатку 1930-х гг.

*****

Дакумент друкуецца ў адпаведнасці з правіламі публікацыі гістарычных дакументаў 1990 г., з захаваннем асаблівасцей напісання арыгіналу. Скароты раскрываюцца з дапамогай квадратных дужак [], легенда крыніцы прыведзена перад яе асноўным тэкстам.

Праект

**Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КПбБ і Калегіі НКРСІ ад 4 красавіка аб выніках абсьледваньня Беларускай Акадэміі Навук у адпаведнасьці выкананьня ёю задач сацыялістычнага будаўніцтва і ў зьвязку з чысткай і праверкай яе апарату**

*Мінск, 1931 г.*

Кастрычнікавая рэвалюцыя адчыніла вялізарнейшыя магчымасьці гаспадарчага і культурнага сацыялістычнага будаўніцтва на Беларусі. Рабочая кляса, калгасьнікі, бедняцка-серадняцкія масы сялянства пад выпрабаваным кіраўніцтвам Ленінскай Камуністычнай партыі, пры дапамозе СССР дасягнулі нябачаных посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя посьпехі дасягнуты ў выніку ажыццяўленьня адзіна-правільнай гэнеральнай лініі партыі, у выніку няпрымірымай барацьбы з правым і „левым” апартунізмам.

Беларуская Акадэмія Навук, якая заснавана ў выніку Кастрычнікавай рэвалюцыі і пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, павінна была быць аўтарытэтнейшаю марксысцка-ленінскаю навукова-дасьледчаю

ўстанову, цэнтрам будаўніцтва пралетарскай па зместу і нацыянальнай па форме навукі і культуры ў БССР.

БАН павінна была праз канцэнтрацыю вакол сябе адпаведна кваліфікаваных і марксысцка-вытрыманых навуковых кадраў БССР, праз шчыльную сувязь свае навукова-дасьледчай работы з практыкаю сацыялістычнага будаўніцтва і поўнае падпарадкаваньне работы задачам гэтага будаўніцтва, а таксама праз наладжваньне адпаведных арганізацыйных форм — набыцць магчымасьць на аснове марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі і сацыялістычных мэтадаў працы найбольш пасьпяхова і рацыянальна праводзіць сваю навукова-дасьледчую дзейнасць ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і пралетарскай культуры ў БССР.

На БАН партыяй і ўрадам ўскладаліся задачы: актыўнага няпрымірымага змаганьня за генэральную лінію партыі і вывучэньне вытворчых сіл БССР, усямэрнага садзейнічаньня і дапамогі сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і ажыцьцяўлення задач культурнай рэвалюцыі, падрыхтоўкі навуковых кадраў для сацыялістычн[ага] будаўніцтва, задачы ўсямернага садзейнічаньня і дапамогі ажыцьцяўленьню Ленінскай нацыянальнай палітыкі, барацьбы з шовінізмамі розных колераў і з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі плынямі ў навуцы.

Для выкананьня гэтых задач партыя і ўрад не шкадавалі сродкаў і наогул стварылі самыя спрыяючыя, найлепшыя ўмовы для разгортваньня навукова-дасьледчай работы. Бюджэт БАН у мінулым годзе складаў 840.956 р[ублёў], на асобны квартал было асыгнавана 200.000, а на 1931 г.— бюджэт БАН складае 1.832.000 р[ублёў]. Пачата пабудова новых памяшканьняў для Акадэміі коштам ў некалькі мільёнаў рублёў.

Ня гледзячы на ўсе спрыяючыя ўмовы, якія былі створаны партыяй і ўрадам для работы БАН, апошняя ня толькі не выканала пастаўленых перад ёю задач, але наадвараот, пры патураньні і садзейнічаньні з боку нацыянал-апартуністычнага кіраўніцтва, што папала ў рукі контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму і амаль поўнасьцю была пастаўлена на службу нацыяналістычных, рэстаўратарска-інтэрвенцыялістычных, буржуазных запатрабаваньняў, шкодніцкай, контр-рэвалюцыйнай рабоце, у выкананьні задач беларускага нацыянал-дэмакратызму, шовіністаў розных колераў і адценьняў, у папулярызацыі буржуазнай канцэпцыі і метадаў ў навукова-дасьледчай рабоце змыкаліся ўсе варожыя і чужыя пралетарыяту сілы, якія пралезьлі ў БАН.

У выніку нац[ыянальна]-апартуністычнага кіраўніцтва БАН, у выніку шкодніцкай контр-рэвалюцыйнай інтэрвенцыяніцкай работы нацдэмаў маюцца наступныя прарывы і недахопы ў рабоце Акадэміі:

I/ Нац[ыянальна]-апартуністычная практыка партыйнага кіраўніцтва БАН па сутнасьці была кіраўніцтвам нацыянал-дэмакратаў, якія ажыцьцяўлялі свае контр-рэвалюцыйныя задачы, як праз ўсю сыстэму работы, так і паасобныя зьвеньні Акадэміі;

2/ Структура Акадэміі ні ў якой меры не забясьпечвала і не магла забясьпечыць выкананьне тых задач у галіне навукова-дасьледчай работы, якія ўкладаліся на Акадэмію, як на вышэйшую навукова-дасьледчую ўстанову БССР і цэнтр будаўніцтва беларускай нацыянальна-пралетарскай культуры. Наяўнасьць хаотычнасьці, заблытанасьці, раздробленасьці, напатрэбасьці паасобных зьвеньняў у структуры БАН поўнасьцю адпавядала і садзейнічала тэй рабоце, якая праводзілася ў Акадэміі нацдэмамі і інш[ымі] чужымі, шкоднымі пралетарыяту элемэнтамі.

3/ Прэзыдыум БАН свае работы не плянаваў. У плянах работы паасобных зьвеньняў БАН амаль зусім ня былі адбіты задачы сацыялістычнага будаўніцтва. Тэматыка работы паасобных інстытутаў і катэдраў БАН была падначалена задачам абгрунтаваньня „тэорыі самабытнасьці", вывучэньня архаічнага мінулага, разьвіцьця зьвярынага шовінізму, падвядзеньня „навуковай" базы пад кулацкую прышчэпаўшчыну, панаваньня нацыянальнай формы і буржуазнага зьмэсту ў навукова-дасьледчай рабоце. Тыя пляны, якія былі часткова зьвязаны з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, зьяўляліся грамодзкімі, вялікімі па аб'ему і пры наяўнасьці тэй колькасьці працаўнікоў і іх кваліфікацыі, якая мелася ў БАН, яны не маглі быць выкананы. Пляны работы складаліся габінэтным парадкам, без удзелу шырокіх колаў пралетарскай гармадзкасьці, без увязкі тэматыкі з зацікаўленымі савецкімі гаспадарчымі і адміністрацыйнымі ўстановамі. Паасобныя заданьні ўраду, якія мелі актуальнае значэньне для сацыялістычнага будаўніцтва і якія павінны былі быць тэрмінова выкананы, ня выконваліся.

4/ У галіне арганізацыі навукова-дасьледчай работы панаваў індывідуалізм, саматужніцтва. Адсутнічаў кантроль за выкананьнем заданьняў як паасобнымі зьвеньнямі, так і паасобнымі працаўнікамі. Паралелізм у рабоце паасобных інстытутаў і катэдраў БАН, дубліраваньне адных і тых-жа пытаньняў, бесплянавасць, безкантрольнасьць у рабоце, адсутнасьць распарадку, норм выпрацоўкі, надзвычайна вялікая сумяшчальнасьць сярод навуковых працаўнікоў, пагоня за тым, каб

найбольш атрымаць грошай, буржуазная канкурэнцыя ў навукова-дасьледчай рабоце, цэлы рад выпадкаў компіляцыі ў навуковых працах без указаньня крыніц, адкуль узяты тыя ці інш[ыя] факты і вывады — характэрныя рысы ў пастаноўцы арганізацыі навукова-дасьледчай работы.

5/ У галіне мэтодолёгіі навукова-дасьледчай работы амаль ва ўсіх зьвеньнях панавала буржуазная мэтодолёгія ў розных відах. У мэтах завуаляваньня буржуазнай канцэпцыі і мэтодолёгіі ў навуковай рабоце нярэдкі выпадкі, калі паасобныя працаўнікі спасылаліся на Маркса-Энгельса-Леніна, прыводзілі адпаведныя цытаты, але тут жа выхолашчвалі самую сутнасць гэтых цытат. Мэтодам дыялектычнага матэрыялізму пераважная большасьць навуковых працаўнікоў не ўладае і ім не карысталася ў навукова-дасьледчай рабоце.

6/ У справе комплектаваньня навуковымі кадрамі БАН існаваў прынцып падбору такіх працаўнікоў, якія па сваёй ідэолёгіі чужыя пралетарыяту і якія маглі бясспрэчна выконваць сацыяльны заказ нацдэмаў у навукова-дасьледчай рабоце. Такім чынам апарат БАН быў засьмечаны ідэолёгічна-варожымі элементамі. Партыйна-камсамольская праслойка ў апараце БАН была па колькасьці невялікая, прычым камуністы-працаўнікі зьяўляліся шырмаю для шкодніцкай, контр-рэвалюцыйнай работы варожых элемэнтаў. У адносінах да сумленных, адданых справе сацыялістычнага будаўніцтва працаўнікоў складаліся нацдэмамі немагчымыя ўмовы для працы. Варожыя элемэнты консолідаваліся ў напрамку правядзеньня сваёй лініі ў адносінах да савецкі настроенных працаўнікоў. У справе падрыхтоўкі навуковых кадраў работы амаль ніякай не праводзілася. У асьпірантуру вербаваўся ў большасьці сацыяльна чужды элемэнт да моманту арганізацыі Інстытута асьпірантуры.

7/ Праводзячы яскрава акрэсьленую нацдэмаўскую лінію ў навукова-дасьледчай рабоце, нацыянал-апартуністычнае кіраўніцтва БАН пад націскам партыйных арганізацый і пралетарскай грамадзкасьці прымушана было арганізоўваць ў структуры БАН некаторыя ўстановы, якія павінны былі распрацоўваць актуальныя праблемы сацыялістычнага будаўніцтва, як, напрыклад, катэдру марксізму-ленінізму і катэдру каапэрацыі і калектывізацыі. Але ўтварыўшы гэтыя інстытуцыі, кіраўніцтва БАН не стварыла належных умоў для разгортваньня іх работы, а ўсямерна садзейнічала нацдэмам ў справе падрыву і перашкоды ў рабоце гэтых інстытуцый.

8/ Для работы нацыянальных сэктароў складаліся няспрыяючыя ўмовы. Нацыянал-дэмакраты ў адносінах да нацсэктароў пры асыгнаваньні

сродкаў на работу высоўвалі прынцып вылучэньня сродкаў, выходзячы з удзельнай вагі насельніцтва тэй ці інш[ай] нацыянальнасьці ў БССР. Кіраўніцтва з боку Прэзыдыуму работаю нацсэктароў адсутнічала. Паасобныя працаўнікі нацсэктароў з нацдэмаўскай ідэолёгіяй змыкаліся ў рабоце з беларускімі контр-рэвалюцыянерамі нацдэмамі, праводзячы ў навукова-дасьледчай рабоце па сутнасці адну лінію.

9/ Выдавецкая справа БАН была пастаўлена такім чынам, што ўсямерна садзейнічала друкаваньню шкодных, контр-рэвалюцыйных нацдэмаўскіх прац. Палітрэдакцыя адсутнічала. Кантролю зусім не было. Надзвычайна вялікая зацяжка ў выпуску прадукцыі, якая мела актуальнае значэньне для сац[ыялістычнага] будаўніцтва. Прасоўваньне прац да друку выключна знаходзілася ў руках нацдэмаў. У выніку гэтага друкаваліся працы нават нацыянал-фашыстаў з Заходняй Беларусі[12]. Тэхнічнае афармленьне прац дрэннае.

10/ У галіне пастаноўкі гаспадаркі БАН панаваў хаос. Адсутнічаў точны вучот маёмасьці. Замежнае абсталяваньне для лябораторый захоўвалася дрэнна. У сувязі з нядбайнасьцю кіраўніцтва гаспадаркаю не загатаваны быў у мінулым годзе апал, дзякуючы чаму ўзімку памяшканьне Акадэміі амаль не апальвалася і шэраг зьвеньняў апарату БАН амаль не працаваў. Да апошняга часу няма яснасьці ў пытаньні прасоўваньня будаўніцтва памяшканьняў Акадэміі.

11/ У справе выдаткаваньня сродкаў таксама ёсьць цэлы шэраг недахопаў. Назіраліся выпадкі рвацтва, хаосу ў разасыгнаваньні сродкаў. Штатныя адзінкі перакідваліся з аднэй установы ў другую. Пры складаньні каштарысаў мелі мейсца надзвычайна вялікія запатрабаваньні. Устаноўлена, што з некаторымі навуковымі працаўнікамі складаліся падложныя рахункі на выдаткаваньне сродкаў. Злачынна выдаткаваліся сродкі на экспэдыцыі.

12/ У пастаноўцы канцэлярскай справы панавала неразьбярыха, бязсыстэмнасьць, надзвычайнае залежваньне папер. Немагчымасьць атрымаць у сувязі з бязсыстэмнасьцю належных справак па цэламу раду пытаньняў.

12 У кастрычніку 1929 г. Прэзідыум БАН прымае першую пастанову па палітычным пытанні — аб размяшчэнні артыкула Янкі Станкевіча ў выданнях Акадэміі навук. Яшчэ ў 1928 г., у перыяд дзейнасці Інстытута беларускай культуры, у *„Записках Отдела гуманитарных наук”* быў змешчаны яго артыкул *„Дыспаляталізацыя І ў беларускай мове”* (у дакуменце артыкул названы *„Дыспаляталізацыя у беларускай мове”*). Увагу Прэзідыума, відавочна, прыцягнулі крытычныя публікацыі ў рэспубліканскіх газетах, якія выйшлі ў дачыненні да асобы і тэксту Станкевіча ў пачатку кастрычніка 1929 г. Публікацыя артыкула была прызнана палітычнай памылкай. Крытыка датычылася не столькі зместу артыкула, колькі асобы аўтара, *„патэнтованага рэакцыянера і клерыкала, які ў апошнія гады цалкам запрадаўся польскаму фашызму”* (ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 114). Не апошнюю ролю ў гэтым сцвярджэнні, відавочна, адыграла дзейнасць вучонага, які стаў у 1928 г. дэпутатам польскага сейма.

13/ Архіў Акадэміі не ўпарадкаваны, раскіданы па інстытутам і катэдрам. Няма кнігі архіўных спраў, у сувязі з гэтым магчыма зьнікненьне нэкаторых каштоўных дакумэнтаў. Трэба тэрмінова прыняць меры да ўпарадкаваньня архіву Акадэміі.

14/ Бібліотэка ў апошні час прыведзена ў парадак. Навуковыя працаўнікі, якія карыстаюцца бібліятэкаю, надзвычайна доўга затрымоўваюць на руках кніжкі. Памяшканьне бібліотэкі не адпавядае запатрабаваньням у сувязі з разгортваньнем навукова-дасьледчай работы.

15/ Сувязі Акадэмія з шырокімі пралетарскімі массамі ня мела. Рабочыя, калгасьнікі, бедняцка-серадняцкія масы сялянства, настаўніцтва аб рабоце Акадэміі нічога ня ведалі. Акадэмія ня імкнулася зьвязацца з гэтымі масамі. Акадэмія нічога абсалютна не рабіла для папулярызацыі сярод пралетарскай грамадзкасьці дасягненняў навукі і тэхнікі, для ўзьняцьця культурнага ўзроўню працоўных мас.

16/ Па пытаньню ажыцьцяўленьня Ленінскай нацыянальнай палітыкі ў справе садзейнічаньня і дапамогі правядзеньню беларусізацыі, выходзячы з установак партыі акадэміяй таксама амаль нічога ня зроблена. У самой Акадэміі панаваў шовінізм, нацыяналізм розных колераў і адценьняў, прычым гэтым праявам не давалася належнай палітычнай ацэнкі і адпору з боку савецкай часткі навуковых працаўнікоў.

17/ Ячэйка КПбБ Акадэміі і асабліва мясцком фактычна садзейнічалі сваёй палітычнай блізарукасьцю нацдэмам у іх шкодніцкай рабоце. Ячэйка калі і ставіла пытаньне барацьбы з паасобнымі нацдэмамі, дык гэта праводзілася нерашуча, не даводзілася планава да канца. МК у сваёй рабоце ствараў аўтарытэт нацдэмам, падтрымоўваў іх.

18/ Справаю вылучэнства ў Акадэміі ніхто не займаўся.

У рабоце паасобных зьвеньняў структуры акадэміі неабходна адзначыць наступнае:

1. ПА КАТЭДРЫ МАРКСІЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ.— Разьвіцьцё і праца гэтае катэдры ўвесь час тармазілася з боку нацдэмаўскага кіраўніцтва БАН. Катэдра ў разгортваньні сваёй працы не ахапіла шэрагу пытаньняў, маючых прынцыповае палітычнае і тэорэтычнае значэньне, непасрэдна зьвязаных з разгортваньнем сац[ыялістычнага] будаўніцтва і клясавай барацьбой пралетарыяту. Не разгарнула позытыўнай працы па нацыянальнаму пытаньню, якое мае актуальнейшае значэньне ў БССР. Не разгорнута барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Не зьвярнула належнай увагі на распрацоўку мэтодолёгіі правага і левага ўхілаў. Не вяла барацьбы з мэханістамі

ў філёзофіі, а таксама слаба вядзе барацьбу з меншавіствуючым ідэолізмам. Ня ўдзельнічала ў барацьбе з пераверзеўшчынай, рубіншчынай і мэханістамі паліт[ычнай] эканоміі. Вывучэньне асноўных мэтодолёгічных праблем рэканструкцыйнага пэрыяду /культурная рэвалюцыя, вытворчыя сістэмы, вытворчыя адносіны і інш./ ня ўведзены ў плян працы Катэдры. Недастаткова прыстасоўвае сваю працу да канкрэтных умоў. Наогул заўважваецца вялікая адсталасьць катэдры ад сваечасовага выкананьня запатрабаваньняў сац[ыялістычнага] будаўніцтва і клясавай барацьбы пралетарыяту. З недастатковаю ўкамплектаванасьцю працаўнікамі назіраецца вялікая перагрузка маючыхся працаўнікоў рознымі сумяшчэньнямі. Катэдра зусім не зьвязана з пэрыфэрыяй і рабочымі масамі ў сваёй працы. Слаба разгорнута самакрытыка ў Катэдры і да апошняга часу памылкі ў працы катэдры і яе працаўнікоў ня выкрыты і не раскрытыкаваны. Ня зусім здавальняючыя тэхнічныя ўмовы для працы Катэдры.

2. Па ХЭМ[ІЧНАМУ] ІНСТЫТУТУ.— Інстытут не зьяўляўся ні кіруючым цэнтрам навукова-дасьледчай работы ў галіне хэміі на БССР, ні сапраўднай навукова-дасьледчай установай, а зьяўляўся фактычна аналітычнай лябораторыяй, якая працавала па розных заданьнях. Ідэолёгічны зьмест працы Ін[стыту]ту быў яўна нацыянал-дэмократычным. Раздутая арганізацыйная структура існавала фактычна толькі на паперы. Інстытут ня меў належнай сувязі ні з практыкаю і савецкай грамадзкасьцю, ні з родственнымі яму ўстановамі на БССР. Займаўся непатрэбнаю працаю па мэтадам вызначэньня калія, кальцыя і інш[ых], калі гэтыя мэтады ўжо маюцца, або перагонкаю сьпірытусу ў віно ці афарбоўкаю яек. Ня меў Ін[стыту]т сталага навуковага і адміністрацыйнага кіраўніцтва. Недобраякаснае выкананьне аналізаў. Поўная безгаспадарчасьць. Антысанітарны стан інстытуту. Бюрократызм. Адсутнасьць падрыхтоўкі кадраў. Адсутнасьць папулярызацыі ў масах сваёй працы. Шкодная праца па выкладаньню хэм[ічнай] тэрмінолёгіі.

3. Па ГЭОЛЁГІЧНАМУ ІНСТЫТУТУ.— Інстытут не аформіўся яшчэ арганізацыйна. Будаваў свае пляны без уліку запатрабаваньняў сац[ыялістычнага] будаўніцтва, чаму амаль не працаваў па плянах. Не зьвязаны з родственнымі яму ўстановамі на тэрыторыі БССР і СССР, ад чаго назіраецца шкодны паралелізм у рабоце. Няма належнай сувязі з практыкаю сац[ыялістычнага] будаўніцтва і савецк[ай] грамадзкасьцю. Не вядзецца папулярызатарская работа сваіх вынікаў сярод працоўных мас і наогул не арганізавана перадача вынікаў у практыку сац[ыялістычнага]

будаўніцтва. Тэмпы працы недапушчальна нізкія і размах самой працы не адпавядае запатрабаваньням сац[ыялістычнага] будаўніцтва. Дрэнная арганізацыя навуков[ай] працы, адсутнасьць у ёй сацыялістычных мэтадаў. Зацяжка ў заканчэньні і выданьні прац. Зусім не арганізавана справа падрыхтоўкі кадраў. Адсутнічае ўнутраны распарадак і норміроўка прац. Няпоўнае і нерацыянальнае выкарыстаньне маючагася абсталяваньня. Разьвіццё работы інстытуту ўвесь час тармазілася нацдэмамі, быў пастаўлены спецыяльна нацдэмамі камісар Грамыка[13]. Не арганізавана захоўваньне інвентару. Няма музэю пры Інстытуце. Інстытут загружаны рознага роду матар'яламі, якія неўпарадкаваны, псуюцца і г.д.

4. Па ІНСТЫТУТУ ГІСТОРЫІ.— У Інстытуце існаваў поўны адрыў ад грамадзкага і палітычнага жыцьця, бесплянавасьць і безкантрольнасьць у працы, прымірэнцтва да варожа-ідэолёгічных поглядаў, шкодніцтва ў навуковай дзейнасьці, зажым самакрытыкі. Усё гэта спрыяла таму, што нацыянал-дэмакратызм і вялікадзяржаўны шовінізм знаходзіў належную глебу для сваёй дзейнасьці ў Ін[стыту]це на працягу шэрагу гадоў. Адсутнасьць плянаў. Вынікі працы шкодныя і, або ня пушчаны ў друк, або із'яты пасля надрукаваньня, як клясава-варожыя. Прэзыдыум БАН не кіраваў Інстытутам. Сац[ыялістычныя] мэтады адсутнічалі. Інстытут быў запалонены буржуазна-нацыяналістычнымі працаўнікамі. Кантролю ў працы ніякага ня было. Барацьбы з нацдэмамі не вялося. Існавала нацдэмаўская сямейнасьць з высоўваньнем у людзі „сваіх". Тэматыка прысвечана старажытнасьці Беларусі. Праца вялася на аснове буржуазнай мэтодолёгіі пад відам аб'ектыўнае, унеклясавае навукі. Праводзілася змазваньне ролі бальшавікоў у Кастрычнікавай рэвалюцыі і ідэалізацыя дробна-буржуазных партый. Не разгорнута справа падрыхтоўкі кадраў. Падбіраліся нацдэмамі для працы і падрыхтоўкі ў Ін[стыту]т выключна іх людзі.

5. ПА ІНСТЫТУТУ МОВАЗНАЎСТВА.— Склад працаўнікоў інстытуту быў амаль цалкам варожы дыктатуры пралетарыяту. Кіраўніцтва нацдэмаўскае /Некрашэвіч, Лёсік/[14]. Уся праца была

---

[13] Грамыка Міхаіл Аляксандравіч (1885–1969). Геолаг, вучоны, пісьменнік. Працаваў у Інбелкульце і БАН. Быў арыштаваны 13 ліпеня 1930 г. і па пастанове Калегіі АДПУ БССР ад 10 красавіка 1931 г. высланы за межы Беларусі.

[14] Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч (1883–1937). Мовазнаўца. Старшыня Навукова-тэрміналагічнай камісіі, старшыня Інстытута беларускай культуры (1922–1925), старшыня Аддзела гуманітарных навук Інбелкульта (1926–1928). Акадэмік БАН (1928), віцэ-прэзыдэнт БАН (1929), дырэктар Інстытута мовазнаўства (1929–1930).

Лёсік Іосіф Юр'евіч (1883–1940). Мовазнаўца, пісьменнік. Член Інбелкульта (з 1922), дырэктар Інстытута навуковай мовы (з 1927). Акадэмік БАН (1928). Акадэмікі Некрашэвіч і Лёсік былі зняты з пасад 13 жніўня 1930 г. паводле рашэння Прэзідыума БАН. Прычынай звальнення была названа антысавецкая праца навукоўцаў, якія займалі на той час адказныя пасады.

сьвядома накіравана па нацыянал-дэмакратычнаму рэчышчу. Слоўнікі будавалі на мове XIV–XVI ст. Запаўнялі іх рэлігійнай тэрміналёгіяй з адначасовым ігнараваньнем савецкай і інтэрнацыянальнай тэрміналёгіі. Праводзіўся зьвярыны шовінізм. Сьціраньне класавага зьместу. Орыентацыя на Захад. Самабытнасьць з абіраньнем для доследаў „глухіх куткоў" і старых бабак. Усе вынікі працы яўна нацдэмаўскія, варожыя сац[ыялістычнаму] будаўніцтву. Склад працаўнікоў Інстытуту і да гэтага часу зьяўляецца нездавальняючым. Неўкамплектаванасьць кваліфікаванымі працаўнікамі. Не разгорнута падрыхтоўка кадраў. Неўпарадкаванасьць архіву. Адсутнічае ўвязка працы Інстытуту з шырокімі коламі пралетарскай грамадзкасьці. Маецца ў апошнія часы некаторы пералом у працы ў сувязі з новым кіраўніцтвам.

6. ПА ІНСТЫТУТУ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА.— Зьбіралася старажытнае пісьменства з ідэалізацыяй гэтага мінулага. Не вялася праца над сучаснымі праблемамі, а будавалася на выкананьні сацыяльнага заказу нацдэмаў. Кадры падбіраліся з „сваіх людзей", чужых і варожых пралетарыяту. Падрыхтоўка асьпірантаў была пастаўлена ў напрамку выпрацоўкі нацдэмаў. Праца ня была зьвязана з пралетарскай грамадзкасьцю. Сацыялістычных мэтадаў ў працы не існавала. Барацьбы з нацдэмамі ніякай не вялося, а наадварот, змазвалася. Уся праца будавалася на буржуазнай мэтодолёгіі. Інстытут нічога не зрабіў для забесьпячэньня падручнікамі школ і для дапамогі ў гэтых адносінах НКАсьветы.

7. ПА ІНСТЫТУТУ АСЬПІРАНТУРЫ.— Інстытут склаўся з асьпірантуры некалькіх установ мэханічна, без індывідуальнага падбору. Няма палажэньня аб прыёме ў асьпірантуру. Адсутнічае статут. Няма пляну Ін[стыту]ту і праграм для асобных сэмінараў па спэцыяльнасьці і замежных мовах. Маюцца прарывы ў падрыхтоўцы, якія цяжка праверыць за адсутнасьцю праграм. Склад асьпірантуры нездавальняючы ні з сацыяльнага боку, ні з боку практычнага стану. Наглядаецца недапушчальная загрузка асьпірантаў іншай работай, што не дае магчымасьці весьці падрыхтоўку, у выніку атрымоўваецца, што асьпірантура для некаторых асоб зьяўляецца проста дабавачным заробкам па сумяшчальнасьці. Пазаакадэмічная і грамадзкая праца асьпірантаў нікім не рэгулюецца. Зусім слабая сувязь з рабочымі масамі. Асьпірантура не аб'яднана арганізацыйна ў БАН ні ў партыйным, ні ў праф[саюзным] парадку.

8. ПА ПОЛЬСЭКТАРУ.— Для ўсёй працы і яе вынікаў характэрна хістаньне як у бок польскага нацыяналізму, так і ў бок беларускага нац[ыянал] дэмакратызму. Мэтавая ўстаноўка работы яскрава ня вызначана. Праца абмяжоўвалася зборам гістарычных матар'ялаў эпохі паўстаньня 1863 г. з ігнараваньнем сучаснасьці. У працы пануе неклясавы падыход. Удзельнічалі ў складаньні нацдэмаўскай фільмы аб Кастусі Каліноўскім[15]. Разам з пераходам ў працы на рэйкі нацыянальнага адзінства, праяўляецца хвасьцізм у адносінах да польскай буржуазіі і яе вучоных. Тэмпы працы недапушчальна марудныя. Дрэнныя ўзаемаадносіны паміж працаўнікамі сэктару і бюрократызм з боку кіраўніцтва.

9. ПА ЯЎСЭКТАРУ.— Кіраўніцтва сэктару з пачатку яго існаваньня лічыла, што ў навуковай працы без буржуазных вучоных не абайсьціся. Праца ішла пад уплывам нац[ыянал] дэмакратызму. Імкнуліся ўсячэскі завязаць сувязь з замежнымі яўрэйскімі буржуазнымі вучонымі. У выніку гэтага склад працаўнікоў быў засьмечаны клясава-варожымі, ліберальнымі і клерыкальнымі элементамі. За ўвесь час да 1930 г. Яўсэктар зьяўляўся зброяй яўрэйскага нацыянал-дэмакратызму. Прадукцыя была „аб'ектыўнай", затушоўвалася клясавая барацьба, ня было крытыкі буржуазнай навукі. Панавала ідэя адзінай яўрэйскай нацыі. У досьледах ізаляваліся ад сучаснасьці ў старажытнасьці. Марксызм лічыўся публіцыстыкай і што ён да сапраўднае навукі адносін ня мае: Разам з гэтым абмяжоўваліся зьбіраньнем матар'ялу з павярхоўным яго апісаньнем. Пры гэтым зьбіралі абы-што. Зварочвалася больш увагі на рэлігійна-бытавы матар'ял. Тэмпы работы надзвычайна нізкія. Нерашучы паварот у бок палепшаньня працы назіраецца з пачатку 1930 г. у сувязі з зьменай кіраўніцтва. Няма сувязі з рабочымі масамі. Ня вывучаецца жыцьцё яўрэйскіх працоўных мас. Прадукцыя Яўсэктару пераважна шкодная, нацдэмаўская. Ад нацдэмаўшчыны гэты сэктар не пазбавіўся да апошняга часу.

10. ПА КАТЭДРЫ ФІЗЫОЛЁГІІ.— Катэдра арганізацыйна не аформлена, маецца толькі адзін працаўнік. У грамадзкай працы прымае слабы ўдзел. Барацьба з варожымі пралетарыту плынямі не вядзецца. Марксысцкая мэтодолёгія ў працы не ўжываецца.

11. ПА КАТЭДРЫ БІОЛЁГІІ.— Зусім не займалася пытаньнямі, якія б мелі значэньне для сац[ыялістычнага] будаўніцтва. Знаходзілася да апошняга часу ў поўным падначаленьні нацдэмаў. Навуковае працы

[15] *„Кастусь Калиновский"* — мастацкі фільм Уладзіміра Гардзіна, які выйшаў на экраны 14 жніўня 1928 г.

не вяла. Сувязі з масамі ня мела. Кадраў не рыхтавала. Займалася толькі непатрэбным засьпіртаваньнем унутранасьцяў жывёл.

12. ПА КАТЭДРЫ ФІЗІКІ.— Арганізацыйна яшчэ не аформілася і ніякай сталай працы не вяла. Кадраў не рыхтавала. Сувязі з вытворчасьцю і працоўнымі масамі ніякай не было. Падбяраліся кадры, якія не раіліся сав[ецкай] грамадзкасьцю. Пляны будаваліся не па ўліку запатрабаваньня сац[ыялістычнага] будаўніцтва, а на персанальнай зацікаўленасьці працаўнікоў. Тэмпы працы недапушчальна нізкія. Кіраўнік катэдры перагружаны рознымі працамі па сумяшчальнасьці да поўнай немагчымасьці вясьці дасьледчую працу па Катэдры.

13. ПА КАТЭДРЫ КААПЭРАЦЫІ І КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.— Катэдра была ўтворана, як шырма для адводу вачэй, для гэтага ж быў падшуканы і кіраўнік праф[есар] Лазавы[16], які нічога не рабіў, а быў шырмай. Працаўнікі катэдры былі ўсе да аднаго нацдэмы. Катэдра зусім не працавала на карысьць сац[ыялістычнага] будаўніцтва. Нацдэмы накіравалі яе дзейнасьць на ўмацаваньне прышчэпаўшчыны. Існавала без уселякай сувязі з Ін[стыту]там сац[ыялістычнай] рэканструкцыі і паралельна яму. Працаўнікамі зараз слаба ўкамплектавана. Падрыхтоўкі кадраў не вялося. Ня мае сталага загадчыка. Пэрспэктыва працы Катэдры толькі ў разьвіцьці на яе базе Аграрнага Інстытуту з далучэньнем інстытуту сац[ыялістычнай] рэканструкцыі.

14. ПА КАТЭДРЫ БОТАНІЦЫ.— Катэдра арганізацыйна не аформлена. Працаўнікамі ўкамплектавана няпоўнасьцю. Для сац[ыялістычнага] будаўніцтва нічога не дала. Ня мае нават навук[овага] кіраўніцтва і сталага загадчыка. Няма вучоту працы і маёмасьці. Перагружанасьць па сумяшчальнасьці часов[ага] загадчыка да немагчымасьці весьці тую ці іншую працу ў БАН. Кадры не рыхтаваліся.

15. ПА КАТЭДРЫ ГЛЕБАЗНАЎСТВА.— Катэдра не мае самастойнага твару, а фактычна зьліта з навучальнай катэдраю Горацкай С[ельска]/г[аспадарчай] акадэміі. Ня мае адпаведнага памяшканьня. Увесь штат працуе па сумяшчальнасьці. Не разгорнута справа падрыхтоўкі кадраў. Слаба зьвязана з вытворчасьцю і пралетарскай грамадзкасьцю. Тэмпы працы недастатковыя — дагэтуль ня выдана глебавая карта БССР. Перагружанасьць працаўнікоў па сумяшчальнасьці на розных пасадах.

[16] Лазавы Аляксандр Мікалаевіч (1890–1954), эканаміст. Член-карэспандэнт БАН (1929).

Маецца паралелізм у працах катэдры з працамі НКЗ[17], Палесмэліязему[18] і інш. Адсутнічае папулярызацыя сваіх вынікаў. Не наладжана крытыка глебазнаўчае літэратуры. Катэдра не аўладала мэтадам дыялектычнага матар'ялізму ў прыстасаваньні да глебазнаўства.

16. ПА КАТЭДРЫ ЭТНАГРАФІІ.— Усе сілы і сродкі катэдры былі накіраваны на давядзеньне самабытнасьці Беларусі: Кіравалі катэдраю і працавалі ў ёй амаль выключна нацдэмы /Ластоўскі, Шлюбскі, Каспяровіч/[19]. Вывучалі такія рэчы, як „афарбоўка яек вялікодных"[20], крыжы, бажніцы, царквы, рызы. Распрацоўвалі анкеты аб волатах, люцічах, ваўкох. Уся праца была цалкам адарвана ад запатрабаваньняў сучаснасьці і пераведзена на выкананьне нацдэмаўскага заказу. Усе працы яўна варожыя нацдэмаўскія, нікчэмныя з навуковага боку. Высоўвалі сваіх людзей. Пры такіх умовах ня можа быць нават і гутаркі аб сацыялістычных мэтадах працы, падрыхтоўцы кадраў, або аб сувязі з масамі. Зараз маецца пералом у працы ў сувязі са зьменай кіраўніцтва.

17. ПА Ц.Б.К[21].— Уся праца праводзілася ў нацдэмаўскім напрамку. Вывучалася старажытнасьць і розныя забабоны. Праз „Наш край" умацоўвалася прышчэпаўшчына. Ніякай сувязі з сацыяліст[ычным] будаўніцтвам і шырокімі коламі пралетарскай грамадзкасьці ня было. Навакол гэтай працы канцэнтравалася шмат нацдэмаў. Рыхтавалі на дапамогі інтэрвентам. Сучаснае кіраўніцтва ЦБК робіць пералом у працы. Не ўцягнуты і зараз у працу пісьменьнікі. Няма кіраўніцтва школьнымі гурткамі.

18. ПА БІБЛІОТЭЦЫ.— Не задавальняе запатрабаваньняў як паасобных супрацоўнікаў, так і катэдр. Зусім не прыстасавана да працы асьпірантуры. Не забясьпечана марксысцка-ленінскай літаратурай.

---

17 Народны камісарыят земляробства БССР.

18 Магчыма, маецца на ўвазе праектная арганізацыя „*Полесье мелиозем*", заснаваная акадэмікам БАН Аляксандрам Давыдавічам Дубахам у г. Рэчыцы ў пачатку 1930-х гг.

19 Ластоўскі Вацлаў Усцінавіч (1883–1938). Гісторык, грамадскі дзеяч. Акадэмік (1928), неадменны сакратар БАН (1929). Акадэмік Ластоўскі быў зняты з пасады 13 жніўня 1930 г. паводле рашэння Прэзідыума БАН па прычыне антысавецкай працы.

Шлюбскі Аляксандр Ануфрыевіч (1897–1941). Гісторык, этнограф. Працаваў у Інбелкульце і БАН. Быў звольнены па рашэнні пасяджэння Прэзідыума БАН ад 23 кастрычніка 1929 г. як чалавек, які палітычна скампраметаваў сябе.

Каспяровіч Мікалай Іванавіч (1900–1937). Гісторык, краязнаўца. Вучоны сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства Беларускай акадэміі навук.

20 Пасяджэнне БАН 19 лістапада 1929 г. удакладніла прычыны звальнення Аляксандра Шлюбскага. Ён звальняўся таму, што „*напісаў і распаўсюдзіў рэакцыйныя па зьместу анкеты аб зьбіраньні вестак аб вялікодных яйках, што ён быў грамадзка скомпромэнтаваны ў друку і не рэабілітаваў сябе, імкнуўся падарваць значэньне самакрытыкі і не рэабілітаваў сябе, што выражалася ў пагрозе пабіць таго, хто напісаў заметку ў насьцэнгазеце аб ім, і ўрэшце тое, што ён быў скомпромэнтаваны да суду*" (ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 143).

21 Цэнтральнае бюро краязнаўства.

Не наладжана бібліографічная справа. Не ўпарадкаваны архіў. Няма сакрэтнага аддзелу. Залежы непатрэбнага макулатурнага хламу. Не апрацавана 40 % кніг. Няма сувязі з інш[ымі] бібіліотэкамі. Не арганізаваны абмен кніжак. Не разгорнуты сацыялістычныя мэтады працы. Няма бібліотэчнага савету. Не хапае працаўнікоў. Няма адпаведнага памяшканьня.

19. ПА КАТЭДРЫ ЗООЛЁГІІ.— Праца катэдры была накіравана на зрыў сац[ыялістычнага] будаўніцтва, на дыскрэдытацыю палітыкі савецкай улады і камуністычнае партыі, на змазваньне дасягненьняў сац[ыялістычнага] будаўніцтва, на ўсхваленне б[ылой] Расіі і капіталістычнага Захаду. Пры нікчэмнай навуковай вартасьці ўсіх прац яны сьвядома выконвалі сацыяльны заказ нацдэмаў. Кіраўніцтва і склад працаўнікоў яўна варожыя, б[ылыя] калчакаўцы, нацдэмы і […][22]. Падрыхтоўка кадраў не разгорнута. Няпрыгодныя людзі набіраліся праз пратэкцыю. Самакрытыка зажата. З савецкай грамадзкасьцю сувязі няма.

20. ПА ЭКАНОМГЭАГРАФІІ. Праца па эканомгэаграфіі была падзелена на дзьве часткі ў інтарэсах забясьпечаньня катэдрамі двух нацдэмаў. Кіраўніцтва і склад быў нацдэмаўскім. Праца была цалкам адарвана ад сучаснасьці ў старажытнасьць. Ужывалася выключна буржуазная мэтодолёгія. Вынікі на 100 % яўна шкодныя, нацдэмаўскія. Падрыхтоўка кадраў ня была разгорнута. Сувязі з масамі ня было. Зараз маецца карэнны пералом у працы ў сувязі з поўнаю зьменаю складу працаўнікоў катэдры.

21. ПА КАТЭДРЫ АНТРОПОЛЁГІІ. Катэдра была поўнасьцю адарвана ад сучаснасьці і для сацыялістычнага будаўніцтва нічога не зрабіла. Уся праца была пабудавана на выкананьні сацыяльнага заказу нацдэмаў па вышіканьню „антрополёгічнага тыпу беларуса". З навуковага боку працы катэдры маюць шэраг грубых памылак, гвалтаваньне і скажэньне фактычнага матар'ялу, а адгэтуль і пажаданыя нацдэмам вынікі. З масамі сувязі ня было. Падрыхтоўка кадраў не разгорнута.

22. ПА КАТЭДРЫ САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА І ПРАВА. Катэдра выконвала сацыяльны заказ нацдэмаў. Усю сваю працу будавала на буржуазнай мэтодолёгіі. Умацоўвала сваімі працамі прышчэпаўшчыну і наогул нац[ыянал] дэмакратызм, а таксама тэорыю „самабытнасьці". З працоўнымі масамі сувязі ня было. Падрыхтоўка кадраў не была разгорнута. У апошнія часы маецца карэнны пералом у працы ў сувязі з прыцягненьнем да працы катэдры новых працаўнікоў.

[22] У гэтым месцы частка тэксту адарвана.

Беларуская Акадэмія Навук ў выніку былога нацыянал-апартуністычнага кіраўніцтва, пры патураньні і садзейнічаньні гэтага кіраўніцва беларускім контр-рэвалюцыянерам нацыянал-дэмакратам, былаператворана у прытулак барацьбы супроць Камуністычнай партыі і дыктатуры пралетарыяту. Замест актыўнага змаганьня за гэнэральную лінію партыі, падпарадкаваньня усей сваей працы задачам сацыялістычнага будаўніцтва, падрыхтоўкі новых навуковых кадраў, замест усямернага садзейнічаньня і дапамогі ажыцццяўленьню ленінскай нацыянальнай палітыкі, замест таго, каб стаць цэнтрам навукова-дасьледчай працы ў БССР, цэнтрам будаўніцтва нацыянальнай культуры сацыялістычнай па зьместу, БАН фактычна з'яўлялася цэнтарм ваяўнічага беларускага контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, шовінізмаў розных колераў і адценьяў, прапаганды буржуазных ідэй у навуцы.

У сувязі з зьменаю кіраўніцтва БАН, ачысткі яе ад нацыянал-дэмакратычных элементаў, ілжэспэцыялістаў, шкоднікаў, БАН павінна тэрмінова перабудаваць сваю працу ў напрамку запатрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва. Этап завяршэньня фундаманту сацыялістычнай экономікі, абвастрэньне клясавай барацьбы ў сувязі з пераможным сацыялістычным будаўніцтвам патрабуюць рашучай перабудовы усей навукова-дасьледчай працы ў напрамку адпаведнасьці яе тэмпаў з бурнымі тэмпамі і практыкай сацыялістычнага будаўніцтва. БАН павінна стаць сапраўдным цэнтрам навукова-дасьледчай працы ў БССР, цэнтрам будаўніцтва беларускай культуры і культуры іншых нацыянальнасьцяй сацыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме. Асноўная увага БАН павінна быць згуртавана на тэарэтычнай распрацоўцы праблем сацыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы пралетарцяту.

Абвастрэньне клясавай барацьбы патрабуе пільнасьці на фронце навукі і культурнага будаўніцтва. Неабходна бязупынная, упартая і жорсткая барацьба па выкарчаваньню нацдэмаўшчыны, па выкарэньню ўсіх варожых пралетарыяту тэорый ў навуцы. БАН ва ўсей сваей працы павінна праводзіць Ленінскі прынцып — партыйнасьці навуковай працы і бязьлітаснай барацьбы з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі плынямі ў навуцы. БАН павінна стаць сапраўдным цэнтрам падрыхтоўкі новых маладых навуковых кадраў для сацыялістычнага будаўніцтва.

Прэзыдыўм ЦКК КП/б/Б і Калегія НК РСІ ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1/ У ГАЛІНЕ ПЕРАБУДОВЫ ПРАЦЫ: а/ Прапанаваць Прэзыдыўму БАН перабудаваць працу Акадэміі такім чынам, каб прывесьці яе

ў адпаведнасьць з буйнымі тэмпамі сацялістычнага будаўніцтва. Ва ўсей навукова-дасьледчай працы на першы плян высунуць распрацоўку праблем, якія зьвязаны з бягучымі задачамі партыі і пралетарыяту, з задачамі сацялістычнага будаўніцтва, з ажыцьцяўленьнем Ленінскай нацыянальнай палітыкі, будаўніцтва беларускай літаратуры і культуры іншых нацыянальнасьцяй — сацыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме. БАН узяць на сябе абавязак усямерная тэорэтычнай дапамогі і садзейнічаньня савецкім і грамадзкім арганізацыям у іх практычнай працы.

2. У ГАЛІНЕ СТРУКТУРНАЙ ПЕРАБУДОВЫ БАН: а/ У мэтах зьнішчэньня пануючага параллелізму паміж навукова-дасьледчымі ўстановамі, непатрэбнай і шкоднай паміж імі канкурэнцыі, нерацыянальнага выкарыстаньня навуковых сіл і сродкаў, сканцэнтраваць усю навукова-дасьледчую працу ў Рэспубліцы пры Беларускай Акадэміі Навук, усклаўшы на апошнюю задачы плянаваньня, арганізацыі і фактычнае кіраўніцтва ўсёю навукова-дасьледчай справай.

б/ Уключыць ў сыстэму Акадэміі Навук ў першую чаргу наступныя навуковыя ўстановы: Інстытут сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, Інстытут Прамысловасьці, Інстытут аховы працы, Інстытут педагогікі і педалёгіі, Інстытут экономікі пры Дзяржпляне, Мэдінстытут, геолёгічна-разьведачную частку горнай групы пры ВСНГБ[23], Геодэзычны інстытут.

в/ Правесьці рэарганізацыю структуры Беларускай Акадэміі Навук, паклаўшы ў аснову структуры буйныя інстытуты.

г/ Стварыць ў сістэме Акадэміі Навук на базе існуючых навукова-дасьледчых інстытутаў, катэдраў і камісій БАН і навукова-дасьледчых устаноў, якія знаходзіліся да гэтага часу па за Акадэміяй Навук наступныя навукова-дасьледчыя інстытуты: 1/ Інстытут філёзофіі, 2/ Інстытут гісторыі, 3/ Інстытут літаратуразнаўства і мастацтва, 4/ Інстытут мовазнаўства, 5/ Інстытут савецкага будаўніцтва, 6/ Інстытут экономікі, 7/ Інстытут сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, 8/ Інстытут камуністычнага выхаваньня, 9/ Геолёгічны інстытут, 10/ Інстытут хэміі, 11/ Фізыка-тэхнічны інстытут, 12/ Інстытут біолёгічных навук, 13/ Агроглебавы інстытут, 14/ Інстытут прамысловасьці, 15/ Інстытут паводзін чалавека, 16/ Мэдычны інстытут.

[23] Вышэйшы Савет Народнай гаспадаркі БССР.

3. У ГАЛІНЕ ПЛЯНАВАНЬНЯ ПРАЦЫ БАН: Прэзыдыўму БАН наладзіць плянавасьць працы ва ўсіх зьвеньнях. Ў тэматыку навукова-дасьледчай працы ўключыць ў першую чаргу задачы рэканструкцыі народнай гаспадаркі, культурнай рэвалюцыі, выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, ажыцьцяўленьне Ленінскай нацыянальнай палітыкі. Абавязаць савецкія і грамадзкія арганізацыі ўключыць у пляны работы БАН распрацоўку актуальных пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, зьвязанных з выкананьнем апэрацыйных задач гэтых арганізацый. Пляны працы складаць з удзелам шырокіх мас пралетарскай грамадзкасьці. Пляны працы давесьці да кожнага супрацоўніка БАН. Устанавіць суровы кантроль за выкананьнем плянаў працы.

4. У ГАЛІНЕ АРГАНІЗАЦЫІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАЙ ПРАЦЫ: У паасобных інстытутах БАН арганізаваць пераважна сыстэму калектыўнай прапрацоўкі праблем і заданьняў, дзеля чаго арганізаваць ударныя брыгады, шырока разгарнуць сацыялістычныя метады працы сац[ыялістычнага] спаборніцтва і ўдарніцтва. Кіраўніцтву БАН павесьці рашучую барацьбу за якасьць працы, яе баявыя тэмпы. Перад кожным працаўніком БАН павінны быць вызначаныя сталыя ясныя заданьні выкананьня плянавых, пазаплянавых і грамадзкіх работ. У мэтах недапушчэньня паралелізму ў працы, дубліраваньня адных і тых жа пытаньняў, устанавіць чоткае разьмяжаваньне задач і зьместу працы інстытутаў. Згуртаваць вакол Акадэміі лепшыя савецкія сілы інтэлігэнцыі, праводзячы праз іх першапачатковыя досьледы, зьбіраючы праз іх неабходны матар’ял. Распрацаваць кантрольныя нормы выпрацоўкі для навуковых супрацоўнікаў, ушчыльніць працоўны дзень, дабіцца максымальнай эфектыўнасьці ў навуковай працы. Арганізацыю навукова-дасьледчай працы праводзіць такім чынам, каб забясьпечыць самую цесную сувязь з рабочымі, калгаснымі і бедняцка-серадняцкімі масамі сялянства.

5. АБ СТАТУЦЕ БАН І ПАЛАЖЭНЬНЯХ ЯЕ АСОБНЫХ ІНСТЫТУЦЫЙ: Зыходзячы з тых задач, якія высоўваюцца зараз перад БАН, прапанаваць Прэзыдыўму БАН распрацаваць ў месячны тэрмін статут Беларускай Акадэміі Навук з яскравым вызначэньнем функцый па усіх галінах навукова-дасьледчай і кіруючай працы. Адначасова з гэтым распрацаваць палажэньні аб інстытутах БАН з вызначэньнем як напрамку, так і аб’ему працы кожнага паасобнага зьвяна БАН. Точна рэгламентаваць узаемаадносіны дырэктаратаў інстытутаў з Прэзыдыўмам БАН, а таксама непасрэднай сувязі з іншымі ўстановамі.

На падставе стутуту БАН і палажэньняў аб інстытутах распрацаваць інструцыі аб правох і абавязках працаўнікоў БАН.

Захаваць пры Прэзыдыўме БАН нацыянальныя сэктары — яўсэктар і польсэктар. Латкамісію і Літкамісію рэарганізаваць ў адпаведныя сэктары.

Прапанаваць Прэзыдыўму БАН разам з адпаведнымі Наркаматамі правесьці концэнтрацыю навукова-дасьледчай працы ў двухдэкадны тэрмін, перадаўшы адначасова Акадэміі усе асыгнаваныя сродкі на навукова-дасьледчую працу тых інстытутаў, якія уліваюцца ў структуру БАН. Правядзеньне канцэнтрацыі не павінна адмоўна адбівацца на нармальных ходзе працы усіх дасьледчых устаноў.

Прапанаваць Прэзыдыўму БАН ў бліжэйшы час дэталёва распрацаваць пытаньне аб сэктарох, якія павінны існаваць пры асобных інстытутах, надаўшы гэтай працы адпаведную грамадзкасьць.

6. У ГАЛІНЕ ПАДБОРУ КАДРАЎ І ПАДРЫХТОЎКІ ІХ. Працягваючы ачыстку БАН ад рэшткі антыпралетарскіх малакваліфікаваных, непрацаздольных элементаў, рашуча праводзіць мерапрыемствы па падбору новых марксыцка-вытрыманых навуковых працаўнікоў. Забясьпечыць рашучае вылучэньне маладых сіл з ліку праявіўшых сябе і вытрыманых камуністаў. Зьвярнуць ўвагу на падвышэньне навуковай кваліфікацыі працаўнікоў шляхам перападрыхтоўкі іх як на мейсцы, так і шляхам арганізацыі навуковых камандыровак ў СССР і за межы. Асноўная ўвага ў галіне падвышэньня кваліфікацыі павінна быць зьвернута на аўладаньне марксыцка-ленінскай мэтодолёгіяй. Наладзіць сувязь БАН ў цэлым і паасобных інстытуцый з навукова-дасьледчымі ўстановамі СССР. Зьнішчыць буржуазную канкурэнцыю ў навуковай працы, ўстанавіўшы сыстэматычны абмен вопытам. Сконцэнтраваць максымум сіл і энэргіі на пытаньні падрыхтоўкі новых кадраў. Падрыхтоўку новых маладых кадраў для сацыялістычнага будаўніцтва шчыльна ўвязаць з навукова-дасьледчаю працаю.

У мэтах дасягненьня найбольшай эффектыўнасьці ў навуковай працы і яе якасьці, прыняць меры да зьнішчэньня шматсумяшчальнасьці, якая адмоўна і шкодна адбіваецца на навукова-дасьледчай працы. Даручыць Прэзыдыўму БАН разам з Наркампрацы і Наркамснабам распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньню матар'яльнага становішча навуковых працаўнікоў Акадэміі. Прэзыдыўму БАН стварыць спрыяльныя ўмовы працы для навуковых працаўнікоў ўнутры Акадэміі, адначасова палепшыць іх жыллёвыя ўмовы. Прэзыдыўму БАН тэрмінова паставіць на належную вышыню вучот навуковых кадраў і асьпірантуры згодна існуючых палажэньняў.

7. У ГАЛІНЕ ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАЙ ПРАЦЫ: Прапанаваць Прэзыдыўму БАН шырока разгарнуць масавую навукова-папулярызацыйную працу сярод рабочых, калгасьнікаў і савецкай інтэлігенцыі. Задавальняць запатрабаваньні шырокіх працоўных мас ў галіне вынаходства, шырока прапагандуючы дасягненьні навукі і тэхнікі. У мэтах правядзеньня гэтай працы пры Прэзыдыўме БАН стварыць сэктар масавай працы. Лічыць неабходным арганізаваць выпуск часопісу „Навука і тэхніка ў масы". Усім зьвеньням БАН сістэматычна праводзіць цыклы папулярна-навуковых дакладаў сярод працоўных мас. Кожнамі зьвяну мецць як апорны пункт грамадзкае працы — калгас.

8. У ГАЛІНЕ ВЫДАВЕЦТВА БАН: Стварыць сталую палітрэдакцыю пры Прэзыдыўме БАН. Не дапушчаць зацяжкі ў друкаваньні навуковых прац. Забясьпечыць партыйным кіраўніцтвам выдавецкі аддзел БАН. Скараціць да мінімума падрыхтоўку прац да друку. Прэзыдыўму БАН зьвярнуць ўвагу на тэхнічнае афармленьне прац і іх распаўсюджаньне.

9. У ГАЛІНЕ ФІНАНСАВАЙ І ГАСПАДАРЧАЙ: Прэзыдыўму БАН паставіць на належную вышыню фінансавую дысцыпліну, сурова прытрымлівацца пастановы СНК ад 9/VIII — 1930 г. і наогул існуючых законапалажэньняў аб выдаткаваньні сродкаў адпаведных законадаўчых органаў. Сыстэматычна ажыцьцяўляць кантроль выдаткаў ў зьвязку з выконваемай працай. Спыніць габінэтнае складаньне каштарысаў, надаўшы справе складаньня каштарысаў грамадзкасьць з улікам усіх патрэб выкананьня апэрацыйных плянаў. Устанавіць кантроль над тым, каб сродкі выдаткаваліся на вызначаныя плянам і каштарысам мэты. Паставіць на належную вышыню маемасць БАН, пэрыядычна ўтвараць праверку маёмасьці.

10. У ГАЛІНЕ СПРАВАВОДЗТВА: Прэзыдыўму БАН падабраць кваліфікаваны склад канцэлярскіх працаўнікоў. Арганізаваць канцэлярскую справу на прынцыпах навуковае арганізацыі працы, надаўшы рабоце патрэбную чоткасьць. Арганізавана паставіць жывую і нямую справку. Устанавіць патрэбнае тэлефоннае абслугоўваньне. На працягу аднаго мес[яца] прывесьці ў належны парадак архіў. Упарадкаваць машынапісную справу з тым, каб была ўстаноўлена першачарговасьць друкаваньня і вучот працы.

Кіраўніцтву спраў зараз жа прыступіць да арганізацыі кантролю за выкананьнем дырэктыўных указаньняў партыйных і ўрадавых органаў, плянавых заданьняў і рашэньняў Прэзыдыўму БАН.

11. У ГАЛІНЕ ПРАЦЫ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ: Канстатаваць, што ў працы партыйнай ячэйкі і мясцкому маецца яшчэ шмат недахопаў. Паасобныя партыйцы слабы ўдзел прымаюць ў перабудове працы БАН. Не наладжана як сьлед грамадзкая праца. Слабое наведваньне сходаў. Паасобныя партыйцы не зьяўляюцца застрэльшчыкамі сацыялістычных мэтадаў працы. Нераўнамерна разьмяркавана грамадзкая нагрузка навуковых працаўнікоў. Па лінее профсаюзнай зусім слаба пастаўлена праца па палітычнаму і культурнаму абслугоўваньню паасобных груп працаўнікоў.

Прапанаваць парт'ячэйцы БАН арганізаваць працу такім чынам каб кожны партыец зьяўляўся застрэльшчыкам і арганізатарам баявых, ударных мэтадаў навуковай працы. Разьмяркаваць грамадзкую нагрузку сярод навуковых супрацоўнікаў і асьпірантаў. Абавязаць кожнага партыйца сачыць за выкананьнем плянаў працы адпаведных зьвеньняў БАН і ўскласьці персанальную адказнасьць на партыйцаў як за колькасныя, так і якасныя выкананьні паказнікаў пляну. Партыйцы павінны быць застрэльшчыкамі арганізацыі ўдарных брыгад і калектыўных мэтадаў працы. Профсаюзнай арганізацыі БАН прыняць меры да палепшаньня палітычнага і культурнага абслугоўваньня паасобных груп працаўнікоў. МК[24] БАН прыняць рашучыя меры па уцягненьню усіх працаўнікоў БАН па практычнаму вырашэньню усіх пытаньняў БАН. Шырока разгарнуць грамадзкую працу па абслугоўваньню рабочых, калгасьнікаў і наогул шырокіх працоўных мас. Забясьпечыць сыстэматычны выпуск насьценнай газэты і ўдзел ў ёй масы супрацоўнікаў.

Ячэйцы КП/б/Б і Мясцкому тэрмінова арганізаваць праверку ведаў па беларусізацыі.

Па паасобных існуючых установах у рэарганізацыі забясьпечыць выкананьне наступных момантаў, якія не увайшлі у агульныя па БАН прапановы:

1. <u>Па катэдры Марксызму-ленінізму</u>: Вывучыць нацыянальнае пытаньне на БССР. Разгарнуць працу па вывучэньню тэорэтыка-мэтадалёгічных праблем сацыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы пралетарыяту у БССР. Разгарнуць працу па вывучэньню і разбройваньню мэтодолёгіі правага і „левага" ухілаў, а таксама нацыянал-дэмакратызму і шовінізмаў розных колераў. Зьвярнуць асаблівую увагу на распрацоўку праблемы — Ленін, як філёзоф. Зьвязацца у сваей працы з перыферыйнымі навуковымі асяродкамі

24 Мясцовы камітэт прафсаюзнай арганізацыі БАН.

БССР, як Гомель, Віцебск, Магілёў і інш[ымі]. Разгарнуць барацьбу з „меньшевитствующим идеализмом”.

2. Па хэмічнаму інстытут[25]: Узмацніць кіраўніцтва Інстытуту. Упарадкаваць гаспадарчую частку. Арганізацыйна перабудаваць усю працу Ін[стыту]ту такім чынам, каб ён зьяўляўся сапраўдным аб'яднаючым і кіруючым цэнтрам усяе навукова дасьледчае працы па хэміі у БССР.

Перабудаваць пляны работы Хэмічнага Ін[стыту]ту у напрамку поўнага зьнішчэньня паралелізму з іншымі установамі, накіраваць усю працу па абслугоўваньню запатрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва і абароны краіны. Ін[стыту]ту стаць кансультантам усяе навукова-дасьледчай і практычнай працы на БССР.

Канчаткова зьліквідаваць кустаршчыну і недабраякаснае выкананьне заданьняў.

Прэзыдыуму БАН безадкладна арганізаваць спэцыяльную камісію для праверкі і упарадкаваньня гаспадарчай часткі Ін[стыту]ту, адначасова з гэтым вырашыць пытаньне у адносінах стану працы лябарантаў, аплаты іх працы і навуковай падрыхтоўкі.

3. Па геолёгічнаму інстытуту: Вырашыць пытаньне аб падпарадкавньні Геолёгічнаму Ін[стыту]ту усяе працы у галіне геолёгіі на БССР, кім бы яна не праводзілася і усякія досьледы дапускаць толькі з санкцыі Геоінстытуту. Разьмежаваць працу Ін[стыту]ту з ГГРУ СССР[26] і дабіцца сваечасовага выкананьня геолёгічных прац на БССР, якіў[27] уваходзяць у кампэтэнцыю ГГРУ. Дабіцца праз урадавыя ворганы спыненьня з боку ГГРУ СССР праводзімай імі працы па укладаньню 10-ці вёрстнае геолёгічнае карты БССР, замяніўшы яе на 3-вёрстку і прысьпешыць выкананьне апошняй. У плянах працы улічваць чарговасьць запатрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва да паасобных праблем і разгарнуць у першую чаргу працу па выяўленьню карысных выкапняў і вывучэньню характару іх заляганьня. Распрацаваць практычныя мерапрыемствы па забясьпечаньню падрыхтоўкі кадраў у галіне геолёгіі. Распрацаваць нормы выпрацоўкі. Распрацаваць пытаньне аб разьмяркаваньні часу паміж зборам і распрацоўкай матар'ялаў і вынішчэньні так званых „хвастоў”. Праверыць маёмасьць і наладзіць вучот у Ін[сты]туце. Маторызаваць геопартыі. Арганізаваць музэй пры Ін[стыту]це. Вызначыць Інструментальную камеру у Ін[стыту]це.

[25] Так у дакуменце.

[26] Галоўнае геолагаразведачнае ўпраўленне, знаходзілася ў 1929–1931 гг. у непасрэдным падпарадкаванні Вышэйшага савета народнай гаспадаркі СССР.

[27] Так у дакуменце.

4. Па Інстытуту Гісторыі: Разгарнуць працу па вывучэньню праблем гісторыі Беларусі, гісторыі яе гаспадарчага разьвіцьця, рэвалюцыйнага руху і выданьні адпаведных падручнікаў для школ БССР.

5. Па Інстытут[28] мовазнаўства: Узмацніць кіраўнічы склад Ін[стыту]ту праз арганізацыю дырэкцыі. Разгарнуць працу па марксіцка-ленінскай мэтодолёгіі у пытаньнях мовазнаўства, па выяўленьні сацыяльна-эканамічнай дэтэрмінаванасьці у моўнай будове, па клясавай дыфэрэнцыяцыі і паходжаньні мовы, па скрыжаваньню беларускай мовы з расійскай, яўрэйскай і інш. мовамі. Зрабіць у бягучым годзе рэформу беларускага правапісу і выдаць расійска-беларускі слоўнік.

6. Па катэдры літаратуразнаўства: Перабудаваць працу у напрамку вывучэньня сучасных праблем літаратуразнаўства. Праводзіць жорсткую крытыку варожых марксызму-ленінізму тэорый у галіне латаратуразнаўства у БССР (ідэалізм, эклектызм, мэханізм і інш.). Выяўляць контр-рэвалюцыйную нац. дэмаўскую ідэолёгію у гісторыі беларускай літэратуры, крытыцы і сучаснай мастацкай літаратуры. Пабудаваць у найкарацейшы тэрмін марксыцкую гісторыю беларускай літэратуры, выкарчаваўшы з школ нац-дэмаўскія падручнікі па літаратуры. Зьнішчыць уплыў нацдэмаўскай ідэалёгіі на шырокія колы настаўніцтва і вучняў. Распрацоўваць пытаньні па актыўнай дапамозе сучаснай пралетарскай і сялянскай літэратуры у галіне распрацоўкі імі творчага мэтода дыялэктычнага матэрыялізму, крытычнай ацэнкі твораў паасобных пісьменьнікаў і дапамогі ім шляхам адпаведных кансультацый, даклада і інш.

Распрацаваць марксыцка-ленінскую мэтодыку выкладаньня літаратуры у школах, аказваць штодзенную практычную дапамогу настаўніцтву у іх працы па літаратуразнаўству праз стварэньне дасьледчага габінэту пры Ін[стыту]ту літаратуразнаўтва.

Разгарнуць шырокую папулярызатарскую працу па выданьню сучасных пралетарскіх і сялянскіх пісьменьнікаў, у якіх бы мастацка высьвятлялася індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя вёскі, клясавая барацьба у горадзе і на вёсцы. Шырока распаўсюджваць гэтыя зборнікі сярод рабочых і сялян. Самым рашучым чынам пакончыць з адрывам працы інстытуту ад партыйнай і савецкай грамадзкасьці. Усе свае пасяджэньні, за выключэньнем тых, дзе разьбіраюцца дробныя тэхнічныя пытаньні, праводзіць з шырокім удзелам рабочых, настаўніцтва, пралетарскіх пісьменьнікаў, крытыкаў, студэнцтва.

---

28 Так у дакуменце.

7. Па Інстытут[29] асьпірантуры: Безадкладна закончыць арганізацыйнае афармленьне Ін[стыту]ту. Арганізаваць кіраўніцтва і рэгуляваньне нагрузкай асьпірантуры і кіраўнічых працаўнікоў Ін[стыту]ту з тым, каб гэтая нагрузка не перашкаджала падрыхтоўцы. Скласьці дакладны плян падрыхтоўкі кадраў па спэцыяльнасьцях. Арганізаваць пры Ін[стыту]це падрыхтоўчае аддзяленьне у асьпірантуру з рабочых партыйцаў. Устанавіць пэўныя правілы прыему у Ін[сты]тут асьпірантуры, прадугледзіўшы магчымасьць палепшаньня складу асьпірантуры з сацыяльнага боку і вытворчага стажу, правеўшы ачыстку Ін[стыту]ту ад непасьпяваючых і сацыяльна чужых элементаў. Арганізаваць завочную падрыхтоўку у асьпірантуру і асьпірантуры. Распрацаваць формы сталае сувязі з практычнымі працаўнікамі, скончыўшымі Ін[стыту]тут асьпірантуры. У акадэмічнай падрыхтоўцы улічыць асаблівасьці кожнае спэцыялізацыі. Сканцэнтраваць усю асьпірантуру Ін[сты]тут у грамадзкіх прац[ах] БАН і практычна вырашыць пытаньне аб шчыльнай сувязі асьпірантаў з вытворчасьцю. Асьпірантаў, якія маюць дастатковую зарплату вышэй за стыпэндыю, зьняць з стыпэндыі.

8. Па Польсэктару: Сэктар павінен ператварыцца у сваей рабоце, у цэнтр польскай, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу, навукі і культуры і разгарнуць сваю працу, як над праблемамі сацыялістычнага будаўніцтва польскіх працоўных мас у БССР, так і над праблемамі пралетарскай рэвалюцыі у Польшчы. Узмацніць працу па укладаньню польска-беларускага слоўніка і скончыць апошні у вызначаны тэрмін. Зьнішчыць недагаворанасць і нетаварыскія адносіны паміж працаўнікамі. Зьвязацца з ворганамі НКАсьветы і распрацаваць патрэбныя падручнікі для школ БССР. Зьвярнуць асаблівую увагу на барацьбу з каталіцызмам, шырока разгортваючы анты-рэлігійную прапаганду.

9. Па Яўсэктару: Перабудаваць працу яўсэктару з старажытнасьці на распрацоўку праблем сацыялістычнага будаўніцтва і клясавае барацьбы працоўных яўрэйскіх мас. Прыняць рашучыя крокі па унядрэньню у сваю працу марксісцка-ленінскай мэтадолёгіі. Распрацаваць беларускаяўрэйскі і яўрэйска-беларускі слоўнік. Наладзіць сувязь з перыфэрыяй, прыняць належны удзел у распрацоўцы падручнікаў для яўрэйскіх школ, тэхнікумаў і ВНУ.

Па катэдры фізіолёгіі[30]: Поўнасьцю перабудаваць працу катэдры у напрамку пастаноўкі экспэрыментальных работ, маючых актуальнае значэньне для сацыялістычнага будаўніцтва.

---

[29] Так у дакуменце.

[30] Нумар прапушчаны.

11. Па катэдры біолёгіі: Заняцца тэорэтычнымі пытаньнямі біолёгіі у напрамку дыялектычна-матэрыялістычнага сьветапогляду, зьвярнуць асабліўую увагу на узмацненьне і разгортваньне ідэолёгічнае барацьбы з мэханізмам, ідэолізмам і віталізмам і[31] біолёгіі.

12. Па катэдры фізікі: Арганізаваць работу па фізыцы у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі сацыялістычнага будаўніцтва, забясьпечыўшы гэтую працу адпаведным кіраўніцтвам.

13. Па катэдры батанікі: Прэзыдыуму БАН зараз вырашыць пытаньне аб прызначэньні новага дырэктара, альбо аслабаненьні тав. Ганчарыка[32] ад іншых прац. Вылучыць спэцыяльную камісію для праверкі і узяцьця на вучот маёмасьці катэдры і дасланых рэчаў прафэс[ара] Малюшыцкага[33].

14. Па катэдры глебазнаўства: Аб’яднаць яе працу у агульнай сістэме Акадэміі Навук, забясьпечыўшы неабходнымі умовамі для разгортваньня працы і незалежнасьць ад Горацкай С[ельска].Г[аспадарчай]. Акадэміі. Зараз вырашыць пытаньне аб кіраўніцтве і працаўніках. Разгарнуць працу па стацыянарных досьледах катэдры. Неадкладна арганізаваць працу па выданьню глебавае карты БССР.

15. Па катэдры этнаграфіі: Накіраваць работу на вывучэньне быту рабочых, калгасьнікаў і на вывучэньне сучаснага фальклёрнага матар’ялу.

16. Па Ц. Б.К: Наладзіць сталы вучот маючыхся краезнаўчых таварыстваў у раенных арганізацыях, зрабіўшы апорнай базай краезнаўчых гурткоў заводы, саўгасы і калгасы. Забясьпечыць ЦБК інструктарскім складам. Арганізаваць курсы кіраўнікоў краезнаўчых гурткоў на заводах, наладзіць сувязь з школьнымі гурткамі краезнаўства. Аднавіць дзейнасьць краезнаўчага т[аварыст]ва пры БДУ.

17. Па бібліатэцы: Утварыць сталую бібліатэчную камісію і у сувязі з запатрабаваньнямі паасобных інстытутаў карэнным чынам рэарганізаваць усю працу бібліатэкі. Правесьці чысткі бібліатэкі ад непатрэбнай макулатурнай літэратуры, забясьпечыўшы яе неабходнымі выданьнямі для навукова-дасьледчай работы і падрыхтоўкі асьпірантаў. Кніжкі, маючыя значэньне для масавага чытача,— перадаць у інш[ыя] бібліатэкі. Наладзіць абмен і сувязь з іншымі бібліатэкамі і выпіску кніг. Утварыць сакрэтны аддзел і аддзел шкодніцкае літэратуры. Упарадкаваць архівы. Тэрмінова скончыць апрацоўку кніг, наладзіць справу карыстаньня кнігамі. Завесьці

31 Так у дакуменце.

32 Ганчарык Міхаіл Мікалаевіч (1899–1986). Вучоны-біёлаг. Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР (1969). З 1929 г. загадчык кафедрай батанікі БАН, з 1931 г. намеснік дырэктара інстытута біялагічных навук.

33 Малюшыцкі Мікалай Кірылавіч (1872–1929). Вучоны-раслінавод. Акадэмік БАН (1928). Арганізатар і першы кіраўнік Цэнтральнай картофельнай вопытнай станцыі БелНДІ сельскай і лясной гаспадаркі.

кнігу скаргаў. Наладзіць бібліографічную справу. Арганізаваць чытальню. Зараз жа вырашыць пытаньне аб прымацаваньні 2-х асьпірантаў для бібліатэкі у мэтах спэцыялізацыі у бібліатэчнай справе і архіаграфіі.

18. По катэдры зоолёгіі: Забясьпечыць катэдру навуковымі працаўнікамі і кіраўніцтвам. Разгарнуць анты-рэлігійную працу катэдры. Разгарнуць працу па вывучэньню шкоднікаў сельскай гаспадаркі з мэтай пасьпяховае пастаноўкі барацьбы з імі. Наладзіць справы выкарыстаньня масавага збору матар'ялаў па фауне БССР і кіраўніцтва гэтай справай. Распрацаваць пытаньне аб рэканструкцыі усей справы з захаваньнем і разьвядзеньнем каштоўных відаў фауны БССР у зьвязку з соц[ыялістычнай] рэканструкцыяй сельскае гаспадаркі. Арганізавана паставіць працу зоолёгічнага музэю з прыстасаваньнем яе да выхаваньня масавага гледача рабочых і калгаснікаў.

19. Па катэдры эканомгэаграфіі: Узмацніць катэдру працаўнікамі. Распрацаваць падручнік па эканомгэаграфіі БССР. Разгарнуць працу па эканамічнаму раёнаваньню БССР.

20. Па катэдры антрапалёгіі: Перабудаваць працу у напрамку вывучэньня паводзін чалавека. Прыняць рашучыя крокі да хутчэйшага выпуску крытычнага агляду на друкаваныя працы катэдры.

21. Па катэдры савецкага будаўніцтва і права: Узмацніць катэдру працаўнікамі і кіраўніцтвам. Наладзіць сістэматычнае вывучэньне практыкі савецкага будаўніцтва і заканадаўчай працы кіруючых органаў рэспублікі.

Прапанаваць прэзыдыуму Акадэміі Навук зьнішчыць усе недахопы, вызначаныя па агульных матар'ялах па паасобных зьвеньнях.

Кантроль за выкананьнем ускласьці на Сац[ыяльную] Культурную групу НК РСІ. Першую справаздачу аб ходзе працы прэзыдыуму БАН прадставіць праз 2 мес[яцы].

***ЦНА НАН Беларусі, ф. 1, воп. 1, спр. 9, арк. 33–48. Машынапіс. Арыгінал. Подпісы і пячаткі адсутнічаюць.***

**Аляксандр Смалянчук**
**(Варшава/Гродна)**

# *„Мои показания прошу считать не действительными...”* Заява вучонага сакратара АН БССР Мікалая Несцяровіча ў ЦК КП(б)Б 16 красавіка 1939 г.

Праблематыка рэпрэсій не ўпісваецца ў сучасную гістарычную палітыку Рэспублікі Беларусь, улады якой у галіне гістарычнай памяці фактычна прэзентуюць сябе нашчадкамі сталінска-ленінскага рэжыму. Так, ужо амаль 30 год ідзе змаганне „афіцыйнай” Беларусі супраць ушанавання памяці ахвяр камуністычных рэпрэсій, якіх забівалі ў Курапатах пад Менскам. Нават усталяванне „дзяржаўнага” помніка ў 2018 г. было не столькі прызнаннем злачынстваў, здзейсненых *чэкістамі*, колькі спробай улады ўзяць пад кантроль гэтае месца памяці. У красавіку 2019 г. па ініцыятыве Аляксандра Лукашэнкі распачалося фактычнае знішчэнне народнага мемарыяла ў Курапатах. Пад аховай міліцыі вырываліся з зямлі экскаватарамі і вывозіліся дзясяткі крыжоў. Гэты акт дзяржаўнага вандалізму выклікаў хвалю абурэння ў Беларусі і за яе межамі. Аднак улады не збіраюцца на гэтым спыняцца, пра што сведчыць заява А. Лукашэнкі наконт далейшага „ўпарадкавання” Курапатаў, зробленая ім падчас удзелу ў „суботніку” на „лініі Сталіна”[1]. Адначасна, насуперак агульнавядомым фактам, Лукашэнка заявіў пра „нашае няведанне” таго, хто ляжыць у Купаратах і таго кім былі забойцы гэтых людзей?!

Варта прыгадаць, што за ўвесь перыяд незалежнасці ў нашай краіне адбыліся толькі дзве канферэнцыі (1998 і 2017), прысвечаныя трагічнай старонцы гісторыі камуністычных рэпрэсій[2]. Да арганізацыі гэтых навуковых канферэнцый дзяржаўныя ўстановы, у т.л. Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, не мелі аніякага дачынення.

[1] Лукашэнка пра Курапаты: *А ты, калі забіваў крыж, думаў пра тое, што там галава забітага чалавека?* „Наша Ніва”, 20. 04. 2019. Электронны рэсурс: https://nn.by/?c=ar&i=229190. Дата доступу: 01. 06. 2019.

[2] Іх вынікам стала выданне двух зборнікаў рэфератаў і дакументаў. Гл.: *Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX ст.* Пад рэд. Н. Стужынскай, Мінск 1998; *Масавыя рэпрэсіі ў СССР у гістарычных даследаваннях і калектыўнай памяці.* Пад рэд. А. Смаленчука і А. Кандрацюк. Мінск 2018.

Насамрэч масавыя рэпрэсіі ў СССР у 1920–1950-х гг. фактычна былі неабвешчанай вайной камуністычнай і савецкай эліты супраць народа і ягонай інтэлігенцыі. Гэтая тэма застаецца адной з найбольш актуальных у даследаванні мінулага Беларусі. Яе ігнараванне абарочваецца недарэчнымі і хлуслівымі ацэнкамі „вырашальнай ролі" БССР у станаўленні беларускай дзяржаўнасці ў XX ст., якія агучваюцца „прыдворнымі гісторыкамі". Пры гэтым важна ўсвядоміць, што камуністычныя рэпрэсіі 1920-х — пачатку 1950-х гг. — гэта не толькі сотні тысяч расстраляных і зняволеных у ГУЛАГу „ворагаў народа", „шпіёнаў", „дыверсантаў", „шкоднікаў" і г.д. Гэта таксама непрыкметнае звонку забойства тых, каго абмінулі непасрэдныя фізічныя рэпрэсіі, але хто быў вымушаны жыць у атмасферы страху і даносаў. У перыяд СССР кожная сфера грамадскага жыцця была прасякнута гвалтам і рэпрэсіямі з боку таталітарнай дзяржавы.

Масавыя рэпрэсіі ў СССР/БССР не маглі абмінуць навукоўцаў з Акадэміі навук. Можна сцвярджаць, што ў другой палове 1930-х гг. у савецкай Беларусі фактычна перасталі існаваць акадэмічныя навукі гуманітарнага і сацыяльнага накірункаў. Напрыклад, Інстытут філасофіі АН БССР быў закрыты з-за адсутнасці супрацоўнікаў, бо тыя загінулі ў ГУЛАГу. Аналагічны лёс напаткаў і г. зв. дакладныя навукі. Так, у 1938 г. быў зліквідаваны Фізіка-тэхнічны інстытут, а Інстытут эканомікі, у якім у 1936–1938 гг. арыштавалі 9 (!) супрацоўнікаў, пераведзены ў Дзяржплан БССР[3].

У ліпені 1938 г. беларускімі чэкістамі быў арыштаваны вучоны сакратар АН БССР і вядомы навуковец у галіне дэндралогіі Мікалай Дзмітрыевіч Несцяровіч (1903–1984). Пад катаваннямі ён прызнаў сябе „шпіёнам" і „дыверсантам", але шчасліва пазбег асуджэння і пакарання. Магчыма, пэўную ролю адыграла ягоная заява на імя сакратароў ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1939 г., а таксама тое, што хваля Вялікага тэрору ўжо спадала. Дарэчы, на яе апошнім этапе пачалася расправа з галоўнымі выканаўцамі сталінскай палітыкі тэрору, менавіта з шэраговымі катамі-супрацоўнікамі НКУС БССР.

На машынапіснай копіі заявы М. Несцяровіча захавалася рэзалюцыя першага сакратара ЦК КП(Б) Панцеляймона Панамарэнкі кіраўніку НКУС БССР Лаўрэнцію Цанаве, прызначанаму на гэтую пасаду ў снежні 1938 г., з рэкамендацыяй разабрацца ў справе[4].

---

3 *Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие во время сталинских репрессий.* Под ред. академика А. С. Махнача. Минск, 1992, с. 12.

4 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей — НАРБ), ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 14879, арк. 124.



**Прафесар Мікалай Несцяровіч. Пачатак 80-х гадоў ХХ ст.**

Заява Мікалая Несцяровіча выдатна перадае тую атмасферу, якая існавала ў Акадэміі навук БССР у перыяд Вялікага тэрору 1937–1938 гг. Чэкісты катавалі арыштаваных, выбівалі з іх прызнанні і прымушалі даваць паказанні супраць іншых навукоўцаў. Людзей забівалі фізічна і маральна. У заяве М. Несцяровіча фігуруюць імёны катаў НКУС, а таксама многіх вядомых навукоўцаў з АН БССР, якія, паводле сцвярджэння М. Несцяровіча, давалі паказанні супраць яго. Некаторыя з іх выжылі і працягвалі сваю навуковую дзейнасць поруч з аўтарам заявы.

Навуковая кар’ера беларускага батаніка і дэндролага Мікалая Несцяровіча ў пасляваенны перыяд была даволі паспяховай. У 1956 г. ён стаў акадэмікам, а праз 20 год з групай вучняў атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР, быў двойчы ўзнагароджаны ордэнам Леніна ды інш. Пры гэтым аніводны даведнік ці электронны рэсурс не ўзгадвае турэмны перыяд ягонага жыцця і прызнанне будучага акадэміка і ардэнаносца ў „шпіянажы”. Улады паклапаціліся, каб назаўсёды сцерці гэта з памяці. Але мы павінны памятаць пра злачынствы супраць народа, здзейсненыя партыяй Леніна-Сталіна, бо гэтая памяць дае пэўную надзею на тое, што пазбегнем іх паўтарэння.

***

Заява Мікалая Несцяровіча публікуецца з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі арыгінала. Таксама перададзены ўсе іншыя асаблівасці дакумента, напр. перакрэсліванні, падкрэсліванні і г.д. У працы над каментарамі да дакументаў выкарыстоўваліся выданне *„Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие во время сталинских репрессий”* (Минск, 1992), анлайн-база даных *„Открытый список”* расійскага таварыства „Мемарыял” (https://ru.openlist.wiki/Открытый_список: Заглавная_страница), анлайн-база даных *„Кадровый состав органов государственной безопасности СССР 1935–1939 гг.”* (http://nkvd.memo.ru/index.php/НКВД: Главная_страница), а таксама іншая літаратура і электронныя рэсурсы.




**16 красавіка 1939 г., Мінск. Заява Мікалая Дзмітрыевіча Несцяровіча сакратарам ЦК КП(Б)Б наконт фізічных і маральных катаванняў падчас следства НКУС і пра ўласную невінаватасць[5]**

Секретарям ЦК КП(б)Б

арестованного НКВД БССР
Нестеровича Николая Дмитриевича

ЗАЯВЛЕНИЕ

Арестован я 17. VII-38 г. До дня ареста я работал в качестве ученого секретаря Академии Наук БССР и был членом партии, а был исключен из партии после ареста. Входил также в состав парткома. Как я полагаю (с материалами следствия я незнаком) арестован я на основании клеветнических показаний Дорожкина[6], Иванищенко[7] и др. и на основании

[5] НАРБ. ф. 4п, воп. 1, спр. 14879, арк. 127–127 адв.

[6] Дарожкін Мікалай Афанасьевіч (1905–1993) — вядомы беларускі міколаг і фітапатолаг. У 1938 г. быў дырэктарам Інстытута біялогіі АН БССР. Арыштаваны 26 чэрвеня 1938 г., абвінавачваўся ў шпіянажы. У лютым 1940 г. справа была спыненая Ваеннай пракуратурай БССР, а Дарожкін М. А. быў рэабілітаваны. Акадэмік АН БССР (1962), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974).

[7] Іванішчанка Мікалай Агеевіч (1903–1938) — беларускі электрахімік, кандыдат хімічных навук, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі АН БССР. Быў арыштаваны 11 ліпеня 1938 г., абвінавачваўся

клеветнических материалов направленных НКВД Галонне[8] и Раковым[9]. Возможно в этом я ошибаюсь (прошу не считать клеветой), но к этому я прихожу, потому что Галонне угрожал мне говоря: „что найду на тебя управу” при исключении его из партии, а Раков по вопросу издания атласа[10] говорил мне, что мне „вредно волноваться на атлас”, когда я и Горев[11] вызвали комиссию из Москвы, а позднее передали Упр[авлению] картографии и съемки НКВД материалы на рассмотрение (г. Москва).

~~Последние~~ Первые два выступали с клеветой против меня. После ареста меня в тот же день и последующие дни и ночи меня допрашивали. При допросах применялись физические и моральные меры воздействия. Говорили со мной нач[альник] IV Упр[авления] Ермолаев[12] и его зам[еститель] Кунцевич[13]. После всего, в одну ночь, кажется 22. VII, мне дано было 5 ставок. И на ставках клеветали на меня: Дорожкин, Иванищенко, Пивоваров[14], Соколов[15] и Бобровницкий[16]. На ставках присутствовали Ермолаев, Быховский[17], Кунцевич и 2 следователя.

Протоколы ставок диктовались по очереди Кунцевичем, Быховским, Волоцорубом[18] и кажется Ермолаевым. Соколов арестованным не был, ибо его называли на ставках гражданином, а мне говорили, что его

---

ў шпіянажы. 11 кастрычніка быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання (ВМП). Расстраляны ў Мінску 19 кастрычніка 1938 г. Рэабілітаваны ў 1956 г. Ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі.

8 Ідэнтыфікаваць гэтую асобу не атрымалася.

9 Ракаў Я. Г. — беларускі эканаміст, з 1935 па 1937 г. — дырэктар Інстытута эканомікі АН БССР, адзін з рэдактараў калектыўнай манаграфіі „*Белорусская ССР. Очерки экономической географии*” (Мінск, 1953)

10 Гаворка ідзе пра комплексны атлас БССР, які выйшаў з друку толькі ў 1958 г.

11 Гораў Канстанцін Васільевіч (1904–1988) — вядомы беларускі навуковец у галіне металазнаўства і тэрмічнай апрацоўкі металаў, акадэмік АН БССР (1938), прэзідэнт АН БССР (1938–1947).

12 Ермалаеў Васіль Андрэевіч (1890–1939) — супрацоўнік НКУС БССР. З пачатку 1938 г. — начальнік Сакрэтнага палітычнага аддзела (СПА) УДБ НКУС БССР. Арыштаваны ў студзені 1939 г. Асуджаны Ваенным трыбуналам войск НКУС Беларускай асобнай вайсковай акругі (БАВА) да ВМП. Расстрэл заменены на 10 год лагера. Не рэабілітаваны.

13 Кунцэвіч Іван Ігнатавіч (1904–?) — супрацоўник НКУС, сяржант дзяржбяспекі, начальнік аддзялення СПА УДБ НКУС БССР (1935–1937), зам. начальніка СПА. У маі 1939 г. арыштаваны і асуджаны Ваенным трыбуналам войск НКУС БАВА да ВМП. Расстрэл заменены на 10 год лагера. Не рэабілітаваны.

14 Піваvараў Уладзімір Іванавіч (1904–1941) — наркам асветы БССР (1937–1938). Арыштаваны НКУС 2 ліпеня 1938 г. Асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР на 15 год лагера. Памёр у Пячорскім лагеры ў чэрвені 1941 г. Рэабілітаваны ў 1954 г.

15 Сакалоў Міхаіл Міхайлавіч (1898–?) — хімік, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі АН БССР. Арыштаваны НКУС у жніўні 1938 г., абвінавачаны ў шпіянажы і контррэвалюцыйнай дзейнасці. Вызвалены рашэннем Пракуратуры БССР у студзені 1940 г.

16 Бабраўніцкі Уладзімір Сцяпанавіч (1905–?) — беларускі хімік, супрацоўнік АН БССР. Са студзеня па ліпень 1938 г. — рэктар БДУ. Арыштаваны НКУС 12 ліпеня 1938 г., абвінавачаны ва ўдзеле ў антысавецкай „нацыянал-фашысцкай” арганізацыі, у „шкодніцтве”. Пад катаваннямі прызнаў сваю віну, але пазней адмовіўся ад паказанняў. Вызвалены рашэннем Пракуратуры БССР у сакавіку 1940 г.

17 Быхоўскі Віктар Эмануілавіч (1904–?) — супрацоўнік НКУС, мал. лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік аддзялення СПА УДБ НКУС БССР у 1936–1938 гг. Арыштаваны ў снежні 1938 г. Асуджаны на 10 год лагера. Не рэабілітаваны.

18 Ідэнтыфікаваць асобу не атрымалася.

пустят на свободу. Он клеветал на меня и клеветал на других лиц. Он показал, что я его завербовал в 1936 г., чего не было. Находясь в таких условиях следствия, я не видел другого выхода, я вынужден был дать письменно [показания], что я контрреволюционер, фашист, шпион, террорист, вредитель и проч[ая] мерзость. Я оклеветал себя и [что] страшнее всего других.

Я заявляю ЦК КП(б)Б, что показания я дал при изложенных выше обстоятельствах, и что я никогда и ни в каких контрреволюционных организациях не состоял. Врагом народа не был, не хочу быть и не буду покамест я буду жив. Я прошу секретарей ЦК КП(б)Б принять меня на 10–15 минут. Мои показания прошу считать не действительными. Прошу к следствию по моему делу привлечь материалы и документы, имеющиеся в парторганизации, райкоме и ЦК КП(б)Б.

16. IV-39 г. (подпіс)

Сяргей Кнырэвіч (Прага)
Вольга Зубко (Вінніца)

# Матэрыялы да жыццяпісу Аляксандра Максімавіча Жыховіча (1900–1973) – „беларуса на службе УНР”

## Замест прадмовы, альбо пра тое, як Сяргей Кнырэвіч знайшоў магілу Аляксандра Жыховіча

Займаючыся на працягу апошніх некалькіх гадоў вывучэннем гісторыі беларускай эміграцыі ў былой Чэхаславакіі, у мінулым годзе я працаваў у архіве органаў дзяржбяспекі Чэхаславакіі ў Празе *(Archiv bezpečnostních složek, Praha)*, дзе мяне асабліва цікавілі дакументы пра аднаго з самых актыўных беларусаў-эмігрантаў Васіля Русака. У матэрыялах, якія для мяне падрыхтавалі супрацоўнікі архіва, была адна старонка з пратакола допыту малавядомага мне Аляксандра Жыховіча. На гэтай старонцы пералічваліся члены беларускага гуртка ва Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падзябрадах, таму я запрасіў усю справу з допытам Жыховіча. У наступны раз мне далі 40-старонкавы дакумент, у якім самым падрабязным чынам быў распісаны жыццёвы шлях гэтага беларуса. Але ў прамежку часу паміж першым знаёмствам з імём Жыховіча і момантам, калі мне ў архіве прынеслі справу, я пачаў у інтэрнэце шукаць інфармацыю пра самога Жыховіча. Практычна адразу я знайшоў месца яго пахавання, гэта была маленькая вёска Чэрвенка на Мараве. Але самае цікавае, што я ўжо 9 гадоў працую на фірме ў мястэчку Літавел і ўсе гэтыя гады кожны дзень езджу на працу цягнікам каля могілак у Чэрвенцы. Дзевяць гадоў для мяне гэта былі толькі маленькія і нецікавыя могілкі, і я нават не мог уявіць, што яны маюць дачыненне да гісторыі беларускай эміграцыі ў Чэхаславакіі. Пасля роспытаў сваіх супрацоўнікаў — большасць з іх мясцовыя жыхары — мне ўдалося знайсці кантакт сына Жыховіча, і практычна праз некалькі дзён пасля таго, як я ў першы раз прачытаў старонку з пратакола допыту А. Жыховіча, я пазваніў Здэнеку Неханіцкаму (так звалі прыёмнага сына Жыховіча).

У самым пачатку нашай тэлефоннай размовы пан Неханіцкі сам спытаў мяне, што я ведаю пра Васіля Русака. На маё здзіўленае пытанне *„адкуль Вы ведаеце прозвішча Русака?"* сын Жыховіча адказаў, што Русак быў найлепшым сябрам яго бацькі. Русак часта бываў у сям'і Жыховічаў, яны часта разам адзначалі святы альбо праводзілі вольны час. Неханіцкі і сам добра памятае Русака: *„Гэта быў высокі і прыгожы мужчына. Заўсёды добра апрануты, меў прыгожы голас"*. Канешне, падлетка — Здэнек Неханіцкі нарадзіўся ў 1928 годзе — асабліва не цікавілі размовы дарослых, але вобраз найлепшага сябра яго бацькі застаўся ў памяці. Пасля арышту Русака і вывазу яго ў СССР Аляксандр Жыховіч часта ўспамінаў Русака, але не расказваў пра нейкія падрабязнасці. Менавіта маё тэлефанаванне і ўзрадавала пана Неханіцкага, таму што з'явіўся чалавек, які, магчыма, дапаможа яму высветліць, што ўсё ж такі здарылася з Русаком. Пасля я некалькі разоў асабіста сустракаўся са Здэнкам Неханіцкім, ён паказаў некаторыя дакументы свайго бацькі і дзве фатаграфіі, на якіх Аляксандр Жыховіч сфатаграфаваны разам з Русаком.



**Васіль Русак і Аляксандр Жыховіч. Санаторый каля Прагі, 1930-я годы**



**Злева направа: Васіль Русак, Людміла Жыховіч, Аляксандр Жыховіч, невядомы. Прага, 1942 г.**

Але прапаную вярнуцца да самога дакумента — пратакола допыту Аляксандра Жыховіча. У 1951 годзе ў цэнтральным апараце і краявых упраўленнях чэхаславацкай дзяржбяспекі былі створаны аддзяленні (сектары) пад назвай *„Усходняя эміграцыя"* (кодавая назва — *„Аддзяленне 105"*, якое мела ў складзе групы 1051 *„Украінцы"* і 1052 *„Белагвардзейцы"*).

Новаўтвораным аддзяленням была пастаўлена задача распрацоўваць эмігрантаў з былой Расійскай імперыі (СССР) і былых членаў эмігранцкіх (у першую чаргу рускіх і ўкраінскіх) арганізацый, якія існавалі на тэрыторыі Чэхаславакіі ў 1920–1940 гады. Верагодна, А. Жыховіч быў арыштаваны пры распрацоўцы ўкраінскай эміграцыі. Пратакол допыту мае 40 старонак, а сам допыт працягваўся з перапынкамі з 16 па 26 лістапада 1953 года. З матэрыялаў допыту відавочна, што на кватэры Жыховіча праводзіўся вобыск і некаторыя з выяўленых дакументаў (у справе называюцца *„дакумент 1…6"*) прад'яўляліся Жыховічу. Акрамя самога машынапіснага пратакола допыту, іншых дакументаў, якія б праяснілі абставіны арышту Жыховіча ці іншых асоб, імёны якіх сустракаюцца ў пратаколе, знайсці не атрымалася. Цікава, што ўжо ў 1954 годзе Аляксандр Жыховіч быў прызначаны кіраўніком архіва металургічнага прадпрыемства Віткавіцы (г. Астрава). Можна сказаць, што арышт Жыховіча не меў для яго сур'ёзных наступстваў, справу закрылі.

***********************************

***Вапнярка, Падольская губерня. 3-я Жалезная дывізія. Ліпень 1919 г. Украіна.***

*<Госпадзе! Як даўно ўсё гэта было!!!!!> 3-й дивізії протистояли кінна бригада Г. Котовського і 45-а радянська дивізія, яка дістала підкріплення і боєприпаси з Одеси. Вапнярку боронили аж 5 панцерних потягів, з Одеси прибули матроські ударні загони, морський комуністичний ударний полк (2000 багнетів), полк Мишки Япончика (1500 багнетів), що його він сформував з одеської шпани. Бої за Вапнярку 26–27 липня закінчилися перемогою Армії УНР. У Вапнярській операції особливо відзначилися артилеристи — точною й швидкою стрільбою в контр-батарейній боротьбі з панцерними потягами супротивника, де гарматна обслуга складалася з канонірів Чорноморської флоти. Як найкраще показала себе батарея легендарного сотника І. Шури-Бури (1921 р. Розстріляного під Базаром). Захоплення 3-ю дивізією станції Вапнярки поліпшило загальне становище української армії, яка планувала вирушити на Київ. За вдало проведену операцію 3-я дивізія булла офіційно удостоєна назви „Залізна". Полковник О. Удовиченко тоді одержав телеграму: „Повідомляю, що за високу боєздатність і витривалість, за надзвичайне лицарство 3-ї дивізії їй надана назва „Залізна". Іменем Командарма вітаю Залізну дивізію і зичу їй дальшої бойової слави. Начальник штабу Армії, полковник Тютюнник"*[1].

[1] О.Удовиченко, *Третя Залізна Дивізія. Матеріали до історії Війська Укр. Нар. Республіки. Рік 1919*, Нью-Йорк 1971, с. 50.



Krajská správa státní bezpečnosti
Hradec Králové

Dne 16. listopadu 1959.

Zápis o výpovědi

sepsaný dnešního dne s předvedeným :

Ing. Žichovičem Alexandrem, nar. 1.1.1900 v Bobrujsk, Minská oblast – BSSR, národnosti ruské, čsl. státní přísl. od r. 1947, ženatý, povolání komerční inženýr, pravoslavného náboženství, syn Maxima a Naděždy, roz. Lobovské /oba již nežijí/ ,manželka Ludmila, roz. Růžičková, nar. 11.9.1902 v Čevenka, okr. Litovel nár. české, čsl. státní přísl., nevlastní syn Zdeněk Nechsnický, nar.10.8.1926, t.č. poručík ČSA, bytem v Hradci Králové Švendova 1800, politickyorg. v KSČ od r.1945, t.č. zaměstnán jako správní náměstek Elektrárny I. máje v Třebovicích ,okr. Ostrava, tr ale bytem Ostrava XX, Plzeňská ul. č.39, ny i ve vyšetřovací vazbě okresní prokuratury v Hradci Králové.

Jmenovaný byl napomenut k udání naprosté pravdy a seznámen s trestností lživé výpovědi podle § 161 tr.z.

Otázka :
Vypovídejte o svém původu, svých rodičích a sourozencích, kde tito žijí a co dělají, jejich zaměstnání a národnost a státní příslušnost, s jaké s nimi udržujete styky ?
Odpověď :
Pocházím od otce jménem Maxima Žichoviče, který byl za carské vlády příslušný do města MOTOL, KOBRYNSKÉHO okresu, GRODENSKÉ gubernie. Otec byl dělníkem v Petrohradě v kovoobráběcím a hutním závodě. Ve svém mládí jsem bydlel u svých rodičů v BOBRUJSKU až do r.1910, kdy jsem odešel do KIJEVA nastředoškolské studium. Otec byl maloreinického původu, a do r.1914 byl zaměstnán jako dělník na skladě v BOBRUJSKU a po r.1914 odešel do PETROHRADU.

Četl a podepsal :

Першая старонка пратакола допыту

*...Міністр замежных спраў Юльян Рэвай*[5] *нервова курыў цыгару за цыгарай у нашым „прамысловым” кабінеце (Я ведаў яго яшчэ як былога настаўніка і школьнага рэферэнта ў Ужгарадзе).*

*— Новини — невтішні! Ми програли мадярам, панове! На жаль, програли...*

***Прага, снежань 1944 г. Гатэль „Palac”. Чэхаславакія**... Нават зблізку, нягледзячы на ўсе відавочныя прыкметы занепаду і разбурэнні, гатэль рабіў небывалае ўражанне. З'яўляючыся стварэннем некалі вядомага, а цяпер зусім забытага архітэктара, надзвычай эксцэнтрычнага тыпа, але, безумоўна, генія, ён спалучаў, здавалася б несумяшчальныя стылі і відавочна ўвабраў у сябе некаторыя, цудоўным чынам перайначаныя, рысы барочнага Гольц-Кінскі і гатычнага Старакаралеўскага палацаў.*

*Адчуваўся ў грандыёзным будынку і несумненны ўплыў мадэрну — усё ж адбудаваны асабняк быў у 1910–1911 гадах,— тут прысутнічала крыху венскага, крыху будапешцкага і нават стараітальянскага шыку. А вось бакавая вежачка нагадвала збольшага вычварныя мінарэты, і, як заўважыў бы прафесар Антонавіч, гэта было безумоўным уплывам архітэктуры далёкай Асманскай імперыі.*

*У практычна пустуючым зале няцяжка было адшукаць галоўнага афіцыянта. За столікам каля акна ўжо чакалі. Мужчына дзелавіта прадставіўся супрацоўнікам Гестапа і, паклаўшы на стол маю ўласную справаздачу аб ліквідацыі выдавецтва „Пробоєм”*[6]*, нядбайна кінуў: „Setzen Sie sich, Herr Zuchowitsch!”*[7]*...*

[5] Юльян Рэвай (Юліян Іванавіч Рэвай, 1899–1979) — палітычны і грамадскі дзеяч Закарпацця, педагог, рэдактар. Прэм'ер-міністр Карпацкай Украіны.

[6] *„Пробоєм”* — украінскае выдавецтва, якое працавала ў 1934–1944 гг. Выдавецтва друкавала працы аб нацыянальна-вызваленчым руху ва Украіне. Так, напрыклад, у 1942–1943 гг. быў выдадзены трохтомнік Ісаака Мазепы *„Україна ў агні і буры рэвалюцыі”*.

[7] *„Сядайце, пан Жыховіч”* (нямецкая мова).

***Краявое ўпраўленне Дзяржаўнай Бяспекі. Градзец Краловы. 16 лістапада 1953 г. Чэхаславакія***[8]**.**

*Інжынер Аляксандр Жыховіч, які нарадзіўся 01.01.1900 г. у Бабруйску, Мінская вобласць — БССР, рускай нацыянальнасці, грамадзянін Чэхаславакіі з 1947 г., жанаты, прафесія — камерцыйны інжынер, веравызнанне — праваслаўны, сын Максіма і Надзеі, нарodж. Лабоўскай* (ва ўкраінскай дакументацыі — Любанскай — С. К., В. З.) *(абое ўжо памерлыя); жонка — Людміла, народж. Ружэчкава, якая нарадзілася 11.09.1902 г. у Чэрвенку, раён Літовел, чэшскай нацыянальнасці, грамадзянка Чэхаславакіі; прыёмны сын — Здэнек Неханіцкі(й), народжаны 10.08.1928 г., у цяперашні час паручнік ЧСА, жыве ў Градцэ Краловым, вул. Швэндава, 1800; у КПЧ з 1945 г., у цяперашні час намеснік дырэктара электрастанцыі імя 1-га траўня ў г. Тршэбовіцэ, раён Астрава. У г. Астрава пражывае па вул. Плзенскай, 39. У цяперашні час — у следчым ізалятары раённай пракуратуры г. Градзец Краловы.*

*Мой бацька — Максім Рамановіч Жыховіч — нарадзіўся ў горадзе Моталь Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. Да 1910 г. я жыў у сваіх бацькоў у Бабруйску. Потым я паехаў вучыцца ў Кіеў. Бацька з малазямельнай сям'і, да 1914 г. працаваў рабочым на складзе ў Бабруйску, пасля 1914 г. паехаў працаваць у Петраград. Маці таксама была з малазямельнай сям'і. Абое ўжо не жывуць, пра гэта я даведаўся ў 1933 г., калі мне пра смерць бацькі паведаміла мая сястра Вера. Мама памерла перад пачаткам Другой сусветнай вайны, у 1938 г., пра гэта мне напісала сястра Надзея, у якой жыла мама. Мае бацькі былі рускімі, і таму я лічу сябе рускім*[9].

Тут варта зрабіць удакладненне. Аляксандр Максімавіч, здавалася б, ювелірна „жанглюе" нацыянальнасцямі, але выключна з мэтай уласнай бяспекі. Па месцы нараджэння адназначна беларус. Затым украінская нацыянальнасць як магчымасць выжыць, атрымаць адукацыю і зарабляць у далейшым хлеб штодзённы. Тады як у 1950-х, з улікам гістарычных рэалій, *„лічу сябе рускім"* было падобна да малітвы *„Ойча наш"*, калі стаяла дылема: выжыць або памерці.

*Мае браты і сёстры. Самым старэйшым быў мой брат Уладзімір Жыховіч (прыблізна 1893 г.н.). Паводле інфармацыі сястры Надзеі, жыў у г. Арол, дзе працаваў паштовым чыноўнікам. З братам за ўвесь час свайго*

---

[8] Тут і далей пераклад з чэшскай Сяргея Кнырэвіча.

[9] *Archiv bezpečnostních složek* (Praha, Czech Republic), Fond *S OSTRAVA,* Sign. S-4592 OV, s. 94 (далей — ABS (Praha, Czech Republic).

*знаходжання ў эміграцыі я не меў якіх-небудзь кантактаў. Сястра Надзея Хвастова (1898 г.н.) жыла ў Курску і працавала настаўніцай народнай школы. З сястрой я толькі перапісваўся. Апошні ліст быў у 1928 г. Сястра Вера Грыгор'ева (1901 г.н.) жыла ў Маскве па вул. Вялікая Дзімітраўка, 28, была хатняй гаспадыняй. З гэтай сястрой я падтрымліваў пісьмовыя кантакты да 1936 г. У цяперашні час са сваякамі якіх-небудзь кантактаў не падтрымліваю*[10].

*У 1910 г. я пераехаў з Бабруйска ў Кіеў, каб вучыцца ў рэальнай гімназіі. У гэтай гімназіі, якую скончыў з адзнакай, я вучыўся да мая 1917 г. За час маёй вучобы ў Кіеве мяне матэрыяльна падтрымлівалі бацька і цётка Алена (да замужжа Лабоўская (Любанская), пасля замужжа — Чарнецкая), якая жыла да 1914 г. у Маскве, а потым — у Петраградзе. Яе муж працаваў слесарам. З цёткай кантактаў ніколі не меў.*

*Пасля ўдакладнення следчага аб тым, каб я казаў толькі праўду, я хачу выправіць сказанае мной раней. Я вучыўся ў рэальнай гімназіі да 1914 г., калі па прычыне недахопу грошай мой бацька паслаў мяне ў школу ваенных медыцынскіх памочнікаў. Яна (школа) знаходзілася па адрасе вуліца Бальнічная (насупраць ваеннага шпіталя). У гэтай школе я быў да жніўня 1917 г. і быў на поўным ваенным забеспячэнні. Пры паступленні ў школу я прыняў абавязацельства адслужыць у арміі 6 гадоў, таксама як і астатнія курсанты. Гэта абавязацельства было дадзена яшчэ пры былым царскім рэжыме. А ў жніўні 1917 года, пры Часовым урадзе Керанскага, пасля заканчэння школы я быў накіраваны ў Санітарнае ўпраўленне Кіеўскай ваеннай акругі на пасаду медыцынскага памочніка кіеўскіх ваенных авіяцыйных майстэрняў, якія знаходзіліся ў прыгарадзе — Святошыне.*

*З беларусаў са мной вучыліся ў школе Герасімаў з Вільні і Дубіцкі з Мінскай губерні…*

*У верасні 1918 г. я са сваім вайсковым падраздзяленнем пераехаў у Праскураў* (цяпер Хмяльніцкі — С. К., В. З.), *прычыну пераезду не ведаю. Да майго знаходжання ў Кіеве хачу таксама дадаць, што ў лістападзе 1917 г. улада ў Кіеве перайшла да Саветаў. Камандзір падраздзялення падпалкоўнік Ягораў пасля абвяшчэння ўлады Саветаў, як супернік гэтай улады, збег невядома куды. Намеснік камандзіра капітан Панцялееў і камандзір гаспадарчага ўзвода (яго імя не памятаю) былі расстраляныя, па чутках, іх жа падначаленымі.*

[10] Тамсама, s. 95.

*Савецкая ўлада ў Кіеве была да сакавіка 1918 года, калі Кіеў занялі нямецкія войскі. Прадстаўнікі савецкай улады перад прыходам немцаў збеглі з горада ці схаваліся ў падполле. Таксама з Кіева разам з савецкай уладай сышлі і некаторыя савецкія падраздзяленні. Наша падраздзяленне засталося ў Кіеве, і я з ім. Праз некалькі тыдняў пасля заняцця немцамі Кіева нямецкае камандаванне склікала сход украінскіх гетманаў, і на гэтым сходзе быў абраны, або, дакладней, прызначаны, гетманам былы генерал руска-царскай арміі, украінец Павел Скарападскі, які планаваў стварыць Вялікую, самастойную Украіну. Наша падраздзяленне засталося на месцы, аднак нас раззброілі. І, як я казаў раней, у кастрычніку 1918 г. нас перавялі ў Праскураў. Удакладню, што пасля заканчэння ваеннай медыцынскай школы я быў пакінуты ў званні аспіранта (кандыдата), і на гэтай пасадзе я заставаўся да заняцця Кіева нямецкімі войскамі. У перыяд савецкай улады ўсе званні былі адмененыя, але пасля прыходу Скарападскага было ўведзена абазначэнне падраздзяленняў і званняў на ўкраінскі спосаб. Так, я меў званне санітарнага малодшага афіцэра, па-ўкраінску — санітарнага падхарунжага. Адначасова ў гэты час усе падраздзяленні, падначаленыя Скарападскаму, выкарыстоўвалі трызубец, які я насіў на галаўным уборы.*

*Калі ў канцы 1918 г. пачалося паўстанне супраць немцаў і Скарападскага, я знаходзіўся ў Праскураве. Пасля захопу ўлады Пятлюрай ваеннае падраздзяленне, у якім я быў, перайшло на бок Пятлюры. У войску Пятлюры я служыў на пасадзе ваеннага медыцынскага памочніка да лістапада 1920 г. Аднак калі Праскураў занялі белапалякі, то белапалякі нас, як падраздзяленне Пятлюраўскай арміі, на цягніках перавезлі ў польскі лагер у Каліш. У гэтым лагеры я знаходзіўся з лістапада 1920 г. па верасень 1922 г. У гэтым лагеры са мной знаходзіўся лекар-беларус Васіль Пракаповіч*[11]*. У лагеры ў Калішы я быў да канца жніўня 1922 г., калі разам з украінцам Якавам Крыштовым уцёк у ЧСР праз гарады Тврдошын і Жыліну… Яшчэ падчас знаходжання ў лагеры я атрымаў ад свайго начальніка Паўла Сокалагорскага інфармацыю аб тым, што ў ЧСР як палітычны эмігрант я магу атрымаць від на жыхарства і працягнуць навучанне. Ён, у сваю чаргу, такую інфармацыю атрымаў ад украінцаў, якія вучыліся ў польскіх ВНУ.*

*Пасля атрымання гэтай інфармацыі я дамовіўся з Якавам Крыштовым, што разам уцячэм. У гэты час польскія ўлады вялі са мной размовы, каб я прыняў польскае грамадзянства, бо мяне інфармавалі, што месца нараджэння майго бацькі (мястэчка Моталь Гродзенскай губерні) паводле*

[11] Тамсама, s. 96–97.

*дамовы Керзона адносіцца да Польшчы. Дадзеную прапанову польскіх улад я не прыняў па нацыянальных прычынах, таму што я быў не згодны з польскай акупацыяй Беларусі і з нацыянальным тэрорам, які палякі праводзілі ў дачыненні да мясцовага (беларускага) насельніцтва. У выніку ўплыву навакольных у Калішы я зусім не планаваў вяртацца ў Савецкі Саюз, не магла спрыяць такому і вялікая адлегласць да савецкай мяжы. Большасць украінскай моладзі збегла з лагера ў ЧСР і Нямеччыну.*

*У канцы жніўня 1922 г. я дамовіўся з Якавам Крыштовым, што мы ўцячэм у ЧСР. Таму мы прадалі розную вопратку, гітару, мандаліну і гэтак далей і такім чынам набылі грошы для ўцёкаў. Ужо дакладна не памятаю, ці атрымлівалі мы ад нашага начальніка Сокалагорскага інструкцыю датычна ўцёкаў. А канкрэтна — маршрут праз Кракаў у кірунку чэхаславацкай мяжы. Выхад за адзін прыпынак цягніка да мяжы і пераход уласна мяжы пешшу. Але менавіта гэтым маршрутам мы і пайшлі з Крыштовым. Мяжу мы перайшлі ў раёне мястэчка Тврдошын* (горад у паўночнай Славакіі ля падножжа Араўскай Магуры — С. К., В. З.). *Падчас пераходу мяжы нас затрымалі супрацоўнікі фінансавай паліцыі, якія склалі пратакол і загадалі нам вяртацца назад у Польшчу. Пры гэтым яны сказалі, што, калі мы абыйдзем вёску і пойдзем пешшу палявымі дарогамі, гэта ўжо іх не датычыцца. Затым супрацоўнікі фінансавай паліцыі вывезлі нас з вёскі ў напрамку Польшчы, і мы далей самі пайшлі па названым маршруце. Але як толькі мы пераканаліся, што супрацоўнікі фінансавай паліцыі вярнуліся ў вёску, мы развярнуліся і па палявой дарозе пайшлі ў бок Тврдошына. Яшчэ перад пераходам мяжы мы ў Кракаве на базары ў гандляра-габрэя памянялі польскія грошы на чэшскія. На гэтыя грошы мы купілі квіткі на цягнік з Тврдошына да гарадка Жыліна* (горад на паўночным захадзе Славакіі, пры ўпадзенні ў раку Ваг рэк Кісуцы і Райчанкі, цэнтр аднайменнага Жылінскага краю — С. К., В. З.).

*Калі мы ў цягніку пачалі размаўляць паміж сабой на ўкраінскай мове, да нас звярнуўся мужчына ў ваеннай форме і сам на ўкраінскай спытаў нас, хто мы і куды едзем. Мы адказалі, што ўцяклі з лагера ў Калішы і хочам дабрацца ў Прагу. Мужчына прадставіўся былым салдатам Галіцкай арміі і паведаміў, што ў Жыліне знаходзіцца частка Галіцкай арміі, якая ў цяперашні час уяўляе сабой рабочую каманду (арганізацыю). Таксама ён паклікаў нас у лагер, дзе мы зможам атрымаць ежу і начлег. У гэтым лагеры мы былі 3 дні. Тут мы атрымалі ежу і інфармацыю пра тое, дзе пасля прыезду ў Празе нам трэба зарэгістравацца*[12].

[12] Тамсама, s. 99.

*Яшчэ ў Жылінскім лагеры нам паведамілі, што ў Празе нам трэба зарэгістравацца ў Рускім або Украінскім камітэце. Таксама мы атрымалі дакладныя адрасы гэтых камітэтаў. У Прагу мы прыехалі 30 або 31 жніўня 1922 г.*

*Я пайшоў рэгістравацца ў Рускі камітэт, аднак там мне сказалі, што з-за майго знаходжання ва Украінскім лагеры ў Калішы мне трэба ісці ва Украінскі камітэт. У камітэце я запоўніў анкету, у якой напісаў, што хачу застацца ў ЧСР на сталае жыхарства і хачу тут вучыцца. Мне дазволілі жыць у начлежцы на Пагарэльцы, дзе я знаходзіўся 3 дні.* (Украінскі эмігрант Валянцін Сімянцеў называе гэтую начлежку „*Погожельце*" і апісвае яе як часовы размеркавальнік для эмігрантаў: „*Чорныя невысокія баракі з ложкамі, цесна прыціснутымі адзін да аднаго…*"[13] — (С. К., В. З.).

*01.09.1922 г. я зарэгістраваўся ва Упраўленні паліцыі горада Прагі, дзе мне было выдадзена пасведчанне асобы тэрмінам на 1 месяц (з фатаграфіяй). Пасведчанне трэба было працягваць штомесяц. Ва Украінскім камітэце зарэгістраваўся і мой таварыш Якаў Крыштаў, які таксама атрымаў месца ў Пагарэльцы. Я таксама папрасіў камітэт аказаць мне дапамогу з вучобай у Лясной школе. Але супрацоўнік камітэта Іван Палівода* (палітычны дзеяч, былы міністр пошты і тэлеграфа ў перыяд УНР, педагог (1885–1985) — С. К., В. З.) *сказаў мне, што Лясная школа перапоўнена, і параіў напісаць заяву на эканамічны факультэт Украінскай Гаспадарчай акадэміі ў Падабрадах. Спачатку я адмовіўся ад гэтай прапановы, бо хацеў знайсці працу ў Празе, але, калі мае пошукі не скончыліся поспехам, я даў згоду паступіць у Акадэмію, куды ўжо паступіў Крыштаў. Падчас пошукаў працы я атрымаў ад камітэта аванс у памеры 300 крон, якія пасля былі вылічаны з маёй стыпендыі.* (Афіцыйны курс чэхаславацкай кроны да амерыканскага даляра ў 1923–1933 гадах разлічваўся як 100:2,96 (100:3)[14]. Гэта значыць, 100 крон раўняліся 2 далярам 96 цэнтам ці 3 далярам. Такім чынам, аванс Жыховіча быў у памеры каля 9 даляраў — (С. К., В. З.). *Украінскім камітэтам мне была прызначана стыпендыя як студэнту ВНУ ў памеры 560 крон штомесяц. Стыпендыю я атрымліваў да канца навучання (снежань 1927 г.). Праўда, у 1926 г. стыпендыю паменшылі да памеру 500 крон. А ў 1927 годзе памер студэнцкай стыпендыі ўжо складаў усяго 450 крон. У ВНУ я паступіў афіцыйна 15.09.1922 г.*[15]

[13] В. Сімянцев, *Студентські часи. (Спогад). Чехо-Словаччина. Роки 1923–1928*, Вашингтон 1973, с. 39.

[14] О. Є. Зубко, *Створення та діяльність Українського вищого педагогічного інституту ім. М. Драгоманова в Празі (1923–1933 рр.)*: дис. канд. іст. наук. — 09.00.12 „Українознавство", Київ: КНУ ім. Тараса Шевченка, с. 85–86.

[15] ABS. (Praha, Czech Republic). Fond *S OSTRAVA*. Sign. S-4592 OV, s. 100–101.

*У перыяд майго паўгадовага знаходжання ў лагеры Каліша я пазнаёміўся з Марыяй (у дзявоцтве Ілюк, народжанай у 1897 г. у Чарнаўцах, акруга Чарнавіцэ, Букавіна), украінкай з сялянскай сям'і. Марыя Ілюк трапіла ў Каліш яшчэ да майго прыходу і была медсястрой ва ўкраінскай Пятлюраўскай арміі. Марыя Ілюк ведала майго начальніка Сокалагорскага. З Марыяй я меў блізкія адносіны і 24 студзеня 1922 г. мы пажаніліся ў лагеры згодна праваслаўным абрадам. Яна пайшла са мной і Крыштовым у ЧСР. Разам з намі яна таксама была ў Жылінскім лагеры. Пасля рэгістрацыі ва Украінскім камітэце яе пасялілі ў казармах у Язэпавым (Іосіфавым?) — у цэнтры для жанчын-эмігрантак. Падчас нашага знаходжання ў Празе да 15 верасня 1922 г. жонка зрэдку працавала ў якасці памочніцы ў сем'ях. Пасля майго паступлення ў ВНУ Марыя пераехала да мяне ў Падабрады. Аж да 1927 г. я змяніў 12–15 месцаў жыхарства ў Падабрадах. Прозвішчаў гаспадароў я не памятаю, але магу даць паліцэйскую рэгістрацыю, якая знаходзіцца да гэтага часу ў мяне дома. Жонка жыла са мной на стыпендыю, вышывала абрусы, ручнікі, якія потым прадавала. У 1923 г. жонка таксама пачала вучыцца ў ВНУ, але пасля трох месяцаў спыніла вучобу з-за праблем з вучобай*[16].

Восенню 1928 г. для сям'і Жыховічаў пачынаецца *„Закарпацкая Адысея”* (1928–1939 гг.). Скрупулёзна і дэталёва гэты перыяд (праца Жыховіча ў Закарпацкім банку, ужгарадскім выдавецтве *„UNIO”*, у адміністрацыі русінскага сельскагаспадарчага часопіса *„Ніва”* і русінскай школе Брэстава-Пласкановіц, у Міністэрстве прамысловасці Карпацкай Украіны) прааналізаваны ў сумеснай публікацыі Сяргея Кнырэвіча і Вольгі Зубко[17].

*У пачатку 1935 г. мы з жонкай сталі весці краму па продажы малака, буфет і малочны рэстаран нейкага Паўліка з Ужгарада. Паўлік быў эмігрантам з Галіцыі, які з Ужгарада з'ехаў невядома куды. Усё прадпрыемства было перапісана на маё імя, і я атрымаў пасведчанне на занятак прадпрымальніцкай дзейнасцю. Прадпрыемства было названа „Národni mlékarna” — „Народнае малочнае прадпрыемства”. З-за канфлікту з жонкай крама збанкрутавала, і летам 1935 г. я развёўся з Марыяй. А ўжо ў 1936 г. у краму прыйшла Людміла Цішчанка (у дзявоцтве Ружэчкава). Яна была двойчы разведзенай. Яе другі муж Юрый Цішчанка* (Юрый Філіпавіч Цішчанка (Шэры) (1880–1953) — вядомы ўкраінскі выдавец,

[16] Тамсама, s. 95.

[17] С. Книревич, О. Зубко, *„Закарпатська Одіссея” „білоруса на службі УНР” Олександра Максимовича Жиховича (1928–1939),* „Вісник Закарпатської академії мистецтв. Збірник наукових праць”, випуск 12, Ужгород 2019, с. 48–53.

публіцыст, пісьменнік, журналіст і грамадскі дзеяч — С. К., В. З.), *украінец, прыхільнік Пятлюры, быў саўладальнікам кнігарні ў Празе, а таксама меў уласны магазін у Мукачаве. Першы ж яе муж — Уладзіслаў Няханіцкі, вядучы гатэля ў Празе, чэх. Развод адбыўся з-за п'янства Няханіцкага і яго адносін з іншай жанчынай*[18].

*Ва Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі акрамя ўкраінскіх студэнцкіх арганізацый (Украінскай Акадэмічнай Грамады і Украінскіх хлебаробаў) быў і Беларускі студэнцкі гурток. Яго членамі былі ўсе студэнты, якія прыехалі з Беларусі, без уліку іх палітычных прыхільнасцей. Арганізацыя прапагандавала беларускія народныя традыцыі. Я знаходзіўся ў складзе Беларускага гуртка, але ніколі яго не ўзначальваў. Старшынёй гуртка з 1922 па 1927 год быў Язэп Мамонька* (1889–1937), *які, па чутках, у 1930 годзе вярнуўся ў СССР. Затым прыкладна ў гэты ж час старшынёй быў Бусел, здаецца Ян*[19], *які таксама, па чутках, вярнуўся ў Польшчу, у складзе якой у 1930 годзе апынулася Заходняя Беларусь.*

*Членамі Беларускага гуртка былі: Яфрэменка, здаецца Васіль*[20], *якога я некалькі месяцаў таму сустрэў на вакзале ў Свінове, і які мне паведаміў, што працуе ў Прамысловай школе. Нейкі Паўлаў*[21], *які да вызвалення ў 1945 г. быў у Празе. Ён родам з Заходняй Беларусі. Быў у пятлюраўскай арміі. Падчас акупацыі жыў у Празе. Працаваў камерсантам у нейкай фірме. Дзе цяпер — не ведаю.*

*Дварчанін*[22], *які, па чутках, пасля заканчэння Акадэміі вярнуўся ў Заходнюю Беларусь (Польшчу). Русак Васіль*[23], *які да канца мая 1945 года быў у Празе. А дзе цяпер ён знаходзіцца, я не ведаю.*

18 ABS. (Praha, Czech Republic). Fond *S OSTRAVA*. Sign. S-4592 OV, str. 93.

19 Бусел Сяргей (1901 – пасля 1940), больш інфармацыі гл. у „*Спісе беларусаў — студэнтаў УГА*".

20 Яфрэменка Грыгорый (…-1957?), больш інфармацыі гл. у „*Спісе беларусаў — студэнтаў УГА*".

21 Паўлаў Аляксандр (1904 – пасля 1945), больш інфармацыі гл. у „*Спісе беларусаў– студэнтаў УГА*".

22 Дварчанін Іларыён (1898–193?), беларускі грамадскі дзеяч. Родны брат дзеяча беларускага нацыянальнага руху, паэта, літаратуразнаўца Ігната Дварчаніна. Закончыў матурытныя курсы пры УГА, пасля вучыўся на лясным факультэце Палітэхнічнага інстытута ў Празе (ČVUT). У 1929 годзе вярнуўся у Заходнюю Беларусь. Загінуў у савецкіх лагерах.

23 Васіль Русак (1896–1954), беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў агранамічны факультэт Палітэхнічнага інстытута ў Празе (ČVUT). Удзельнік 1-й Усебеларускай канферэнцыі ў Празе ў 1921 г. У час вучобы ў чэшскай сталіцы прымаў актыўны ўдзел у культурна-грамадскім жыцці беларускай эміграцыі. Член прэзідыума АБСА, Беларускай Рады ў Празе, Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Францыска Скарыны і інш. Як тэатральны акцёр удзельнічаў у Беларускім драматычным гуртку ў 1924–1925 гг. Адкрыў уласную гастранамічную краму, праявіў сябе як паспяховы прадпрымальнік. Фінансаваў выданне часопіса „*Іскра Скарыны*". Падчас нямецкай акупацыі хаваў у сябе некалькі габрэйскіх сем'яў. Арыштаваны 26.5.1945 савецкім СМЕРШ у Празе, у чэрвені 1946 г. прыгавораны да 10 гадоў канцлагераў. Загінуў 23 жніўня 1954 года.

*Таксама была Мамонькова[24], якая вучылася ў кансерваторыі ў Празе, бо яе муж быў слухачом акадэміі ў Падабрадах, дзе абое яны жылі[25].*

*Уладзімір Талькоўскі[26], якога я ведаю з 1923 г., калі ён паступіў на вучобу ў ВНУ вывучаць эканоміку і аграномію (?). Яго я бачыў у 1932–1934 гг., калі ён некалькі дзён быў у Ужгарадзе. Дзе і кім ён працуе, мне невядома. Іншых членаў Беларускага гуртка я ўжо не памятаю.*

*Беларускі студэнцкі гурток паўстаў у ВНУ ў 1923 г. і быў заснаваны Мамонькай. Большасць яго членаў былі родам з Заходняй Беларусі, якая пасля Першай сусветнай вайны стала часткай Польшчы. На працягу двух гадоў Беларускі гурток наладзіў кантакты з Беларускай Радай у Празе. Пра гэта я даведаўся ад Мамонькі. Беларускую Раду ў Празе ўзначальваў прафесар Вяршынін[27]* (у тэксце допыту Вяршынін названы Лапшыным — С. К., В. З.). *З Беларускай Радай я ніколі не меў кантактаў. Супраць дзейнасці Беларускага студэнцкага гуртка з боку ўкраінцаў не было пярэчанняў[28].*



**Аляксандр Жыховіч на сваім рабочым месцы. 1960-я гады**

З 1954 г. (пасля допыту) Аляксандр Максімавіч Жыховіч прапрацаваў яшчэ сем гадоў архівістам металургічнага прадпрыемства Віткавіцы (г. Астрава). За плённую і якасную арганізацыю архіва атрымаў некалькі дзяржаўных узнагарод. Паказальным з’яўляецца тое, што архіўную справу ён не толькі вывучыў самастойна, але і навучыў архівістыцы работнікаў органаў Дзяржаўнай Бяспекі сацыялістычнай Чэхаславакіі. Імя

24 Мамонька Аляксандра, у дзявоцтве Сташкевіч (1901– пасля 1928), жонка Язэпа Мамонькі. Вучобу ў кансерваторыі не закончыла, з 1923 года вучылася ва Украінскім педагагічным інстытуце імя Міхайла Драгаманава ў Празе. У 1928 годзе атрымала літоўскае грамадзянства і верагодна вярнулася ў Літву.

25 ABS. (Praha, Czech Republic). Fond *S OSTRAVA*. Sign. S-4592 OV, str. 104.

26 Талькоўскі Уладзімір (1904–пасля 1945), больш інфармацыі гл. у *„Спісе беларусаў– студэнтаў УГА”*.

27 Вяршынін Мікола (1866–1934), грамадска-палітычны дзеяч. Пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. жыў у эміграцыі ў Аўстра-Венгрыі, з канца 1908 года жыў у Празе. Ад 1918 г. быў неафіцыйным прадстаўніком урада БНР у Чэхаславацкай Рэспубліцы. Ад 1921 г. — старшыня Беларускай грамады ў Празе, ад 1925 года ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускай Рады ў Празе. Быў ініцыятарам прыезду беларускай моладзі на вучобу ў Чэхаславакію ў першай палове 1920-х гадоў, прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх беларускіх мерапрыемствах беларускай эміграцыі. Заснавальнік і першы кіраўнік Беларускага замежнага архіва ў Празе. Пахаваны на пражскіх могілках Альшаны.

28 ABS. (Praha, Czech Republic). Fond *S OSTRAVA*. Sign. S-4592 OV, str. 112.

Жыховіча можна знайсці ў кнізе *„Біяграфічны слоўнік архівістаў зямлі чэшскай"*[29]. У 1962 г. *„беларус на службе УНР"* выйшаў афіцыйна на пенсію. Аляксандр Жыховіч памёр 15 снежня 1973 г. і пахаваны на могілках у чэшскай вёсцы Чэрвенка.

**Дадатак 1.**

## ДАКУМЕНТЫ ДА АРЫШТУ ВАСІЛЯ РУСАКА[30]

А. Русакова-Шулдава (Anna Rusáková-Šuldová), Сухдоль каля Прагі, № 456

Тэма: Васіль Русак — заява аб наданні інфармацыі

Сухдоль, 12 студзеня 1946 г.

Міністэрства ўнутраных спраў, Прага

Заявіцель, А. Русакова-Шулдава (A. Rusáková-Šuldová), што пражывае ў Сухдолі каля Прагі, звяртаецца з просьбай аб наданні інфармацыі пра мужа, Васіля Русака, які нарадзіўся 22 сакавіка 1896 г. у в. Ячава, Слуцкага ўезда, Мінскай губерні, грамадзянін ЧСР ад 28 чэрвеня 1938 г.

Русак быў 26.5.1945 г. арыштаваны ў сваёй кватэры ў Сухдолі каля Прагі малодшым лейтэнантам ваеннай паліцыі Чырвонай арміі [так напісана ў дакуменце]… у прысутнасці пана Францішка Прокеша, члена народнага камітэта ў Сухдолі.

Пасля арышту Васіль Русак быў вывезен і да сённяшняга дня няма ад яго аніякіх вестак. Васіль Русак быў грамадзянінам ЧСР, і таму прашу аб наданні інфармацыі аб тым, ці быў выдадзены чэхаславацкімі ўладамі альбо дзе зараз знаходзіцца.

У сувязі з яго арыштам былі таксама дапытаныя яго знаёмыя інж. Антон Жук[31] і Аркадзь Вольфсан[32]. Допыт праводзіўся на вуліцы Юрэчкава, 2 (Jurečkova, 2, Bubeneč), дзе знаходзіцца руская паліцыя[33].

---

29 J. Hoffmanová, J. Pražáková, *Biografický slovník archivářů českých zemí*, Praha 2000, s. 738.

30 ABS. (Praha, CzechRepublic). Fond SÚMV.Sign. 305–92–1, str.36–37.

31 Жук Антон (1901–1982) нарадзіўся ў в. Рапіява на Стаўбцоўшчыне. Закончыў палітэхнічны інстытут у Празе (ČVUT), прымаў удзел у дзейнасці беларускіх арганізацый у ЧСР. Пасля вучобы застаўся ў Чэхаславакіі, жыў у Празе. У маі 1945 года дапамагаў савецкаму СМЕРШ у ідэнтыфікацыі пражскіх беларусаў. Аб гэтым, напрыклад, пісала Ларыса Геніюш у сваёй *„Споведзі"* (Мінск 1993, с. 111, 118). Пахаваны на пражскіх могілках Альшаны.

32 Вольфсан Аркадзь (1877 — пасля 1950) нарадзіўся ў Коўне. З 1926 года ў Чэхаславакіі, дзе займаўся камерцыяй. У гады вайны разам з сынам Анатолем і дачкой Ірынай стаў членам Беларускага нацыянальнага аб'яднання ў Празе — запісаліся беларусамі. У маі 1945 года дапамагаў савецкаму СМЕРШ у ідэнтыфікацыі пражскіх беларусаў. Аб гэтым, напрыклад, пісала Ларыса Геніюш у сваёй *„Споведзі"* (Мінск 1993, с. 116). У 1950 годзе эміграваў у Парагвай.

33 У пражскім раёне Бубянеч знаходзілася галоўная сядзіба СМЕРШ у ЧСР.

**ПРАТАКОЛ**

напісаны 8 верасня 1945 г. з Францішкам Прокешам…

1. Ці Вы прысутнічалі 26.5.1945 пры арышце інж. Васіля Русака ў Празе Дэйвіцы на вул. Ганацкага палка, 548?

Адказ: 26.5.1945 года інж. Русак быў арыштаваны ў сваёй кватэры малодшым лейтэнантам Чырвонай арміі ў маёй прысутнасці…

2. Ці ведаеце Вы імя рускага лейтэнанта, які праводзіў арышт?

Адказ: Рускі лейтэнант у мясцовым камітэце паказаў сваё пасведчанне, але я не памятаю яго імя…

3. Ці ведаеце Вы, куды быў адведзены арыштаваны?

Адказ: Пан Русак быў адведзены на аўтобусны прыпынак, а потым у рускую паліцыю ў Празе… На маё пытанне пра віну Русака рускі лейтэнант адказаў, што Русак працаваў за вызваленне Белай Русі.

**Дадатак 2.**

**Спіс беларусаў — студэнтаў УГА, якія атрымалі спецыяльнасць інжынера**[34]

**АБРАМЧЫК Мікола**, нарадзіўся 6.8.1903 у в. Сычавічы пад Радашковічамі. У 1929 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст. У 1930 годзе пераехаў у Францыю. Старшыня (прэзідэнт) Рады БНР (1943; снеж. 1947–1970). Памёр у 1970 годзе ў Парыжы.

**АНТАНОВІЧ Пётр**, нарадзіўся 29.6.1901 у в. Яцьковічы на Берасцейшчыне. У 1929 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст.

**БАРТКЕВІЧ Аляксандр**, нарадзіўся 5.11.1898 у Мінску. У 1929 годзе закончыў гідратэхнічнае аддзяленне УГА па спецыяльнасці інжынер-гідратэхнік. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі.

**БЫЛІНСКІ Антон**, нарадзіўся 17.1.1897 у Мазыры. У 1927 годзе закончыў хіміка-тэхналагічнае аддзяленне УГА па спецыяльнасці інжынер-тэхнолаг. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі. Харунжы 4-й Кіеўскай дывізіі. Скончыў Мазырскую гімназію ў 1916 годзе. Спачатку навучаўся на факультэце механізацыі Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Затым, *„у ходзе гістарычных падзей"* (Першая сусветная вайна — С. К., В. З.), скончыў 2-ю Пецярбургскую школу прапаршчыкаў. Ва ўкраінскай

[34] *Список абсольвентів, що протягом існування УГА (1922–1935) закінчили повний курс й одержали титул інженера / Українська Господарська Академія в Ч.С.Р. 1922–1935*, Ню Йорк, 1959, с. 90–102.

арміі (удакладнім, спачатку ў арміі гетмана П. Скарападскага — С. К., В. З.) апынуўся ў 1918 годзе, пра што напісаў у сваіх успамінах *„На памежжы"*. Быў сярод інтэрніраваных у румынскім лагеры горада Орадэа-Марэ. Ведаў *„нямецкую і французскую мову ў аб'ёме курса гімназіі"* — С. К., В. З.). Пасля 1945 года эміграваў у Германію.

**БУРАК Юрый**, нарадзіўся 7.4.1900 у в. Браносава на Навагрудчыне. У 1933 годзе закончыў лясное аддзяленне УГА па спецыяльнасці інжынер-ляснік. Пасля заканчэння вучобы застаўся у Чэхаславакіі.

**БУСЕЛ Сяргей**, нарадзіўся 19.2.1901 у в. Сухоўчыцы на Случчыне. Быў выключаны з УГА. У 1929 закончыў аграрны факультэт Палітэхнічнага інстытута ў Празе (ČVUT) і у тымжа годзе вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. У кастрычніку 1939 года ў Вільні арыштаваны НКУС, у лютым 1940 прыгавораны да 15 гадоў канцлагераў. Далейшы лёс невядомы.

**ЖЫХОВІЧ Аляксандр**, нарадзіўся 1.1.1900 у Бабруйску. У 1927 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі.

**МАМОНЬКА Язэп**, нарадзіўся 28.1.1889 у вёсцы Залессе на Случчыне. Быў выключаны з УГА. У 1925 годзе выехаў з Чэхаславакіі, а ў 1928 годзе пры перасячэнні польска-савецкай мяжы арыштаваны НКУС і потым прыгавораны да 10 гадоў канцлагераў. Расстраляны ў 1937 годзе. (Язэп Мамонька трохі выбіваецца з шэрагу дыпламаваных спецыялістаў. У даследаванне Сымона Нарыжнага Мамонька трапіў выключна таму, што меў *„палітычную вагу"* — С. К., В. З.).

**ПАЎЛАЎ Аляксандр**, нарадзіўся 29.8.1904 у Дзвінску Віцебскай губерні. У 1928 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі.

**ТАЛЬКОЎСКІ Уладзімір**, нарадзіўся 06.01.1891 у Вільні. У 1927 годзе закончыў гідратэхнічнае аддзяленне УГА па спецыяльнасці інжынер-гідратэхнік. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі.

**ХАДАРКЕВІЧ Павел**, нарадзіўся 16.3.1896 у м. Турэц на Навагрудчыне. У 1927 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст.

**ЯФРЭМЕНКА Рыгор**, нарадзіўся 24.12.1898 у в. Старыя Жыровічы на Слонімшчыне. У 1929 годзе закончыў эканамічна-кааператыўны факультэт УГА па спецыяльнасці інжынер-эканаміст. Пасля заканчэння вучобы застаўся ў Чэхаславакіі. Паручнік 20 курэня 3-й Жалезнай дывізіі. Паводле адных крыніц, ён быў родам з Усходняй Беларусі — мястэчка

Старыя Журавічы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Па іншых — з Заходняй Беларусі, са Старых Жыровічаў (Гродзеншчыны). Скончыў 4 класы гімназіі ў Магілёве. Затым 6 класаў у Пецярбургу. У царскай арміі апынуўся ў красавіку 1916 г., скончыўшы Ваенную школу ў Казані. На Паўднёва-Заходні фронт быў адпраўлены 10 студзеня 1917 г. Аднак дэзерціраваў у тыл з прыходам савецкай улады. Неўзабаве далучыўся да ваенных падраздзяленняў Арміі УНР. У барацьбе з дзянікінцамі быў двойчы паранены і кантужаны. Як і Жыховіч, быў інтэрніраваны ў Калішскі лагер. Перш чым стаць студэнтам УСА, скончыў матуральныя курсы пры Гаспадарчай акадэміі. (Матура — апошні экзамен пасля заканчэння гімназіі, які дазваляе перайсці да навучання ва ўніверсітэце — С. К., В. З.). Быў студэнтам статыстычнага аддзела кааператыўна-эканамічнага факультэта. У 1928 г. абараніў дыпломную працу па тэме *„Народная гаспадарка Беларусі ў складзе БССР”* — С. К., В. З.). Калі памёр невядома.

## О. Н. Левко. Витебск. Минск: Беларуская Навука, 2010. — 335 с.: ил. — (Серия: Древнейшие города Беларуси). Наклад 400 асобнікаў




Для напісання рэцэнзіі альбо гістарыяграфічнага аналізу на навуковыя гістарычныя кнігі, на нашу думку, няма часовых абмежаванняў. Асабліва у тым выпадку, калі кніга была надрукавана, на яе час ад часу робяць спасылкі спецыялісты, але навуковай з'явай яна не зрабілася, абмеркаванняў і дыскусій не выклікала. Гэта адна з галоўных прычын, чаму мэтазгодна вяртацца да падобных кніг, бо яны нават з часам не пакідаюць чытача абыякавым — з пазітыўнага ці негатыўнага боку. У гэтай сітуацыі наладжваецца своеасаблівае абмеркаванне, каб зразумець сутнасць напісанага, прыняць яе альбо адкінуць.

У 2010 годзе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі была заснавана новая серыя „*Древнейшие города Беларуси*". Гэта вельмі добрая ініцыятыва, бо айчынная археалогія сярэднявечнага горада мае амаль стогадовую традыцыю[1], а яе дасягненні вядомы і выкарыстоўваюцца далёка па-за межамі краіны. Рэдакцыйная калегія новай серыі ў той час складалася

[1] Гл.: Г. Семянчук, *Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX–XIII стст.),* [у:] *Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зборнік навуковых артыкулаў,* Гродна 2009, с. 14–15.

з 8 асоб: галоўнага навуковага рэдактара Аляксандра Кавалені і сямі вядомых беларускіх археолагаў: Вольгі Ляўко (намесніка галоўнага рэдактара), Эдуарда Загарульскага, Пятра Лысенкі, Алега Макушнікава, Ігара Марзалюка, Аляксандра Мядзведзева і памерлага ў сакавіку 2018 года Георгія Штыхава. На сённяшні дзень выйшлі з друку тры кнігі новай серыі, прысвечаныя наступным гарадам: Віцебску (2010), Полацку (2012) і Друцку (2014). А далей, як той казаў, — цішыня…

Адразу паўстае пытанне тэрміналагічнага характару. Усе этымалагічныя слоўнікі рускай мовы тлумачаць сэнс слова *„древнейший”* як *„доисторический, сверхдревний, очень старый, имевший место очень давно”*, а на беларускую мову яно перакладаецца як *„найстаражытнейшы, найстаражытны, самы старажытны”*. Магчыма, распрацоўшчыкі серыі абралі такую назву, натхніўшыся сумеснай навукова-папулярнай брашурай Георгія Штыхава і Пятра Лысенкі *„Древнейшие города Белоруссии”*, надрукаванай у 1966 і прысвечанай ранняй гісторыі Полацка, Віцебска, Мінска, Турава, Пінска, Гродна ў IX–XIII стст. А ва ўзгаданых трох кнігах аднайменнай серыі, створанай і прапанаванай Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, храналогія ахоплівае перыяд ад VI да XVIII ст. Як мы бачым, акадэмічныя і ўніверсітэцкія навукоўцы (рэдкалегія серыі) прапанавалі нам новую храналогію гісторыі Беларусі: старажытнасць у нас цяпер працягваецца ад племяннай эпохі да падзелаў Рэчы Паспалітай, а гэта, у сваю чаргу, вядзе да змены этымалогіі і семантыкі слова *„старажытны”*. Вось так адразу папраўілі і сучасную гісторыю, і сучасную лінгвістыку.

Падаецца, што больш правільна было б ужыць у назве серыі слова *„древний, древние”*, па-беларуску — *„старажытны, старадаўні, старажытныя, старадаўнія”*. Нават калі заплюшчыць вочы на адно няправільна выкарыстанае слова ў назве серыі *„Древнейшие города Беларуси”*, галоўнай ідэяй павінна было быць прадстаўленне раннесярэднявечных і сярэднявечных перыядаў існавання беларускіх гарадоў, прынамсі да мяжы XV–XVI стст., калі інфармацыя пісьмовых крыніц па большасці з іх вельмі абмежаваная, а значную ролю адыгрываюць археалагічныя крыніцы.

Агульна прынята, што археалагічныя крыніцы пры выкарыстанні адпаведных метадалогій перастаюць быць дапаможнымі для гістарычных канструкцый, больш таго, яны робяцца дамінуючымі для пэўных храналагічных перыядаў. Па прычыне малалікасці пісьмовых крыніц і фрагментарнасці іх інфармацыі праблема пачаткаў і першых перыядаў існавання большасці раннесярэднявечных гарадоў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы аддадзена на водкуп пераважна археолагам. Гэта

справядліва. Райнгард Венскус у свой час вызначыў некалькі пунктаў, у якіх археалогія здольна прыносіць значную карысць гісторыку (у першую чаргу медыявісту)[2]:

1. Археалогія можа спрычыніцца да канкрэтызацыі пэўных агульных (абстрактных) паняццяў, якімі карыстаецца гісторык (напрыклад, „горад”, „арыстакратыя”), і даць уяўленне аб велічыні дадзенай з’явы.
2. Можа пацвердзіць альбо абвергнуць некаторыя даныя пісьмовых крыніц, а таксама выклікаць неабходнасць розных інтэрпрэтацый іх.
3. Можа спрыяць вырашэнню некаторых спрэчных пытанняў, якія, напрыклад, датычацца лакалізацыі здарэнняў і населеных пунктаў.
4. Нарэшце, можа здабываць інфармацыю аб абсалютна невядомых пісьмовым крыніцам справах.

Праўда, спадзяванні на магчымасці архелагічнай навукі павінны быць стрыманымі. Залежыць гэта ад спецыфічнасці археалагічных крыніц і метадаў, а таксама ад вялікай інтэрпрэтацыйнай суб’ектыўнасці выяўленага матэрыялу. Археалагічная аргументацыя не адказвае на фундаментальныя пытанні ўрбаністыкі пра прычыны ўзнікнення гарадоў, этапы жыццядзейнасці і іх функцыянальнае прызначэнне.

Археалагічнае вывучэнне сярэднявечных гарадоў Беларусі прынесла значную колькасць навуковай інфармацыі, на падставе якой былі пастаўлены і вырашаліся шматлікія праблемы гарадской гісторыі. У першую чаргу, гэта пытанні археалагічнага пацвярджэння канкрэтнага размяшчэння гарадскіх паселішчаў, вядомых з летапісаў, і пошук шляхоў іх узнікнення. Вызначалася тапаграфічная структура і характарызаваліся асобныя тапаграфічныя часткі гарадскога пункта, асобныя элементы абарончай сістэмы, культавай і свецкай архітэктуры, жылыя і гаспадарчыя будынкі. Праводзіліся рэканструкцыі сацыяльнага складу і галоўных заняткаў насельніцтва, узроўню яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, рэлігійных вераванняў, рэгіянальных і міжнародных кантактаў. Менавіта археалагічныя даследаванні дазволілі ў свой час адшукаць сляды раннесярэднявечных гарадоў у Давыд-Гарадку (Столінскі р-н)[3] і Дрысвятах (Браслаўскі р-н)[4], пра якія маўчаць летапісы і хронікі. Праўда, пры сапраўды вялікім даробку беларускіх археолагаў

[2] R. Wenskus, *Randbemerkungen zum Verhaltnis von Historie und Archaologie, in sbesondere mittelalterlicher Geschichte und Mittelalterarcaologie,* [w:] *Geschichtswissenschaft und Archaologie. Untersuchungen zur Siedlungs-, Wirtschafts- und Kirchengeschichte* / Vortrage und Forschungen, Nr 22, Sigmaringen 1979, s. 637–657.

[3] R. Jakimowicz, *Dawidgródek*, Pińsk 1939.

[4] Г. Н. Семенчук, *Раннесредневековый археологический комплекс Дрисвяты*, „Lietuvos Archeologija”, Vilnius 2001, tom 21, s. 299–310.

у вывучэнні сярэднявечных гарадоў застаецца пачуццё незавершанасці праекта: пытанняў застаецца больш, чым адказаў, увогуле гэтая багатая мазаіка адасобленых кавалачкаў не складваецца ў прыгожы абраз. Дадзеная сітуацыя ўзнікла па прычыне адсутнасці самастойнага беларускага дыскурсу гарадской праблематыкі сярэднявечнага перыяду. У гэтым дыскурсе павінны быць улічаны фізіка-геаграфічны кантэкст, геапалітычныя працэсы, этнакультурная сітуацыя, вонкавыя ўплывы.

Першай кнігай у новай серыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі з'явілася манаграфія доктара гістарычных навук, прафесара Вольгі Ляўко „*Витебск*". Праўда, лагічна было б распачаць серыю з манаграфіі пра найстаражытнейшы беларускі горад — Полацк. Але гэта не прынцыпова. У дадзеным выпадку заўсёды з'яўляецца надзея на новыя падыходы да выдання археалагічнага матэрыялу, адпаведныя сучаснаму ўзроўню ведаў і тэхнічным магчымасцям. Сёння таксама вельмі важна па-новаму чытаць і аналізаваць інфармацыю гістарычных крыніц. Натуральна, што першы твор кожнай навуковай серыі з'яўляецца ўзорам і арыенцірам для наступных. Звычайна ў ім прамалёўваюцца структура, мэты, задачы, метадалагічныя і метадычныя патрабаванні прапанаванай серыі. Паглядзім, ці адпавядае кніга В. Ляўко ўзроўню, узору і патрабаванням падобных выданняў і серый.

Кніга, якая рэцэнзуецца, складаецца з наступных частак: „*История изучения средневекового Витебска*", раздзел 1 „*Летопись древних слоев*", раздзел 2 „*Территориально-административные функции, социально-топографическая и архитектурно-планировочная структура Витебска (IX–XVIII вв.)*", раздзел 3 „*Ремесленная и торговая деятельность горожан*". А таксама выданне мае два дадаткі: першы — гэта складзены Вольгай Мядзведзевай пералік археалагічных справаздач за 1963–2007 гг. па выніках даследаванняў Віцебска, якія захоўваюцца ў архіве археалагічных навуковых даследаванняў Інстытута гісторыі НАН Беларусі, другі — „*Археалагічныя матэрыялы Віцебскага абласнога краязнаўчага музея*" (складальнік — вядучы навуковы супрацоўнік дадзенага музея Н. Ю. Шаркоўская). Кніга В. Ляўко багата ілюстраваная планамі, малюнкамі стратыграфіі культурных напластаванняў і археалагічных знаходак, а таксама каляровымі фотаздымкамі адзінкавых аб'ектаў архітэктуры і найбольш эксклюзіўных знаходак.

Ужо ў „*Предисловии*" да кнігі ананімны аўтар агучвае некалькі канцэптуальных тэзаў, з якімі цяжка пагадзіцца, бо яны гучаць як лозунгі альбо догмы: „*Древнейшие города Восточной Европы во многом схожи между собой. Большинство из них выросло* ***на племенной основе***

(вылучана мной — Г. С.). […] *Восточнославянские традиции лежали в основе развития всех сфер жизни древних городов, несмотря на полиэтничный состав населения*" (с. 8) (вось было б добра даведацца пра гэтыя *„ўсходнеславянскія традыцыі"* — Г. С.); *„Благодаря тому, что в Витебске были выделены основные признаки городской материальной культуры XIV–XVIII вв., стала возможной постановка вопроса* ***о культурной преемственности данной эпохи с эпохой Киевской Руси, а также о ее связи с материальной культурой белорусов, известной по этнографическим данным XIX в.*** (вылучана мной — Г. С.)" (с. 9)[5]. Менавіта па пераемнасці і ўзнікаюць пытанні: калі скончылася Кіеўская Русь, у XII ці XIII ст.?; якую *„матэрыяльную культуру беларусаў XIX ст."*, гарадскую ці вясковую, меў на ўвазе той жа аўтар?; дэклараваная пераемнасць датычыцца толькі Віцебска альбо таксама іншых гарадоў Беларусі? Адзначым, нам будзе цікава прасачыць, як аўтар кнігі Вольга Ляўко рэалізавала гэтыя вельмі сур'ёзныя пастулаты.

Першая структурная частка кнігі В. Ляўко, прысвечаная гісторыі вывучэння сярэднявечнага Віцебска, не поўнасцю адпавядае сваёй назве. Па невядомых прычынах аўтар абмінула архітэктурна-археалагічныя даследаванні ў горадзе, якія праводзілі Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі, Ігар Цішкін, пры гэтым інфармацыя пра іх справаздачы змешчана ў Дадатку 1. Не знойдзе чытач таксама ўзгадкі аб апошняй фундаментальнай працы Леаніда Васільевіча Аляксеева *„Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры"*, выданай у 2-х кнігах у 2006 г. Вядомы маскоўскі даследчык Полацкай і Смаленскай зямель у дадзенай кнізе Віцебску прысвяціў не адну старонку і выказаў шэраг вартых увагі думак па пытаннях тапаграфіі, архітэктуры і палітычнай гісторыі горада ад самых пачаткаў да канца XIII ст. Магчыма ігнараванне даволі важнага даследавання для археалогіі і гісторыі Беларусі (і Віцебска ў прыватнасці) выклікана наступнымі словамі Л. Аляксеева: *„Нельзя не пожалеть, что, по-видимому, по неосведомленности в вопросах научной этики, автор новых раскопок Друцка О. Н. Левко сочла допустимым не только приступить к раскопкам памятника (где исследования проводились мной по строгой, особой системе в течение девяти лет, и они находятся в стадии публикации), не только не согласовав свои предполагаемые работы с моими, но даже просто меня об этом не известив. Подобные "партизанские наскоки", когда работы начинаются вновь вслепую,*

[5] Цытаты з кнігі свядома пакінуты намі ў арыгінальнай аўтарскай версіі мовы — рускай, каб часам паказваць стылістыку нарацыі, а таксама каб пазбегнуць абвінавачванняў у наш бок з-за недакладнасці цытавання.

*вводится двойная нумерация раскопов, слоев, находок, чертежи заранее не согласуются и вряд ли сводимы потом (не говорю о выводах), безмерно вредны для любого археологического объекта, тем более для такого выдающегося памятника, каким является древний белорусский Друцк!"*[6].

Не палічыла патрэбным В. Ляўко ў гістарыяграфіі паведаміць чытачам пра існаванне манаграфіі Тацяны Бубенькі *„Средневековый Витебск. Посад-Нижний замок (X – первая половина XIV века),"* апублікаванай у Віцебску ў 2004 г. (праўда, узгадваецца яна ў *„Заключэнні"*). Таксама абмінула шэраг значных для археалогіі і гісторыі Віцебска артыкулаў Лявона Калядзінскага: *„Летописный Витбеск: истоки и генезис"*[7], *„Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации Верхнего замка в Витебске"*[8], *„Віцебскі храм св. Міхаіла"*[9]. Спіс замоўчаных навуковых прац, якія датычацца археалогіі і гісторыі Віцебска, можна працягваць. Такім чынам, акадэмічны навуковец паказвае нам прыклад (альбо новы прынцып) напісання гістарыяграфічных аналізаў. Падаецца толькі тое, што падабаецца, ігнаруецца дыскусійнае, затое вылучаецца ўласнае. Колькасць пазіцый аўтарства В. Ляўко ў бібліяграфіі складае 42 назвы.

Абсалютна некарэктна і нават неэтычна гучыць сказ на с. 18: *„К новейшим публикациям документов по Витебску относится "Судебная книга витебского воеводы" за 1533–1540 гг., подготовленная (с научным комментарием) и изданная А. И. Грушей в серии документов Метрики ВКЛ"*. Аднак кожны даследчык, які знаёмы з дадзеным выданнем 228 кнігі судовых спраў Літоўскай Метрыкі, ведае, што гэта супольны беларуска-расійскі праект, у рэалізацыі якого ўдзельнічалі Георгій Галенчанка, Аляксандр Груша, Васіль Варонін з беларускага боку і Ганна Харашкевіч з Інай Старасцінай з расійскага. І выдана яна не ў Мінску, як падае ў спісе літаратуры В. Ляўко, а ў Маскве. Складаецца ўражанне, што праф. Вольга Ляўко не чытала гэтай кнігі, але палічыла неабходным узгадаць яе ў гістарыяграфічным раздзеле і занесці ў бібліяграфію. Пацвярджэннем нашай здагадкі з'яўляецца факт, што ніводнага разу на яе не была зроблена спасылка ў тэксце.

6 Л. В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры*, в 2-х книгах. Москва 2006, кн. 1, с. 142, сноска 22.

7 Л. В. Колединский, *Летописный Витбеск: истоки и генезис,* [в:] *Города Верхней Руси. Истоки и становление*, Торопец 1990, с. 51–56.

8 Л. В. Колединский, *Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации Верхнего замка в Витебске*, [w:] *Castrum, urbis et bellum*, Барановичи 2002, с. 219–231.

9 Л. У. Калядзінскі, *Віцебскі храм св. Міхаіла*, „Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук, 1995", № 1, с. 59–66.

Кніга В. Ляўко мае тры „ўнікальныя рысы". Разгледзім іх падрабязней. Першая рыса — гэта дакладаная справаздача аб праведзеных археалагічных раскопках і назіраннях аўтара кнігі, якую мы рэцэнзуем, у розных месцах Віцебска за перыяд з 1976 па 2008 г. Яе заслуга ў палявых даследаваннях старажытнага беларускага горада бясспрэчная і выклікае павагу. Аднак паўстае пытанне інтэрпрэтацыі выяўленых матэрыялаў і ўвядзення іх у шырокае навуковае выкарыстанне. Атрымалася, што аўтар старанна пералічыла ўсе ўласныя раскопкі і назіранні за стратыграфіяй і магутнасцю культурных напластаванняў больш як за 30 гадоў (паўтарымся, традыцыйна праігнараваўшы інфармацыю пра археалагічную дзейнасць калег, нават калі яны даследавалі тыя ж самыя тапаграфічныя часткі горада), але пытанні храналогіі напластаванняў і іх распаўсюджанасці прадстаўлены на час напісання першай манаграфіі *„Витебск XIV–XVIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)"* (Минск 1984 г.). Такім чынам, нагрувашчванне штораз большай колькасці археалагічнага матэрыялу зусім не спрыяе паляпшэнню ведаў аб мінулым Віцебска. Як прыклад: Раздзел 1.3. *„Микрохронология культурного слоя XIV–XVIII вв."*. У ім разглядаюцца магчымасці датавання культурных напластаванняў на падставе датавання знойдзенай кафлі і іншых керамічных вырабаў. Пры гэтым існуе датаванне культурных напластаванняў (прынамсі Верхняга замка) на падставе дэндрахраналагічных звестак, сабраных у свой час Наталляй Барысаўнай Чарных з Інстытута археалогіі РАН па ініцыятыве Леаніда Калядзінскага[10]. Дарэчы, пра іх В. Ляўко ўзгадвае, але не выкарыстоўвае (с. 16).

Абсалютна незразумелы матывы аўтара адносна выкарыстання ў кнізе 2010 г. дзвюх табліц з манаграфіі 1984 года. Гэта: Табліца 1 *„Сводная характеристика протяженности и глубины археологических и геологических разрезов в исторической зоне Витебска (по данным 1964–1982 гг.)"* і Табліца 2 *„Сводная характеристика стратиграфии культурных напластований Витебска XIV–XVIII вв."*. Пры гэтым даследчыкамі, якія праводзілі археалагічныя раскопкі і назіранні ў той час, пазначаны толькі Георгі Штыхаў і Вольга Ляўко, а вынікі раскопак Міхаіла Ткачова і Леаніда Калядзінскага на Верхнім замку, а таксама Таццяны Бубенькі на Ніжнім замку Віцебска не выкарыстаны. А гэта значыць, што вынікі

[10] Інфармацыя пра дэндрахраналагічныя даты са спілаў драўляных канструкцый Верхняга замка Віцебска з намі падзяліўся паважаны спадар Леанід Калядзінскі, за што яму шчыры дзякуй. У хуткім часе вынікі дэндрадаследаванняў будуць даступны спецыялістам і чытачам у новай манаграфіі Л. Калядзінскага *„Верхний замок Витебска в IX–XVIII вв."*.

археалагічных даследаванняў з 1983 па 2009 гг. у Віцебску застаюцца пакуль толькі ў справаздачах і захоўваюцца ў архівах, а аўтар манаграфіі Ляўко не знайшла час (альбо не палічыла патрэбным) прааналізаваць іх і прадставіць чытачам.

Таму сёння спецыялістам складана даведацца пра актуальную схему стратыграфіі і храналогіі культурных напластаванняў горада. Тым больш што малюнкі, звязаныя са стратыграфіяй, і тапаграфія бессаромна і без удакладненняў перанесены ў кнігу 2010 года з усё той жа манаграфіі В. Ляўко ад 1984 года. Без усялякіх дапаўненняў і змяненняў, якія б улічвалі вынікі археалагічных даследаванняў Віцебска за час пасля манаграфіі Вольгі Ляўко з 80-х гадоў мінулага стагоддзя, перадрукаваны ў манаграфіі 2010 года малюнак 4 на с. 119 *„Распределение мощности культурного слоя в исторической зоне Витебска"*. Таксама відавочным падманам з'яўляюцца подпісы пад некаторымі малюнкамі ў кнізе, якую мы рэцэнзуем. Напрыклад, мал. 1 на старонцы 117 кнігі 2010 г. падпісаны *„Укрепленные части Витебска XVII в. и зоны археологических исследований 1964–2004 гг."*, а на самой справе гэта дакладны малюнак 19.2 на старонцы 31 кнігі 1984 г., у якой ён падпісаны *„Зоны археологических раскопок и наблюдений"*.

Нарэшце, яшчэ адно важнае пытанне: якая агульная плошча вывучана стацыянарнымі даследаваннямі (раскопы і шурфы) і археалагічнымі назіраннямі за культурнымі напластаваннямі ў Віцебску за час ад 1963 да 2008 г.? Бо са слоў, напісаных Вольгай Ляўко, нешта зразумець даволі складана: *„Общая площадь стационарных раскопок, проведенных на территории Витебска с 1963 по 2008 г., составляет более 15 000 кв. м. И только за последние 10 лет археологическими наблюдениями и шурфовкой охвачена примерно такая же площадь."* (с. 17).

Другая рыса найбольш шакуючая. Часткова першы і цалкам другі і трэці раздзелы кнігі 2010 года *„Витебск"* — гэта дакладны перанос папярэдніх тэкстаў Вольгі Ляўко з манаграфій: *„Витебск XIV–XVIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)"* (Минск 1984 г.), *„Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии"* (Минск 1992), *„Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие"* (Минск 2004 г.) і навуковых брашур *„Витебские изразцы XIV–XVIII вв."* (Минск 1981), *„Торговые связи Витебска в X–XVIII вв."* (Минск 1989). Пры гэтым навацыяй аўтара Вольгі Ляўко з'яўляецца „шулерскае" перамешванне папярэдніх

тэкстаў паміж сабою і адпаведна прапанаванаму зместу манаграфіі. Дзеля ашчаднасці тэксту рэцэнзіі праілюструем нашыя назіранні дзвюма табліцамі.

**Табліца 1.**

**Параўнанне тэксту манаграфіі Вольгі Ляўко „Витебск" (Минск, 2010) з яе манаграфіяй „Витебск XIV–XIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)" (Минск 1984 г.)**

| Ляўко, 2010 | Ляўко, 1984 |
|---|---|
| С. 21–32. Уступны абзац да раздзела 1 „Общие стратиграфические данные (археологические исследования 1964–1982 гг.)"; падраздзел 1.1. „*Характеристика культурного слоя и древний рельеф*" | С. 30–42. Толькі ў арыгінале падраздзел называецца „*Стратиграфические данные*" |
| С. 32–41. Падраздзел 1.2. „*Выделение вещественных комплексов XIV–XVIII вв.*" | С. 42–56, 63–67. Толькі ў арыгінале падраздзел называецца „*Характеристика вещественных комплексов*" |
| С. 41–47. Падраздзел 1.3. „*Микрохронология культурного слоя XIV–XVIII вв.*" | С. 67–72 |
| С. 177–181. Падраздзел 7.1. „*Средневековые планы и "Сметные книги" как исторические источники*" | С. 73–74, 76–77 |
| С. 195–202. Падраздзел 7.6. „*Материалы городской застройки*" | С. 20, 23–30 |
| С. 223–224. Падраздзел 9. „*Виды и организация ремесла*" | С. 90–91 |
| С. 234–235. Падраздзел 10.1. „*Железообработка*" | С. 92–94 |
| С. 236–240. Падраздзел 10.2. „*Кожевенно-обувное ремесло*" | С. 97–101 |
| С. 237. Таблица 4 | С. 106, таблица 8 |
| С. 241–243. Уступны абзац да раздзела 11. „*Технология гончарного ремесла и разновидности бытовой керамики*", падраздзел 11.1. „*Глиняная посуда и бытовые предметы*" | С. 94–95 |

**Табліца 2.**

**Параўнанне тэксту манаграфіі Вольгі Ляўко „Витебск” (Минск, 2010) з яе манаграфіяй „Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие” (Минск, 2004 г.)**

| Ляўко, 2010 | Ляўко, 2004 |
|---|---|
| С. 171. Другі абзац знізу | С. 40 |
| С. 172. Другі абзац зверху | С. 41 |
| С. 172–174. Падраздзел 6.2. *„Витебск — волостной центр”* | С. 47–48; 50–51 |
| С. 174–176. Падраздзел 6.3. *„Витебск — центр удельного княжества”* | С. 66–68; 83–84 |
| С. 181–183. Падраздзел 7.2. *„Социально-топографическое и планировочное развитие замковой части города в XIV–XVII вв.”* | С. 99; 102 |
| С. 183–186. Падраздзел 7.3. *„Социально-топографическая и планировочная структура витебских слобод (посадов) в XIV–XVII вв.”* | С. 100–102 |
| С. 203–207. Падраздзел 8.1. *„Церковное землевладение”* | С. 146–149 |
| С. 208–-209. Падраздзел 8.2. *„Из истории Успенского кафедрального собора”* | С. 154–156 |
| С. 209–210. Падраздзел 8.3. *„Изучение Воскресенской церкви”* | С. 156 |
| С. 210–213. Падраздзел 8.4. *„Святодуховский базилианский монастырь”* | С. 156–159 |
| С. 218–222. Падраздзел 8.6. *„Археологические следы средневековых храмов и кладбищ”* | С. 172, 174–177, 178–179 |
| С. 224–226. Падраздзел *„Ремесло в XII–XVI вв.”* | С. 120–122 |
| С. 226–233. Падраздзел *„Структура и организация ремесленной деятельности во второй половине XVI–XVIII вв.”* | С. 123–131 |

Да прадстаўленага вышэй у табліцах дададзім, што Раздзел 11 *„Технология гончарного ремесла и разновидности бытовой керамики"* (с. 241–251) — гэта тэкст, часткова перанесены з манаграфіі Вольгі Ляўко *„Витебск XIV–XIII вв. (Стратиграфія, хронология, социально-историческая топография и технология производства)"* (Минск 1984) і дапоўнены з яе манаграфіі *„Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии"* (Минск 1992). А раздзел 12 *„Изразцы XIV — начала XIX вв."* (с. 252–266) — гэта дакладна перапісаны тэкст, натуральна з нязначнымі скарачэннямі, з невялічкай кнігі Вольгі Ляўко *„Витебские изразцы XIV–XVIII вв."* (Минск 1981). Нашыя назіранні яскрава пацвярджаюць спасылкі на працы спецыялістаў. У тэксце кнігі 2010 года *„Витебск"* вы не сутрэнеце ніводнай бібліяграфічнай пазіцыі пазней за 60–70-я гады мінулага стагоддзя, часу, калі збіраўся матэрыял і пісалася кніга В. Ляўко пра Віцебскую кафлю. Раздзел 13 *„Витебск — центр торговли в Подвинском регионе"* (с. 267–280) уяўляе сабой дакладны тэкст у скарочаным выглядзе чарговай ранейшай невялічкай кнігі Вольгі Ляўко *„Торговые связи Витебска в X–XVIII вв."* (Минск 1989).

Будзем справядлівымі і адзначым, что зрэдку В. Ляўко ўносіла змены ў папярэднія тэксты. Але часцей за ўсё атрымлівалася яшчэ большая блытаніна. На с. 172 абзац *„Анализируя деятельность киевской княгини Ольги, направленную на дальнейшее упрочнение государственной власти…"* паўтарае тэкст з манаграфіі 2004 г. (с. 47). Толькі розніца ў тым, што ў 2004 г. дадзеная думка сканчаецца спасылкай на расійскага навукоўца Уладзіміра Канецкага[11], а ў 2010 г. спасылка адсутнічае. Падобны прыём В. Ляўко паўтарае не аднойчы ў манаграфіі 2010 г. На с. 185–186, як мы паказалі ў Табліцы 2, перадрукаваны тэкст з манаграфіі 2004 г. з невялічкімі стылістычнымі зменамі, якія не паўплывалі на сутнасць. Аднак Ляўко ў дадзеным выпадку дазволіла сабе і радыкальныя змены адносна тэкста 2004 г. У кнізе, якую мы рэцэнзуем, раптам знікае інфармацыя аб выяўленні ў 1999 г. віцебскім археолагам Ігарам Цішкіным рэшткаў Срэценскай царквы, пабудаванай на мяжы XVI–XVII стст. на тэрыторыі Задзвінскай слабады[12]. Чым выклікана падобная змена ў тэксце, навукова не абгрунтоўваецца.

На с. 203–204 паўтараецца тэкст з манаграфіі 2004 г. з невялікай зменай,

11 В. Я. Конецкий, *Социальная организация населения Приильменья и формирование коренной территории Новгородской земли в конце I тыс.н.э.,* [в:] *Новгород и Новгородская земля. История и археология,* Новгород 1995, вып. 9, с. 39.

12 І. Цішкін, *Невядомы помнік беларускага рэнесансу*, [w:] *Castrum, urbis et bellum*, Баранавичи 2002, с. 391–396.

але з-за яе атрымліваецца зусім іншы сэнс. *„По данным хозяйственных ревизий, в Витебске в середине XVI в. было семь православных церквей, а всего с конца XIII в. до середины XVI в. в Витебском повете основано четыре православных монастыря,* ***принадлежавших мелким землевладельцам*** (вылучана мной — Г. С.)" (Левко, 2010, с. 203). *„ По данным хозяйственных ревизий, в Витебске в середине XVI в. было семь православных церквей, а всего с конца XIII в. до середины XVI в. в Витебском повете основано четыре православных монастыря,* ***относящихся к разряду мелких землевладельцев*** (вылучана мной — Г. С.)" (Левко, 2004, с. 146). Пры гэтым у абедзвюх кнігах даецца спасылка на адну крыніцу *„Нарысы па гісторыі Беларусі. У 2-х частках"* (Мінск 1994, частка 1, с. 167). І зноў звычайны чытач не зразумее, якая версія больш адпавядае праўдзе. Больш таго, на старонцы "Нарысаў… ", пададзенай В. Ляўко, увогуле няма слоў пра "дробных землеўладальнікаў", а толькі інфармацыя пра заснаванне з канца XIII да сярэдзіны XVI ст. на тэрыторыі Беларусі каля 40 новых праваслаўных манастыроў, большасць з якіх былі дробнымі, з невялікай колькасцю чорнага духавенства (нярэдка да 10 манахаў).

Трэцяя рыса манаграфіі Вольгі Ляўко, якая намі рэцэнзуецца,— гэта мова і афармленне. Мова нарацыі Вольгі Ляўко — нейкая неахайная і сумбурная, часта нелагічная, думкі не даведзены да канца, што ўскладняе для чытача разуменне напісанага. С. 206: *„В Историко-юридических материалах содержатся сведения о широком предоставлении монахами-базилианами ссуд под залог имущества жителям Витебского воеводства и других территорий ВКЛ"*. Мы, напрыклад, ведаем, што ІЮМ — гэта шматтомнае выданне вельмі каштоўных дакументаў XVI–XVIII стст. па гісторыі Усходняй Беларусі, а недасведчаны даследчык? Здаецца, па правілах рускай і беларускай мовы назвы выданняў павінны брацца ў двукоссі.

У мове кнігі В. Ляўко вялікая колькасць ідэалагічных штампаў і рыторыкі даўняй савецкай эпохі. Напрыклад, *„Подчиняясь папе римскому, но сохраняя внешне обрядность восточной греческой церкви, униатские проповедники стремились привлечь в новое церковное русло как можно больше верующих, главным образом, из низших слоев населения. Им противостояли православные братства, организации, включавшие разные социальные слои, объединенные идеей общего духовного и культурного наследия с выраженной национальной окраской"* (с. 207). Чытач, не губляй час, пра Віцебскае праваслаўнае брацтва на старонках кнігі В. Ляўко няма ніводнага слова. З ідэяй *„общего духовного и культурного наследия"*

ўсё зразумела — гэта праваслаўе, а вось з „*выраженной национальной окраской*” — гэта ўжо „вышэйшая матэматыка”.

Таксама высвятляецца, што ў паўставанні і арганізацыі рэфарматарскай супольнасці ў Віцебску ў 1560-я гады, на думку В. Ляўко, галоўную ролю адыграла дзейнасць маскоўскіх уцекачоў — манахаў Феадосія Касога, Арцемия і Фамы (с. 204). Для саліднасці яна спасылаецца на манаграфію Георгія Галенчанкі „*Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в.*” (Минск 1989), але змяняе сэнс аўтарскага тэксту. Праўда, вышэй і ніжэй дадзенага фрагмента аўтар піша пра „*феадальную знать*”, „*феодалов-реформаторов*” як „*проводников*” кальвінізму і ідэй рэфармацыі. А сярод фундатараў кальвінскага храма і школы ў Віцебску называе прадстаўнікоў роду Друцкіх-Сакалінскіх, Яна Храпавіцкага і нават безыменных „*витебских мещан*”.

Асобна ёсць жаданне сказаць пра бібліяграфію, змешчаную ў канцы кнігі і названую аўтарам „*Литература*”. Калі тэксты беларускіх даследчыкаў, якія займаліся вывучэннем Віцебска (Леаніда Калядзінскага, Тацяны Бубенькі і ўласна аўтара кнігі, якая рэцэнзуецца), улічаны амаль цалкам, а для параўнальнага аналізу археалагічнага матэрыялу зрэдку выкарыстоўваюцца адзінкавыя працы беларускіх даследчыкаў канца XX — пачатку XXI ст., дык з тэкстамі расійскіх, польскіх, літоўскіх альбо заходнееўрапейскіх навукоўцаў атрымліваецца незразумелая і дзіўная сітуацыя. Яны храналагічна абмежаваны канцом 70-х — пачаткам 80-х гадоў XX ст., карацей, часам выдання Вольгай Ляўко у 1984 г. першай манаграфіі „*Витебск XIV–XVIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)*”. У бібліяграфіі таксама не атрымалася без прыкрых памылак. Напрыклад, зборнік дакументаў „*Акты Литовско-Русского государства (1390–1529)*”, якія былі сабраны, апрацаваны і падрыхтаваны да друку Мітрафанам Доўнар-Запольскім, у спісе літаратуры Ляўко падаецца з імём Доўнар-Запольскага на першым месцы, нібы ён з'яўляецца аўтарам навуковай працы. Вельмі таямнічай выглядае ў спісе літаратуры пазіцыя „*НАРБ. — ф. 2617, оп. 1, д. 6, л. 1; ф. 3258, оп. 1, д. 2, л. 1–6; д. 14, л. 1–3*”. Са спіса скарачэнняў мы даведваемся, што гаворка вядзецца пра Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь. Толькі справа ў тым, што даведнік „*Фонды Национального Архива Республики Беларусь. Краткий Справочник*” (Минск 2012) пералічвае і апісвае толькі 1488 фондаў. Калі думаць, што атрымалася тэхнічная памылка і гаворка вядзецца пра Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі, тады высвятляецца, што фонд 2617 называецца „*Тадулінскі Успенскі жаночы манастыр у мястэчку Янавічы Віцебскага ўезда*”,

а фонд 3258 называецца „*Любамірскія*", якія былі князямі і ўладальнікамі Дубровенскага і Любашэўскага графстваў на тэрыторыі Магілёўскай губерні[13].

Кніга Вольгі Ляўко не вычытана ні карэктарамі, ні рэцэнзентамі, а магчыма, і ўласна аўтарам. На яе старонках сустракаюцца шматлікія стылістычныя, арфаграфічныя і факталагічныя памылкі. Некалькі прыкладаў: с. 12 — „*В публикации «Гончарные терракоты Витебска»* (тэкст Н. Я. Нікіфароўскага з 1899 г. — Г. С.) *ученный приводит сравнительный анализ витебской керамики, полученной при раскопках Замковой горы в 1895–1986 гг., с керамикой из раскопок Киева*"; с. 15 — „*В архиве Ленинградского отделения Института археологии АН СССР Л. В. Алексеев обнаружил «Дело о срытии Замковой горы в Витебске»…*" — заўважым, што дадзенае аддзяленне ўжо больш за 20 год называецца Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры РАН.

Наколькі мне вядома, эксперты ВАК даволі часта звяртаюць увагу на падобныя „грахі" (афармленне навуковага тэксту адпаведна „патрабаванням ВАК") суіскальнікаў навуковых ступеняў і зніжаюць вартасць дысертацый. Якраз падчас напісання і друкавання манаграфіі, якую мы рэцэнзуем, В. Ляўко з'ўлялася экспертам ВАК. Таксама заўсёды зніжаецца, адзнака студэнтам за неахайна аформленыя дыпломныя работы. А як вядома, В. Ляўко ў час напісання дадзенай манаграфіі з'ўлялася прафесарам кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова (кіраўніком кафедры быў тады д.г.н. Ігар Марзалюк, дарэчы, адзін з рэцэнзентаў гэтай манаграфіі). Вось такі ўзор навуковай культуры.

Такім чынам, Інстытут гісторыі НАН Беларусі прапанаваў нам чарговы прадукт вельмі нізкай якасці і сумнеўнай вартасці, даруйце, „*новы тып і від навуковага даследавання*". Калі бяруцца папярэднія тэксты, трошачкі падпраўляюцца стылістычна, перамешваюцца, каб не кідалася ў вочы, і, калі ласка,— кніга гатова. Вось такая яна, сучасная акадэмічная гістарычная навука, а дзяржава наіўна верыць у рапарты і лозунгі і шчодра фінансуе нізкаякасны прадукт. Няхай і надалей Вольга Ляўко займае самыя ганаровыя месцы ў самых ганаровых прэзідыумах розных канферэнцый, уваходзіць у розныя камітэты і камісіі, толькі сутнасці гэта не зменіць: кнігі, падобныя на „*Витебск*", — гэта ганьба беларускай навукі.

Віцебск сапраўды з'ўляецца адным з самых старажытных гарадоў Беларусі, які мае вельмі багатую гісторыю. З іншага боку — гэта адзіны горад, дзе так маштабна праведзены археалагічныя даследаванні,

[13] *Фонды Национального исторического архива Беларуси: справочник,* Минск 2006, с. 193, 204.

атрыманы велізарны факталагічны матэрыял. Да гэтага трэба дадаць нядрэнную, у параўнанні з іншымі гарадамі Беларусі, наратыўную і актавую крыніцазнаўчую базу (друкаваную і архіўную) і значную колькасць навуковых манаграфій і артыкулаў. Усё гэта дазваляе адзначыць даследаваныя і вызначыць невывучаныя старонкі гісторыі горада.

Дык чаго няма ў кнізе В. Ляўко „*Витебск*":

1. Грунтоўнага гістарыяграфічнага і крыніцазнаўчага аналізу з улікам кантэкстаў паўставання як крыніц, так і навуковых прац. Не прапанаваны тэарэтычна-метадалагічныя падставы і накірункі даследавання.
2. Не высветлены генезіс і пачатковая гісторыя горада. Дзеля гэтага патрэбны грунтоўныя дэндрахраналагічныя даследаванні. Паза ўласна археалагічнымі пытаннямі, не вывучанымі застаюцца кантэкст и працэсы, якія спрыялі паўставанню горада.
3. Пры зразумелай тапаграфіі першапачатковага, сярэднявечнага і наважытнага Віцебска адсутнічае ясная стратыграфія культурных напластаванняў. Выглядае так, што раскапана сапраўды шмат, а выразнай стратыграфіі і храналогіі няма.
4. Пасля грунтоўнай манаграфіі Максіма Макарава[14] грунтоўна асвятліліся старонкі набыцця і прававога функцыянавання гарадскога самакіравання Віцебска. Аднак як змянілася сацыятапаграфія горада ў гэтым кантэксце — пытанне. Далей чакаюць свайго даследчыка гісторыя магдэбурскіх інстытуцый Віцебска і іх узаемадзеянняў з дзяржаўнай/княжацкай/каралеўскай уладай.
5. Ёсць найбагацейшыя калекцыі археалагічных матэрыялаў, сабраныя за больш чым 100 гадоў раскопак, але няма іх асэнсавання і канчатковых тыпалогій і храналогій на сучасных метадалагічным і тэхнічным узроўнях. Гэта ўскладняе напісанне тэкстаў па гісторыі матэрыяльнай, духоўнай, мастацкай, сацыяльнай, вайсковай культур і штодзённага жыцця насельніцтва Віцебска.
6. Далейшага вывучэння патрабуюць фартыфікацыйныя сістэмы горада, грамадзянскае і культавае будаўніцтва, традыцыі і навацыі ў гэтай галіне.
7. Далёка да вырашэння праблем рамесніцкай і гандлёвай дзейнасці віцяблян ад пачатковых этапаў горада да ўваходу яго ў склад Расійскай імперыі.

[14] М. Макараў, *Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча насельніцтва местаў Беларускага Падзвіння ў XIV — першай палове XVII ст.*, Мінск 2008.

8. Маецца багаты крыніцазнаўчы матэрыял па рэлігійных, этнічных і сацыяльных характарыстыках насельніцтва Віцебска, а пры гэтым не раскрыты механізмы функцыянавання шматнацыянальнага і шматканфесійнага гарадскога соцыуму.

Такім чынам, кніга Вольгі Ляўко „*Витебск*" — першая ў серыі „*Древнейшие города Беларуси*" — не ўнесла нічога новага ў айчынную навуку. Можна толькі пашкадаваць пра змарнаваныя магчымасці як навуковыя, так і фінансавыя. Адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі з найбагацейшай гісторыяй і культурай далей застаецца на ўзбочыне сучасных навуковых канструкцый і інтэрпрэтацый. У свой час вядомы расійскі медыявіст еўрапейскага маштабу Арон Гурэвіч напісаў: „*Наступает момент, когда ученый останавливается в своем духовном росте, в своем научном развитии, уже не сможет создавать новые вещи, но не всегда ясно осознает, что сказанное, написанное им несколько десятилетий тому назад уже устарело и к нему необходимо относиться критически…*"[15].

І апошняя заўвага: ці варта пісаць аб кнігах дрэнных, бессаромна графаманскіх і quazi-навуковых? Пасля прачытання кнігі Вольгі Ляўко „*Витебск*" пераконваешся, што варта. Рэагуючы на падобныя вырабы сучаснай беларускай акадэмічнай гістарыяграфіі, можна высветліць слабую навуковую вартасць твораў часткі супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі, якіх шчодра матэрыяльна і ідэалагічна падкармлівае дзяржаўная ўлада. З іншага боку, нагадваючы сталым і маладым даследчыкам пра падобныя манаграфіі, магчыма, атрымаецца кагосьці зберагчы ад псеўданавуковасці.

**Генадзь Семянчук**
**(Варшава/Гродна)**

15 А. Гуревич, *История Историка,* Москва 2004, с. 30.

# Ці была расійска-беларуская гісторыя?

**Рэцэнзія на: Осмысление альтернативных концепций российско-белорусской истории. Материалы заседания международного круглого стола, Москва, исторический факультет МГУ, 6 марта 2018 г., [в:] Труды исторического факультета МГУ, вып. 106, серия II: Исторические исследования, 72. Москва: Издательство Московского университета 2018. — 156 с.**




Прадметам рэцэнзіі з'яўляецца публікацыя матэрыялаў круглага стала, які адбыўся 6 сакавіка 2018 г. у вядучай ВНУ Расіі — Маскоўскім дзяржаўным універсітэце — і быў прысвечаны цікавай для беларусаў тэме, менавіта *„альтэрнатыўным канцэпцыям расійска-беларускай гісторыі"*.

Усяго апублікавана 12 дакладаў і 11 выступаў, сярод іх аўтараў — 10 з Беларусі, расійскіх — 12 (розніца ў лічбах вынікае з таго, што некаторыя ўдзельнікі выступалі не аднойчы, а адзін тэкст мае двух аўтараў). Расійскія аўтары прадстаўляюць амаль выключна Маскву (13), толькі адзін з Новасібірска, геаграфія прадстаўнікоў Беларусі больш разнастайная: 7 мінчукоў, 2 гомельцы, 1 магілёвец. Сярод расійскіх аўтараў ёсць выхадцы з Беларусі, як былы міністр замежных спраў БССР Іван Антановіч, а з беларускіх чамусьці да Гомеля прыпісаны Віктар Мічурын — кіраўнік Расійскага цэнтра навукі і культуры ў Гомелі і адначасова Першы сакратар Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Апублікаваныя тэксты розныя па аб'ёме, ад салідных артыкулаў (10–15 старонак) да кароткіх (менш за старонку) выступаў. Магчыма, па афармленні тэкстаў можна меркаваць пра рознае стаўленне да мерапрыемства аўтараў з Расіі і Беларусі: больш сур'ёзнае апошніх і менш — прадстаўнікоў Расіі. Спасылкі і бібліяграфія прысутнічаюць амаль выключна ў тэкстах аўтараў з Беларусі, у расійскіх удзельнікаў толькі два артыкулы маюць невялікую бібліяграфію.

Хоць выданне належыць да навуковай серыі (у рэдакцыйнай радзе — спрэс акадэмікі і дактары навук), адразу заўважная прысутнасць сярод аўтараў публіцыстаў заходнерускай арыентацыі, такіх як Леў Крыштаповіч, Аляксандр Гронскі, Кірыл Авяр'янаў-Мінскі.

Увогуле, як вядома, не бывае „аб'ектыўнай" навуковай гістарыяграфіі, у кожнай краіне яна фармуецца праз суб'ектны падыход, паводле якога ўласны народ бачыцца суб'ектам сваёй гісторыі і, адпаведна, гістарычныя працэсы і падзеі разглядаюцца з пункту гледжання ягонай рацыі стану. Гэта не супярэчыць прынцыпу навуковасці, толькі гісторыкі розных краін, асабліва суседніх, маюць цяжкасці ва ўзгадненні і выпрацоўцы сумесных неканфрантацыйных ацэнак падзей з агульнай гісторыі.

Працы адэптаў заходнерусізму не з'яўляюцца навуковымі, бо адмаўляюць гістарычную суб'ектнасць беларускага народа, а часта і само яго існаванне. Разам з тым для заходнерусістаў характэрная прэтэнзія на прысутнасць у навуковым дыскурсе, пра што сведчыць іх удзел у названым круглым стале.

Ва ўступным слове дэкан гістфака МДУ прафесар **Іван Тучкоў** між іншым зазначыў неабходнасць вывучаць на кафедры краін блізкага замежжа не толькі іх найноўшую гісторыю пасля 1991 г., але і *„гісторыю новых незалежных дзяржаў на ўсіх гістарычных этапах"*[1].

**Аксана Солапава**, канд. гіст. навук, кіраўнік лабараторыі гісторыі дыяспар таго ж факультэта, коратка распавяла пра сумесныя праекты і выданні гісторыкаў з Расіі і Беларусі, у тым ліку пра расійска-беларускі штогадовы конкурс студэнцкіх прац *„Агульны шлях да перамогі"*, выданне ў дзвюх частках *„Стагоддзе рэвалюцыі 1917 года"* і *„Пётр Машэраў. Эпоха і лёс. Да 100-годдзя з дня нараджэння"*[2].

Выступ ініцыятара круглага стала, прэзідэнта фонда развіцця інстытутаў грамадзянскай супольнасці „Народная дыпламатыя" **Аляксея Качаткова** (Масква) быў скіраваны да гісторыкаў дзвюх краін

---

1 И. И. Тучков, *Выступление на круглом столе*, с. 7–10.

2 О. В. Солопова, *Выступление на круглом столе*, с. 11–12.

як да „*экспертнай гістарычнай супольнасці*”. Выступоўца назваў круглы стол мерапрыемствам „*у рамках агульнарускай прасторы*” і выказаў меркаванне, што прычына сённяшняга супрацьстаяння Украіны і Расіі ў многім „*ляжыць у плоскасці неразумення ці процістаяння ўнутры экспертнай гістарычнай супольнасці*”[3]. Наступны выступоўца **Віктар Мічурын**, сакратар расійскай амбасады, прыпісаны да Гомеля, адназначна аднёс Беларусь да „*рускага свету*” і канстатаваў, што „*шматлікія еўрапейскія, і не толькі, інстытуты вядуць тут актыўную працу па духоўнай еўрапеізацыі краіны і распаўсюджванні тут сваіх духоўных і культурных каштоўнасцей*”[4].

Першы тэкст з Беларусі прадстаўлены **Вячаславам Даніловічам**[5], дырэктарам акадэмічнага Інстытута гісторыі. Хоць паводле загалоўка ягоны тэкст меў быць пра розныя канцэпцыі беларускай дзяржаўнасці, на самой справе пераказваецца адна канцэпцыя з кнігі „*История белорусской государственности*”, падрыхтаванай у інстытуце, якім кіруе В. Даніловіч. У тым ліку з уводзінаў да першага тома названай працы перанесена ў трохі зменёнай форме непісьменная дэфініцыя паняццяў „*дзяржаўнасць*” і „*дзяржава*”[6]. Гэтая „дэфініцыя”, якую аўтар ацэньвае як „*сфармуляваную на аснове прынцыпу гістарызму калектывам вучоных Інстытута гісторыі НАН Беларусі ўпершыню ў гісторыі сусветнай навуковай думкі прынцыпова новую трактоўку*”, разглядае „*дзяржаўнасць*” як унутраны патэнцыял этнанацыянальнай супольнасці, а „*дзяржаву*” — як „*канкрэтна-гістарычнае ўвасабленне гэтага права*”[7].

Паводле такой „дэфініцыі” беларуская дзяржаўнасць пачынаецца ад каменнага веку, менавіта ад моманту з’яўлення на тэрыторыі Беларусі першых людзей. Таксама яна зручная ў сённяшні палітычны момант у Рэспубліцы Беларусь, бо дазваляе трактаваць двухвекавую акупацыю Беларусі расейскай дзяржавай як „*эпоху развіцця гістарычных прадпасылак аб’ектыўнага і суб’ектыўнага характару, якія абумовілі магчымасць рэалізацыі нацыянальнай дзяржаўнасці*”[8].

Традыцыю беларускай дзяржаўнасці аўтар выводзіць з Кіеўскай Русі; Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая — „*гістарычныя формы*

[3] А. В. Кочетков, *Выступление на круглом столе*, с. 13.
[4] В. Л. Мичурин, *Выступление на круглом столе*, с. 15.
[5] В. В. Данилович, *Концепции истории белорусской государственности: характерные черты*, с. 17–27.
[6] *История белорусской государственности*, т. 1: *Белорусская государственность: от истоков до конца XVIII в.*, Минск 2018, с. 5–6.
[7] В. В. Данилович, *Концепции истории*, с. 17.
[8] Тамсама, с. 21.

*дзяржаўнасці"*, БНР сфармулявала ідэю нацыянальнай дзяржаўнасці і зрабіла практычныя крокі па яе рэалізацыі. БССР — *„нацыянальная дзяржаўнасць на савецкай аснове"*. У сённяшняй Рэспубліцы Беларусь інстытут прэзідэнцтва — вядучы орган дзяржаўнай улады, а *„Аляксандр Лукашэнка — не толькі юрыдычны, але і фактычны лідар беларускай дзяржавы"*[9].

Прадстаўленую сп. Даніловічам канцэпцыю цяжка ацэньваць з навуковага пункту гледжання, паколькі яна яўна адлюстроўвае сучасны стан беларускай дзяржаўнасці, а менавіта моцную залежнасць краіны ад Расіі. З аднаго боку, аўтар падкрэслівае даўнюю традыцыю беларускай дзяржаўнасці, што з'яўляецца нормай для незалежнай краіны, з другога — прапаноўвае фармулёўкі, якія не павінны выклікаць незадаволенасці ў расійскіх апанентаў.

Тэкст **Івана Антановіча** (Масква), доктара філасофскіх навук, прафесара, належыць да публіцыстычных у рэчышчы заходнерусізму ў яго савецкім варыянце. У ім прысутнічаюць усе ідэйныя кампаненты гэтай плыні: праваслаўе, якое *„сфармавала беларускую нацыянальную, культурную ідэнтычнасць"*; *„культурны генацыд"* беларусаў у Рэчы Паспалітай; *„Рух праваслаўных беларускіх масаў да асветы і праз яе да нацыянальнай самасвядомасці"* ў Расійскай імперыі; БНР не адбылася, але яна была *„першай спробай беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці"*; без БНР магла быць іншай БССР, *„а без БССР не было б і Рэспублікі Беларусь"*[10].

Гэты тэкст, як і ўсе папярэднія, пададзены без спасылак, таму, лагодна кажучы, непераканаўча гучыць намёк аўтара, што, дзякуючы працы *„з архіўнымі матэрыяламі, у тым ліку і закрытымі, якія яму былі па розных прычынах даступныя"*, ён выявіў адсутнасць нейкіх прыкмет беларускасці ў *„дзяржаўнай матрыцы ВКЛ і Рэчы Паспалітай"*[11].

Першы ад пачатку кнігі тэкст з навуковым апаратам (спасылкамі і бібліяграфіяй) прадстаўлены **Валянцінай** і **Алегам Яноўскімі** (Менск) і прысвечаны развіццю беларускай гістарыяграфіі першай паловы XX ст. Аўтары сумняваюцца ў правамернасці ўжывання тэрміна *„расійска-беларуская гісторыя"*, бо *„і расейцы і беларусы спавядаюць непарушнасць прынцыпу сваёй дзяржаўнай «независимости-незалежнасці»"*[12].

---

9 Тамсама, с. 19, 23, 27.

10 И. И. Антонович, *Константность истории и противоречивость ее интерпретаций*, с. 29, 30, 34.

11 Тамсама, с. 29.

12 О. А. Яновский, В. В. Яновская, *Постижение отечественной истории (размышления и историографические факты по поводу научной эффективности «альтернативных концепций российско-белорусской истории»*, с. 37.

Даследчыкі прадставілі аналіз беларускай гістарыяграфіі першай паловы ХХ ст. і прыйшлі да высновы, што ў пасляваенны час навуковыя высілкі і вынікі беларускіх гісторыкаў 1920–1930 гадоў *„у аснове сваёй былі зданы ў нябыт"*, а новыя пакаленні гісторыкаў ужо пісалі адпаведна ідэалагічным устаноўкам на *„ўмацаванне дружбы савецкіх народаў"* на чале з *„вялікім рускім народам"*. Адзначылі, што толькі ў апошнія два з паловай дзесяцігоддзі стала магчымым распрацоўваць розныя тэмы гісторыі Беларусі, на якія раней *„існавала табу"*. Аўтары пакрытыкавалі *„савецкага гісторыка"*, не называючы яго імя, за *„лоўкасць"* у аналізе працы папярэднікаў. Па спасылцы, аднак, можна вылічыць, што гаворка ідзе пра Пятра Петрыкава[13], які палічыў дасягненнем савецкай гістарыяграфіі абгрунтаванне права Маскоўскай дзяржавы на землі Кіеўскай Русі[14].

Кароткім, у сем пазіцый, спісам бібліяграфіі заканчваецца аб'ёмны тэкст доктара філасофскіх навук **Льва Крыштаповіча** (Менск), які ўжо назвай[15] дакладна паказвае сутнасць поглядаў аўтара — актыўна, можна нават сказаць апантана, заходнерускіх. З першых радкоў Л. Крыштаповіч рэзка крытыкуе як *„афіцыйную гістарычную навуку ў Рэспубліцы Беларусь"*, так і *„г.зв. беларусізатараў"*. Першая нібыта пераносіць палажэнне Канстытуцыі (менавіта сцвярджэнне пра незалежнасць краіны) на гісторыю беларускага народа. Маўляў, паводле гэтага *„хлапечага падыходу"*, паколькі Беларусь — незалежная дзяржава, *„у яе павінна быць незалежная гісторыя"*. Другія, увогуле *„псеўдагісторыкі"*, паказваюць ВКЛ і Рэч Паспалітую *„ў якасці беларускіх феноменаў і беларускай дэмакратыі", а „ўся гэтая графаманія, якая не мае нічога агульнага з гістарычнай навукай, перследуе адну адзіную мэту — навязаць беларускаму грамадству меркаванне пра тое, што гістарычна Беларусь* (у арыгінале „Белоруссия" — А. К.) *развівалася па-за агульнарускай гісторыяй"*[16].

З прыведзенай цытаты вынікае, што сп. Крыштаповіч даволі дакладна акрэсліў мэту дзейнасці суб'ектных беларускіх гісторыкаў (да якіх належыць і рэцэнзент), а менавіта прадстаўленне грамадству гісторыі краіны Беларусь, у якой беларускі народ з'яўляецца творцам, суб'ектам, а не адно аб'ектам знешніх уздзеянняў.

Агулам тэкст уяўляе сабой вострую крытыку, месцамі блізкую да лаянкі, *„беларусізатараў"*, пачынаючы ад дзеячоў БНР, і не мае

[13] П. Т. Петриков, *Историческая наука,* [в:] *Наука Беларуси в XX столетии*, Минск 2001, с. 69–91.

[14] О. А. Яновский, В. В. Яновская, *Постижение отечественной истории…*, с. 51, 39, 41.

[15] Л. Е. Криштапович, *Наша общерусская история*, с. 53–64.

[16] Тамсама, с. 53.

нічога агульнага з навуковым аналізам. Саму БНР аўтар ацэньвае як *„антыдзяржаўны праект”*, а палітыку беларусізацыі ў БССР у 1920-я гады — як рэанімаванне ідэалогіі БНР *„пад выглядам палітыкі беларусізацыі, якая набыла адкрыта русафобскі характар”*. Потым *„з бэнээраўскай беларусізацыяй у 1920-я гады было скончана”*, калі яе вынікі *„пачалі пагражаць самой дзяржаве, адзінству народаў СССР”*[17]. З тэксту сп. Крыштаповіча вынікае характарыстыка яго поглядаў як заходнеруска-савецкіх з ухілам у таталітарызм сталінскага кшталту.

Прафесар **Мікалай Барысаў** (Масква) звярнуў увагу на расійскія падручнікі па гісторыі краіны, а менавіта на складанасці з іх падрыхтоўкай. Асноўная прычына складанасцей — у неакрэсленасці сучаснай расійскай ідэалогіі. Спрабавалі сабраць пэўны набор інфармацыі (імёны, падзеі, даты), абавязковы для кожнага падручніка, але ён не прайшоў з-за надта вялікага інфармацыйнага аб’ёму. Міністэрства адукацыі Расіі не дае размяшчаць свой грыф на падручніках, бо чыноўнікі баяцца браць на сябе адказнасць за іх ідэалагічны змест. Таму сёння расійскія школы вучацца па вучэбных дапаможніках па гісторыі[18].

Кандыдат гістарычных навук **Васіль Варонін** (Менск) коратка прадставіў сваё бачанне пераемнасці старажытнарускага перыяду і перыяду ВКЛ у гісторыі Беларусі. У асноўным яно зводзіцца да канстатацыі таго, што пераемнасць была. Тэкст не мае спасылак, таму невядома, адкуль аўтар узяў сцверджанне пра тое, што менавіта летувісы былі ініцыятарамі стварэння ВКЛ. Спецыяльныя даследаванні аўтара гэтай рэцэнзіі прывялі да іншай высновы. Неправамерным уяўляецца ўжыванне тэрміна *„русіфікацыя”* ў дачыненні да працэсу беларусізацыі летувіскай знаці ў XIII–XIV стст[19].

Прафесар **Генадзь Матвееў** (Масква) у сваім выступе асудзіў выдаленне з нацыянальнай гісторыі ў сучаснай Польшчы перыяду Польскай Народнай Рэспублікі і падобны працэс ва Украіне. Недакладнай бачыцца ацэнка аўтарам польскіх і ўкраінскіх змагароў за незалежнасць у Другую сусветную вайну і першыя гады пасля яе заканчэння як *„прайграўшых”*. Менавіта іх шанаванне ў сучаснай польскай і ўкраінскай дзяржавах (прыводзіўся прыклад Сцяпана Бандэры) даказвае іх канчатковую перамогу над камуністамі[20].

---

17 Тамсама, с. 56, 57, 60.

18 Н. С. Борисов, *Выступление на круглом столе*, с. 66–68.

19 В. А. Воронин, *Древнерусский период и период Великого княжества Литовского в истории Беларуси: черты преемственности*, с. 70.

20 Г. Ф. Матвеев, *Выступление на круглом столе*, с. 71–74.

Дэкан гістфака Гомельскага дзяржуніверсітэта доктар гістарычных навук **Мікалай Мязга** прадставіў уплыў савецкай Расіі і Польшчы на станаўленне беларускай дзяржаўнасці ў 1918–1920 гг. Тэкст уяўляе сабой навуковы артыкул, найбольш грунтоўны з усяго зборніка. У салідняй бібліяграфіі большую частку пазіцый складаюць публікацыі крыніц. Артыкул несумненна належыць да суб'ектнай беларускай гістарыяграфіі. Аўтар са спасылкай на крыніцы і спецыяльныя працы пераканаўча паказаў, як ва ўмовах польска-савецкага супрацьстаяння абодва бакі ў цяжкія моманты барацьбы разыгрывалі беларускую карту — вялі перамовы з урадам БНР, абяцаючы падтрымку беларускай дзяржаўнасці. Але потым, пры паляпшэнні сітуацыі і падчас мірных перамоў у Рызе, беларусаў проста ігнаравалі. Бальшавікі стварылі савецкую Беларусь як буферную рэспубліку з намерам перадаць яе землі Польшчы. Польскія галоўныя палітычныя сілы і іх лідары Раман Дмоўскі і Юзаф Пілсудскі, нягледзячы на супярэчнасці між сабой, аднолькава адмоўна ставіліся да беларускай дзяржаўнасці. Утылітарны падыход польскага і бальшавіцкага бакоў да беларускага пытання аўтар тлумачыць не толькі іх геапалітычнымі інтарэсамі, але і слабасцю беларускага нацыянальнага руху[21].

Кандыдат гістарычных навук **Дзмітрый Андрэеў** (Масква) у кароткім тэксце пахваліў савецкае мінулае Беларусі і асабліва кнігу Усяслава Зінькевіча[22], якая нібыта *„дэзавуіруе многія міфы”*[23].

Доктар гістарычных навук **Дзмітрый Карнавухаў** (Новасібірск) абгрунтаваў выкарыстанне тэрміна *„расійска-беларуская гісторыя”*. На яго думку, *„Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Беларусь — спадчыннікі традыцый усходнеславянскай (агульнарускай цывілізацыі)”*, адсюль правамернае выкарыстанне названага тэрміна, таксама як і паняцця *„расійска-беларускай прасторы”*. Аўтар не бачыць Беларусь самастойнай краінай і асуджае польскіх інтэлектуалаў XIX ст. за *„паступовую адмову ад успрымання ўсходнеславянскага насельніцтва „польска-літоўскай Русі” ў якасці самастойнай этнічнай групы”*. Такая самая адмова з боку расейцаў у аўтара пярэчанняў не выклікае. Тое самае аўтар піша і пра міжваенны перыяд: польская палітыка была дыскрымінацыйнай да беларусаў, савецкая — нашмат лепшая, хоць і мела асобныя недахопы[24].

---

21 Н. Н. Мезга, *Влияние политики Советской России и Польши на процесс становления Белорусской государственности в 1918–1920 гг.*, с. 75–89.

22 Всеслав Зинькевич, *„Несвядомая” история Белой Руси*, Москва 2017.

23 Д. А. Андреев, *Выступление на круглом столе*, с. 92.

24 Д. В. Карнаухов, *Польские концепции российско-белорусской истории: от комплекса завоевателя к комплексу жертвы*, с. 92, 93, 96, 97.

Нягледзячы на нібыта раўнапраўнае трактаванне дзвюх краін (Расіі і Беларусі) праз ужыванне тэрміна *„расійска-беларуская гісторыя”*, фактычна погляды Д. Карнавухава прэзентуюць расійскі каланіяльны падыход да Беларусі і яе гісторыі.

Кандыдат гістарычных навук **Уладзімір Барысенка** (Магілёў) прадставіў тэкст пра гістарыяграфію падзелаў Рэчы Паспалітай, які можна назваць амбівалентным. З аднаго боку, аўтар нібыта крытыкуе даўнюю расійскую тэзу пра *„ўз’яднанне”* беларусаў і ўкраінцаў з расейцамі, з другога — само далучэнне ацэньвае даволі прыхільна і не зусім дакладна перадае розніцу ў поглядах беларускіх гісторыкаў на праблему. Ён бачыць у іх тры асноўныя пункты гледжання: станоўчую ацэнку далучэння да Расіі (Якаў Трашчанок і інш.); адмоўную — гісторыкаў *„нацыянальна-радыкальнага толку”* (пры гэтым спасылаецца на літаратурную працу Уладзіміра Арлова *„Таямніцы полацкай гісторыі”*). Трэцяя, даволі дзіўна, на мой погляд, выдзеленая група, — гісторыкі, *„якія ацэньваюць далучэнне беларускіх земляў да Расіі нейтральна або нават крытычна”*. Як прыклад прыводзіць цытату з шасцітомнай „Гісторыі Беларусі”. Выснова аўтара — адзінства няма, выйсце *„толькі ў канкрэтна-гістарычным аналізе падзей”*[25].

Выразна публіцыстычны тэкст (хоць і з бібліяграфіяй) прадставіў кандыдат юрыдычных навук **Кірыл Аўяр’янаў-Мінскі** (Масква). Ён прапанаваў ні многа ні мала ўласны *„рускі пантэон Белай Русі”* ў складзе якога: *„старажытнарускія асветнікі Кірыла Тураўскі і Еўфрасіння Полацкая, абрусеўшы летувіс Альгерд, рускія ўраджэнцы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай — Францішак Скарына, Пётр Мсціславец і Сімяон Полацкі, беларускія героі 1812 і 1863 гадоў, генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю граф М. М. Мураўёў-Віленскі, вядучы прадстаўнік ідэалогіі заходнерусізму М. В. Каяловіч, публіцыст І. Л. Саланевіч, афіцэр-белагвардзеец М. А. Жэбрак, беларускія партызаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны і савецкі дыпламат А. А. Грамыка”*[26]. Такі пантэон, на думку аўтара, мае *„аднавіць рускую ідэнтычнасць Беларусі”*[27].

Кандыдат гістарычных навук **Аляксандр Гронскі** (Менск) акрэсліў уласнае бачанне гістарычнай суб’ектнасці на прыкладзе Беларусі. З аднаго боку, ён выкрывае беларускіх інтэлектуалаў, якія не змаглі сваё бачанне гісторыі пераказаць масам: *„ніхто з іх не змог стаць правадыром розумаў*

[25] В. В. Борисенко, *Разделы Речи Посполитой и включение белорусских земель в состав России в российской и белорусской историографии*, с. 102–105, 107.

[26] К. Ю. Аверьянов-Минский, *Русский пантеон Белой Руси*, с. 123–124.

[27] Тамсама, с. 124.

*беларускага абывацеля"*. Але, з другога боку, аўтар канстатуе, што ўяўленні беларусаў пра сваё мінулае зусім не тыя, што дваццаць гадоў таму: *„Тыя сцвярджэнні, якія раней успрымаліся як дзіўныя ці зусім аспрэчваліся, паступова ўвайшлі ў свядомасць большасці"*[28]. Гэтай канстатацыяй аўтар дэзавуіруе сваю папярэднюю выснову. А. Гронскі крытыкуе беларускіх гісторыкаў Андрэя Катлярчука і Алеся Смаленчука за *„мадэрнізацыю"* тэрміналогіі, а менавіта за ўжыванне паняццяў *„Беларусь"* і *„Беларуска-Літоўскі край"* замест *„Паўночна-Заходняга краю"*. Аўтар перакананы, што пошукам сучаснай суб'ектнасці ў мінулым прафесійная навука не павінна займацца, але сам (магчыма, не ўсведамляючы ўтапічнасці падобнай высновы) гэта робіць, напрыклад бароніць ужыванне тэрміна *„Паўночна-Заходні край"*[29].

Кандыдат гістарычных навук **Юрый Барысёнак** (Масква) заклікаў адысці ад адмаўлення існавання беларусаў як народа і пачаць падрыхтоўку сумеснага расійска-беларускага навучальнага дапаможніка для настаўнікаў гісторыі[30].

Кандыдат гістарычных навук **Дар'я Караткова** (Масква) заўважае канфлікт расійскага і беларускага гістарычных наратываў. Беларуская гістарычная школа стараецца максімальна аддаліцца ад расійскай і савецкай гістарыяграфіі. Аўтарка заклікае да выпрацоўкі ўласнага погляду расійскай навукі на беларускую гісторыю, погляду навуковага і абгрунтаванага, інакш *„беларуская школа будзе ўзмацняць антырасійскую скіраванасць"*[31].

**Алег Неменскі**, супрацоўнік Інстытута славяназнаўства РАН, разгледзеў правамернасць ужывання этнонімаў у мінулым і сучаснасці. Яны акрэслены як гістарычныя (ужываліся ў мінулым) і гістарыяграфічныя — вынайдзеныя сучаснымі даследчыкамі. Аўтар лічыць памылковым перанос тэрміна *„беларусы"* на людзей з мінулага, якія не мелі беларускай самасвядомасці. Як варыянт адрознення *„рускіх, якія жылі ў Заходняй Русі, і рускіх, якія жылі ў Русі Усходняй, можна ўжываць словы „заходнія" і ўсходнія"*[32].

Кандыдат гістарычных навук **Андрэй Прохараў** (Менск) сцвярджае, што ў беларускіх *„навучальных дапаможніках склалася паслядоўная і завершаная канцэпцыя гісторыі беларускага народа"*. Праўда, палажэнні

28 А. Д. Гронский, *Формирование исторической субъектности (на примере Белоруссии)*, с. 129.
29 Тамсама, с. 131, 133.
30 Ю. А. Борисёнок, *Выступление на круглом столе*, с. 135, 137.
31 Д. А. Короткова, *Выступление на круглом столе*, с. 138, 140.
32 О. Б. Неменский, *Проблемы с этнической номинацией в текстах по истории Западной Руси*, с. 145, 146.

гэтай канцэпцыі аўтар не раскрывае, толькі прадстаўляе храналагічны прынцып у школьным выкладанні гісторыі і называе яго *„канцэптуальнай схемай”*. Адзіная заўвага, датычная канцэпцыі, — пра прызнанне ў ёй старажытнасці паходжання беларускага этнасу. Аўтар не ўхваляе ўжыванне тэрмінаў *„Паўночна-Заходні край”* і *„Усходнія Крэсы”*[33].

Напрыканцы працы змешчаны тэкст палкоўніка запасу расійскага войска **Канстанціна Голада**[34] (Масква), які выказаў падзяку беларусам за захаванне савецкіх помнікаў, і заключнае слова А. Солапавай. Апошняя нагадала пра дамоўленасці ў ходзе круглага стала: сфармаваць спіс тэм для наступных сустрэч; звярнуцца да кіраўніцтва Саюзнай дзяржавы па гранты для гісторыкаў; падымаць праблемы расійска-беларускіх падручнікаў; пачаць працу над *„агульным паняційна-катэгарыяльным апаратам”*[35].

Пасяджэнне было цікавым, пра што сведчыць публікацыя яго матэрыялаў. Несумненна, што сустрэчы беларускіх гісторыкаў з расійскімі павінны быць рэгулярнымі, толькі ў іншым, больш навуковым, фармаце. Бо хоць гэты круглы стол адбыўся ў навуковай установе, на гістфаку МДУ, яго ініцыятарам стаў фонд *„Народная дыпламатыя”*, кіраўнік якога ў сваім выступе выявіўся адэптам *„рускай прасторы”*, сінанімічнай у яго інтэрпрэтацыі *„рускаму свету”*[36]. Сярод аўтараў прысутнічалі публіцысты заходнерускай плыні, а таксама адэпты каланіяльнай інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі.

Хоць беларускія гісторыкі, найперш Мікалай Мязга, Валянціна і Алег Яноўскія, прадставілі суб’ектную беларускую гістарыяграфію, але значная група заходнерусістаў сваімі тэкстамі паказвала скажоную карціну развіцця беларускай гістарычнай навукі. Праўда, месцамі самі заходнерусісты volens nolens канстатавалі перавагу ва ўплыве на масавую свядомасць суб’ектных беларускіх гісторыкаў.

Рэгулярныя сустрэчы вядучых гісторыкаў дзвюх краін — справа важная і карысная не толькі для збліжэння нацыянальных наратываў (шлях непазбежны, хоць і надта доўгі), але ў першую чаргу дзеля азнаямлення расійскіх калег з навейшымі напрацоўкамі беларускай гістарыяграфіі. У Расіі працы нашых гісторыкаў ведаюць дрэнна, у тым ліку з-за моўнага бар’ера.

---

33 А. А. Прохоров, *Концептуальное описание белорусской истории в учебных пособиях для средней школы и университетов*, с. 148, 150–152.

34 К. М. Голод, *Выступление на круглом столе*, с. 154.

35 О. В. Солопова, *Заключительное слово*, с. 155.

36 А. В. Кочетков, *Выступление на круглом столе*, с. 13.

У сённяшніх умовах магчыма праводзіць такія сустрэчы, мінуючы дзяржаўную адміністрацыю. З беларускага боку арганізатарамі лагічна выглядаюць вядучыя ўстановы: акадэмічны Інстытут гісторыі і гістфак БДУ, з прыцягненнем гісторыкаў, не занятых на дзяржаўнай службе. Гэта дазволіць забяспечваць адпаведны ўзровень беларускіх удзельнікаў і яшчэ на этапе падрыхтоўкі адфільтроўваць заходнерускіх публіцыстаў, якія маскіруюцца пад навукоўцаў.

**Аляксандр Краўцэвіч**
**(Варшава / Гродна)**

# Тадэвуш Гавін, Пад прэсінгам палітыкі. Польская нацыянальная меншасць у Беларусі ў 1919–2017 гг., Wydawnictwo Prawo i Partnerstwo, Białystok 2018. — 428 s.




Tym, którzy interesują się mniejszością polską na Białorusi Tadeusza Gawina przedstawiać nie trzeba. Znany jest jako jeden z twórców i pierwszy prezes Polskiego Stowarzyszenia Kulturalno-Oświatowego im. Adama Mickiewicza, a następnie Związku Polaków na Białorusi. Rozpoznawalny jest też jako autor i redaktor książek poświęconych działalności tej organizacji i Polakom na Białorusi w ogóle[1]. Choć zwykle zajmował się historią najnowszą, tym razem pokusił się o pracę syntetyczną, obejmującą dzieje Polaków zamieszkujących na Białorusi od proklamowania niepodległego państwa w 1918 r. do czasów nam współczesnych. Książkę od poprzednich różni też język, w jakim została napisana — białoruski. Choć jest on używany coraz rzadziej nawet na Białorusi, to dzięki temu zabiegowi, losy Polaków — drugiej co do wielkości mniejszości narodowej w tym kraju — będą mogli poznać czytelnicy nie znający języka polskiego.

Uwagę czytelnika przykuć już może bardzo sugestywna okładka. Widnieje na niej pozbawiona głowy figura z jednego z polskich nagrobków. Co ciekawe, fotografię wykonał Konsul Generalny RP w Grodnie — Jarosław Książek.

Publikacja podzielona został na siedem rozdziałów, wzbogaconych o wstęp, zakończenie, streszczenia w języku angielskim, polskim i rosyjskim, bibliografię i, co szczególnie ważne, indeks nazwisk.

[1] M. in.: *Zwycięstwa i porażki. Odrodzenie polskości na Białorusi w latach 1987–2000*, Białystok 2003; *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010; *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991*, Grodno-Białystok 2013; *Polacy na Białorusi. Od końca XIX do początku XXI w. Wybrane problemy stosunków-polsko-białoruskich*, t. I, Warszawa 2017, (red.); *Polacy na Białorusi. Od końca XIX do początku XXI w. Polityka-społeczeństwo-kultura*, t. II, Warszawa 2018 (red.).

Autor już we wstępie stwierdza, że proces starań o utworzenie niezależnego białoruskiego państwa zakończył się formalnie 25 marca 1918 r. ogłoszeniem przez Radę Białoruskiej Republiki Ludowej niepodległości. Według owej Rady w skład nowego państwa wejść powinny: Mohylewszczyzna, białoruska część Mińszczyzny, Grodzieńszczyzna (z Białymstokiem), Witebszczyzna, białoruska część Wileńszczyzny, Smoleńszczyzna, Czernihowszczyzna oraz ziemie przyległych guberni zamieszkane przez Białorusinów[2]. Jak zauważył dalej[3], odpowiedzią na to ze strony Rosji Sowieckiej było utworzenie 1 stycznia 1919 r. Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej, której faktyczny kształt mogliśmy poznać dopiero po zakończeniu wojny polsko-bolszewickiej i ustaleniach pokoju w Rydze. W ramach pokoju zawartego w stolicy Łotwy, ziemie zachodniej Białorusi przypadły Polsce. Po rozszerzeniu ziem republiki w latach 1924 i 1926 o ziemie wschodnie, jej terytorium objęło 125 tys. kilometrów kwadratowych zamieszkałych przez blisko 5 milionów ludzi, z czego Polacy (wg spisu z 1926 r.) stanowili 97,5 tys. mieszkańców[4]. W wyniku przesiedlenia części z nich (czyli tzw. akcji repatriacyjnej) pozbyto się polskiej magnaterii, ziemiaństwa, wojskowych, duchowieństwa i całej inteligencji. Wtedy też rozpoczęto proces przymusowej sowietyzacji, który jednak nie przyniósł oczekiwanych wyników. W związku z powyższym podjęto decyzję o fizycznej likwidacji najbardziej świadomej części społeczności polskiej, szczególnie w Polskim Rejonie Narodowościowym im. Feliksa Dzierżyńskiego. Według danych archiwalnych, do których dotarł Tadeusz Gawin, w BSRR w latach 1937–1938 rozstrzelano 9196 Polaków[5]. W związku z osadzeniami w więzieniach, wywózką i rozstrzelaniami liczba Polaków na Białorusi zmniejszyła się ze 119,9 tys. w 1937 r. do 58,4 tys. w 1939 r[6]..

Rozdział pierwszy nosi tytuł „*Polska mniejszość narodowa w BSRR w latach 1919–1939*". Na jego początku autor omówił strukturę i rozmieszczenie polskiej ludności w Republice. Zaprezentował też obliczenia spisowe, a także szacunki innych badaczy[7]. Następnie szczegółowo przedstawił politykę narodowościową sowieckiej Rosji i ZSRR w latach 1921–1939, by dalej zająć polityką władz sowieckich wobec mniejszości polskiej. Powołując się na opraco-

2 Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі. Польская нацыянальная меншасць у Беларусі ў 1919–2017 гг.,* Białystok 2018, s. 9.

3 Ibidem, s. 10.

4 Ibidem, s. 11.

5 Ibidem, s. 12.

6 Ibidem.

7 M.in. W. Tęgoborskiego, *Polacy Związku Radzieckiego*, Moskwa 1929, czy M. Iwanowa, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939*, Warszawa 1991.

wanie Wojciecha Materskiego[8], zwrócił uwagę na fakt, iż od kwietnia 1921 r. do kwietnia 1924 r. do Polski „repatriowało" się 1,1 mln. ludzi, z czego jedynie 25 % stanowili Polacy, zaś reszta, to Białorusini, Ukraińcy i Rosjanie[9]. Przytacza też inne źródła, które jako liczbę osób przesiedlonych podają nawet 2,4 mln[10].

Rozdział kończy szczegółowym opisem białoruskiej części *„Operacji Polskiej"* NKWD z lat 1937–1938. Jak zauważył: *„Masowe egzekucje w BSRR były pośrednio związane z umyślnym zniszczeniem białoruskich działaczy na rzecz kultury narodowej […]. W latach 1937–1938 zostali fizycznie zlikwidowani prawie wszyscy, którzy mieli związek z Białoruskim ruchem narodowym, edukacją, nauką i kulturą"*[11]. Jak zaznaczył autor powyższych słów, zostali oni skazani za udział w działalności szpiegowskiej na rzecz Polski[12].

W drugim rozdziale Tadeusz Gawin zajął się sytuacją Polaków na Białorusi w początkowym okresie wojny, do agresji III Rzeszy na ZSRR w czerwcu 1941 r. Po szerokim omówieniu paktu Ribbentrop-Mołotow, przeszedł do problematyki sowieckiej polityki na północno-wschodnich terytoriach byłej II RP. Ten czas Gawin dzieli na dwa okresy. Pierwszy, to czas wzmożonych aresztowań i represji wobec Polaków, który trwał od agresji sowieckiej na Polskę w 1939 r. do czerwca 1940 r[13]. Drugi — według autora, cechowała radykalna zmiana polityki narodowościowej wobec Polaków. Jak napisał: *„[…] sowiecka władza planowała otrzymać w zamian pełną polityczną korzyść"*[14].

W dalszej części rozdziału autor szczegółowo opisuje aresztowania, deportacje i przesiedlenia ludności polskiej z terenów zajętych przez ZSRR po 17 września 1939 r. Przytaczając liczby aresztowanych (w okresie 1939–1941) zwrócił uwagę na fakt, że *„Głównym celem aresztowań było wyizolowanie ze społeczeństwa białoruskiego ludzi z wysokim statusem społecznym i politycznym, którzy w przyszłości mogli uczestniczyć w antysowieckim oporze. […] Grupami narodowościowymi, które ucierpiały podczas represji w BSRR w latach 1939–1941, obok Polaków, byli Białorusini i Żydzi"*[15].

Kończąc ten rozdział zaznacza, że liczby aresztowanych, deportowanych i rozstrzelanych podawane przez poszczególnych autorów różnią się od siebie. Jego zdaniem związane jest to z faktem, iż wciąż brak jest wolnego dostę-

8 W. Materski, *Pobocza dyplomacji. Wymiana więźniów politycznych pomiędzy II RP a sowietami w okresie międzywojennym*, Warszawa 2002.

9 Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі*, s. 46.

10 Ibidem, s. 47.

11 Ibidem, s. 61.

12 Ibidem.

13 Ibidem, s. 81.

14 Ibidem, s. 90.

15 Ibidem, s. 92.

pu do niektórych archiwów rosyjskich i białoruskich, szczególnie archiwów KGB i Ministerstwa Spraw Wewnętrznych[16].

Trzeci rozdział dotyczy relacji polsko-sowieckich i polsko-białoruskich podczas niemieckiej okupacji. Tadeusz Gawin rozpoczął go od prezentacji niuansów związanych ze stosunkami pomiędzy władzami ZSRR i rządem RP w Londynie, podkreślając niezgodność układu Sikorski-Majski z Konstytucją RP. Zaznaczył, że choć wszedł on w życie, powinien wcześniej uzyskać podpis prezydenta RP — Władysława Raczkiewicza[17]. Zwraca też uwagę na fakt, iż efektem relacji polsko-sowieckich była decyzja Rady Najwyższej ZSRR z 12 sierpnia 1941 r. na mocy której uwolniono z więzień, obozów i zsyłki dawnych obywateli RP. Tu udało się autorowi dotrzeć do archiwaliów radzieckich, według których uwolniono wówczas 389 041 dawnych obywateli Polski[18]. Kolejne stronice swej książki poświęcił opisowi utworzenia armii gen. Władysława Andersa i przyczynom powołania Związku Patriotów Polskich.

W drugiej części rozdziału autor opisał działalność polskiego podziemia na zachodniej Białorusi, w tym, co oczywiste, głównie Armii Krajowej. Szczególnie ciekawy jest podrozdział poświęcony relacjom pomiędzy polskim podziemiem, a białoruskim ruchem narodowym[19]. Autor zwraca w nim m. in. uwagę na fakt, że wielu białoruskich działaczy narodowych pokładało dużą nadzieję w tym, że Niemcy pomogą stworzyć pod swym protektoratem państwo białoruskie. Przytoczył też informację, że wielu Białorusinów pracujących w administracji zginęło w wyniku donosów napisanych przez Polaków. Dalej Tadeusz Gawin stwierdził: *„Wzajemne zniszczenie Polskich i Białoruskich elit pod pilną kontrolą niemieckich okupantów, z różnym stopniem aktywności, trwało do końca wojny”*[20].

Czwarty rozdział obejmuje okres od zajęcia ziem dzisiejszej Białorusi przez Armię Czerwoną w 1944 r. aż do tzw. *„Odwilży”*, będącej skutkiem śmierci Józefa Stalina i referatu Nikity Chruszczowa wygłoszonego podczas XX Zjazdu Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego w lutym 1956 r.

Grodzieński historyk rozdział ten rozpoczyna od prezentacji ustaleń dokonanych na spotkaniach przywódców mocarstw alianckich w Teheranie, Jałcie i Poczdamie dotyczących przyszłych granic Polski. Ciekawym elementem tej części książki są fragmenty dokumentów rządu emigracyjnego w Londy-

16 Ibidem, s. 100.

17 Ibidem, s. 106.

18 Ibidem, s. 107.

19 Ibidem, s. 129–137.

20 Ibidem, s. 131.

nie, jakie autor odnalazł w Archiwum Akt Nowych w Warszawie. W nich rząd Tomasza Arciszewskiego odnosi do postanowień jałtańskich[21].

Następnie Tadeusz Gawin przechodzi do kwestii powojennych przesiedleń z BSRR, nazwanych przez komunistyczną propagandę „repatriacją". Na kartach swej książki przytoczył dane liczbowe, jakie udało mu się odnaleźć w archiwach białoruskich i rosyjskich[22].

Osobny podrozdział poświęca polskiemu podziemiu działającym na Białorusi w latach 1944–1956. Jak napisał: *„W działalności Armii Krajowej i formacji, jakie istniały po jej rozwiązaniu, od lipca 1944 do lata 1956 r. można wyróżnić trzy okresy. Pierwszy okres obejmował czas od lipca 1944 do stycznia 1945 i był związany z wyparciem przez Armię Czerwoną hitlerowców z zachodnich obwodów Białorusi, i tak samo z rozwiązaniem Armii Krajowej po rozkazie jej komendanta generała Leopolda Okulickiego. Wielu dowódców i żołnierzy AK podjęło decyzję o dalszym prowadzeniu walki antysowieckiej […]. Drugi okres trwał od stycznia 1945 do września 1948 r. W tym czasie sowieckie oddziały bezpieki bardzo aktywnie niszczyły wielkie antysowieckie oddziały polskie. Trzeci okres (październik 1948 — lato 1956 r.) charakteryzował się całkowitym zniszczeniem przez organy władzy sowieckiej niewielkich, słabo uzbrojonych, często zdemoralizowanych beznadziejną sytuacją grup polskiego podziemia i żołnierzy-samotników"*[23].

Z kolei w podrozdziale zatytułowanym *„Warunki życia narodowego polskiej mniejszości w BSRR"* Tadeusz Gawin skupił się na problematyce systematycznego niszczenia polskojęzycznego szkolnictwa. Trochę szkoda, że autor nie podszedł do problemu komparatystycznie. Warto by odnieść się szerzej do polityki władz sowieckich wobec mniejszości polskiej i wyjaśnić dlaczego w sąsiedniej Litewskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej polskojęzyczne szkolnictwo nie spotykało się z taką dyskryminacją, a wręcz przeciwnie, funkcjonowało bardzo dobrze. W dalszej części rozdziału historyk z Grodna zajmuje się problematyką kolektywizacji wsi, by na jego końcu opisać politykę władz wobec kościoła katolickiego.

Kolejny, piąty rozdział nosi tytuł *„Sowietyzacja polskiej mniejszości na Białorusi w latach 1956–1986"*. Zaczyna się on od opisu rusyfikacji i sowietyzacji życia publicznego na Białorusi. Autor stwierdza, że: *„[…] początek politycznej «odwilży» w ZSRR dla Białorusinów, w odróżnieniu od ich sąsiadów, nie przyniósł niczego, oprócz przyspieszonego procesu rusyfikacji i utraty tożsamo-*

[21] Ibidem, s. 143.
[22] Ibidem, s. 152–160.
[23] Ibidem, s. 172.

*ści narodowej. Przymusową rusyfikację Białorusinów przeprowadzono przez naruszenie konstytucji ZSRR i BSRR przy milczącym przyzwoleniu białoruskich komunistów"*[24].

Następnie autor przedstawił proces sowietyzacji polskiej społeczności na Białorusi. Zaznaczył, że polityka moskiewskich władz i jej odpowiedników w BSRR sprowadzała się do stwierdzenia, że na Białorusi Polaków nie ma, a ci, którzy deklarują narodowość polską, to spolszczeni Białorusini. Dlatego głównym zadaniem organów władzy, była intensywna sowietyzacja polskojęzycznych Białorusinów[25].

Tadeusz Gawin wymienia pięć elementów, z jakich składał się proces pozbawiania Polaków świadomości narodowej i wiary katolickiej:

- Dyskryminacja Polaków w życiu społeczno-politycznym;
- Wzmocnienie kampanii propagandowej, która przekonywała, że miejscowi Polacy to spolonizowani Białorusini;
- Stworzenie kompleksu specjalnych przywilejów dla Polaków, którzy odcięli się od swych polskich korzeni;
- Stworzenie w BSRR warunków, w jakich niemożliwe było odrodzenie polskojęzycznej edukacji i wykładania języka polskiego dzieciom z polskich rodzin, a także wykorzystanie wszystkich środków do wyrugowania języka polskiego ze wszystkich sfer życia codziennego;
- Odcięcie od wiary i Kościoła katolickiego[26].

Na kolejnych stronach swej książki Tadeusz Gawin opisał, w jaki sposób tych pięć punktów wprowadzano w życie. W dalszej części rozdziału stwierdził natomiast, że życie narodowe Polaków od początku lat 50 do końca 1988 r. faktycznie sprowadzało się do sfery religijnej. Jako wyjątki podaje Dni Kultury Polskiej, które miały miejsce w BSRR w 1958, 1964, 1972 i 1976 r[27]. Następnie skupił się na aktywnym udziale Polaków w kadrach Komunistycznej Partii Białorusi, publikując tabele ze składem narodowościowym tejże[28].

Rozdział szósty autor poświęcił odrodzeniu życia społecznego w okresie schyłku i rozpadu ZSRR, tj. w latach 1986–1991. Opisał w nim dojście do władzy Michaiła Gorbaczowa i konsekwencje wprowadzonych przez niego reform. W odniesieniu do Białorusi, Gawin opisał powstanie Białoruskiego Frontu Ludowego i, po objęciu władzy przez Stanisława Szuszkiewicza, niezależnej Re-

[24] Ibidem, s. 212.
[25] Ibidem, s. 222.
[26] Ibidem, s. 223.
[27] Ibidem, s. 233.
[28] Ibidem, s. 235–255.

